МІКОЛА ВЯРШЫНІН

# НАЙВАЖНЕЙШЫЯ АБ'ЕКТЫ

**(Сатыра і гумар, ЭСЭ, з уласнага архіва, вершы, прысвечаныя аўтару)**



**Мінск**
**Выдавец А.М. Вараксін**
**2008**

УДК [821.161.3(476)+821.161.1(476)]
ББК 84 (4Беи)+84(4Беи=Рус)
В 99

**Вяршынін, М. П.**
В 99 Найважнейшыя аб'екты : вершы, проза / Мікола Вяршынін. – Мінск : А.М. Вараксін, 2008. – 376 с.

ISBN 978-985-6822-57-8.

У сваю чарговую кнігу аўтар уключыў зусім новыя творы, а таксама лепшае з раней напісанага. Зборнік складаецца з чатырох раздзелаў: сатыра і гумар – байкі, фельетоны, гумарэскі, эпіграмы. ЭСЭ – абразкі, нататкі, замалёўкі, успаміны, з народнага і г.д. Матэрыялы з уласнага архіва. Вершы, прысвечаныя аўтару людзьмі самых розных прафесій, узростаў і месцажыхарства – ад прыхільнікаў яго творчасці, сяброў і вучняў па літаратурнаму цэху, ад калегаў-пісьменнікаў.

Тэматычны дыяпазон кнігі шырокі. У розных раздзелах пісьменнік стараецца трапным і дасціплым словам змагацца з рознымі адмоўнымі праявамі нашага жыцця, якія перашкаджаюць нашаму паступальнаму руху наперад, і з іх носьбітамі.

**УДК [821.161.3(476)+821.161.1(476)]**
**ББК 84(4Беи)+84(4Беи=Рус)**

**ISBN 978-985-6822-57-8**

# ВЕДАЙЦЕ, З КІМ ЗВ'ЯЗВАЦЦА

***Сатыра і гумар***
***(байкі, фельетоны, гумарэскі, эпіграмы)***



## БЫК І МЕСЯЦ

Наеўся неяк Бык дурной травы,
І быццам зразумеў свае правы.
На Месяц злосна ён кідаўся,
А неба плашч –
плашчом тарэадора здаўся.

Але, як ні скакаў і ні стараўся,
Да Месяца рагоў
ён так і не дабраўся.
І ўрэшце так, здурнеўшы, раззлаваўся –
З апошняй сілы скочыў,
ды – сарваўся.

У яміну зваліўся ён, нябога,
І сам сабе зламаў з разгону рогі.

– * –

Заўсёды ўмей свой гнеў перамагчы.
На Месяц здуру –
не скачы!



## МУРАШ І СЛОН

Мураш лічыў сябе
дужэйшым за Слана.
Той не падыме груза,
як ён сам.
Мураш падыме Мураша –
вядома ўсім здаўна.
Куды з ім сілай мерацца
Сланам!

І вось рашыў саманадзейна, што пара
Уперціся і камень тут звярнуць.
Ад тупату Слана
каменьчык скінуўся з бугра,
І не паспеў Мураш
ні ўверх, ні ўніз зірнуць.

— * —

Не пераацані свае ты сілы,
Глядзі, каб камяні цябе не раздушылі.



## СВАЕ – СВАЙМУ

У лесе кожны дзікі звер
Каб не хадзіў пануры,
Рашылі жыхары: – Цяпер
Збудуем Дом культуры.

Бярвенне, дошкі ёсць у нас,
Цэмент патрэбен вельмі.
Дастанем – і ў рабочы час
У лапы возьмем кельмы.

На працу кожны можа стаць
У строй рабочы недзе.
А вось цэмент хутчэй дастаць
Давай пашлём Мядзведзя.

Паехаў той і доўга быў,
Як быццам справу рухаў.
Аднак нічога не прабіў,
Няма ніякіх зрухаў.

– Усё, што трэба, я рабіў,
Настырнасці меў многа.
Ламаў сталы і морды біў –
Не памагло нічога.

...Што ж, сіла не дапамагла –
Мо хітрасць дапаможа.
Ліса вось спрытнаю была,
Уладзіць справу зможа.

Але вярнулася яна
З пустымі ўсё ж рукамі.
– Я шчыравала ноч да дня,
Вы зразумейце самі.

Я хітравала, як магла,
Ды дзе знайсці мне выйсце?
Сябе начальству аддала,
Ды не было карысці.

...І сілай, хітрасцю не ўзяць,
А план "гарыць" – хоць рэжце.
І вырашылі ўсе паслаць
Асла яны, нарэшце.

Той падарункаў не вазіў,
Вярнуўся сам шчасліва.
Вагон цэменту адгрузіў
Асёл, усім на дзіва.

– Звяртаўся я да іх на "ты",
Кантакт мы добры мелі.
Бо там сядзяць мае браты –
Мяне і зразумелі.





## ПРА МУХ І ПРА ЗУБРОЎ

Прасілася на працу неяк Муха.
Ў аддзеле кадраў Зубр сустрэў яе.
– Што за душой ты маеш, цакатуха?
Ты пакажы нам здольнасці свае,

Мо ёсць дыплом, ці вопыт, можа, сіла,
А да станка хацела б ты, ці не?
Тут Муха кажа: – Я б вас папрасіла
Улічыць, што хабаток ёсць у мяне.

– Так, так, дык кажаш, Муха, хобат маеш?
Такія кадры – золата для нас.
Работу неблагую атрымаеш:
Грузіць дэталі будзеш нейкі час.

А потым паглядзім, мо і павысім,
Як справы пойдуць у цябе на лад.
За працу толькі ты як след барыся,
Мы ж добры пакладзём табе аклад.

Праходзіць час, а праца – ані з месца,
Пагрузка не кранаецца зусім.
Хоць Муха шчыра тужыцца і пнецца,
Але ж вядома, колькі ў Мухі сіл.

Тут вырашылі Муху зацікавіць
Матэрыяльна: можа, будзе плён.
Ды не пайшлі, вядома, лепей справы,
Хоць пасля гэтага прайшло шмат дзён.

Уздейнічаць надумалі на Муху
Маральна, і сабралі тут жа сход.
Але не ўбачылі у працы зрухаў
Праз дзень і месяц, нават і праз год.

– * –

Там справы дрэнь, дзе месцы пазаймаюць
Ў аддзеле кадраў волаты-Зубры.
А Муху... на пагрузку пасылаюць.
Бывае й так.
Да часу, да пары.




## КАЗА – КАРОВА

Каза прыйшла да старшыні,
І кажа: – Выдай мне даведкі,
Што не Каза я – сам зірні –
Карова я, ёсць нават сведкі.

Той не сцярпеў – зарагатаў:
– Відаць, жывёла ачумела.
Няўжо я дрэнна бачыць стаў,
Ці ты жартуеш так няўмела?

– А што? Шэсць літраў усяго
Цяпер Кароў тваіх надоі.
І я даю не менш таго:
Тры літры з тлустасцю двайною.

– Яно-то так, дык што рабіць,
Паправіць як такія справы?
– Карове, каб Каровай быць,
Не абы што патрэбна – травы.

Пасуць іх з намі ўсю пару.
У лазняках, а што там есці?
Нам дык прасцей: грызём кару,
Або лісток ухопім дзесьці.

Так што даведку мне давай,
Бо малака зусім не дам я!
Тут Козы іншыя з хлява
Прыскочылі: – І нам таксама!

Вось старшыню Казёл сустрэў,
І падступае гэтак злосна:
– Ты што зрабіў? Я захварэў,
Ад гэтых жартачак аж млосна!

Бач, Коз з Каровамі зраўняў,
Яны вялікі гонар маюць
І мне як быццам не радня,
Гаспадаром і не ўспрымаюць.

Нашто ў цябе і галава?
Патрэбны справы, а не словы.
Даведак колькі ні давай,
З Казы не зробіш ты Каровы!



## ПРА СВАЁ І ЗА СВАЁ

Варона на суку сядзела,
І вось зламаўся гэты сук.
Яна падняцца не паспела,
І вобземлю раптоўна – грук!

Спазнала гукаперайманне
За свой працяглы вельмі век.
Спачатку гаўкала старанна,
Бы над сабой адчула здзек.

А потым мяўкала адчайна,
Ды гэта не дапамагло.
Тады, як хуліган адчайны,
Загнула маты – во было!

Нарэшце, каркнула, як трэба –
Тут і прапаў пякучы боль.
І паднялася хутка ў неба.
Дык здагадайся, ў чым тут соль?

Няцяжка зразумець высновы:
Чужое лепш не выбірай.
І думай ты на роднай мове,
На роднай мове й размаўляй.



## СУЧАСНЫ ПАРТРЭТ

Квадратныя плечы,
Шырокі і твар.
Багатыя рэчы,
Каштоўны тавар.

І модны абутак,
Аб'ёмны пінжак.
Хіба бачыць смутак,
Хто ходзіць вось так?

Кароткая стрыжка,
Суровы пагляд.
Стос грошай, як кніжка,
Даляраў зашмат.

І сотавы мае,
Як звон, тэлефон,
Бо сувязь трымае
Шмат з кім часта ён.

Вылазіць вось з "ВОЛЬВА",
Прытым не адзін.
Паходкаю вольнай
Ідзе ў магазін.

Купляе найлепшы
Каньяк, сервелат,
І торт даражэйшы,
Яшчэ – чакаляд.

Шыкоўныя дамы
Ў машыне сядзяць –
Не жонкі, не мамы,
З пагардай глядзяць.

...Артыст ці спартсмен,
Што дамогся удач?
Хто ён: Бізнесмен,
Сучасны фірмач.




*Розгалас*

## КАНТРАКТЫ

Ёсць для развагаў многіх тэма:
Прыйшла кантрактная сістэма.
Яе мы нават не чакалі,
Без воплескаў і сустракалі.

Кіраўнікам далі шмат волі,
Што не было раней ніколі.
Было б і добра, каб кантракты
Між нас наводзілі кантакты.

А што тады, як твой начальнік
Ды разбушуецца, як чайнік?
І нельга нават запярэчыць.
Бо ён з работы ўраз адпрэчыць.

Калі ж і крытыку навёў ты,
То вінаватым будзеш зноў ты.
Ці, можа, коса паглядзеў,
Ці вострым слоўцам дзесь паддзеў.

Калі цябе ён звольніць прагне,
Кантракт скасуе, не працягне,
Хоць майстар ты, ва ўсім правы.
На працу ж дзе твае правы?

Мо сваяку патрэбна месца,
А мо туды і сябар прэцца.
А ты што ў абарону скажаш?
Нідзе нічога не дакажаш.

Такое зручна для начальства,
Каб карыстацца гэтым часта.
Кантракт наляжа цяжкім грузам.
А дзе ўжо месца прафсаюзам?

Заканадаўчыя навіны...
Іх паважаць мы ўсе павінны.
Калі ж без нас іх нам уводзяць –
Да толку мала што даходзіць.



# ПАКАРАННЕ ЗА СТАРАННЕ

Завод гібеў – не тыя словы!
І не было належных мер.
Тады туды талковы новы
Прыйшоў галоўны інжынер.

Выкараняць пачаў прычыны,
Чаму завод зусім адстаў.
Падняў спачатку дысцыпліну –
Ніхто не сноўдаўся без спраў.

Узняў ён дрэваапрацоўку –
Там столькі плошчаў і станкоў!
А мэблю робяць для сталоўкі,
Аконных рам шмат і сталоў.

І механічны цэх нядоўга,
Але з напругай падымаў.
Паставіў там усіх на ногі –
Праблем з вытворчасцю няма.

Прыйшоўшы на завод, адразу
Шляхі ў прагрэс шукаць пачаў.
На шматмільённыя заказы
Дамовы ўсюды заключаў.

Сказаў работнікам: – На страты
Ніколі згоды не дадзім.
І падыму ўдвая зарплату
Я праз паўгода вам усім.

Наўкол – настрой, ва ўсіх – натхненне,
Галоўны інжынер – герой!
Дырэктар з незадавальненнем
Паклікаў позняю парой.

– Ты што прыліп тут, як кароста?
Звальняйся – дзесяць дзён даём.
– За што і як, і гэтак проста?
– Не хочаш проста – будзе гром!

Боль галаўны, адны турботы:
Дырэктар некага знайшоў.
Загад быў: “За развал работы”.
Галоўны нехаця пайшоў.

І праўда: сябра ўзяў дырэктар,
Хоць той – не спец, а балбатун.
І зноў ідзе работа з крэктам,
І зноў – развал, бяздзейнасць, тлум...

Хто ў працы ходзіць коса-крыва –
Падзякі мае за “старанне”.
А вось за ініцыятыву
Нярэдка будзе пакаранне.



# ПРА ПОЦІСК РУК

Было – сустрэліся сябры,
Звялі аднойчы разам госці.
І з вельмі даўняе пары
Яны не бачыліся штосьці.

Калі прыпомніць – быў жа час,
Што над вучобаю пацелі.
І на гульбу ішлі не раз,
І з аднае талеркі елі.

Пытае першы: – Як жывеш?
Мо ў чым патрэбу, браце, маеш,
Дык дапамогу знойдзе дзе ж?
Як ў мяне ты атрымаеш.

Я пры пасадзе, ёсць уплыў,
Заўсёды сябра падтрымаю.
Другі сказаў: – Я добра жыў,
Ды зараз цяжкасці вось маю.

Я пашыраць хачу жыллё,
Хацеў бы іншую работу.
Калі б як след усё пайшло,
Цябе прымаў бы я з ахвотай...

Таварыш многа абяцаў,
І ў сябра на плячы ён віснуў.
– Старацца буду без канца! –
Руку на развітанне ціснуў.

А час ляцеў. А час мінаў.
Было ўсё як раней, без зрухаў.
Таварыш той, што абяцаў,
Не варушыў штось нават вухам.

Руку пацiснуць – не цяжар.
Руку пацiснуць – гэта проста.
Пацiснеш пяць разоў запар,
Калi вышэйшага ты росту.

З натугай цiснi, аж крычы,
Калi не хочаш памагчы.



## НЯЎДАЛАЕ РАБАЎНIЦТВА

Да старога падвалiлi
Ў позні час рабаўнiкi.
Пад блатных яны "касiлi".
Кулакi, як малаткi.

– Дай "лапатнiк"! – патрабуюць.
Ён рыдлёўку iм прынёс.
– Кашалёк! – яны бушуюць. –
Хочаш зарабiць у нос?

"Вугалок" цягнi нам хутка,
Недарэка ты такi!
Ён прыцёг праз тры мiнуткi
Два стальныя вугалкi.

– Здзекуешся з нас, старэча,
Што, нягоднік, прывалок?
Чамадан, што поўны рэчаў –
Вось што значыць "вугалок".

Аддавай хутчэй "капусту"! –
Зноў настойваюць яны.
– У скляпе маім – не пуста,
Дам чатыры качаны.

– Не шалопае нічога.
"Зелень", гад, нам даставай!
Ён нясе ім кропу многа:
– Вам прыправы цераз край.

– Ну, мужык, баран, дуб-дубам,
Ад яго хоць уцячы.
Мы валюту патрабуем,
Ён нам кідае харчы.

Мо прынёс бы шчэ цыбулек?
"Бабкі" ўсе, што ёсць, гані! –
Ён прыводзіць трох бабулек:
– Не старыя шчэ яны!

– "Камяні" давай, чорт прагны! –
Вымагаюць грозна зноў.
Са двара ён крэкча, цягне
Поўну тачку камянёў.

– Што ты прэш, цяльпук заўзяты?
Не шурупіш – проста жах!
Срэбра, золата, брыльянты –
Што на пальцах і ў вушах.

– Хлопцы, лепш мяне б звязалі,
Вас зусім не зразумеў.
Тое ўсё, пра што казалі,
Не купляў я і не меў.

– Ты па фене не батаеш.
– Што за дзіва, што за рэч?
– Па блатному не матаеш,
Дык ідзі з дарогі прэч!

– Я – Барон, мая клікуха! –
Кажа грозна з іх адзін. –
Давядзеш нас да "макрухі" –
Шыла ў горла, чортаў сын!

Блін, прыдурак ты пракляты,
Дарам дойдзем да турмы.
Да разумных і багатых
Лепей пойдзем зараз мы
Ну, уперад, братаны!



## НАЗЮЗЮКАЎСЯ

Дырэктар токара паклікаў:
Стаж у таго даўно вялікі,
Бо Валянцін – перадавік.
Ён паважаць такіх прывык.

– Распавядай: якія справы?
Ты зарабіў працоўнай славы.
І з планам век у дружбе жыў,
Медаль ці ордэн заслужыў.

А той стаіць – ну, проста жах,
Ці на нагах, ці на рагах.
Не ўцяміць сам, аб чым гаворка,
Пах з роту прэ салёна-горкі.

Ды нечакана моцна ўздрыгнуў,
І на дырэктара ён... рыгнуў.
Пасля прыўзняў свае штанцы
І ўцёк. Падумаў: ну, канцы!

Працуе ў поце на станку,
А па селектару: – Ку-ку!
І паўтараюць зноў і зноў:
– Хай зойдзе токар Іваноў.

Раз кліча грозна так селектар –
Пацёгся. Там стаіць дырэктар.
– Прабачце, што навёў я глум,
І так абгадзіў ваш касцюм.

Той расчыняе шіфу хутка:
– Касцюм змянуў я праз мінутку.
Няхай сумленне не шкрабе.
Чаму ж занудзіла цябе?

– Дык вось у тым мая бяда ўся,
Што ўчора добра насцябаўся.
“Чарніла”, піва і гарэлка,
А ўранку не была пахмелка...

Ды свой запас дырэктар мае,
Графінчык спірту ён вымае.
– Дык пахмяліся зараз, чуеш?
Дзве змены заўтра адпрацуеш.

Табе скажу я тут сам-насам:
Не блытай ты гарэлку з квасам.
– Ну, дзякуй.
Больш я – ні зю-зю.
Метал –
зубамі пагрызу!



# РОЗНЫ ВЫНІК

Разам двое хлопцаў падрасталі,
Побач гадаваліся яны.
Рознымі аднак чамусьці сталі,
Хоць умовы ў іх былі адны.

Кемлівы Кастусь заўсёды з кніжкай,
Да работы змалку прывыкаў.
Сябраваў Алесь з вялікай лыжкай,
І дарогі лёгкія шукаў.

Не баяўся быць Кастусь, дзе цяжка,
Шмат каму дапамагчы ён рад.
А Алесь прыкладваўся да пляшкі,
І штовечар гойсаў да дзяўчат.

Быў Кастусь заўжды ва ўсім гарачы,
І жыццё наўкол яго гуло.
А Алесь – лайдак, што свет не бачыў,
З ложка не падняць ніяк было.

Сем'янін Кастусь – зайздросціць трэба:
І дзяцей, і ўнукаў прычакаў.
Зоркі ўсё лічыў Алесь на небе,
І на лёс уласны наракаў.

Важных спраў звярнуць Кастусь змог горы,
Бо ўпіраўся ўсюды ён плячом.
Ды Алесь вось многіх аб'ягорыў,
Радасць не прынёс аднак у дом.

Той Кастусь і зараз поўны сілы,
Дужым будзе шмат гадоў яшчэ.
Згорбіўся Алесь, зрабіўся хілы,
Збэсціўся, ледзь ногі валачэ.

Шчыраваў адзін, другі не гнуўся,
А жыццё ж удалячынь імчыць!
Хто з іх да чаго ўвесь час імкнуўся –
Вынік зараз можна падлічыць.



## ХІТРЫ ЁЛУПЕНЬ

Карове Ігнат даваў есці,
А побач каза там стаяла.
Яна заскакала на месцы,
І тыцкацца ў рукі пачала.

Ігнат раззлаваўся: – Карову
Карміць з-за тваіх нельга скокаў!
Як хвосне ён кіем здаровым –
І выбіў казе беднай вока.

А ў хаце расказваў з імпэтам:
– Мароз дастае так далёка!
А сёння – ты бачыла гэта?
Ў казы нашай вымерзла вока.

Паверыла жонка Ігнату,
Пайшла да суседзяў, бядуе:
– Ну, хоць ты казу стаў у хату,
Ёй вымерзла вока, – шкадуе.

Суседзі даць веры не хочуць:
– Малыя ж у нас казляняты,
І то ў іх не вымерзлі вочы.
Відаць, не мароз вінаваты.

Ігнатава жонка даводзіць:
– Яны мо ў цяпле ў вас начуюць.
А ў нас ля дзвярэй каза ходзіць,
А козы мароз вельмі чуюць.

Ад той бесталковай гамонкі
Там рогат стаяў на ўсю хату,
Калі ты разумная, жонка –
Не вер недарэку Ігнату.



## БРАЖНАЯ ГІСТОРЫЯ

У гарбачоўскія гады
Было з гарэлкаю так цяжка!
Бо выдавалі нам тады
Ўсяго адзін талон – на пляшку.

Даводзілася аж стагнаць –
Ад смагі ў многіх горлы сохнуць.
Дык вось напой той сталі гнаць
І ў гарадах сабе патроху.

Два тыдні брага аж гудзе,
Пасля каструлі ставяць, міскі,
А выганяюць як і дзе?
На плітах – і працэс той блізкі.

Адзін падумаў: а нашто
Чакаць паўмесяца патрэбна?
Не перашкодзіць мне ніхто
Паскорыць ход дражджова-хлебны.

Свой арганізм пераўтвару
Ў завод па вырабу гарэлкі.
І я ў сабе перавару
Закваску ў многія бутэлькі.

Няхай жа бродзіць ува мне –
Пад градусам увесь час буду.
І будзе радасць у мяне,
І хмель не дзенецца нікуды.

Тры кілаграма цукру з'еў,
Дражджэй наверх шчэ трыста грамаў.
Вады тры літры выпіў. Сеў.
Пасля прылёг на ложак прама.

А галаву перавязаў
Ён рушніком дзеля страхоўкі.

Нічога жонцы не казаў,
Падумаў: – Ну, я хітры, лоўкі!

І пачалася каламуць.
Працэс пайшоў, аж сэрца млее.
Жывот бурліць, і газы пруць,
І адчувае, што хмялее.

Не цягне есці ад таго,
Сядзіць на квасе і на хлебе.
Пад вечар соннага яго
Пагнала ўладна па патрэбе.

А жонка позна так прыйшла,
Сыходзіла надоўга з хаты.
Пачула выбух – аж лягла,
Нібыта стрэльнулі з гарматы.

Прабраўся, можа, тэрарыст?
Усю кватэру абшукала,
Зрабілася, як белы ліст,
Таблеткі жменямі глытала.

Адкрыла дзверы ў туалет,
А муж сядзіць на унітазе.
– Ты што асеў, нібыта дзед?
Такога не было ні разу.

Нашто на галаве рушнік,
Ты што прыдумаў, бедалага?
– Ды я са свету ледзь не знік,
Знімі мяне, мне вельмі блага.

Мо хутка разарве жывот,
Грызе душэўная трывога:
Ў сабе рабіў я спіртзавод –
Не атрымалася нічога.

Мяне ахоплівала млосць,
Як бы асуджаны я ўмоўна:
Каб не сарвала крышку хоць –
Мне ж высадзіла дно раптоўна.



## "ЗАСТУПНІЦА"

Сямейная гуляла пара.
У іх ідылія была.
Ды раптам наляцела хмара,
Не з неба толькі – з-за вугла.

Бо там за нейкім паваротам
У той вячэрні змрочны час
Сустрэлі два мардавароты,
І распачалі бойку ўраз.

А жонка давяла да мукі:
На спіну мужа налягла.
Як клешчамі счапіла рукі,
І адбівацца не дала.

Б'юць хуліганы моцна, злосна,
Такая выйшла каламуць.
Яму зрабілася ўжо млосна,
Ды кулакамі не махнуць.

Ад жонкі вырваўся, не зрухнуў,
Бо надакучыў гэткі змор.
Са злосці ў сківіцу ёй стукнуў,
І на крыўдзіцеляў папёр.

Пабеглі тыя, як сабакі,
Ажно курыў з падэшваў дым.
Відаць, лічылі небаракі,
Што сыйдзе з рук нахабства ім.

Муж бандзюкоў шукаў нядоўга.
Запомніў. Хутка прасачыў.
І па-мужчынску вельмі строга
Ён іх належна правучыў.

І разабраўся сам чын-чынам:
Адзін аж літасці прасіў.
Другі тым часам пад вачыма
Фінгалы тыдні два насіў.

Дадумалася здуру жонка,
Каб у міліцыю пайсці.
Была цікавая гамонка:
– Вось муж мяне памалаціў.

Распавядала, як было ўсё,
А там сказалі: – Во, дае!
Такое дзіва адбылося...
І – пасмяяліся з яе.

– Б’юць мужа, а яна трымае.
На горкі яблык збіць маглі,
Разумная ты ці дурная?
Дык мала ён табе ўваліў.

– Так, сілы мае ён нямала,
Ды не люблю я гэтых спраў.
Дык я яго абараняла,
Каб ён іх не пазабіваў.

– Не думала, што муж загіне?
Як бы чакала ты таго.
Чаму ж такая гераіня –
Не засланіла ты яго?

Сябе паводзіла нячыста.
Патрэбна меру, розум мець.
І як саўдзельніца злачынства –
Сама магла б ты загрымець.

Віной, што стала мужу туга –
Твая “мядзведжая паслуга”.



## НЕ Ў КОЖНЫЯ ГАДЫ ЗАБАВА

Эдзя-бэдзя з'еў мядзведзя,
Як казалі ў вёсцы ў нас,
Мо жыве ён побач недзе
Па-суседску сярод вас.

Цэлы дзень сябе ён труціць.
Ціск дае на схіл званок,
Зранку Эдзю круціць, муціць,
Галава – як чыгунок.

І імчыць узяць дзве пляшкі
Дзешавейшага віна.
А пасля – не так і цяжка,
Можа піць хоць давідна.

Пасінеюць нават губы
Горла рве – хутчэй прымаць.
А бутэлька б'е аб зубы,
І ў руках аж не ўтрымаць.

Іншы вып'е ціха-ціха,
І бяда яго міне,
Ну, а гэты, як на ліха –
Ён абразы, маты гне.

Грошы ёсць – нап'ецца Эдзя:
Так сябе падмацаваць.
Як "галяк" – на дачу едзе,
Каб хоць трохі працаваць.

Ёсць жа жоначка-таўстушка,
Кругленькая, як пампушка,
Не таўчэ яна пад бок,
Да таго ж і весялушка,
І сабачка ёсць – Дружок.

Дык адкінь жа ўсе дакукі,
Над сабой навошта здзек?
Абтрасі ад п'янкі рукі,
Мо працягнецца твой век?
Будзь, як вольны чалавек.

– * –

Шкодна нават маладым
Напівацца часта "ў дым".
А як ты –
пенсіянер,
Час – падумаць,
і – цяпер!



## ПРЫГОДЫ КУПАЛЬШЧЫКА

Вось гарачае ў нас лета!
Не купацца – проста смех.
Абвясцілі нам пры гэтым,
Што цяпер купанне – грэх.

І агульная трывога,
Не інакш, як быць бядзе:
Шкодных палачак замнога
Пазнаходзілі ў вадзе.

Спёка, стома – вось бяда ўся!
Працаваў я і пацеў.
І на возера падаўся –
Так купацца захацеў.

Бог жа з ёй, з дызентэрыяй!
Я ў бальніцы – рэдкі госць.
І зусім жа не стары я,
І пакуль здароўе ёсць.

А на возеры – бязлюддзе,
Там людзей амаль няма.
Я паплыў. Ну, будзь, што будзе,
І прыехаў нездарма.

Бы мяне на свята везлі –
У вады здароўе браць.
А каб палачкі не ўлезлі –
Лепш, падумаў, не ныраць.

Ды не вытрымаў спакусы,
Хоць трымаўся да пары.
І нырнуў я без прымусу –
Раз, пасля і два, і тры...

Моўлю жонцы шчыра, прама:
– Тут хвароба можа быць.

Налівай мне дзвесце грамаў,
Каб мікробы ўсе забіць.

– Не памрэш, ты – не калека.
Падлячу – і будзеш рад.
Наліла дамашніх "лекаў"
Грамаў, можа пяцьдзесят.

Ад такой мізернай дозы
Выйдзе ўсё наадварот,
Бо да страўніка не дойдзе,
Запаскудзіш толькі рот.

На ўсялякі шчэ выпадак
Я прыняў гарачы душ.
Змыў мікробаў – і парадак,
І не буду я нядуж.

Спёка, холад, дождж – заўсёды
І праз даўнія гады
Не баюся я прыроды,
З ёй я вечна малады!



# УЧАСТКОВЫ НА ВЯСЕЛЛІ

Не на службе я сягоння, а ў гасцях.
Набыло вяселле добры ўжо размах.
Віншавалі ўсе так шчыра маладых.
Прывітаць і я хацеў бы зараз іх.

У жыцці заўжды трымайце правы бок.
Хто парушыць, той хай сцерпіць і папрок.
Непрыемнасцей каб менш у вас было,
Не ідзіце на чырвонае святло.

І машыну як хутчэй набудзьце вы,
Толькі здайце ўсё ж спачатку на правы.
Хай да чарачкі не будзе ласы муж,
Спакайней сям'і так будзе і яму ж.

І суседзяў паважайце вы ўвесь час,
Каб не скардзіліся нам яны на вас.
На вяселле не па службе я прыйшоў.
Не ўжывайце ў спрэчках рук і лішніх слоў.

З кожным днём расце хай радасць удвая.
Мець шмат дзетак шчыра вам жадаю я.
А прафесіі ўсе добрыя цяпер,
Хай жа будзе ў вас і міліцыянер.

Муж кіруе, і таму я нездарма
Жэзл дару яму, мацней яго трымай!
А каб жоначку не крыўдзіў ты, браток,
Падару ёй свой залівісты свісток.



## АБ ПРАФЕСІЙНЫХ ЗВЫЧКАХ І ХАРАКТАРАХ

Распараджаецца па-свойму кожны часам,
Не ўсе, вядома, спосабам адным.
Сёй-той паблытае гарэлку з квасам:
Пажарны і пячнік – нап'юцца "ў дым".

Шавец "у сцельку" набярэцца зранку.
Рыбак, як жаба, квакне ў трыснягу.
Шафёр "пад мухай" скруціцца "ў баранку",
А конюх жа сагнецца "у дугу".

П'е страхагент, страхуючыся трошкі,
Абходчык – "у дрызіну" на хаду.
"Нарэжацца" цясляр нярэдка "ў дошку",
А вадалаз "аддасць канцы" ў ваду.

Да адключэння слесар п'е з ахвотай.
Як певень, кукарэкае артыст.
У самыя шырокія вароты
Не пройдзе захмялелы футбаліст.

Хабарнік дапіваецца да ручкі,
А злодзей абкрадае ўласны дом.
Ілгун сваёй хлуснёй усіх замучыць,
Лайдак засне – знямогся за сталом.

Пакуль паперкі у вачах заскачуць,
Гатовы піць зацяты бюракрат.
А падхалім ад радасці аж плача:
Начальніка спаіць заўжды ён рад.

Не ўсе, вядома, п'юць і не заўсёды.
Хто ж п'е – знаходзіць
шмат зачэпак і прычын,
Бо п'янюкі
– яны адной пароды:
Ўсе роўныя, фінал у іх адзін.



# ПЕРАЕХАЎ – ПРАЗ СЯБЕ

***(споведзь шафёра)***

Вось еду я праз доўгае сяло,
Спакойна, роўна, мне і весяло.
І раптам там мяне як нешта джгае:
Сабака вуліцу перабягае.

Не націскаю болей на газы,
А цісну ўжо мацней на тармазы.
Ды спахапіўся я даволі позна:
Сабаку пераехаў. Вынік – грозны.

Сабаку ў кузаў хуценька закінуў.
Дзе ж выкінуць, падумаў, тую псіну?
Не хочацца далёка гэта везці.
Дык перакіну лепш паблізу дзесьці.

Заехаў у суседні нейкі двор.
Сабаку сцёг і пад сцяну папёр.
І ляснуў я сабакам тым аб плот.
Ды выйшаў гаспадар: – Прэч, жываглот!

Назад я пагрузіў сваю “здабычу”.
Далей праехаў і звярнуў: мой звычай.
І скінуў пса. А ці заўважыць хто, ці знойдзе?
Жыхар як лясне мне сабакам тым па мордзе!

Падняў. Вязу далей. За вёскай скінуў.
Ды цяжкі груз яшчэ налёг на спіну:
Экалагічная міліцыя прымчала,
Як след яна мяне аштрафавала.

Было, але прапала азарэнне.
Нашто было такое мне здарэнне?
Не меў ніколі столькі многа прыкрых спраў!
Пасля далёка тую вёску аб'язджаў.




## АДПАЧЫНАК – ЯК І ДЗЕ

Вось надыходзіць цёплая пара.
Пра адпачынак думаем: – Ура!
На Поўнач ехаць, а ці то на Поўдзень –
Хто дзе сабе прытулак добры знойдзе.

У Турцыі страляюць тэрарысты.
У Індыі знясе цунамі ўсё дачыста,
Хоць многіх не палохаюць нягоды –
Ім стрэсы падабаюцца заўсёды.

А хто ў Карэлію падасца – лес, балота,
Там камары сасмокчуць кроў з ахвотай.
Аднак жа ёсць аматараў даволі,
Што не адмовяцца ад тых краёў ніколі.

На Поўначы у льдах замерзнеш недзе.
З'ядуць, магчыма, белыя мядзведзі.
Сярод цюленяў будзеш ты блукаць,
І як дамоў дабрацца – сам шукаць.

Сасмажышся на Поўдні, будзь хоць дзе,
Ад сонца не схаваешся нідзе.
Так загарыш, што аж палезе скура,
І памяняецца твая натура.

На Поўдзень ехаць – мець здаровым сэрца,
І ціск нармальны нам яшчэ да месца.
Інакш з жанчынай загуляць як звычку маеш –
Інфаркт там нечакана атрымаеш.

Дык пастарайся ўсё акінуць вокам –
І дарага так ехаць, і далёка.
А зразумець жыццё калі ўжо здатны –
На Свіслачы ці Нарачы пабудзеш на выдатна.

Вада празрыстая, і светлыя дзяўчаты.
Пажэнішся – такія будуць святы!
І не адзін вяселле будзе дзень.
І адпачынак лепшы не знойдзеш анідзе.



# СВАЯ ЦЫСТЭРНА

Ля піўняка разгаварыўся
Таварыш даўні мой са мной,
І непітушчым прытварыўся:
– Я не ўжываю ўжо даўно.

– А мне сусед адзін расказваў:
Пяць літраў можа ён прыняць.
Другі – аж дзесяць. І ні разу
Ніхто не мог яго здагнаць.

Таварыш кажа: – Што за дзіва?
Дванаццаць літраў выпіў я.
Пасля пайшоў. Канешне, крыва,
Такая звычка ўжо мая.

– Дык ты ж – не конь, і не карова,
Каб столькі вадкасці ўжываць.
Піць мора піва – нездарова,
Не можа арганізм стрываць.

– А я чатыры піў гадзіны –
Пайшоў з сябрамі на заклад.
– А колькі выплаціць павінны?
– Гарэлкі скрынку.
          – Вельмі шмат!

– А што рабіў ты з той гарэлкай?
– Як што? Чатыры дні пілі.
Панабіраліся ўсе ў сцельку.
Сябры гулялі і гулі.

– Ці доўга жыў ты так, гуляка?
– Цыстэрну выпіў я сваю.
Каб не зрабіцца небаракам –
Кефір і квас вось зараз п'ю!



# “АЛФАВІТНАЕ” КАХАННЕ

А, Б, В, Г, Д –
вось дык дэкальтэ!
Е і Ё, Ж, З –
я – не шымпанзэ.
І, К, Л, М, Н –
ты каля мяне.
О, П, Р, С, Т –
ноччу – “каратэ”.
У, Ф, Х, Ц, Ч –
гамана цячэ.
Ы ды Э, Ю, Я –
вось у нас сям’я.
Засталося Шэ –
тут “ля фам шэршэ”.
Стаўлю мяккі знак:
я – мужык-мастак!






# ВОСЬ ДЫК ПРАГУЛЯЎСЯ!

Мой сябрук, вадзіцель Слава
Распавёў такую справу:
Даўняй звычцы ён паддаўся –
Стаў на лыжы, ў лес падаўся.

...Нагуляўся, сіл набраўся,
І дахаты ўжо сабраўся.
Зірк – там воўк непадалёку,
Бы рыхтуецца да скоку.

Толькі ўперад ён не крочыць,
А за Славам пільна сочыць.
Колер поўсці шэра-рыжы.
Ну, ратуйце Славу лыжы!

Ды не зрушыўся ўсё ж з месца,
Пачало са страху трэсці.
Ён як быццам змірае,
І на воўка пазірае.

Так стаялі з паўгадзіны.
Каб зрабіў хоць крок адзіны,
Засталіся б толькі косці:
Не чакаў жа воўк у госці.

Абысці як тое ліха?
Задні ход ён даў пацiху.
Крутануўся тры разы,
І націснуў "на газы".

І не кінуўся звер следам,
Хоць застаўся без абеда.
Мо падвёў інстынкт прыродны?
Пэўна, воўк не быў галодны.

– * –

Не хадзі адзін у лес –
Можа горай быць, чым стрэс!
Стрэнем страшнага дзіка,
Ці – галоднага ваўка.



## ПАДАРУНКІ

Юбілей у акуліста-доктара:
Падарункі, кветкі – ўсё там ёсць.
І ўспаміны йдуць, што сэрцу дарага,
І прамовы кажа кожны госць.

Ад работы – вока каляровае
З чэшскага выдатнейшага шкла.
І вялікае, і адмысловае,
І падстаўка важная была.

А пасля прадумаў доктар многае:
– Прыкрае ўсё хай мяне міне.
Добра, што не быў я гінеколагам –
Што б тады падаравалі мне?

– * –

У кожнага на ўсё свая ёсць мерка.
Не тое, што падумалі:
Дакторскае люстэрка.




## ЯК ЖОНЦЫ ДАГАДЗІЦЬ?

Пасылае жонка ў краму,
Ці, бывае, на базар.
– Дык шыбуй туды ты прама,
Збочыць недзе і не мар.

Накупляй там рыбы, мяса,
Чай і каву, соус, сыр.
Смачныя купі каўбасы,
Малако яшчэ, кефір.

Я прабіў паўдня ў пакупках –
Покуль назбіраюся.
Мне б напоўніць торбу хутка,
І ні з кім не раюся.

Задаволены прыходжу,
Валаку тавар, як конь.
Ды падзякі не знаходжу,
У яе вачах агонь.

– Што за мяса – толькі косткі,
Хоць назад іх занясі.
Сыр сухі, нясмачны, жорсткі,
Сам ты іх і паясі.

Каўбаса нібы з каніны,
Малако як з-пад быка.
Чай твой піць бамжы павінны,
Не нальне кефір рука.

І нагой мяне лякае:
– Накупляў, як не для нас.
Мінералка не такая,
Самы горшы хлеб і квас.

Надакучыла такое,
Мне за клопаты – гаў-гаў!
Як пазбавіўся спакою –
Сябру ўсё пераказаў.

Кажа ён: – Ну, што за дзіва?
Так бывала і ў мяне.
Будзь хоць грозны, хоць ліслівы,
Жонка ўсё ж цябе ўпікне.

Хоць стараўся я да поту,
Рыла пад мяне, як крот.
Зараз ад такіх турботаў
Дасць работу не ў ахвоту –
Я зраблю наадварот.

Дык бурчыць тады ўвесь вечар,
Балабоніць і кляне.
Толькі гэта недарэчы,
Не даходзіць да мяне.

– * –

Дык ці варта дбайным быць,
Можа, так і мне рабіць?




## ХТО ЁСЦЬ ХТО

Трое іх было ў палаце:
Хто ляжаў, а хто ўставаў.
Нехта ў шапачцы, халаце
Ў іх пакойчык завітаў.

Ён у першага пытае:
– Рост які ў цябе, вага?
– Рост сто семдзесят трымаю,
Сто кіло – адна туга.

А другі: – Сто дзевяноста,
Шэсцьдзесят кіло ўсяго.
І жыву зусім не проста,
І сумую ад таго.

Трэцяга не стаў пытацца.
Той гукае: – Як жа я?
Доктар, трэба мне дазнацца,
Бо турбуецца сям'я.

– Не ў маёй лячэнне волі.
Кожны з нас на свеце – госць.
Дык не лекар я, а столяр.
Розніца ж для вас тут ёсць?



## ЦЫРКОНЕВЫ БРАНЗАЛЕТ

Хто навінкі не любіў?
Ёсць павевы новыя.
Шмат рэкламы ўжо набыў
Бранзалет цырконевы.

А цырконій – то метал,
Рэдкі ў прамысловасці.
Якасцей высокіх вал
Дзіўнай адмысловасці.

А да медыкаў дайшлі
Лекавыя вартасці.
Карыстайся ад душы,
Каб здароўе нам знайсці.

Лечыць сэрца, лечыць ціск
І яшчэ што многае.
Не глядзі сумотна ўніз
З вялаю трывогаю.

Заплаціў за бранзалет
Пяцьдзесят даляраў я.
Для мяне адкрыўся свет,
Пра што доўга марыў я.

Ад пакупкі вельмі рад:
Хай мінуюць гадасці.
І далі сертыфікат –
Пацвярджэнне якасці.

Сябар кажа: – Ну, дзівак!
Ім даўно не веру я.
Гэта штучка – думай так –
Проста біжутэрыя.

Невядома, ці паможа...
Бранзалет жа мой прыгожы.
Што даляры тыя – пшык,
А затое – маю шык!
(Бо – маднецкі я мужык).



## НЯЎДАЛАЕ СПАТКАННЕ

Познім вечарам зімовым
Да каханкі ён пайшоў.
І прачуленыя словы
Для яе ў душы знайшоў.

Думаў: прыме без затрымкі
Даражэнькая мая.
Кінецца ў мае абдымкі,
З ёй да ранку буду я.

Пагуляю тут нядрэнна,
Толькі дома каб была.
Ды аднак, званіў дарэмна –
Пэўна, некуды сышла.

Быў паддаты, вушы ў звоне –
Шмат гарэлкі каўтануў.
На пляцоўцы, на бетоне
Ён асунуўся, заснуў.

Раніцай прачнуўся хутка.
Дзе я? – думаў сам сабе.
Разабраўся праз мінутку –
Добра, што не адубеў.

Хоць п'яны быў, як сабака,
Шапку нанач падвязаў.
Дакумекаў, небарака –
Каб не зняў хто і не ўзяў.

А затое чаравікі
Скінуў – ціснулі яны.
Бачыць з радасцю вялікай –
Вунь стаяць каля сцяны.

Не забраў ніхто іх нібы,
А інакш было б шмат слёз,

Бо тады б дамоў падыбаў
У шкарпэтках на мароз.

Пазваніў зноў. Адчыняе.
– Ты адкуль мой галубок?
– Пад дзвярыма пост трымаю,
Стогне спіна, ные бок.

– Выбачай мне, дружа мілы,
Я прыйшла дадому ўсё ж.
Праз цябе пераступіла,
Палічыла – нейкі бомж.

– Так, я ўчора плаваў мелка,
Праваляўся давідна.
Падвяла мяне гарэлка –
Каб згарэла ўся да дна!

– Сціхні ты! Маўчы, як мыш!
Сам, смактун, хутчэй згарыш.
Лепш напіцца і бляваць,
Ці – жанчыну цалаваць?



## ГЭТЫ СЛОІК – ЯК ВІНОЎНІК

Сяргей – сябрук, па прозвішчу ён – Сціплы.
Усмешка, позірк, лёгкі ўздым павейк.
А голас – звонкі, не якісьці сіплы,
Душа – нарохрыст, добры чалавек.

Аднойчы загуляў даволі позна.
Пітво і закусь – быў багаты стол.
Гуркі, таматы, вэнджаніна – ўсё сур'ёзна,
Ніхто ад выпіўкі не ўпаў на дол.

А гаспадар, як той гульбы віноўнік,
Сказаў: – Няхай цябе нічога не шкрабе.
Вазьмі пусты мой двухлітровы слоік,
На дачы ён спатрэбіцца табе.

А дома жонка – бурная такая,
Шуміць, крычыць, паказвае ўсю злосць.
Без важкае прычыны папракае:
– А ці ў цябе сумлення трохі ёсць?

Не ведала я, што такі ты хітры,
Ні ў чым сабе не ставіш сам мяжу,
Не думаю, што выпіў ты два літры:
Два літры – з'еў, а я – галодная сяджу.

Мае з'ядаеш з некім ты запасы? –
І тыцкае мне пальцамі пад нос.
І сумна паразважыў я тым часам:
Навошта гэты слоік ёй прынёс?



# ПАМЫЛКА ПАЛЮБОЎНІКА

Спякотны дзень. А ён ідзе.
Чакае любая жанчына.
Паверх дзевяты. Ліфт вязе.
Павесяліцца ёсць прычына.

Званок націснуў на дзвярах,
Яму імгненна адчынілі.
Апанаваў раптоўна страх:
Там – постаць дужага мужчыны.

Глядзіць і жонка з-за пляча,
А позірк значна-хітраваты:
Маўляў, не ў свой ты час прымчаў,
Дык лепш шыбуй хутчэй дахаты.

А што ж рабіць яму тады?
Ён – у адчаі і трывозе.
– Падайце шклянку мне вады,
Бо я сасмаг тут па дарозе.

Падаў напіцца шклянку муж,
А ў галаве – нямала версій.
Галоўная з іх – а чаму ж
На першым не прасіў паверсе?

(Але ў таго душа звініць,
Што ён забыўся адзваніць).



## ХМЕЛЬНЫ КВАС

Наўкол стаіць гарачыня,
А сам я еду па рабоце.
А ўсё было на схіле дня,
І замарыўся – ўвесь у поце.

А на рагу кіёск стаіць –
Квасны кіёск, што ўсіх прыцягне.
І так прыціснула папіць,
Што цела кожнай клеткай прагне.

Налілі куфель. Рэзкі смак.
Шуміць, і бурбалкі буркочуць.
Не адарвацца ўсё ж ніяк,
Хоць закрываюцца ўжо вочы.

Напэўна, квасу тыдні два,
Збражэў – набралася ўжо моца.
Хмялее, чую, галава,
Але той квас дап'ю да донца!

І зразумеў я: піць – дык піць,
Тым болей – танна, эканомна.
І смагу трэба наталіць,
Узяў шчэ куфель, безумоўна.

Пасля ўжо ўлукаткі пайшоў,
Нага не цягнецца з нагою.
На працу не паехаў зноў,
А пазваніў – штось плёў з тугою.

Як грошай мала ў розны час,
Тады такі шукаю квас.
А ім-та што? Каб збыць свой брак,
Такіх, як я – шмат небарак.

– * –

Які ім клопат пра мяне?
Ці – вытрымаю, ці – прамкне.

## ПРЫЧЫНА ШЛЮБУ

Ёсць сябры – Лявон і Зіна,
Часта сустракаемся –
Па прычыне, без прычыны,
І зусім не каемся.

Пацікавіўся я ў Зіны:
– Як вы пакахаліся?
Дзе сустрэўся твой адзіны,
Доўга сустракаліся?

Кажа: – Ў парку мы гулялі –
Размаўляем, раімся.
Нагуляліся нямала,
І дамоў збіраемся.

Вось стаім мы на прыпынку –
Доўга нам чакаць усё ж.
Раптам дробныя дажджынкі,
А пасля – вялікі дождж.

Радавацца дзе прычыны?
Тут хоць стой, хоць падай ніц.
Збоку ўбачыла мужчыну –
Мокры ў лужыне стаіць.

За яго мне горка стала –
Мо прастудзіцца шчэ ён.
Я яго пашкадавала,
І ўзяла пад парасон.

Ён правёў мяне дадому,
А куды ж яго мне дзець?
І застаўся там, вядома –
Абсушыцца, пасядзець.

А пасля ўжо тралі-валі,
Ён хадзіў за мной, як цень.
Разам ранак сустракалі,
І гулялі дзень у дзень.

І на зорачкі глядзелі,
Імі любаваліся.
Ад кахання проста млелі,
І – пашлюбаваліся.

Маем мы ва ўсім парадак,
І сям'я ў нас дружная.
Быў на шчасце той выпадак –
Пажаніла... лужына!



# ІДЭАЛ ДЗЯЎЧЫНЫ

*(мара халасцяка)*

Час жаніцца настае.
Хлопец – ого-го!
І жаданні ёсць свае –
Выбраць бы каго.

Тут не йдуць усе падрад.
Дзе б такую ўзяць,
Рост каб быў сто семдзесят –
Сто семдзесят пяць.

Скулы б каб высокія,
Вусны, як бутон.
І ружоващчокая,
Голас – чысты звон.

Нос – прамая лінія,
І адкрыты лоб.
Дый усмешка мілая –
Я б за вухам шкроб.

Стан – на дзевяноста дай,
І – на шэсцьдзесят,
І спакусна паглядай,
Бы пачуццяў шмат.

Поўненькія ножачкі,
Спіначку не гне.
Рэжа, быццам ножычкам
Позіркам мяне.

Аб такой мне марыцца –
Не наляжа цень.
Неба не захмарыцца,
Сонца – кожны дзень.

Ёй галубкай трэба быць,
Мецъ свой арэол.
Мне б такую палюбіць,
Сам я –
        як арол!




## МЫ, МУЖЧЫНЫ...

Славу нам заўжды спяваюць,
І вакол нас арэол.
Нас спрадвеку называюць:
– Вы, мужчыны, моцны пол!

А як ёсць у хаце праца,
Хоць і дужы ты, як вол,
Не спяшаешся старацца:
Мы, мужчыны, слабы пол.

Не нясеш часцей рамонкі,
А ці трэба тут дазвол?
Грошы ж выцягнеш у жонкі:
Мы, мужчыны, моцны пол.

Цвік забіць, дарожку выбіць –
Паглядзець лягчэй футбол.

Цяжка дыхаем, як рыбы:
Мы, мужчыны, слабы пол.

Цельпуком каб не зрабіцца,
Паглядаеш, як арол.
Цяжка гонару пазбыцца:
Мы, мужчыны, моцны пол.

А жанок сваіх трывожым,
На дзяўчат глядзім наўкол.
Дома выседзець не можам:
Мы, мужчыны, слабы пол.

А як жоначка, бывае,
Пляшку выставіць на стол,
То на дне не пакідаем:
Мы, мужчыны, моцны пол.

Ды імкнуцца ўсё ж мужчыны
У сям'і стаць на прыкол.
І на гэта ёсць прычыны:
Як падпоркі, нам жанчыны –
Мы ж, мужчыны, слабы пол.



## ТРЭНЕР – ПА ЧЫМ?

Толя – трэнер па футболе,
Што займае ўвесь народ.
Цяжка стрэць яго на поле,
Захапляе іншы “спорт”.

У яго ўжо твар чырвоны,
Да таго ж – чырвоны нос.
У спіртнога у палоне,
Бо бутэлькай часта трос.

Надыходзіць толькі ранак –
Каб прагнаць маркоты цень,
Дык выходзіць ён на ганак
Гастранома кожны дзень.

Адшукае “тройку” недзе,
Можа, трохі больш было.
Згарбузуецца з кім-небудзь –
Закруціла, загуло.

Колькі ёсць – кульне ён лоўка –
Нельга нервы больш трапаць.
Ненаўме ўжо трэніроўка –
Пацягнула раптам спаць.

Футбалісты з сэрцам чыстым
Мяч ганяюць без яго.
Сваёй справы актывісты
Ўсе – адзін за аднаго.

Як у матчы – перамога,
Трэнер тут жа ўхопіць прыз.
І амбіцый мае многа:
– Гэта – мой для ўсіх сюрпрыз!

Для каманды ён – дадатак.
Як такога шчэ трываць?
Лепшы для яго занятак –
Алкашоў трэніраваць!



## ПАДЗЕННЕ ПЯТРА

(гумарэска для дзяцей і падлеткаў)
З Пятром хлапчукі сябравалі даўно,
Найбольш ім было даспадобы адно:
Стары паляўнічы на вёсцы ён быў,
Заўсёды і баяць пра гэта любіў.

Аднойчы Пятро кажа так ім: – Сябры!
З сабою я ў лес вас не браў да пары.
Ды заўтра ідзём. Вось мая вам рука!
Я ведаю, дзе ўпаляваць вепрука.

І вось яны ў лесе дрымучым з Пятром.
Ён лёг з дубальтоўкай, сам грозны, як гром.
А побач праходзіць сцяжына дзікоў,
Наўкол цішыня, і ні гуку з бакоў.

І раптам зусім нечакана узнік
З вачыма, крывёю налітымі, дзік.
Адразу накінуўся ён на людзей,
Пятра на клыкі свае ледзь не паддзеў.

Той кінуў двухстволку, адчуўшы бяду.
Дзік лычам яе падчапіў на хаду.
Адкінуў у бок, і пусціўся, наўцёк,
Ад сполаху наш паляўнічы аж змок.

Калі ж ачуняў – ледзь разгледзеў хлапцоў,
Ад сораму быў праваліцца гатоў.
Набычыўся ўмомант, сурова спытаў:
– Няўжо дрэнна бачыць сягоння я стаў?

Куды сігануў распракляты той дзік?
Напэўна, са страху са свету ён знік.
Калі б у кусты не закінуў ружжо,
Яго б я прыкончыў – паверце мне ўжо!

– * –

Быць смелым і мужным з маленства пара.
Падобным не будзь да такога Пятра.



## РЕПОРТАЖ ИЗ ДИСПАНСЕРА

Алкогольные все страсти
Сильно тянут нас на дно.
Наркологии диспансер –
Он для многих дом родной.

В пьянстве счастье кто находит?
Алкогольный чешет зуд.
Кто-то сам сюда приходит,
А кого-то привезут.

Не идут сюда с охотой,
Хоть попутал сатана.
Кто направлен от работы,
А кого сдала жена.

А врачи тут примут строго,
И внушают, как судья:
– По кривой идёшь дороге,
Пропадёшь сам и семья.

Здесь побудешь дней десяток,
Вероятней, даже два –
К пьянке ты не будешь падок,
Просветлеет голова.

Раздевайся ж, будь, как голый,
Лишних слов нам не болтай.
Влепим в попу мы уколы,
И таблеток поглотай.

А целуешь ты, как милку,
Не прекрасную жену –
Запотевшую бутылку,
И за вечер – не одну.

Месяцами коль тянулся
Винно-водочный запой –

Есть не можешь, аж согнулся,
И не спишь – хоть плачь, хоть вой.

Раз тебе цистерна – норма,
Бесхарактерный слизняк,
То придешь не скоро в форму:
Дня четыре – “отходняк”.

Коль излечишься, то, значит,
Выпустим тебя живьём.
Закодируем иначе,
Ампулы в тебя зашьём.

Сразу станет не до зелья,
Не поверишь ты глазам.
И избавишься веселья,
И серьёзным будешь сам…

Лечат круто, с увлеченьем,
Но больным не скучно быть.
Кое-кто и при леченьи
Умудряется попить.

Кто-то сбегает куда-то,
Ведь легко найти “гонца”.
Принесет, надёжно спрятав,
Или водки, иль винца.

И пошло леченье к чёрту,
Зря стараются врачи.
Ноют вены и аорты.
Нахлебался – так молчи.

Сотворив себе “кумира”,
Пред собой закрыли свет.
Кто балдеет от чифира,
Коль на водку денег нет.

Но не все судьбе покорны.
Кто-то ходит – чуть скрипит.
Кто-то лечится упорно,
И клянётся бросить пить.

Так решите сами, братцы:
Стоит с пьянкою дружить?
Иль со свиньями валяться,
Иль как люди лучше жить?



## НА СТРАЖЕ ЗДОРОВЬЯ

Такой прекрасный нынче праздник –
День медработника у нас.
И пожеланий много разных
Мы получаем в этот час.

Бывают трудные моменты,
Когда здоровье подведёт.
К нам валом валят пациенты,
И к нам бегом бежит народ.

В лечебницах бывает жарко,
Нередко это – адский труд.
Врачи, медсёстры, санитарки
На помощь страждущим идут.

Больные – разные натуры,
Но жизнь свою сам не ломай.
Магнит, уколы, процедуры –
Всё, что припишут, принимай.

А смотришь хмуро и устало –
То жизни всей снимай грешки,
Употребишь лекарств немало –
И ампулы, и порошки.

Коль к нам попал – держись же смело,
И не робей перед шприцом.
Ведь будешь ты в руках умелых –
Здоровым выйдешь, молодцом.

Чужая боль нас режет остро.
Где радость от больничных встреч?
Ура – врачам, привет – медсёстрам,
Здоровье будем всем беречь!



## КИНОСЕРИАЛЫ

Бесконечная тянучка:
Смотрят бабушка и внучка,
Смотрят мама и отец,
И когда ж придет конец?

Сценаристы очень рады:
Гонорары – им награды.
И артистам есть работа,
Делают её с охотой.

Как богатые страдают!
От любви сердца их тают.
Не узнаем только вот,
Как у них живёт народ.

Но реклама – удивленье,
Стонем мы от умиленья.
Там и роскошь, и любовь,
Сериалы смотрим вновь.

Сотни серий – наше время,
Но забот снимает бремя.
Кто от сказок тех устал?
Дайте новый сериал!




## КЛЯТВА

Сегодня – день рождения:
Не пью и не курю –
И будет вдохновение,
И встречу я зарю.

Мне в будущее верится,
От пьянок я устал.
Ничто во мне не держится,
Потом в семье – скандал.

Теперь скажу уверенно –
Ведь я – не бюрократ:
Пить можно, но умеренно,
И каждый будет рад:

Жена – что пьешь не за углом,
Не с кем попало ты.
Так выпивай всегда с умом,
И не разбей мечты.

Коль скучно или весело –
Друзей большая рать.
Хоть денег нет, хоть съедь в село,
А тянут выпивать.

Я бросил пьяных воинство,
Я сохраню и честь
И сберегу достоинство,
Коль сила воли есть.

По пьянке голову дурить
Себе, другим – зачем?
И пол-оклада прокурить
Во вред себе и всем.

Не сгину от курения,
От водки не согнусь.
И в жизни все мгновения
Я сохраню.
К Л Я Н У С Ь !



## ТВОРЧАЕ КРЭДА

Без розных там прэтэнзій
Да іх і да мяне.
І не было рэцэнзій –
Тых, што пякуць, як цэзій –
Каб я ляжаў на дне,

Спазнаў жыцця нягоды,
А творчы быў азарт.
Рабіў дабро заўсёды,
Хоць сам быў жалю варт.
Але не йшоў назад.

Літаратура – хмура
Не можа паглядаць,
Бо гэта – не халтура,
Пачуццяў жорны, бура –
Магутная віхура
Святло нам можа даць.

Пісьменнікаў суладдзе –
Народ свой разумець.
Не кожнаму прыладзіць,
Найлепшых – словам гладзіць,
З людзьмі –
жыць дружна
ўмець.



# ЖЫЦЦЁВЫ ПОГЛЯД

А на жыццё
    гляджу я смела.
Дзе горкі,
    дзе прыемны смак,
Мае каб вершы зразумелі
І акадэмік,
    і рыбак.

Каму нявесела жывецца,
А хто жыруе – не бяды.
Каму жыццё як рай здаецца,
А хто –
    змагаецца заўжды.

І хто жыве ўвесь час заможна,
Хто як стараўся – чым прыспеў.
Той атрымаў усё, што можна,
Такім і песняў –
    дружны спеў.

І радасці,
    і ўсе нягоды,
І шмат турботаў –
    цераз край
Паэт заўважыць вам заўсёды.
Парады слухай –
    і збірай.

– * –

Свой шлях жыццёвы –
    выбірай.



## САМАЛЮБСТВА

Я на вершы быццам здатны,
І пішу я іх даўно.
Нешта выйдзе на выдатна,
А другое – як відно.

Я ствараць шчэ не прыцік,
Мастакоў нас шмат такіх.
Тым, хто талентам валодаў –
У жыцці былі нягоды.

А бяздарным – шлях прамы.
Ён крычыць: – Ды я, ды мы!
Шмат уладных ёсць сяброў.
Падтрымаюць.
        Будзь здароў!



## ПАРТРЭТ САТЫРЫКА

Калі пачнеш чытаць газеты,
Глядзіш часопісы не раз,
Паэтаў-лірыкаў партрэты
Там сустракаюцца ўвесь час.

Як і празаікаў, вядома,
І ім пашана нездарма.
Іх біяграфіі знаёмы,
А пра сатырыкаў – няма.

Глядзеў на гэта, як на дзіва,
Я нездаволен быў падчас.
– За што, – пытаў, – несправядліва
Так абыходзіце вы нас?

А мне сказалі рэч такую:
– Партрэт твой не даем таму,
Каб той, каго ты крытыкуеш,
Не ведаў, помсціць бы каму.

Менш пра сваю ты думай славу,
Сваім калегам так скажы:
У барацьбе за нашу справу
Вы на пярэднім рубяжы.

Сатырык, уставай гарою,
Каб быў чысцейшым, лепшым свет,
Выводзячы антыгерояў,
Ствараеш ты і свой партрэт.



## ЧАМУ АБРАЎ Я ГЭТЫ ЖАНР

Я пра жыццё разгаварыўся,
Дык раскажу  усё дачыста.
Чаму, спытайце, гумарыст я,
Чаму сатырыкам я стаў?

Прамы характарам я ўдаўся,
І думак не хаваў, таму
Я шмат каму не падабаўся,
І падабаўся шмат каму.

Калі ў "Пражэктар камсамольскі"
Накіравалі, то штодзень
На хітрых, прагных, злых і коўзкіх
Наводзіў крытыкі прамень.

Калі па тэхніцы бяспекі
Я інжынерам працаваў,
За парушэнні і агрэхі
Нікому спуску не даваў.

Я быў дзетдомавец, рабочы,
Студэнт і звыш трох год салдат.
Глядзець і ўсё казаць у вочы
Мяне выхоўваў інтэрнат.

Які ж абраць мне жанр, я думаў.
Характар паказаць увесь?
І палюбіў сатыру, гумар
За сацыяльны іхні сэнс.

Было б куды прыемней кветкі
На ніве лірыкі ірваць.
Ды сустракаем дрэнь нярэдка –
Камусьці трэба ж ваяваць.

Супроць праяў былога часу,
Якімі хтосьці даражыць,

І найнавейшых выкрутасаў,
Што нам перашкаджаюць жыць.

Сатыра – жанр найбаявейшы,
А гумар трэба ж удвая.
Таму лічу: у гэтым вершы –
Праграма творчасці мая.



## ЗАПАВЕТ АЎТАРА

А я сабе жадаю лёгкай смерці,
Бо нельга вечна жыць на свеце тут.
І думаю, імгненна каб памерці:
Ішоў і ўпаў – і ніякіх пакут.

Ці мо пасля чарговай гадавіны –
Гадоў, напэўна, недзе каля ста
Усім аддаў гасціннасці даніну,
Прылёг, заплюшчыў вочы – і не ўстаў.

Замучыць могуць клопаты, трывогі,
Нішто надзённае не праміне.
Хачу пажыць я, покуль носяць ногі,
А поўзаць – гэты лёс не для мяне.

Навошта мне ў бальніцах тыя мукі?
Не шмат увагі там даецца нам.

Зусім не хочацца абцягваць рукі
Ні сваякам маім, і ні сябрам.

Я не прывык і кланяцца, і гнуцца.
Хай скажуць: – Як ён жыў, так адышоў.
Пасля мяне хоць кнігі застануцца,
І памяць назаўсёды ў чытачоў.

Быў я ў жыцці ні воскам, і ні гумай,
Выкараняў заўсёды ў творах зло.
Дапамагалі мне сатыра, гумар,
Натхненне ўперад век мяне вяло.

Ды не хачу канчаць на сумнай ноце,
Бо кажуць, што яшчэ я – ого-го!
І хоць жыццё ўсё працаваў у поце,
Але і зараз хочацца ўсяго.

Жанчыны каб былі ў мяне і кветкі,
І трэба многа вершаў напладзіць.
А можа, з'явяцца пасля і дзеткі,
Ці лепш адразу ўнукаў нарадзіць?

Я праганю прад вечнасцю свой страх,
І будзе ў тым жыцця майго працяг.



# Эпіграмы мімаходзь

Напісаў я эпіграмы –
Вельмі шчыра, проста, прама,
І да іх бываю здатны,
А пісаў жа акуратна.
Дні і ночы я не спаў,
Эпіграмаў шмат скляпаў.

– * –

## РЫГОР БАРАДУЛІН

Вось Рыгор наш Барадулін,
Пра яго ўсе людзі чулі.
І не робіць ён крывулін,
І ніякіх загагулін.
Ворагам пакажа дулі,
А яго не падкупіць,
Бо даўно ўжо кінуў піць,
І яго пяро скрыпіць.
Чалавек прыемны, мужны,
Вельмі з многімі ён дружны.
Ну, калі ўжо хто нялюб –
Не трапляй яму на зуб!

– * –

## АЛЕГ ЛОЙКА

І Алег выдатны Лойка –
Піша шчыра, піша лоўка.
І ласкавы, і прыемны,
Нас не папракне дарэмна.
Знакаміты ён вучоны,
Што са славай заручоны,
Пра яго што шчэ сказаць?
Многіх з нас вучыў пісаць.
І жадаў найболей нам,
А стараўся кожны сам.

– * –

## АНАТОЛЬ ЖАЛЯЗОЎСКІ

Анатоль шчэ Жалязоўскі –
Прынцыповы, а не коўзкі,
І характарам геройскі.
Думкі, творы – не тавар.
Ён нам праўду скажа ў твар.
Сябар – мала ёсць такіх,
Без пасадаў не прыціх.
І не робіць выгляд важны,
Да сяброў – заўжды адважны.
Дасягнуць ён шмат паспеў,
За характар пацярпеў.
Ды падымецца, вядома,
Бо у творчасці – як дома.

– * –

## УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ

Што да Паўлава Валодзі –
З намі быць імкнуўся ў згодзе.
І любіць ён нас хацеў,
На рабоце аж пацеў,
Выдаваў ён нашы кніжкі,
І стараўся, і не крышку.
І ў Саюзе кіраваў,
Шмат рабіў карысных спраў.
Можа сам падняць кілішкі,
Ды не так, каб нылі кішкі.
Семдзесят гадочкаў ёсць –
Не бярэ яго шчэ млосць.
Гэта трэба паважаць,
Шанаваць, не прыніжаць.
Ну, трымайся, наш сябрук,
Не разнімем цёплых рук!
Не схіляй жа галавы,
А пішы, пакуль жывы.

— * —

## ЛЕАНІД ДАЙНЕКА

Леанід між нас Дайнека –
Ён на выгляд просты нейкі.
А разважыць кожны крок –
І пісьменнік, і дзялок.
Думкі нашыя ўсе чуе,
Каго любіць – пачастуе.
Сам талковы, дзелавы,
І ва ўсім заўжды правы.
Што ні робіць – будзе першы.
Новыя складай нам вершы,
І не церпіш ты падману,
Зноў пішы для нас раманы.
А душа – як у дзіцяці,
Хто спазнае – хоча знацца.
Ён як дуб – такі магутны,
Сэрца стук паўсюдна чутны.
Грошы, бізнес – то вытворчасць.
Больш сваю паказвай творчасць!
А як да ўсяго ахвочы –
То не спі і дні, і ночы.

— * —

## СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

А Законнікаў Сяргей –
Так пісаць, як ён, сумей.
Лірык светлы і прыродны –
Ён паэт, скажу, народны.
Сам такі прыемны, рослы,
У абыходжанні ён просты,
І не скажа: – Шу-шу-шу!
Ён аддасць за нас душу.
Шмат гадоў пісаў, шмат дзён,
Ты ж даўно – не маладзён.
Рады мы тваёй душы.
Дык... пішы, далей пішы.

– * –

## НАВУМ ГАЛЬПЯРОВІЧ

Гальпяровіч вось Навум –
На душу не гоніць тлум.
Як падумае, разважыць,
Ён усё на вагах важыць.
І не робіць штось бяздумна –
Каб было заўжды разумна.
Ну, такі ж у нас мудрэц –
І каваль ты наш, і жнец.
А на радыё – мастак.
Сам, вядома, не прасцяк.
Пра сябе не забываеш,
І праект свой там ты маеш.
Штотыднёва хвілін сорак выступаеш.
(іншых – зрэдку заўважаеш).

– * –

## КАЗІМІР КАМЕЙША

Казімір, сябрук Камейша –
Ён за многіх весялейшы...
"Полымя" і "Маладосць",
Зараз – "Вожык". Поспех ёсць.
Ці карнет ён, ці кадэт,
Як Вялюгін ахрысціў.
Многа добрых ёсць прыкмет,
А прыемны сам наўздзіў.
Ці старэе ён? Наўрад.
І за ім – натоўп дзяўчат.
Праўда, трохі палысеў,
Ды ў калошу ён не сеў.

– * –

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

Наш паэт Генадзь Бураўкін
Не губляецца нідзе.
На каго з прычыны раўкне –

Той адразу ж упадзе...
З ім ніхто не прападзе.
Не загне аднак жа мат –
Быў міністр і дыпламат.
Лірык тонкі, голас звонкі,
Жонка Юля – шчасця шмат.
Не было такіх дзяўчат –
Пабягуць усе ўздагонку,
Людзі рады, сам ён рад.
Ён такі рознабаковы –
Падбірае трапна словы.
Не пакрыўдзіць маладога,
У яго – свая дарога –
Многа поспехаў сустрэў,
Шмат гадоў – не пастарэў.
Дык квітней, паэт Генадзь,
І з людзьмі заўсёды ладзь.
І сяброў, і жонку гладзь.
Пажадаем – так трымаць!

– * –

## УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЕДАЎ

Ён спакойны, дзелавіты,
І душой заўжды адкрыты.
Навуковец вельмі важны,
За свой край змагар адважны,
Да навукі так прыкут!
Узначальваў інстытут,
За што возьмецца – ўсё зможа,
І сябрам ён дапаможа.
Ён – і крытык, і даследчык,
І дарадчык, і паплечнік.
А рука – як быццам молат,
Ён душой і целам – волат.
Дасць руку: – Ну, будзь здароў.
Больш было б такіх сяброў!

– * –

## ГЕНАДЗЬ ПАШКОЎ

Ён разважны, памяркоўны,
Падхалімаў не любіў.
І ў адносінах жа роўны,
Ганарыстым век не быў.
На высокіх быў пасадах,
І цяпер – высокі чын.
І на сходах, на нарадах
Не палае без прычын.
БСЭ – вось установа!
Ёй нялёгка кіраваць.
Шмат выданняў свежых, новых
Неабходна выдаваць.
І Генадзь Пятровіч дбае
Пра гісторыю ўсю ў нас.
Ад таго павагу мае –
Заслужыў яе як раз.
А пісьменнік – што казаць!
Майстар словы ён звязаць.

– * –

## МІКОЛА АЎРАМЧЫК

Вершы мы чыталі ўслых –
Ці ўдваіх, ці мо ўтраіх.
Так выхоўваў маладых –
Лёгка ўсё ўспрыймаў у ўсіх.
Ён ганяў нас не бязбожна –
Павучаў, як толькі можна.
І пытаў: – Натхненне ёсць?
Вы ж прыйшлі... у "Маладосць".
– Талент вы, – казаў, – мацуйце,
Над радкамі ўсе працуйце.
І ўначы, і кожны дзень,
Каб не лёг на сэрцы цень.
Я ж – ваш бацька, я – ваш дзед,
І раскрыю вам я свет...

Якаўлевіч, дзякуй вам.
Хто як вырас – бачыць сам.

– * –

## КАСТУСЬ ЖУК

Жук Кастусь быў завадчанін,
Працаваў на МТЗ.
Моцна ён пісаў, адчайна,
Не губляўся сам нідзе.
Быў і зваршчыкам у цэху,
І наладчыкам ён быў.
Не баяўся жартаў, смеху,
І дзяўчат зашмат любіў.
І цяпер трымае марку –
Свайго краю родны сын.
Вершы піша ён не шпарка –
З роздумам, як селянін.
Ён у нас такі адзін.
Шмат Жукоў ёсць у Саюзе.
Мо Кастусь з іх першым будзе?

– * –

## ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

Ёсць аповесцяў нямала,
І раманы нават ёсць.
І трымаўся ён трывала,
Вёў часопіс "Маладосць".
Шэсцьдзесят – жыццё на ўздыме.
Не пакланіцца гадам.
Працаваў ён з маладымі –
Маладым застаўся сам.
А працягвае анкету
"Краязнаўчая газета".

– * –

## АНАТОЛЬ ЗЭКАЎ

Парадыст выдатны Зэкаў –
Не даходзіў жа да здзекаў,

Хоць пра многіх кукарэкаў.
Трапна іх радкі дзяўбаў –
Хто пра вершы мала дбаў.
Не глядзеў чыны і званні,
Бо ў сатыры ёсць прызванне.
Праўда, лірык у асноўным,
Ды змагаецца з адмоўным.
Быў рэдактарам газетаў,
І сумленне меў пры гэтым,
Хоць даволі гэта цяжка,
І рабіў сур'ёзна, важка,
Не было ні ў чым прамашкі.

– * –

## АЛЕСЬ ПІСАРЫК

Слесар, грузчык быў і столяр,
Разганяў сваю нуду.
І пахвальваўся даволі:
– Я вучыўся ў БДУ!
Гаварыць так налаўчыўся,
А жыццё бяжыць, цячэ.
Дык калі ты дзесь вучыўся –
Трэ было і скончыць шчэ.
Так гамоніць адмыслова,
І як быццам ад душы.
Дык жа стань ты майстрам слова,
Вершы моцныя пішы.

– * –

## ПАВЕЛ САКОВІЧ

Творца ў нас Саковіч Павел –
Ён трымаецца ўсіх правіл.
Ці ў паэзіі, ці ў прозе –
Хоць на сонцы, ці ў марозе.
Эпіграмы іншы раз
Створыць ён на многіх з нас.
Падкалоць чым – ёсць запас,
Тых, хто лезе на Парнас.

Хударлявы сам, сухі,
І даруе нам грахі.
Вельмі здатны на пацешкі,
І падорыць нам усмешкі.
Дарагі Саковіч Паша,
Скажам так: – Ты – радасць наша!

_ * _

## СЯРГЕЙ ДАВІДОВІЧ

Чалавек ва ўсім цікавы,
Ведае жыцця праявы.
І паэт ён, і мастак,
І ні ў чым не робіць брак.
У міліцыі служыў –
І павагу заслужыў.
А пасля стаў дэпутатам –
Працаваў і там заўзята,
Што ні возьмецца рабіць –
Можа прыкладам нам быць.
Знойдзе ўсюды прызначэнне,
Пажадаем жа натхнення!

_ * _

## ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

Віктар слаўны наш Гардзей –
Падаеш нам шмат надзей.
Праўда, выгляд кіславаты –
Што ж, ты ў тым не вінаваты,
Многа думаеш, сябрук –
Пэўна, меў нямала мук,
Ды забудзься ты пра іх –
Весялейшым будзь за ўсіх,
У жыцці нярэдка цяжка.
Дапамогуць шкварка, пляшка,
І паплечнікаў гурты –
Не грашы, не будзь святы,
І зноў з намі будзеш ты,
І не стане гаркаты.

— * —

## УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ

Уладзімір Ермалаеў
Век нікога не аблаяў.
На дзесятку восьмым год
Смела крочыць у народ.
Ён усмешлівы, высокі,
У развагах жы глыбокі.
Акуратнае пяро
Творчае нясе дабро.
Нос высока не трымае,
У сатыры поспех мае.

— * —

## АЛЕСЬ КАМАРОЎСКІ

Быў дырэктар выдавецтва,
І літфондам кіраваў.
І зусім не задаецца,
І заўсёды сярод спраў.
Сам нахрапісты, рухавы,
Дзе яму патрэбна – жвавы.
Гаспадарнікам каб быў –
Славу б добрую здабыў.
Новыя шукае тэмы,
Паважаем яго ўсе мы.
Энергічны, не хварэе,
І душою не старэе.
Творчы цягнецца працэс.
Валачы яго, Алесь!

— * —

## ПРА КРЫТЫКАЎ

Я крытыкаў шаную і люблю,
Зачэпак для пародый не раблю.
Пісаць імкнуся акуратна, чыста,
Каб тэмаў не даваць для парадыстаў.
А крытыкам таксама трэба жыць.

І чый радок няўдала набяжыць –
Яны учэпяцца з уяўнай дабрынёю,
Каб аўтар напісаў найлепш верш новы.

– * –

## ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ

Маладым, якіх так многа,
Будзе светлай хай дарога.
Шмат патрэбна зразумець,
Нашых цяжкасцей не мець.
Зараджайцеся вы гартам,
Абыдзіце бюрактараў
У жыцці, літаратуры,
Хай не будзе ў вас халтуры,
Вашы ж чыстыя натуры,
І не падайце вы нізка,
Выйдзе ў кожнага з вас кніжка.
Весяліся, а не злуй,
Над жыццём, сабой жартуй!

– * –

## АЛЕСЬ МАСАРЭНКА

Ён не пускае ў вочы дым,
Дапамагае маладым.
І каб ішлі іх творы ў свет,
Стварыў часопіс "Першацвет".
А вучыць маладых як след –
Празаік сталы і паэт.
І хто пабыў у гэтай школе –
Не кіне творчасці ніколі.

– * –

## МІКОЛА ТРАФІМЧУК

Ён магутны, не суровы,
З чыстым талентам сваім.
Выдае часопіс новы –
Сотні аўтараў у ім.
Маладыя і старыя,

Кожны – сябар, добры госць,
Чытачам усіх адкрые –
У каго натхненне ёсць.
Праца йдзе з выдатным плёнам.
Не чыталі вы? Няўжо!
А часопіс гэты – “Гоман”
Папулярным стаў ужо.
Адкрывай чарговы нумар:
Слаўных рубрык цэлы куст.
Там і лірыка, і гумар,
Шмат чаго на розны густ.
Чую голас я знаёмы.
Шчыры поціск моцных рук –
Хоць на вуліцы, ці дома:
То – Мікола ТРАФІМЧУК!

– * –

## ЯНКА ЛАЙКОЎ

У “ЛІМ” прыйшоў яшчэ студэнтам.
За працу ўзяўся ён з імпэтам.
Аддзел паэзіі вядзе,
І не губляецца нідзе.
Такі ж усмешлівы, прыемны,
Спрачацца нельга з ім, дарэмна.
Сам вершы добрыя складае –
Натура кліча маладая.
Якія ж у яго гады?
Такім хай будзе назаўжды.
Са здольнасцямі са сваімі
Член рэдкалегіі – у “ЛІМе”.

– * –

## БРАНІСЛАЎ СПРЫНЧАН

Ён – чалавек старой закваскі,
Не пазбаўляецца таго.
І часу нашага развязкі
Не вельмі ціснуць на яго.
Ляцяць мінулага пункціры,

Ды што было – таго не стрэць.
Пара мяняць арыенціры,
Душою каб не састарэць.

– * –

## АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ

Журналіст, празаік, крытык,
І жыцця ён аналітык.
Хоць на выгляд быццам грозны –
Вельмі шчыры і сур'ёзны.

– * –

## РАІСА БАРАВІКОВА

Выступае ўсюды Рая,
І пра папулярнасць дбае.
Часта ў друку ўсё мільгае,
І з партрэтамі заўсёды –
Незабыўнай быць народу.
То артыкулы кляпае,
То паэму, верш складае,
І часопісам кіруе,
І з маладняком шчыруе.
Хоць узрост паважны мае,
Ды характар свой трымае.
Думаем, ні ў якім годзе –
Век на пенсію не пойдзе.
Пры магчымасцях, пасадзе.
Хто ж сабе самому здрадзіць?
Розных прэмій лаўрат,
А ці сціпшыцца? Наўрад!

– * –

## ГЕОРГІЙ ЮРЧАНКА

Навуковец быў адметны,
На рабоце шчыраваў.
Сам на выгляд непрыкметны –
Шэльмам спуску не даваў.
Мае талент вельмі рэдкі:

Ён – прыродны парадыст.
Слоўцам трапным, ды не едкім
Судзіць нас, хоць не юрыст.
Дапускае хто агрэхі
Ў творчай справе – не гуляць!
Атрымае на арэхі
Так, што зубы забаляць.
Чысціню літаратуры
Беражы, раз ты – мастак.
Каб не дапускаць халтуры,
Не рабіць у творах брак.
Прывучае да таго,
Хто былі б мы без яго?

– * –

## АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ

Кіраваў ён міністэрствам,
А было, што і двума.
Творчае шукаў майстэрства,
І спакою ўжо няма.
Генеральны консул быў.
І паслом жа парабіў.
Краяведчая работа,
Многа твораў для дзяцей.
Працаваць гатоў да поту –
Кніжкі выціснуць часцей.

– * –

## АЛЕСЬ КАРЛЮКЕВІЧ

Журналістам у газетах
Ён нямала працаваў.
Часу заўважаў прыкметы,
Дзе патрэбна – выяваў.
І пісьменнік, і даследчык,
Вывучаў любімы край.
І пяро ўжо стала вечным,
Для яго пісьменства – рай.
Чалавек душы шырокай,

І глядзіць заўжды глыбока.
Смела па жыцці віруе,
Зараз холдынгам кіруе.

– * –

## КАЛЕГАМ ПА ПЯРУ

Вы, шаноўныя сатырыкі,
Не пішыце панегірыкі.
Каб пародыя – дык вострая,
Эпіграма – больш узнёслая.
Ды і ў ёй гарчынку трэба мець,
Асаблівасць жанру разумець.
Не шкадуйце перцу, солі вы,
Бо радкі ў вас будуць кволымі.
Калі гэта забываеце,
Дыфірамбы заспяваеце.

– * –

## ГЕОРГІЙ МАРЧУК

Драматург усім вядомы –
Ён у творчасці, як дома.
Меў нямала важных спраў,
Выдавецтвам кіраваў,
Многа кніг павыдаваў.
Колькі п’ес, увагі вартых!
Мемуары ёсць і жарты.
Ведаюць яго тэатры.
Піша ён заўжды з азартам,
Хоць спакойна, ды – упарта.

– * –

## ВОЛЬГА ІПАТАВА

Ёсць Іпатава ў нас Вольга.
Напісала вельмі многа.
І дзетдомаўка, як я,
І для ўсіх яна – свая.
Так жыццёва, без падману
Піша вершы і раманы.

Вельмі сталая жанчына,
І гаворыць чын па чыну.
Пазмагалася нямала,
І Саюзам кіравала.
Мудрая яна заўжды,
Не бяруць яе гады.
Сувязь з ёй заўжды трымайце.
Зразумець усім пара:
Для пісьменнікаў – як маці,
Як старэйшая сястра.

_ * _

## ПРА СЯБЕ

(размова з рэдактарам)
Я пішу ўжо год не першы.
Ёсць і проза, ёсць і вершы.
Іх не трэба бракаваць,
А найлепей – друкаваць.
Абы што я не мялю,
Ці – хвалю,
        ці – падкалю.

_ * _

## МАЯ ПРАГРАМА

Я не імкнуўся да чынаў і званняў,
А толькі – аб сабе пакінуць след.
Бо адчуваў магутнае прызванне,
Яшчэ чакаў агульнага прызнання
За творчасць за маю,
        што я – паэт.
І да таго ж – адкрыю многім свет.

_ * _

## У "ВОЖЫКУ"

Нам рэдактара – аса,
Для злачынцау кепская.
А дзяўчыначка-краса
Юлія Зарэцкая.

Наша Юлька –
Як зязюлька.
І руховая,
Як шпулька.

– * –

## ЮРАСЬ НЕРАТОК

Ён – канструктар, інжынер.
Быў такім, такі й цяпер.
Творчы пошук вечна ў ім,
І шукальнік ён ва ўсім.
Талент ёсць – вось шмат прыкмет:
І празаік, і паэт,
Тонкі лірык і фантаст,
Стаў з сатырыкамі ў рад.
Чуем сэрца моцны стук,
Не разняць сяброўскіх рук.
Шмат пачуццяў добрых маем,
Новых кніжак пажадаем.
Станавіся ўсё мудрэй,
І душою не старэй.
Мы з табой заўжды, браток –
Слаўны Юра Нераток!

– * –

## СЯМЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

Сэрцаў быў агульны ўздых,
І ніхто каб не прыліп,
Кніжку выдалі ўдваіх –
І РУБЛЁЎСКАЯ, і ШНІП.

– * –

## ПАМЯЦЬ

Хто болей памятны ў народзе
І праз вякі, і праз гады?
Цары –
        прыходзяць, адыходзяць,
А вось паэты –
        назаўжды.



# ЭСЭ



## ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ

***Акадэміі даведкі – жанр такі даволі рэдкі***

(Замалёўкі і ўспаміны – для жыцця, як вітаміны, абразкі яшчэ, нататкі, і артыкул вельмі хвацкі, нарыс важна тут і роздум, і даследванні пад розум, жарты, гумар, анекдот – будзе смеху поўны рот, выпадковыя запіскі – што было далёка, блізка, і архіваў цэлы сшыткі – мемуарныя адбіткі, і развагі над жыццём – хто я ёсць, і дзе мой дом. Хто пра што нярэдка дбае – журналістыка бывае. І цікавыя сустрэчы – што дарэчы, недарэчы. Падарожжы, раздарожжы хвалявання ў шмат памножаць.

Розных тэмаў цэлы куст, і прытым на кожны густ.

Гэта "зборная салянка" ёсць займальная чытанка, а не проста забаўлянка, – кожны дзень, увечар, зранку.

Што ранняе, што позняе –
Вясёлае, сур'ёзнае,
Шмат жанраў тут пазначаны,
Жыццё не перайначым мы.
Не!
Час бяжыць, мяняецца,
На людзях ён трымаецца.
Усяго тут пакрысе,
Хай чытаюць гэта ўсе.
Рой пачуццяў панясе.
Бо раздзел такі – ЭСЭ).

## ДАЖАРТАВАЎСЯ

Гэта было ў ранейшыя савецкія часы.

Гады недзе ў пяцідзесятыя.

Вясна, заканчваецца пасяўная кампанія.

У адзін калгас прыязджае інструктар райкама партыі, каб праверыць, як яна прайшла. Ён у светлым парусінавым касцюме, светлых чаравіках, белай кашулі, пад гальштукам, пад саламяным капелюшом. У руцэ – партфель.

Ідзе па вёсцы дый думае: што там будуць гаварыць на агульным сходзе ў калгаснай канторы – гэта адно. Мяне ж не правядзеш на мякіне, я верабей стрэляны. Сам разведаю, разнюхаю, што і як, і буду ў курсе спраў. І ніхто мяне за пояс не заткне. Наадварот, я ўсіх заткну за пояс!

На лаўцы каля хаты сядзеў дзед Кузьма, узростам гадоў пад восемдзесят, але быў рослы, дужы, яшчэ й на працу хадзіў у калгас. А такі быў вастраслоў, жартаўнік, хахмач – уся вёска смяялася.

Інструктар падыходзіць і кажа:

– Ну, стары, расказвай, як у вас прайшла пасяўная.

– Добра прайшла, таварыш начальнік, – адказвае той. – Дружна ўсё пасеялі, пасадзілі. Ды толькі вось свірэпку забыліся пасеяць – гэткая безгаспадарчасць!

(Свірэпка – пустазелле, не так кусцістае, як квяцістае).

Інструктар дзедаву інфармацыю наматляў на ўяўляемы вус і ўвечар пайшоў на справаздачны агульны сход упэўнена і энергічна.

Дакладваюць паляводы, брыгадзіры, старшыня калгаса. Рапартуюць аб вытворчых поспехах. Урэшце слова бярэ інструктар райкама партыі.

– Паважаныя працаўнікі вашага калгаса! Вы слаўна папрацавалі, уклаліся ў пастаўленыя тэрміны. Але як жа вы дадумаліся не пасеяць свірэпку?

Уся зала выбухнула дружным рогатам, а ён ніяк не мог даўмецца чаму, і як, і ад чаго. Урэшце дакумекаў пра свой ляп, і хуценька зваліў у раён.

А праз дзень у вёску пад'ехаў "варанок", і дзеда Кузьму заарыштавалі. За зрыў справаздачнага калгаснага сходу і дыскрэдытацыю раённага партыйнага кіраўніцтва.

Здаўна і па сённяшні дзень і сяльчане, і сваякі беспаспяхова расшукваюць дзеда Кузьму. Мусіць, і не знойдуць. Ніколі. Малады састарэў бы.

Сібір вялікая.

Сібір далёкая.

Дый што казаць амаль праз паўвека? А жарты дзедавы жывуць і па сённяшні дзень.

Што ж, жартаваць трэба, але ведаць: калі, і дзе, і як, і з кім.



## СТАРАСЦЬ – КАМУСЬЦІ І РАДАСЦЬ

***(як для каго)***

Калі мы жылі ў магутным і дружным Саюзе, у Палітбюро ЦК КПСС і ўрадзе працавалі ў асноўным людзі старога ці састарэлага ўзросту, аж гадоў пад восемдзесят – такія, як Пельшэ, Куусінен ды іншыя. Нейкі чалавек з правінцыі прабіўся на асабісты прыём да аднаго з іх, каб дапамаглі вырашыць жыллёвую праблему, бо мясцовыя ўлады не хацелі ці не маглі гэта зрабіць.

Заходзіць у кабінет. Высокі кіраўнік сядзіць за сталом, падпёршы рукой галаву. Чалавек прывітаўся і нясмела прысеў. Чакае. Пасля прыгледзеўся – а той ці дрэмле, ці спіць. Мінае пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін – усё моўчкі. Узняўся і пайшоў за дзверы. Не будзіць жа дзеда.

Выйшаў і кажа сакратару:

– Прасілі хвілін дваццаць не турбаваць.

А сакратар пытаецца:

– Ну, як ваша пытанне? Вырашылі?

– Канешне. Сказалі, што ў хуткім часе трохпакаёвая кватэра будзе выдзелена. А вам загадалі ўзяць на кантроль і прасачыць асабіста.

Сакратар запісаў у блакнот.

Неўзабаве чалавек атрымаў кватэру.

Пашанцавала, што высокі кіраўнік спаў.

А калі б не спаў, яшчэ невядома, які быў бы вынік.

## НА КАГО ПАДУМАЛІ

Ішоў мужчына па вуліцы і ўсё выступаў сам перад сабой:

– А я ведаю, хто ва ўладзе дурны! А я ведаю, хто ва ўладзе дурны!

Тут падышлі два маладыя здаровыя кораткастрыжаныя хлопцы ў плашчах мышынага колеру, узялі яго пад ручкі і павялі ў нейкі недалёкі падвал. А там пытаюцца:

– Ну, дык расказвай, хто ва ўладзе дурны?

Мужчына спахапіўся і адказвае:

– Прэзідэнт Ніксан! Прэзідэнт Ніксан!

Тыя вымушаны былі выпусціць яго. Палітыку прышыць не было за што.

Мужчына вылез, праходзіць міма маленькага акенца таго падвала, якое ледзь свеціцца, дый кажа, памахваючы пальцам:

– А я ведаю, на каго вы падумалі! А я ведаю, на каго вы падумалі!

А калі трэба было забіраць, дык забіраць не мужчыну, а тых дваіх спецагентаў. За тое, што яны самі падумалі... і на каго.

## НЕ ТОЙ ЛАГЕР

А ці быў такі кур'ёз –
Ці то жартам, ці ўсур'ёз?

Камітэт па правах чалавека Арганізацый Аб'яднаных Нацый пастанавіў правесці праверку ўтрымання зняволеных у турмах, калоніях і лагерах Савецкага Саюза. Прыслалі камісію, аўтарытэтную. Улады вызначылі зону для праверкі. І загаддзя паведамілі адміністрацыі. А тая вырашыла перастроіць лагер для зэкаў у піянерскі лагер. Зняволеных памылі, пастрыглі, пагалілі, выдалі ім шорцікі, белыя тэнісачкі і чырвоныя гальштучкі. Па прыезду камісіі іх пастроілі на піянерскую лінейку, а першаму па строю далі ў рукі горн.

Камісія праходзіць строй, аглядае ўсіх, распытвае, як жывецца, як можацца.

Адзін член камісіі падыходзіць шчыльна да рослага зэка-"піянера", і пытаецца.

– Скажыце, калі ласка, а колькі вам гадоў?

– Пятнаццаць, – адказвае той.

– Ніколі б не падумаў, – здзіўлена кажа член камісіі. – Я б вам даў гадоў трыццаць.

– Ідзі ты к чорту! – вякнуў замаскаваны зэк. – У нас болей за дваццаць пяць гадоў нікому не даюць.

# ПА ЧАСЕ І ПАКУПКІ

Быў час актыўных касмічных палётаў, у тым ліку і сумесных савецка-амерыканскіх. Расла цікавасць да іншых краін. Многія людзі ездзілі за мяжу – каб і свет паглядзець, і сябе паказаць, і між іншым накупляць патрэбных і якасных тавараў і рэчаў.

Калгасніца Маня сабралася ў паездку ў Амерыку. Раззваніла пра гэта на ўсю вёску. Бабы пабеглі да яе цугам з просьбамі-даручэннямі.

– Мне купі калготкі.

– А мне – тонкую прыгожую бялізну.

– А мне – летнюю сукенку.

І гэтак далей. Назбірала кучу заказаў.

Адбыла Маня ў паездцы, пасняхова вярнулася з мяшкамі пакупак. Раздала суседкам. Усе былі ў захапленні.

– А што ж ты сабе, Маня, купіла?

– Як што? Мяшэчак мыла.

Бабы дружна зарагаталі:

– А ці не здурнела ты, Маня? Што, табе нашага, айчыннага не хапае?

– Што вы разумееце, цемра вясковая? То ж мыла маркі "Апалон-Саюз". Калі ім памыешся – цэлы месяц на стыкоўку цягне!

## ЯК ШКОДНА БЫВАЕ НЕ ПІЦЬ

Піць або не піць – спрадвечнае пытанне. Прыгадваюцца радкі даўнейшага класіка: “Піць можна ўсім, ды ведаць толькі: калі – і з кім, і дзе, і колькі”.

Хрушчоў паехаў у нейкі раённы цэнтр на куставую нараду па павышэнню сельскагаспадарчай вытворчасці. Усё абмеркавалі, прынялі неабходныя рашэнні, а ўвечары, па традыцыі – банкет.

Гучаць прамовы, тосты, гарэлкі – шмат, мора закусі. Адзін старшыня райвыканкама зусім не п’е, а пацягвае толькі мінералку. Хрушчоў з уласцівай яму заўсёды сельскай праматой пытаецца:

– А ты чаму не п’еш?

– Ды ведаеце, Мікіта Сяргеевіч, усё нутро ўжо слабае, дык устрымліваюся, берагу здароўе.

– Дык што гэта за старшыня райвыканкама, які не п’е? – абурыўся Хрушчоў. – Значыцца, і нам нельга?

А ягоны памочнік усё запісвае.

Праз пару дзён старшыню райвыканкама перавялі старшынёй калгаса...

Хрушчоў паехаў у Белавежскую пушчу на сустрэчу з кіраўнікамі, а заадно і адпачыць. Пасля важных спраў адзначылі, затым яму наладзілі “каралеўскае паляванне”. Леснікі злавілі лася, прывязалі яго вяроўкамі да дрэва. Хрушчову далі драбавік, паставілі метраў за пяцьдзесят да лася, кажуць:

– Страляйце.

Той трах-бабах, і – міма.

Паставілі яго метраў з дваццаць пяць.

Вынік – такі ж.

Тады падвялі яго ўшчыльную, уткнулі двухстволку ў ласіны бок і націснулі на курок. Грымнуў стрэл, лася разнесла на кавалкі. Але ўсе палічылі паляўнічым трафеем Мікіты Сяргеевіча.

А ўвечары – вялікі бэнц (банкет) у паляўнічым доміку.

Хрушчоў пытаецца:

– А што гэта мы п’ём? Нешта каляровае, моцнае і прыемнае?

Гаспадар лесічоўкі адказвае проста і даходліва:

– Гарэлка лічыцца шкоднай, асабліва калі часта і памногу ўжываць. А ў нас яна самаробная на жыце і пшаніцы, настойваецца на нашых палявых і лясных травах. Ад яе – не шкода, а лекавы настой. Здароўе ўмацоўваецца.

Мікіта Сяргеевіч тут жа дае ўказанне:

– Арганізаваць масавы выпуск напою пад назвай "Белавежская горкая", моцную на 43 градусы.

І зараз калі хто з нашых едзе ў службовую ці творчую камандзіроўку, то абавязкова бярэ з сабой пару штофаў "Белавежскай горкай".

І дружба, і поспех – забяспечаны.

## ДЗЯРЖАЎНАЯ КЕМЛІВАСЦЬ (КЛОПАТ)

Кірыла Трафімавіч Мазураў быў бацькам нацыі. Выдатны наш дзеяч быў настолькі папулярным, што яго нарэшце паклікалі ў Маскву. Ён стаў намеснікам Старшыні Савета Міністраў, быў і ў Палітбюро ЦК КПСС. Але настолькі адстойваў інтарэсы нашай рэспублікі, што не баяўся спрачацца і з Хрушчовым, і з Брэжневым. Затое яго і адправілі на пенсію ў 60 гадоў як бы па стану здароўя. Хоць пасля гэтага ён на працягу дваццаці гадоў быў кіраўніком магутнай і папулярнай арганізацыі – Усесаюзнага Савета ветэранаў вайны і працы.

Калі ён яшчэ працаваў у Мінску, расказвалі пра такі цікавы выпадак. Савецкі Саюз заўсёды сябраваў з камуністычнай Кубай. Дапамагаў і палітычна, і эканамічна. І вось аднойчы з Масквы прыходзіць тэлефанаграма такога зместу: "Тэрмінова адгрузіць дваццаць пяць тысяч галоў свіней для адпраўкі на братнюю Кубу". Кірыла Трафімавіч дае ўказанне:

– Забіць дваццаць пяць тысяч свіней, тушы пакіньце ў нас, а галовы адгрузіце.

Параход прыходзіць на востраў Свабоды. Кубінцы разгружаюць, і – у жаху. Ну, з тушамі яшчэ разабраліся б, а што рабіць з галовамі – не разумеюць. Гэта ў нас гатуюць застудзіны (халоднае, квашаніна), а там жа тэмпературы – градусаў да сарака гарачыні, дый магутных халадзільнікаў у той час амаль не было. Справілі вэрхал.

У кабінеце Мазурава зазвінеў тэлефон. Ён здымае трубку і чуе грозны вокліч з Масквы:

– Што вы нарабілі? Навошта паслалі кубінцам адны свіныя галовы? А тушы – самі паясцё? Назрае дыпламатычны скандал!

Кірыла Трафімавіч спакойна адказвае:

– Вось перада мной ляжыць ваша тэлефанаграма: адгрузіць дваццаць пяць тысяч галоў свіней. Мы так і зрабілі.

Канфлікт быў вычарпаны.

Пятро Міронавіч Машэраў быў героем вайны і працы. Нямала часу кіраваў рэспублікай. Але не глядзеў пакорліва ў рот Усесаюзнаму цэнтру, але рупліва дбаў пра нашу краіну. Магчыма таму і сярод людзей, і ў прэсе віруюць думкі, што загінуў не ад няшчаснага выпадку, а гэта было некім падстро-

ена. Што ж, у дадзеным выпадку няхай разбіраюцца палітыкі і гісторыкі. А праваахоўныя органы даўно ўжо і забыліся.

Многія памятаюць такі эпізод.

Неяк у Мінску здарыўся дэфіцыт цыбулі. А без яе ж ні суп зварыць, ні падсмажыць нешта, ні засаліць штосьці. А тут з поўдня на Расію транзітам ішлі два вагоны з цыбуляй. Пятро Міронавіч выклікае работнікаў санэпідстанцыі і распараджаецца:

– Вельмі ўважліва агледзьце гэтыя вагоны. Знайдзіце мошак, казявак, жучкоў, павучкоў, чарвячкоў, мікробаў. Груз арыштуйце, складзіце акт у двух экземплярах. Адзін адпраўце пастаўшчыку, другі – пакупніку. Ніхто ад гэтага вельмі не пацерпіць. Пастаўшчыкі адгрузяць нанова, у іх гэтага прадукта многа, як пяску. А пакупнікі атрымаюць. А мы ж не асабіста пра сябе дбаем.

Санітарныя работнікі пастараліся. Агледзелі, праверылі, знайшлі мошачак, казявак, жучкоў, павучкоў, чарвячкоў, мікробаў, склалі акты, разаслалі, груз арыштавалі, а потым тую цыбулю развезлі па магазінах. Такім чынам дэфіцыт на некалькі дзён ліквідавалі.

Вось пра гэтыя выпадкі мне распавядалі людзі. Я пры гэтам не быў, але і не выдумаў. Такое не прыдумаеш. А я, як кажуць, за што купіў – за тое і прадаю...

## НАВУКУ НЕ ПАДМАНІШ

Пры Савецкім Саюзе нас выхоўвалі ў духу патрыятызму, і расхвальвалі ўсё айчыннае як найлепшае. У навуцы, тэхніцы, прыродзе.

Аднойчы быў аб'яўлены міжнародны конкурс на лепшую навуковую працу пра сланоў. Не засталіся ўбаку і савецкія вучоныя.

Наш вучоны прапанаваў магутную распрацоўку ў трох тамах. Першы том называўся "Класікі марксізму-ленінізму пра сланоў". Другі том – "СССР – радзіма сланоў". І трэці том – "Лепшыя ў свеце сланы – савецкія".

А дзе ў савецкі час хто бачыў хоць аднаго айчыннага слана? Былі, канешне, але толькі ў заапарках і цырках, ды – прывазныя, так сказаць, імпартныя. А папярэднікі сланоў – маманты даўным-даўно вымерлі.

Так і не прайшла распрацоўка рускага даследчыка. Бо ўзбушаваліся краіны Азіі і Афрыкі. А там гэтых сланоў было, ёсць і будзе столькі – хоць гаць гаці.

## МЫ БЫЛІ СЯБРЫ-СУСЕДЗІ

Калісьці мы з жонкай адпачывалі ў Літве, у пасёлку Лампеджай. Ніякіх дзівосаў, прырода падобная да нашай, і клімат таксама, таму доўга прывыкаць не спатрэбілася.

Аднойчы мы выбраліся ў вёску, каб што-небудзь купіць у краме. Дома ж у нас тады на многае быў дэфіцыт, і людзі ездзілі па тавары ў суседнія рэспублікі.

Па дарозе сустракаем групу нашых адпачываючых, пажылых жанчын, якія ўжо вяртаюцца. Яны – расіянкі. І кажуць нам з абурэннем:

– Вот какие гадкие эти литовцы! Знаем ведь, что у них есть отличные колготки, так нам ни одной пары не продали. Не бейте понапрасну свои ноги, можете возвращаться.

– А мы ўсё ж пойдзем, – кажу жонцы. – Можа, у нас атрымаецца.

Заходзім у краму. Я сходу кажу прадаўшчыцы:

– Лабас! (па-іхняму – “прывітанне”).

А пасля ганю па нашаму:

– Як справы, як жыццё, здароўе, як гандаль?

Яна цікавіцца, адкуль мы.

– З Беларусі, з Мінску! – бадзёра выкрыкваю я. – Хочам купіць у вас калготак.

Яна без лішніх слоў вымае з-пад прылаўка дзве пары і падае нам. Купілі, разлічыліся, падзякавалі, пайшлі.

Наганяем нашых кабет, паказваем пакупку. Яны ў здзіўленні.

– Как это вам удалось?

– А мы з Літвой – суседзі, – тлумачу ім. – А раней вякамі былі ў адной магутнай дзяржаве. І цяпер сябры. Так што калі наступны раз вам давядзецца быць у Літве, пастарайцеся размаўляць ці па-літоўску, ці па-беларуску.

Кабеты аж раты паразявалі і задумаліся.

## ЯК ВУЧЫЦЦА ПАСТУПАЎ Я

1963 год. Пасля вайсковай службы я працаваў інжынерам на Мінскім падшыпнікавым заводзе (яшчэ за год да арміі паспеў скончыць тэхнікум). Мяне зноў уладна пацягнула да вучобы. Па даведніку адшукаў Маскоўскі паліграфічны інстытут. Спадабаўся факультэт кнігазнаўства. Падаў дакументы на завочнае аддзяленне. Здаваць тры экзамены – рускую літаратуру пісьмовы і вусны і гісторыю. Гэта былі мае любімыя прадметы, і я нядоўга рыхтаваўся. Здаваць экзамены дазволілі на месцы, пры Белдзяржуніверсітэце, не трэба было ехаць у Маскву.

Здаў экзамены на дзве пяцёркі і чацвёрку. Быў упэўнены, што паступлю пры любым конкурсе. Выслаў заліковы ліст у інстытут, і чакаў прыемнага паведамлення аб залічэнні ў студэнты.

Праз працяглы час прыходзіць паведамленне аб тым, што згодна з нейкай пастановай уведзены яшчэ экзамен па замежнай мове. Дык а дзе ж вы раней былі, чаму своечасова не паведамілі? Дый уступныя экзамены ўсюды скончыліся. Дзе здаваць, каму здаваць? Да таго ж я не меў на ўвазе гэты экзамен, і не рыхтаваўся да яго. Зразумеў, што гэта – звычайнае махлярства. Што ж мне рабіць цяпер?

Пайшоў да рэктара Белдзяржуніверсітэта акадэміка Сеўчанкі, расказаў сваю гісторыю. І папрасіў:

– Давайце я перапішу сваю заяву на ваш універсітэт, і залічыце мяне на вячэрняе аддзяленне гістарычнага факультэта. І ўсё будзе законна. Экзамены тыя ж, да таго ж я здаваў іх у вас, вашым жа выкладчыкам.

Адказ рэктара быў высакамерны:

– Мы ведаем, якія патрабаванні да абітурыенатаў у Маскоўскі паліграфічны інстытут (адкуль ён іх мог ведаць?) і якія да паступаючых у наш БДУ (а якая розніца – мы ж здаём па адной праграме).

Вось так. Маскоўскія надурылі мяне, а свой – адкінуў. Відаць, стары дзед не змог ці не захацеў зразумець палымянае жаданне маладога чалавека павысіць сваю адукацыю.

А ў Маскоўскі інстытут я паслаў рэзкае пісьмо. “Відаць, вы напрымалі ў студэнты многіх па блату, і за хабар. А як жа

быць астатнім? Выдатніку не паступіць!" Адказу, вядома, не атрымаў. На гэтым наша перапіска скончылася.

На наступны год я зноў пайшоў паступаць – на гэты раз на вячэрняе аддзяленне гістфака БДУ. Здаў першы экзамен – рускі пісьмовы, і вырашыў праверыць адзнаку. У прыёмнай камісіі мне падалі заліковы лісток. Пакуль я разгледзеў – дзяўчаты, што стаялі за мной, аж войкнулі за мяне. Прыгледзеўся – там стаіць "дрэнна". І стаяць подпісы двух выкладчыкаў.

Мяне ахапіла млявасць. Потым раздумаў: я магу напісаць толькі на пяцёрку, у крайнім выпадку – на чацвёрку. Ведаю ж сябе і свае здольнасці.

Паказваю заліковы лісток старшыні прыёмнай камісіі і выказваю сваё здзіўленне. Ён паглядзеў на подпісы і кажа:

– Гэтыя выкладчыкі прымаюць тут экзамены ўжо дванаццаць гадоў, і ніколі не памыляліся.

– Я хачу праверыць сваё сачыненне, – прашу старшыню.

– Прыходзьце пасля здачы ўсіх экзаменаў, тады і праверыце.

– Не, – патрабую я. – Калі ў мяне сапраўды двойка, то навошта мне мучыцца на астатніх экзаменах? Паказвайце сачыненне!

Ён нехаця прынёс. Гартаю, бачу – ніводнай памылачкі. Толькі два словы ў адным сказе чамусьці падкрэслены. Можа, стыль не спадабаўся – дык я ж не філолаг і не стыліст, а ўсяго толькі абітурыент. І стаіць адзнака – ну, не пяцёрка, хоць і яе можна было паставіць, а чацвёрка. І то добра пасля яўнай двойкі. А што, калі б не праверыў?

Паказаў старшыні прыёмнай камісіі. Ён ад нечаканасці аслупянеў. А я прыгразіў:

– Зараз забіраю экзаменацыйны ліст, сачыненне і пайду ў ЦК камсамола і ў рэдакцыю рэспубліканскай газеты. А вы казалі, што гэтыя выкладчыкі ніколі не памыляліся. Нічога, разбяруцца! Гэта – не выпадковасць.

Як забегалі вакол мяне члены прыёмнай камісіі!

– Прабачце, так атрымалася. Выдадзім вам новы экзаменацыйны ліст, і здавайце астатнія экзамены.

Я не стаў разводзіць бадзягу і супакоіўся. Паставілі мне адзнакі трохі ніжэйшыя, чым ў мінулым годзе, чацвёркі, але прынялі.

Калі праходзіў апошні раз міма членаў камісіі, пачуў іхняю нягучную размову:

– Ён задаволены! Ён задаволены.

А чаму мне не быць задаволеным? Я ж паступіў па заслугах.

У выніку ўсяго гэтага ў мяне атрымалася яшчэ лепш ад задуманага. Я скончыў больш прэстыжную навучальную ўстанову, і аддзяленне вячэрняе, а не непапулярнае завочнае, і факультэт гістарычны, а не кнігазнаўчы. А калі б вучыўся ў тым Маскоўскім інстытуце, то ўсё жыццё быў бы бібліятэчным работнікам, ці недзе стыльрэдактарам. Розніца значная.

Шкада толькі страчанага года і сваіх нерваў.

# ГУМАРЭСКА З ЖЫЦЦЯ

## *Нататкі камандзіраванага*
## *(Горкаўскія замалёўкі)*

У маладзейшыя гады, калі я працаваў інжынерам трактарнага завода, мяне часта пасылалі ў працяглыя службовыя камандзіроўкі ў дальнія гарады – у Валгаград, Горкі ды іншыя. Было многа назіранняў, роздуму. Асабліва запамяталіся некаторыя сцэнкі і сустрэчы з Горкаўскага жыцця.

Прыязджаю ў камандзіроўку, шыбую ў бліжнюю гасцініцу. А там, як заўсёды, бірка: “Вольных месцаў няма”. Як і ў іншых гасцініцах у абласных гарадах. За стойкай сядзіць мажная дама. У яе маленькая зарплата, аднак вушы і пальцы ўсе ў золаце. З якіх даходаў? Справа ў тым, што гэтую гасцініцу як бы акупавалі каўказцы. Падыходзіць грузін ці армянін, падае пашпарт, а ў ім – дваццацьпятка. І месца адразу знаходзіцца. Я ж не мог сабе дазволіць такой раскошы. Таму мне даводзілася сяліцца ў інтэрнаце завода, на які я прыехаў. А там свае парадкі дзіўныя. Скажам, у пакоі чатыры чалавекі – трое хлопцаў і маладая сямейная пара з дзіцём. Сямейныя не загароджваюцца нават занавескай ці прасцінай. Жывуць у адкрытую. Жывуць на выжыванне: калі хлопец высяляецца – на яго месца нікога не селяць. Высяляюцца другі, трэці – і пакой застаецца маладажонам.

У адзін са сваіх прыездаў я папёр прама да дырэктара.

– Я за гады ніколі не мог у вас пасяліцца, мушу жыць ў інтэрнатах. А вашу гасцініцу нездарма называюць армянскай. Я ж прыязджаю не кветкамі ці садавінай гандляваць, а з буйнейшага ў Беларусі завода па дзяржаўных справах. Прашу паспачуваць, надакучыла валяцца ў інтэрнаце.

Дырэктар звоніць па тэлефоне дзяжурнай адміністратарцы і кажа:

– Зараз да вас падыдзе хлопчык у чырвоным гальштуку (гэта я – хлопчык у вельмі сталых гадах), дык вы дайце яму месца.

Мяне пасялілі, і я пажыў у прыстойных умовах. Праўда, толькі раз. Больш не ўдавалася.

Заходжу на пошту, каб атрымаць камандзіровачныя грошы. А там поўна бабулек і дзядулек. І апаноўваюць мяне:

– Запоўніце цэтлік на атрыманне ці перасылку пераводу.

Запоўніў адной, другому, трэцяй, чацвёртаму. Потым мне надакучыла, і я пачаў пасылаць іх некуды далёка. І пытаюся:

– Калі вы непісьменныя ці малапісьменныя, то чаму ж не ідзеце на пошту з дзецьмі ці ўнукамі, праўнукамі, каб яны вам запаўнялі?

– А ў нас няма дзяцей, унукаў, праўнукаў.

– Аб чым жа вы думалі ў маладосці? Трэба было не спаць начамі, а працаваць дзеля працягу роду.

Адказ – моўчкі.

Раніцай яшчэ да адкрыцця магазіна ўжо поўна п'яных. Дзе яны што бяруць? – думаю. Некаторыя валяюцца на вуліцы. Машыны іх акуратна аб'язджаюць, міліцыя не чапае.

Сустракаюцца два дзяды. Адзін з гонарам пахвальваецца:

– А я сёння выпіў шклянку "чарнільца" і закусіў кілечкай.

Другі падтрымлівае:

– Малайчына. І ў мяне было тое ж.

Абняліся радасна.

Гэта ў іх – вышэйшы шык.

Што ж, якія даходы – такія расходы. Абы душу старэчую адвесці. Хоць даўно пара перайсці на кефір. Здароўечка мацаваць.

Калі ў вольны вечар ці ў выхадны дзень мужчына хоча развеяцца, супакоіць душу і задаволіць цела (асабліва прыезджы, камандзіраваны, турыст) – варта пашпацыраваць каля гасцініцы або прагуляцца па парку. І калі ёсць вялікае жаданне, і хоць невялікія грошы – хоць бы на недарагое віно ці гарэлку – любоўная праблема можа вырашыцца лёгка і проста. Слова за слова, каханне гатова.

У нядзелю падаўся на базар. На плошчы стаяла бочка з грузінскім сухім віном. Па пяцьдзесят капеек за шклянку. Узяў адну шклянку, потым другую. Падвесяліўся, і пайшоў агледзець базар. Стаяць круглыя кіёскі, крамкі. Зацікавіўся адной – з шыльдай "Уцэненыя тавары". Заходжу, аглядаю. На адной паліцы стаяць мужчынскія чаравікі... за 40 капеек. Чаму так танна? Справа ў тым, што адзін чаравік быў 38-га памеру, а другі – 42-га. Іх бы спісаць і выкінуць, але хочуць прадаць.

Заходзіць бабуля, бярэ гэтыя чаравікі і намярае. Сорак другі памер звальваецца з нагі, а трыццаць восьмы ніяк не ўзлазіць. А бабуля ўпарта тужыцца, пнецца, каб нацягнуць на нагу. Адно смяхоцце! Ці гэта прагнасць, ці беднасць? Хутчэй – апошняе.

Між тым мільгнула сумна-вясёлая, але практычная думка: а вось калі б сышліся двое інвалідаў: адзін з левай нагой 38-га памеру, другі – з правай, 42-га. Абое былі б рады, і расходы папалам. А дзе ж адшукаць гэтых інвалідаў, і як іх звесці разам?

Паўсміхаўся, паглядзеў, падумаў і выйшаў. Зноў падышоў да бочкі з сухім грузінскім вінам, узяў дзве шклянкі, узбадзёрыўся і пашыбаваў далей.

Вось так. Што скажаш?

У кожнай мясцовасці свае схільнасці, звычкі і парадкі.

Што там – дарэчы, што – недарэчы...

# БУДАЎНІЧЫЯ СВАВОЛЬСТВЫ

У нашым пад'ездзе жыла старажытная бабуля – равесніца мінулага веку. Маленькая, хударлявая, уся высахлая ад доўгага жыцця. Але культурная, ветлівая, гаваркая. Часта сядзела на лаўцы, гаманіла з маладзейшымі, распавядала пра свае мінулыя жыццёвыя сітуацыі. З ёй заўжды было цікава. Але законы біялогіі няўмольныя. Нядаўна яе не стала. Кватэра плошчай каля сямнаццаці метраў, але з вялікай лоджыяй, дасталася яе ўнучцы, нейкай Цэйтлінай. А тая сама ўжо ў немалых гадах.

Унучка, кемлівая і практычная, і вырашыла павялічыць кватэру за кошт лоджыі. Наняла майстроў-будаўнікоў, і работа закіпела. Ад ранку і да позняга вечара ўсё шумела і грымела. Дзяўблі, свідравалі, малацілі. Дом панельны, ад іх трэцяга паверху і па дзявяты не было спакою. З двара машынамі вывозілі будаўнічы хлам. Пад імі, на другім паверсе, жывуць пенсіянеры – ветэраны вайны і працы, шматразова ўзнагароджаныя заслужаныя людзі. Дык ім першым не было спакою, а пасля і нармальнага сну. Усе хваробы абвастрыліся. Нервовыя ўзрушэнні былі і ў многіх іншых жыльцоў. А перабудова ўсё цягнулася і цягнулася, і здавалася, што ёй канца і краю не будзе.

Трэба было змагацца з гэтым самавольствам. Першымі і самымі актыўнымі змагарамі сталіся ветэраны – састрэлыя муж і жонка з ніжэйшай кватэры. Пачалі пісаць абгрунтаваныя скаргі ва ўсе інстанцыі па ўзыходзячай лініі: ЖЭС, ЖРЭО, райвыканкам, гарвыканкам, Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры, у Адміністрацыю Прэзідэнта нават. Але, як часта бывае, замест прыняцця рашучых мер скаргі спускаліся ўсё ніжэй і ніжэй. А адтуль ішлі адпіскі. У нашых ветэранаў сабралася цэлая папка перапіскі.

Канфлікт разрастаўся. А сваякі Цэйтлінай хадзілі з цяжкімі сумкамі па кватэрах, нешта прапаноўвалі і прасілі жыльцоў ціхамірна ўладзіць справу. Але ніхто на гэта не пайшоў.

Цэйтлі на наняла ахоўнікаў-амбалаў, і тыя нікога не пускалі. Нават работнікі міліцыі і пажарнай аховы не маглі прабіцца. Калі ў нейкі час нехта званіў у кватэру, і прасіў ці патрабаваў адчыніць дзверы – рабочыя адказвалі:

– Не можам. Мы замкнёныя, а ключоў у нас няма.

Здзіўляе пазіцыя жэсаўцаў. Замест таго, каб прыціснуць самавольніцу-свавольніцу, яны прыходзілі і самі ўгаворвалі жыльцоў:

– Ну, пацярпіце яшчэ трошкі – паўмесяца... месяц... два месяцы.

Дом панельны, ад многамесячнай перабудовачнай дзеўбатні ў некаторых месцах швы паміж плітамі пачалі разыходзіцца. Гэта ж аварыйна!

Жыльцы пыталіся ў жэсаўцаў:

– А хто ёй дазволіў гэтую перабудову? Гэта ж непроста. А яны парушаюць не толькі ўнутраныя сцены, але і капітальныя пры выхадзе ў лоджыю.

– Дык, можа, у іх ёсць нейкі дазвол ад некага.

– Што значыць – нейкі і ад некага? Дык праверце грунтоўна, – кажуць людзі. – Вы ж адказныя за дамы, за жылы фонд.

І яшчэ метамарфоза. Калі ніжэйстаячая інстанцыя – ЖЭС прымае пад націскам жыльцоў рашэнне прымусіць прывесці кватэру ў ранейшы выгляд, то вышэйстаячая – ЖРЭО дазваляе пакінуць у цяперашным стане. Чаму? Людзі падглядалі адусюль і разведалі, што ўваход у лоджыю з кухні, і пакоя просты і прамы, там як бы яшчэ адзін пакой. Радыятары вынесены ў лоджыю, і халадзільнік там, і шафы, і посуд, і канапа. А калі лоджыя абваліцца пад такім цяжарам? А калі б гэта было на дзевятым паверсе? Усе лоджыі маглі б грымнуцца ўніз.

Людзі шэпчуцца, а то і ўслых разважаюць:

– Відаць, яна ва ўсе неабходныя арганізацыі ўсунула па пачачку даляраў, таму і такая непрабіваемая.

Вось так усім пад'ездам не маглі справіцца з адной дзялягай. Не дапамагла і крытычная публікацыя ў рэспубліканскай газеце.

Цяпер ужо не грымяць. Відаць, перабудова паспяхова скончана. Але чуў, што і ў другім пад'ездзе такую ж задумалі. І ў суседнім доме. Прама як ланцуговая рэакцыя.

Сустракаю ў пад'ездзе тую сямейную пару ветэранаў, з другога паверха, пытаюся:

– Ну, як у кватэры над вамі – усё спакойна?

– Ды яна ўжо больш за месяц там не жыве. Відаць, залегла на дно. Чакае, пакуль усё ўляжыцца. Аднак нядаўна чуем тэлефонны званок.

– Мне трэба з вамі сустрэцца, – чуем мужчынскі голас.

– А хто вы такі?

– Пляменнік Цэйтлінай.

– А для чаго сустрэча?

– Пагаварыць.

– Аб чым?

– Хочам, каб вы напісалі і падалі у ЖЭС заяву, што не маеце нічога супраць нашай перабудовы.

– І не падумаем нічога такога пісаць. Пашукайце дурняў у другім месцы. Мы з-за вас месяцамі мучыліся, – рашуча адказалі ветэраны.

Калі б на месцы той Цэйтлінай быў нехта значна больш варты, то даўно загрымеў бы. Выселілі б з кватэры. А з гэтай – як з гусі вада.

Людзі кажуць:

– Калі яна такая багаценькая, што ва ўсе інстанцыі занесла пачачкі даляраў, як мы думаем, то ці не лепш і лягчэй, і зручней ёй было б прадаць сваю гэтую аднапакаёўку, дадаць тых даляраў і купіць двухпакаёвую кватэру?

І самой было б спакайней, і людзям.

## СУМНАЯ ПРАВЕРКА

Разгаварыўся сябар мой пра свае дачныя справы.

– Сяджу я аднойчы на верандзе, збіраюся паабедаць. Стол застаўлены, садавіна і гароднiна з участка на стале – распачатая пляшка гарэлкі і адна поўная. Гастранамічная закусь з магазіна. Можна адпачываць і нават баляваць.

І раптам зусім нечакана з'яўляецца ўчастковы міліцыянер і кажа:

– Я прыйшоў, каб праверыць вашы дакументы на пабудову дачы. Квіткі, накладныя ды іншыя паперы.

– У мяне ўсе дакументы ў парадку – ад першай дошкі да апошняга цвіка.

– І ўсё ж мне неабходна праверыць.

– А можа, спачатку пасядзім, пагамонім за сталом?

– Не, не, я – пры выкананні... Службовых абавязкаў.

– Што ж, тады зайдзіце ў пакой, я падам вам неабходныя паперы.

Недзе праз гадзіну ўчастковы выйшаў і кажа:

– Усё праверыў. У вас усё ў парадку.

– А я вам адразу сказаў. Сябрую з законам. Сумленне чыстае. Я – чалавек сур'ёзны.

На выхадзе ён з жалем паглядзеў на стол – а там мора выпіўку і акіян закусі. Аж прыцмокнуў. І павольна пасунуўся на выхад. А я наўздагон сказаў яму:

– Ну, што ж, я прапаноўваў.

Такім чынам і парушэнняў не знайшоў, і выдатнага бясплатнага абеда пазбавіўся. Цяпер няхай абедае сам.

Быў жа пры выкананні. Служба важней.

## КЛУБ “ДЛЯ ТЫХ, КАМУ ЗА 30”

Такіх клубаў у сталіцы было некалькі – у розных раёнах горада. Збіраліся адзінокія людзі ад трыццаці гадоў і больш – без абмежавання. Галоўнае – усе адчувалі сябе на роўных, нягледзячы на розніцу ва ўзросце. Прыходзілі культурна адпачыць. Патанцаваць, пазнаёміцца, развеяць душу, пасядзець у бары, пашукаць сабе пары, потым пайсці ўдваіх, зайсці да яго ці да яе ў госці, замацаваць знаёмства. У выніку бывалі і шлюбы, і вяселлі. Але былі і казусныя здарэнні. Вось некаторыя з іх.

Мая знаёмая Люба працавала бухгалтарам, наведвала клуб. Аднойчы расказала мне сваю гісторыю.

– На адным з вечароў да мяне прыклеіўся малады сімпатычны мужчына. Не спускаў мяне з рук, амаль увесь час танцаваў толькі са мной. На выхадзе запрасіў да сябе. Кажа: летні вечар доўгі, працягнем сустрэчу. Дома пасадзіў мяне ў зале каля тэлевізара, а сам пайшоў на кухню гатаваць вячэру.

Праз нейкі час бачу дзіва дзіўнае. Ён падкатвае з кухні ў залу на роліках, на паднятай руцэ паднос, на ім – кава і каньяк, чарачкі. І – ён зусім без ніякага адзення. Я здзівілася і абурылася, крычу:

– Што вы робіце, як вам не сорамна! Зараз жа апраніцеся.

– Нічога, – весела адказвае ён. – Зараз паменшым святло, уключым лёгкую музычку, створым інтым, адчуем асалоду ад таго, што мы ўдваіх.

– А што ты рабіла?

– Нічога не рабіла. Я ўцякла. Збегла.

Пры наступнай сустрэчы ўдакладняю:

– Люба, скажы шчыра: а ці праўда, што ты тады збегла ад таго мужчыны?

– Што вы, як я магла адмовіць такому гжэчнаму кавалеру?

Ну, што ж, гуляй, Люба. Гуляй.

Адзін прыяцель упадабаў рослую, ёмкую, пекную жанчыну з высокай прычоскай. Правёў, яна запрасіла да сябе. Частавала і добрым віном, і каньяком. Муж, сказала, у плаванні, і даўно. Размаўлялі і доўга, і прыемна. У яго былі найлепшыя спадзяванні – што яна абаўе яго гарачым каханнем. Усе ж умовы ёсць. А як прайшоў час спаць, яна паклала яго на асобны ложак. Як ён ні намагаўся, як ні выпінаўся – усё было

дарэмна. Непрыступная, як скала. Усю ноч варочаўся, бачыў дрэнныя сны. Уранку ў роспачы пайшоў. Вось табе і віно, і каньяк, і муж у плаванні. Больш ён да яе не падыходзіў.

У другога была свая гісторыя. Правёў жанчынку ўдалеч, зайшоў. Арганізавалі столік. Гаманілі пра рознае. А потым ён пачаў задаваць нудныя пытанні:

– А ці была ты замужам? А дзе твой муж? А колькі ў цябе дзяцей?

Настолькі сапсаваў ёй настрой, што яна сярод ночы выставіла яго за парог, і ён быў змушаны валачыся дадому ад вуліцы Маскоўскай аж на свой Грушаўскі пасёлак. Яна ж думала, што ён яе акружыць цеплынёй і ласкай, а ён закідаў дурнымі пытаннямі.

Вось так. Думай, дзе і з кім ты знаходзішся, і як сябе паводзіць, і пра што гаварыць. Асабліва калі ты з жанчынай і першы раз. Пастарайся зрабіць самае прыемнае ўражанне аб сабе. Ты ж – мужчына, кавалер.

А зараз – пра весялейшае.

Герман быў невысокі, поўны і лысы. Але такі заліхвацкі танцор у свае семдзесят пяць гадоў, што намнога маладзейшыя зайздросцілі. У конкурсах на лепшы танец неаднаразова браў прызы. Казалі, што ў такім паважаным узросце яшчэ працаваў сталяром у адным з цэхаў аўтазавода. Дапамагалі прыродная сіла і бадзёрасць.

І раптам Германа не стала сярод нас. А ўсе да яго ўжо прывыклі.

Аказалася, ён сустрэў у адзін з вечароў хударлявую стройную рыжавалосую жанчынку і забраў яе да сябе дамоў. І пажаніліся. А яна была на трыццаць гадоў маладзейшая за яго. І жылі, пажывалі.



Што ж тут скажаш? "Любви все возрасты покорны".

Вось такі ў нас цікавы быў клуб.

А цяпер ужо адкрываюць клубы "Для тых, каму за пяцьдзесят".

## ФОКУС НЕ ЎДАЎСЯ

Калі працавалі ў заводакіраўніцтве трактарнага завода, то абедаць хадзілі часта не ў заводскую сталоўку, а ў кафэ "Елачка", што на рагу Даўгабродскай вуліцы і Ванеева. Хадзілі ўсім нашым бюро. Возьмем што не дорага пад'есці, а начальнік бюро Барыс Іванавіч падбухторвае:

– Рабяты, і па шкляначцы?

– Канешне, па шкляначцы! – дружна падтрымлівалі мы.

Справа ў тым, што ў конусных колбах там прадавалі даволі таннае віно. Пап'ём, паядзім – і на працу.

І вось аднойчы ў абед мы гуртам шыбуем па свайму маршруту, ды не ўздоўж сцен, а прама цераз прызаводскую плошчу з паваротам налева да скверу і далей. У сваім кабінеце на другім паверсе каля акна стаіць намеснік генеральнага дырэктара Іван Іванавіч, а побач з ім начальнік нашага аддзела Рыгор Барысавіч. Іван Іванавіч угледзеў нас і пытаецца ў начальніка:

– Рыгор Барысавіч, твае байцы?

– Мае.

– Як прыйдуць, абавязкова правер іх. Пэўна, піць пайшлі.

Пасля абеду сакратарка выклікае нас у высокі кабінет. Начальнік аддзела – дапытвае кожнага: – Ты з кім піў? – Ні з кім. – А ты з кім? – Што вы, у рабочы час! – А ты з кім? – Як можна? Пытаецца ў мяне апошняга (праўда ён любіў мяне, самага маладога, яшчэ і паважаў за тое, што пішу):

– А ты, Мікола?

Я прыкінуўся прастачком і здзіўлена адказваю:

– Што вы, Рыгор Барысавіч, каб піць піва, кампанія не трэба.

Ён кажа:

– Ідзіце, працуйце. А ты, Барыс Іванавіч, застанься.

І выкручвае:

– Ты піў?

Ну, чаму б не прызнацца? Начальнік жа аддзела ставіўся да нас па-бацькоўску, усяляк аберагаў нас.

А Барыс Іванавіч упёрся:

– Ды я, ды мы, ды ніколі!

Тады Рыгор Барысавіч зазлаваў. І павёў яго праз прахадную ў другую вежу заводакіраўніцтва, у цэнтральную заводскую лабараторыю. Падае яму трубку:

– Дзьмі на аналіз!

А Барыс Іванавіч такі хітрун, дзьме не ад сябе, а ў сябе – і трубка нічога не паказвае. А Рыгор Барысавіч разгадаў яго хітрасць, падводзіць да квадратнага жалезнага чана, поўнага вады, і загадвае:

– Дзьмухай ад сябе, канцом трубкі ў ваду, і каб бурбалкі пайшлі. Каб я бачыў.

Той дзьме, бурбалкі пайшлі, і трубка пасінела-пазелянела. Значыцца, хмель ёсць.

– Дык што ты, гусь пажылы, хацеў мяне, старога вераб'я, правесці на мякіне? На першы раз – дарую, але больш каб такога не было!

Было – не было, але больш не хадзілі на абед праз галоўную плошчу, а каля сценаў, каб нас было не відно.

Маскіроўка. Каб не падстаўляць ні нас саміх, ні начальніка бюро.

А тое здарэнне ён перажыў.

# ХТО ШТО ДОРЫЦЬ

Калі надыходзіць дзень нараджэння ці юбілей, мы склікаем гасцей. Канешне, не дзеля падарункаў, а каб хораша прыняць іх, а яны прывіталі нас. Хоць, з другога боку, па падарунках мы мяркуем аб адносінах людзей да нас. Вы ж не пойдзеце да сябра ці сваяка без падарунка ці абы з чым. Калі ж няма грошай – трэба пазычыць або сказаць імяніннiку (юбіляру):

– Прабач. Падарунак я ўручу крыху пазней, – і пытанне будзе вычарпана.

З уласнага вопыту. Неяк надарылі мне пяць парасонаў. Адзін прапаў – відаць, некаму спадабаўся. Другі недзе згубіў. Тры засталіся. Перадарыць не магу – па прыкметах не пойдзе на карысць чалавеку. Прадаваць не ўмею. Цяпер і ў дождж – апранаю плашч і шапку, а парасон не бяру, бо ці ў транспарце пакіну, павешу на спінку сядзення, ці забудуся ў якой установе. Абавязкова "пасею".

А то сабралася некалькі падораных мне гадзіннікаў. Я ж нашу толькі адзін. Надоўга хопіць.

На апошні юбілей прынеслі два дарагія электрачайнікі. А я па старой звычцы карыстаюся ранейшым, простым – грэю на газе. Можна было б памяняць у тых магазінах на больш патрэбныя рэчы, але там неахвотна ідуць на гэта. Ну, нічога, давядзецца ўсё ж перадарыць ці прадаць. Нашто яны мне дома – каб месца займалі?

Збіраючыся на мой чарговы дзень нараджэння, пляменніца жонкі пазваніла ёй і спытала, што лепш мне падараваць. Жонка бадзёра адказала:

– Э, нічога не трэба, у яго ўсё ёсць. Вазьмі якія-небудзь дробязі.

Тая так і зрабіла: прынесла нейкую асвяжальную ваду, ласьён, адэкалон, крэмы – для галення і асвяжальны для скуры. Я незадаволена фыркнуў і падумаў: нашто мне гэтая парфума? Лепш купіла б кашулю ці штаны, ці чаравікі. А ў наступны раз яна як бы адчула стук майго сэрца – купіла мне выдатны спартыўны касцюм. Я быў вельмі ўзрадаваны і ўсцешаны.

Адзін сябар, важны пажарны чын, узнагародзіў мяне вялізнай старадаўняй пажарнай каскай з нержавейнай сталі. Яшчэ хацеў і выгравіраваць, але я адмовіўся. Многа гонару! Іншым разам

ён падарыў мне... афіцэрскую фуражку! А другі сябар прынёс пластмасавую каску будаўніка. Дык я ж – машынабудаўнік, а не пажарны, і не вайсковец, і не будаўнік.

Што за сябры, падумаў я. І жонка сказала тое ж: цягнуць розную непатрэбшчыну, што ўдасца сцібрыць на рабоце. Лепш нічога б не неслі. Ці блок добрых цыгарэтаў. Калі грошай не хапае на нешта больш значнае.

Гэтае абы што доўга займала месцы на полцы. Потым пажарную каску я аддаў прыяцелю для дзяцей. Але і пашкадаваў: яны ж могуць паадбіваць ногі. Лепш бы я яе аддаў ці прадаў музею або магазіну антыкварыяту. Фуражку сплавіў знаёмаму афіцэру. А каску будаўніка аддаў суседу-дачніку. Ён пастаянна дабудоўваецца.

Прыгадваю адзін свой ранейшы юбілей.

Прыйшла сямейная пара блізкіх мне людзей. Паднеслі выдатны крышталёвы набор – адмысловы графін і шэсць аб'ёмістых шклянак. Я парадаваўся ў душы. Паставіў набор у сервант. Шыкану перад гасцямі!

Праз нейкі час нешта як бы стукнула ўва мне: а давай-тка я праверу той падарунак. Паставіў чарку з сапраўднага крышталю на стол, пастукаў алоўкам (надзейны спосаб праверкі) і пачуў прыемны меладычны звон. Затым выняў шклянку з набора, пастукаў – звон глухі. Значыцца, гэта ніякі не крышталь, а простае прасаванае шкло. Ну і раскашэліліся мае не бедныя блізкія!

Іншыя прынеслі некалькі каробак амаль аднолькавага посуду з простай белай гліны – кубачкі, сподачкі, чайнічкі. Яно-то добра, але навошта мне столькі? А кожны ж думаў, што такое нясе ён адзін.

А цяпер – з чужога вопыту.

Знаёмы адзначаў юбілей. Запрасіў гасцей – трыццаць чалавек. Госці прыходзяць паступова, віншуюць. Уручаюць падарункі і кіруюцца да святочнага стала. Апошні ўручыў свой падарунак і адышоў. Гаспадар расчыняе дзверцы антрэсолі і ставіць... трыццаты тэрмас. Што пасля свята з імі рабіць? Прадаць – не ўдасца, бо раней дэфіцытныя тэрмасы пару дзён назад завезлі, і ўсе ўжо купілі. Затаварыўся, як склад. Ні карыстацца, і ні збыць.

Цяпер калі хто з сяброў ці родзічаў да маёй чарговай памятнай даты спытае:

– Што табе падарыць?

Я адкажу:

– Усё, апроч парасонаў, гадзіннікаў, посуду і электрачайнікаў.

Пра каскі і армейскія фуражкі – прамаўчу.

Да новых юбілеяў!

## ПАШАНЦАВАЛА

Запрасілі нас аднойчы правесці ў Палацы культуры камвольнага камбіната перад моладдзю літаратурны выступ – пачытаць сатыру і гумар. Сабралася чалавек пяць пісьменнікаў. Правялі сустрэчу як след: былі і ўсмешкі, і смех, і нават рогат. І воплескі. Выступалі на грамадскіх асновах. Але нам паднеслі ў знак павагі сувенірныя падарункі. Сказалі:

– А што каму – разбірайцеся самі.

Выходзім. Сумнавата. Раз'язджацца пара нам па дамах. Банкета ж, як раней, не было. Як жа нам культурна і весела адпачыць?

І тут наш ветэран Давыд Маркавіч і ягоная жонка Ася Абрамаўна выносяць слушную прапанову:

– Сябры, калегі! Мы тут побач жывём, дык зайдзіце да нас на госці. А нашто вам недзе шукаць месца?

Мы ўзрадаваліся: сапраўды надзейны прытулак, і людзі ж мы салідныя.

Заходзім, распранаемся, сядаем. У кватэры цёпла і ўтульна. Гаспадары гатуюць і прыносяць каву. І торт яшчэ.

А на стале ў кутку стаіць шампанскае. Ну, думаем, пітво нам будзе панскае!

Аднак яны яго не распаркоўвалі. Для іншага для некага, відаць, яны яго трымалі. Дык лепей бы яго не было навідавоку.

А то як бы рэклама. А можа, даўным-даўно стаіць.

А для нас – раздражненне.

Сядзім, абпіваемся кавай, аб'ядаемся тартамі, а з серванта на нас прызыўна-спакусліва паглядаюць рознакаліберныя пляшачкі-штофікі з каньячком. Як бы просяцца: "Выміце нас адсюль і спаражніце! Нам трэба на волю".

Але гаспадары гэтага іх і нашага піску не разумеюць, затое падалі яшчэ адзін торт. Каб на яго чорт! А ў маіх сяброў аж сліна цячэ з ротаў. Што ж, у гаспадароў – свае нацыянальныя традыцыі. Лепей менш, чым больш. А выпіўка шкодзіць.

Ну, нічога. Пасля выхаду мы пайшлі ў бліжэйшае кафэ, скінулся, і пасядзелі, колькі хацелі. Па-нашаму.

А напрыканцы сутрэчы ў кватэры Давыда Маркавіча мы ўсё ж разыгралі сувеніры. Ніхто не ведаў, дзе ёсць што. Адно

відаць было яўна – шахматы ў вялікай стандартнай каробцы. Астатняе – невядома. Быў і сувенір у кардоннай белай каробцы з круглай малой адтулінай, зацягнутай светлай празрыстай цалафанавай плёнкай. А што там – не відаць.

Давыд Маркавіч адразу рашуча заявіў:

– Мне абсалютна не патрэбны шахматы, я не гуляю ў іх!

А каму што патрэбна? Дый не ведаем мы, што ў астатніх сувенірах.

Дзеля справядлівасці вырашылі згуляць у латарэю. Пранумаравалі прызы, выразалі квіткі, скруцілі і пакідалі іх у агульную шапку. Цягніце, як каму пашэнціць!

Каб не было ніякіх сумненняў у аб'ектыўнасці суда, мы даверылі жонцы Давыда Маркавіча выцягваць усім нам талоны.

Выцягваюць – каму што (памяць ужо не даносіць). А Давыду Маркавічу... шахматы. Той – у шоку. А ў нас – сумленне чыстае:

– Прабачце, шаноўны сябар, але ж цэтлік выцягвала ваша жонка!

А я прынёс дамоў той сувенір у светлай кардоннай каробцы і пасярэдзіне кругам цалафанам, раскрыў, і аказалася – там прыгожае люстэрка ў абрамленні чорнай пластмасы ў форме штурвала, а збоку яшчэ – і невялікі тэрмометр. Так сказаць, і на сябе глядзі, і на градусы... у кватэры. А магчыма, і ў целе.

З таго часу гэты сувенір і вісіць у мяне на сцяне ў прыхожай. Як захочаце – зайдзіце праверце і парадуйцеся за мяне.

Хоць раз пашэнціла!

## ЗМЕЙ-СПАКУСНІК

Гэта было не сёння і не ўчора, а раней.

Старыя вопытныя людзі падказалі, што калі хто хворы на радыкуліт ці раматуз, то ёсць надзейны спосаб лячэння. У маі месяцы трэба нарваць кветак каштана, заліць спіртам або гарэлкай, даць настаяцца, а пасля націраць ногі ці спіну. Жонка мая падлечвае ногі, вось я і вырашыў зрабіць ёй ласку. Нарваў кветак, закінуў у бутэльку. Са спіртам праблематычна, таму заліў гарэлкай, закаркаваў і паставіў у шкапчык. Няхай настойваецца.

Аднойчы ўжо вельмі позна чую званок у дзверы. Адчыняю – стаяць двое сяброў-журналістаў.

– Мікола, прымаў гасцей, – сходу гукаюць яны. – Мы падрыхтавалі нізку тваіх вершаў – выдатная будзе радыёперадача. Так што частуй, вядзі за стол.

– Вы што, хлопцы, з глузду з'ехалі? – здзівіўся я. – Зірніце на гадзіннік – адзінаццаць ужо. І крама зачынена, а ў мяне ў запасе няма – скончылася.

– Не наш клопат, – настойваюць яны. – Ты гаспадар, вось і шукай. Канешне, мы не патрабуем, ты не абавязаны, але ж прычына важкая, дый даўно бачыліся, гаманілі.

– Э-э, – прыгадаў я. – У мяне ёсць лекавы настой на кветках каштана. Выстаўляць?

– А як жа! – радасна загулі сябры. – Усё, што ліецца, тое п'ецца.

Я выставіў. І сам трохі смакую. А кветкі ж з дрэва, дык і ў горле дзярэ, як дрэвам. Але маім маладзейшым сябрам хоць бы хны. Пасядзелі, пачаставаліся, пагутарылі і позненька разышліся.

Назаўтра тыя ж кветкі я заліў яшчэ паўлітэркай гарэлкі. І зноў паставіў у шкапчык. Няхай усё ж будуць лекі.

Недзе тыдні праз два роўна ў адзінаццаць ночы чую званок у дзверы. Адчыняю – стаяць тыя ж двое сяброў.

– Міколка, шчыра віншуем! – схапілі яны ў абдымкі мяне. – Прагучала твая перадача – ты чуў? І водгукі былі прыемныя.

– Канешне, чуў, – адказваю. – Вельмі дзякую.

– Дзякуем не адбудзеш. Частуй на кошт будучага ганарару! Такую падзею, як не адзначыць!

– Што вы ўсё нанач прыходзіце? – усклікнуў я. – Дня вам мала. Няма нічога моцнага.

Хлопцы зніякавалі, а пасля адзін скеміў:

– А можа, такі самы настой на кветках ёсць, як мінулы раз?

– Ёсць! – успомніў я. – Выстаўляю.

І зноў доўгія размовы пра жыццё, пра творчасць, пра многае іншае. Сяброўскае.

Пустую пляшку з кветкамі адкінуў, а праз нейкі час выносіў шклатару, гляджу – на дне яшчэ засталася вадкасць. Папіў дзеля інтарэсу – тая ж моца і той жа прысмак! Вось якую сілу маюць кветкі каштана.

Аднак сказаў жонцы:

– Больш я не буду гэтым займацца, рабі настой, захоўвай і выкарыстоўвай сама.

Каб не было лішняй спакусы. І маім сябрам, і мне.

## СТАЦЬ НА ВАРЦЕ. ЧАГО?

Каля піўбара за круглым столікам п'ём піва. Нас – трое пенсіянераў. Стаім спінамі да двара, паглядаем на вуліцу. Цэдзім прыемны прахалодны напітак, размаўляем пра жыццё.

І раптам адчуваем: нехта нас ззаду шманае па руках, па баках, па кішэнях. Падумалася: можа, якія хуліганы ці бандыты? Але ж яшчэ не позна. Ці сяржанты міліцэйскія – але ж дзе ў такім разе ордэр пракурора на вобыск, як гэтага патрабуе закон?

Азірнуліся – а там маленькі, маладзенькі, хударлявы міліцэйскі лейтэнант. Колькі таго лейтэнанціка?

– Што вы тут п'еце? – сурова пытаецца ён.

Наіўнае пытанне! Калі з куфля п'юць піва, то на сценках вісіць пена. Калі ж нальюць віна, то пены няма.

– Піва п'ём, – адказваем мы. – Хіба не бачна?

Той не паверыў, а пачаў вынюхоўваць кожны куфель. Відаць, западозрыў, што дзяды, можа, падлілі ў піва віна ці гарэлкі. Але нічога такога не вынюхаў.

Дарэчы, ён мацаў, ды не намацаў у маёй кішэні бутэльку. Што б ён тады тварыў? Хаця... бутэлька мая была не раскаркаваная, і я мог бы пасла́ць яго куды-небудзь далёка. Сказаў бы:

– Гэта мая справа, што ў маёй кішэні. Што хачу, тое і нясу дадому.

Лейтэнанцік урэшце з кіслым тварам патупаў цераз дарогу – відаць, падаўся ў дружыну. А я толькі паспеў сказаць наўздагон:

– Не з таго пачынаеш службу, малады. Лаві злодзеяў, гвалтаўнікоў, рабаўнікоў, а не чапляйся да пенсіянераў. Стой на варце аховы права і парадку.

А для пачатку хоць сам не парушай.

# УТРЫМАНЦЫ

Антось працаваў кавалём на заводзе. Малы, худы, як трэска. Бо жонка мала карміла. У яго ж работа вымагала шмат высілкаў. Паспрабуй усю змену куй ды куй. Але змагаўся, быў перадавіком, зарабляў добра.

Жонка яго Ганна нідзе не працавала, толькі дома сядзела, затое ела ўсё падрад, была тоўстая, як бочачка.

Міхась Пятровіч быў на адказнай пасадзе, жыў у адным з суседніх дамоў, добра ведаў іх. Па прыяцельску. А яны выпрацавалі сваю тактыку.

Увечар сядзяць каля акна абое, як птушачкі. І назіраюць, калі сусед прыйдзе з работы. Ведаюць – у шэсць гадзін вечара. Цікуюць за ім.

Затым разлічваюць, пакуль ягоная жонка Галіна Якаўлеўна падрыхтуе багатую вячэру. На гэта пройдзе прыкладна гадзіна.

Роўна ў сем вечара Антось звоніць-барабаніць у дзверы. Гаспадар адчыняе.

– Прывітанне! Як вы тут?

– Ды вось вячэраць збіраемся.

– А ці можна зайсці?

– Заходзь, будзь ласка.

Ён сходу ўвальваецца і кідаецца адразу за стол. І есць, і п'е, як дома.

Якраз праз хвілін пятнаццаць—дваццаць зноў энергічны званок у дзверы. Міхась Пятровіч адчыняе, на парозе – Ганна.

– Мой тут? У вас?

Але забірацьі не збіраецца. Замест таго ўсядаецца ў два крэслы (аднаго ёй мала), і п'е, і есць, прэ, як не ў сябе. Да адвалу.

Я казаў сябру Міхасю Пятровічу:

– Навошта ты корміш і поіш гэтых утрыманцаў? Ты ж разбэшчваеш іх.

А ён, добрая душа, адказваў:

– Дык мне Антося шкада, бедалагу.

– А калі шкада, – раіўся, – дык прапануй яму неадкладна пагнаць яе на работу, прытым на цяжкую, фізічную. І занятая будзе, і нешта заробіць, і схуднее ўдвая ці ўтрая. І ўсім будзе выгода.

...Добрымі парадамі свет поўніцца. Але – калі іх слухаюць. Калі ж не – гэта бескарысна.

# ВЕДАЙЦЕ, З КІМ ЗВЯЗВАЕЦЕСЯ

У аддзеле забеспячэння суведняга завода я бываў часта па службовых справах. Выпісваў, атрымліваў метал, ім наш завозіў у парадку абмену. Сябраваў і з інжынерамі, і з начальствам – аж да дырэктара і яго намеснікаў, сядзелі, бывала, па-прыяцельску, выступаў на іхніх святах, весяліў іх сваімі гумарыстычнымі вершамі. Адным словам, усё было – о'кэй!

У іх была адна работніца. Старая, даўгая, шырокая, твар каструбаваты. Адным словам – няма на што глядзець. Да таго ж, казалі, у турме раней некалькі гадоў адседзела. Але старалася гаварыць як бы сур'ёзна і разумна.

Начальнікам аддзела, пасля – намеснікам, быў мой даўні прыяцель Міша, якога я раней ведаў па рабоце ці то на трактарным, ці на заводзе шасцерняў. Даволі малады, сімпатычны, чарнявы. Меў прыемнага выгляду жонку і дваіх дзяцей.

Пасля палучкі яны мелі звычку большасцю аддзела пайсці і прыемна адпачыць. А куды? Дзе бліжэй і больш утульна. Ішлі да тае старой іхняй работніцы, балазе – жыве блізка. Набяруць усяго і шыбуюць да яе цераз дарогу і трохі далей. А пасля – ужо вольная абстаноўка. Выпіўка, закусь, размовы. Пра работу і ўсё астатняе рознае.

І вось аднойчы даведваюся – Мішы няма. А дакладней – упаў з акна на асфальт супраць кватэры той старой. У кватэры засталіся толькі яго чаравікі. Як ні распытваў доўгі час сяброў – работнікаў іхняга аддзела, нічога не мог уведаць. Толькі што яны раней разышліся, а ён моцна захмялеў і лёг спаць на канапу. Дык што ж – Міша сам выкінуўся, ці яму хто дапамог? Як канцы ў ваду.

І толькі ўжо многа пазней адзін з іх "раскалоўся", раскрыўся мне. Аказваецца, як ён распавядаў, у старой быў палюбоўнік – маёр міліцыі. У той вечар позна ён завітаў з братам. Глядзяць – на канапе ляжыць, спіць незнаёмы мужчына, а на стале – сляды выпіўкі. Узбудзілася рэўнасць. Яны паднялі Мішу, выкінулі праз акно. Як разбіраліся з гаспадыняй – невядома. І сышлі, зніклі.

У сувязі з гэтым натуральна ўзнікаюць пытанні.

Які ж гэта маёр міліцыі, што звязаўся з такой агіднай старой бабай? Што, не мог знайсці маладую прыгожую

адзінокую жанчыну з незаплямненай біяграфіяй? І чаму пайшоў на забойства? Каго і з-за каго забіваць? Калі не пра таго, ягоную сям'ю не падумаў, то падумаў бы хоць пра сябе.

Пытаюся ў супрацоўнікаў Мішы:

– Чаму ягоная жонка не падала на суд?

– Бо ў міліцыі запалохалі: калі падасі, то не атрымаеш пенсію на дзяцей, бо муж быў п'яны.

– А пры чым тут гэта? – пытаюся я. – Выпіваць і нават напіцца законам не забаронена. Абы не было небяспечных і цяжкіх наступстваў. А вось забіваць, нават у самых цяжкіх сітуацыях – забаронена! Многія з нас бывалі і на падпітку, і п'янымі ў розны час, але мяжу закона не пераступалі.

Здзіўляе абсалютная абыякавасць супрацоўнікаў Мішы да яго лёсу. Я нярэдка пасля забойства Мішы бываў у іх. "А на кладбище всё спокойненько – удивительная благодать". Старая адчувала сябе, як рыба ў вадзе. І ніякага ценю сумнення і раскаяння я на яе твары не бачыў.

Калі б на здаровы калектыў – яны б стварылі ёй такія невыносныя ўмовы ў аддзеле, што яна – не коркам, а куляй выляцела б адтуль.

Што ж да маёра міліцыі – пра такіх цяпер кажуць: "оборотни в погонах". І ў іншых краінах, і ў Расіі іх вышукваюць, знаходзяць, выганяюць і выносяць самыя суровыя прысуды. І ў нас таксама.

Але некаторым удаецца пазбегнуць суровай кары.

Спадзяёмся – да пары, да часу.

## УСПАМІНЫ МАЛАДОСЦІ

Неяк пад свята я вырашыў арганізаваць прыемную сустрэчу для сваіх сяброў і сяброваk. На пяць пар. Думаю, пазнаёмлю іх, а там будзе відаць. Можа, і да шлюбу ў некаторых дойдзе. Усе ж пакуль што не былі сямейнымі.

Прыйшлі Ніна, Клава, Света, Валя і яшчэ адна Ніна. А з хлопцаў, мужчын – чамусьці ніводзін. Як потым аказалася, у кожнага знайшліся свае прычыны. Аднаго паслалі ў камандзіроўку, другі захварэў, у трэцяга цешча нагу зламала, у чацвёртага тэрміновы рамонт кватэры.

Ратаваць становішча давялося мне аднаму, я ўжо так выпінаўся! І наліваў, і вясёлыя гісторыі расказваў, і на гітары граў, і песні, рамансы спяваў. і свае гумарыстычныя вершы чытаў. Карацей кажучы, забаўляў па поўнай праграме. І ўсё ж – я быў адзін, і нашто мне было зачароўваць іх усіх!

Пад ноч дзяўчаты, жанчынкі пачалі расходзіцца. Першымі – Ніна і Клава. За імі – Света. А Валя і другая Ніна засталіся. Абедзве былі неабыякавымі да мяне. Як і першая Ніна – тая яшчэ больш, але была з гонарам, дык і выгляду не падала.

Начаваць Валя прымасцілася каля мяне на канапе. А Ніне давялося ўлегчыся на дыване каля канапы. Сярод начы Валя нешта бзыканула і сышла дадому. Затое Ніна пералезла з дывана на канапу.

Каму больш пашэнціла?

Шчаслівы той, хто застаецца.

# ХТО НА ШТО ЗДОЛЬНЫ

Сам не бачыў, толькі чуў. Справы даўнія.

Заходзіць на прыём да дырэктара трактарнага завода стары рабочы, ветэран, і пачынае жаліцца:

– Іван Іванавіч, у мяне маленькая двухпакаёвая кватэрка, а людзей – як у макаўцы зярнят: я з жонкай, дзеці, унукі. Не праціснуцца. Дайце мне хоць бы трохпакаёўку.

– Што ты, Апанас Мікітавіч, – адказвае дырэктар, – ведаеш, колькі тысяч чалавек у нас працуе? І многім трэба даць ці палепшыць жыллё. Чарга вялікая.

– Дык што, – узрушыўся рабочы, – калі раскрадальнікі выцягваюць з завода хто што зможа, то ім гэта сходзіць з рук, а ветэрану пашырыць кватэру – вялікая праблема? Злодзеі нават трактар могуць выгнаць.

– Ніхто ў нас нічога не ўкрадзе, бо і ахова магутная, і абэхээснікі катралююць.

– Давайце паб'ёмся аб заклад, – завёўся Апанас Мікітавіч, – што я выганю трактар і пастаўлю ў вас пад вакном. Калі зраблю так – вы даеце мне трохпакаёўку. Калі ж не – я знімаю сваё пытанне. Дамовіліся?

– Дамовіліся, – упэўнена адказаў дырэктар.

Апанас Мікітавіч пайшоў на тэрыторыю, далей – на стаянку новых трактароў, завёў адзін, затым загрузіў розным смеццем і пагнаў на выезд. Калі б вывозіў метал ці дэталі або запчасткі, то патрэбны былі б суправаджальныя дакументы. А так – хто будзе калупацца ў смецці? Штодзённая звычайная работа.

Апанас Мікітавіч выехаў, падруліў да заводакіраўніцтва і паставіў трактар супраць дырэктарскага акна, пасля пашыбаваў у высокі кабінет.

– Іван Іванавіч, я даказаў вам сваё. Зірніце ў акно: вунь стаіць новы трактар, які я выгнаў без усялякіх дакументаў і перашкод. Дык вы сваё слова стрымаеце?

– Стрымаю, – незадаволена прамовіў дырэктар. Адступаць было няёмка і не было куды.

У хуткім часе Апанасу Мікітавічу выдзелілі трохпакаёўку.

Другому рабочаму спатрэбілася для гаспадарчых спраў танкасценная сталёвая шасцімятровая труба. Аплаціць не хаце-

лася, дый колькі часу патраціш на афармленне! І ён прыдумаў хітрае выйсце.

Вынес з цэха гэтую трубу, і куляе па тэрыторыі за канцы. Набліжаецца да прахадной. Дзяжурны вылупіў вочы і здзіўлена пытае:

– Што ты вытвараеш, дзівак?

– Ды вось начальнік загадаў вымераць адлегласць ад цэха да прызаводскай плошчы. Я і мераю па шэсць метраў. Адчыняй вароты.

Ахоўнік адчыніў. Той куляў, куляў, потым завярнуў за вугал, паклаў нецяжкую трубу на плячо і паціху панёс у патрэбным напрамку.

А дырэктар рэгулярна даваў разгон службе аховы.

Было б што цягаць, а ахвочыя і кемлівыя заўсёды знойдуцца.

# ДАРМАЕДЫ-П'ЯНЮКІ

У маім і ў суседніх дварах мужчыны працуюць у асноўным да трыццаці і пасля пяцідзесяці гадоў па ўзросту. Астатнія пасярод гэтай лініі ў большасці не абцяжарваюць сябе грамадскакарыснай працай. На мае здзіўленыя пытанні адказваюць:

– А навошта нам працаваць на гаспадара?

– Дык вы не на гаспадара працуйце, – адказваю я. – А на сябе. Хоць у дзяржаўным сектары, хоць у прыватным. Ці больш, ці менш, а ўсё ж заробіце. На пражытак хопіць. І яшчэ больш. Як усе.

У ранейшы час, як памятаю, калі хто не працаваў ад двух да чатырох месяцаў – тых ці судзілі, ці накіроўвалі ў ЛТП на пару гадоў (п'янюкоў адчайных), ці высялялі ў сельскую мясцовасць на сто першы кіламетр. А цяпер ніхто ні на каго не звяртае ўвагі. Хочаш – ідзі на завод, хочаш – рабіся бізнесменам, хочаш – бамжуй. Вольнаму – воля, а п'янаму – рай.

Дык вось пра гэтых апошніх і мой расповед.

Пачкуюцца на лавах у пад'ездах. Або балбочуць абы што, ці сядзяць моўчкі днямі. А пра што гаварыць? Усё даўно перагаворана. Дый пра работу нічога не ведаюць, і пра людзей. Аднак калі што – разумныя, працоўны з імі не згаворыцца. І адукаваныя, і пры пасадах былі як быццам. Пытаюся ў аднаго, другога:

– А ты пра будучыню думаеш? Які ж у цябе да пенсіі будзе працоўны стаж?

– А ў мяне ўжо ёсць трыццаць дзевяць гадоў, – адказвае.

– Адкуль жа? – здзіўлена пытаюся я. – Ты што, яшчэ да нараджэння пайшоў на працу? Табе ж усяго трыццаць дзевяць.

Адказ – моўчкі. Зразумела.

Як ні дзіўна, але...

Працоўнаму чалавеку няма за што піць-напівацца. А вось дармаеды гужуюць з ранку і да начы. Адкуль грошы? Ці ў жонкі сцібрыць рубель, ці тару збярэ, здасць, ці пляшкі, ці што ўкрадзе, ці грашовыя знаёмыя, прыяцелі, суседзі налююць. "И тут сто грамм, и там сто грамм, и так проходит утро". А "утро начинается с рассвета". Яшчэ гадзін у шэсць раніцы актывісты нашага алкагольнага фронту ўжо ў пошуку: або ідуць на вядомыя ім "точки", ці да рынку да бабулек – і

бяруць, ці ў доўг па спекулятыўных цэнах, ці на апошнія рублікі. “Падзарадка” прайшла, а пасля ўжо лягчэй. Чакаюць хаўруснікаў-калегаў па алкагольнаму цэху. Сядзяць, дзяжураць, вартуюць, як на працы.

Бывае, чапляюцца дваравыя:

– Дайце сто, дзвесце, трыста рублёў!

Ну, гэта ячшэ я даю. А калі пяцьсот, ці тысячу, ці дзве – я ж ведаю, што заўтра яны мяне ўжо не пазнаюць. Адказваю:

– Больш за трыццаць рублёў не падаю. Вы – здаравенныя дубы і вядомыя жлабы, а я – пенсіянер, павінен вас паіць? На будоўлю, цэглу грузіць! Станкі прастойваюць, поле не арэцца, плугі ржавеюць, а вы лайдачыце, нягоднікі!

Іх пасля гэтых маі’х слоў як ветрам здзімае. Няма чаго запярэчыць. І мяне не білі.

На ганку крамы сустракаю маладога прыяцеля Ягора. Той аж стогне:

– Дзядзька Мікола, ратуйце! Мру з голаду. Дайце чатырыста рублёў на паўбохана хлеба.

Пашкадаваў. Даў. Сам у маленстве і маладосці галадаваў.

Вечарам таго ж дня на тым жа ганку крамы сустракаю таго ж Ягора. Ён то грузчыкам працаваў, то ў міліцыі служыў. І часцяком у сваім двары ходзіць пабіты. Я быў у добрым настроі, і даў яму яшчэ тысячу. Толькі адышоў – аж здаганяе нейкая зацяганая дзяўчына, што стаяла каля яго, і просіць:

– Дайце яшчэ чатырыста рублёў.

– Ідзі прэч! – гаркнуў я. – Колькі можна? І так ужо двойчы даў.

Аднойчы пакуль дайшоў ад дома да гастранома (дамы стаяць побач), падобныя суседзі-прыяцелі выцыганілі тройчы па шэсцьсот рублёў. Нашто мне гэта было!

Калі збіраецца такая вясёлая кампанія, то на бутэльку віна 0,5—0,7 літра так-сяк нашкрабуць. А пасля ўзнікае яшчэ некалькі пытанняў: дзе выпіць, з чаго выпіць, як сарваць пластмасавы корак, чым прыткнуць (закусіць). Я не раз павучаў іх:

– Калі вы п’янюкі адчайныя, то апроч рубля ў кішэні, трэба заўжды мець пры сабе раскладны “стаканчык”, склад-

ны ножык, пару цукерак, ці кавалачак хлеба, а выпіць зайсці калі не ў хату (якая жонка ўпусціць такую хеўру?), то хаця б у якісьці пад'езд, каб міліцыя не заграбла. На маіх вачах у двары хлопцы закусвалі... лісцем з дрэва. Дажыліся-дапіліся!

Аднойчы іду ў паліклініку. Перайшоў вуліцу, а там стаяць трое знаёмых, пра нешта балабоняць. А па тварах бачу – выпіць аж трашчаць. А няма за што.

Прывітаўся і прайшоў міма. Вяртаюся з прыёму, бачу – іх ужо пяцёра. Такія сумныя, маркотныя, аж шкада іх стала. Выкалупаў з кішэні тысячную паперку і падаў аднаму з іх. Той трымае і нічога не разумее. Усе маўчаць. Потым другі, самы злосны, з'едліва вымавіў:

– Што ты нам даў, колькі ты даў? Можаш забраць свой рубель!

– Не, – адказваю, – калі я што даў, то назад не забіраю.

І пайшоў. Толькі зрабіў некалькі крокаў – мяне як быццам нешта штурханула ў спіну. Азірнуўся – бачу: той, самы агрэсіўны, шпурнуў мне ўслед маю тысячу. Я не ганарысты, павярнуўся, падняў і паклаў у кішэнь.

Пайшоў і падумаў: а зараз стойце без капейкі, без рубля. А то думалі – я адзін пенсіянер, напаю пяцярых здаравенных ілбоў. Дудкі! Няма дурных. А вы цяпер разыходзьцеся па аднаму, і кожны няхай шукае грашовых сяброў, знаёмых, суседзяў. А найлепш – станавіцеся за станок, за плуг, на будоўлю.

Паздаравееце і фізічна, і духоўна. І не будзеце боўтацца, як трэскі ў жыццёвым віры.

## ВОСЬ ДЫК АДЗНАЧЫЎ!

*(святочна-сумная быль)*

14 лютага. Надышоў Дзень Святога Валянціна.

Свята закаханых. Ва ўсіх настрой прыўзняты, светлы. Сябры кажуць:

– Жонку прывітай!

Я схадзіў у харчовы магазін “Дзесятачка”, што каля майго дома. Купіў розных прадуктаў, і кветкі, каб адзначыць з жонкай гэтае свята, і пайшоў на выхад. Пара стол засцілаць. Прыгадаем маладосць.

З левага боку на выхадзе ўніз – ніякіх прыступак, а палогі спуск. А за ім адразу – вуглавы спуск ад сцяны магазіна да прахожай алеі (дарожкі). У дождж, снег альбо галалёд гэтыя два спускі, што ўнізе, сходзяцца, уяўляюць вялікую небяспеку для пакупнікоў з цяжкімі сумкамі і сеткамі, або нават без іх. І з навеса часта цячэ.

Калі скончыўся першы спуск і парэнчы, я пайшоў па другому спуску на алею. І тут паслізнуўся на снегу і лёдзе, мяне павяло: я гахнуўся спіной на асфальт з упорам на правы бок. Устаць дапамаглі людзі. Я – хуценька дамоў, кінуў прадукты і ў суправаджэнні жонкі падыбаў у паліклініку. А там чамусьці не аказалася на месцы ніводнага хірурга-траўматолага, ні загадчыка аддзялення, ні рэнтгенолага, хоць была толькі сёмая гадзіна вечара. Знайшоўся толькі рэжучы, аператыўны хірург. Ён паглядзеў – плячо апухае. І кажа:

– Едзь у шостую бальніцу.

– Што значыць едзь? – пытаюся. – Я што – з паломаным плячом буду таўчыся ў аўтобусах і трамваях? Выклікайце машыну!

Выклікалі “Хуткую дапамогу” і завезлі ў бальніцу. А там – трох-, пяці-, дзесяцігадовыя дзеці, і пажылыя, і састарэлыя людзі. Гадзіны паўтары пасля рэгістрацыі да мяне ніхто не падыходзіў. А навокал – стогны, енкі, вэрхал.

Потым доктар пачаў апытваць: – Ці цярплю я алергію ад лекаў? – Алергіі няма. – Якія былі хваробы?

Я назваў цэлы мех сённяшніх. Дзеля чаго былі пытанні? Каб вырашыць, ці замарожваць мяне пры лячэнні, ці часова

ўсыпіць, бо пры многіх хваробах пры усыпленні можна і не прачнуцца. Доктар запэўніў, што будуць марозіць.

Пасля – укол, затым – рэнтген. Наколькі я змог разабрацца, у мяне – пералом пляча і вывіх чашачкі пляча. Аднак жа я не доктар.

Нарэшце, мяне паклалі на стол – упраўляць мае косці на месца... Каб не сканаў ад болю, мяне ўсё ж... усыпілі. Ну, нічога, абышлося. Выжыў пакуль што. Мо і далей буду жыць. Затым – яшчэ адзін рэнтген – ці правільна ўправілі? Як быццам правільна Мяне ўбралі ў гіпс, як ляльку: і плячук, і руку, і грудзі, і спіную. Жыву, як у бетоне. І штотыдзень трэба хадзіць на паўторныя рэнтгены. Я прабыў у бальніцы ад сямі гадзін вечара да дванаццаці ночы. Жонка выклікала таксі. У гадзіну ночы паселі вячэраць. Праўда, не па-святочнаму, – не да таго было. А жонка яшчэ і палаяла:

– Нашто ты пайшоў на вуліцу? Я ж не пускала. Адчувала, што нешта можа здарыцца. Ды і што нам тое свята закаханых? Не на наш узрост.

Вось так. Перастараўся на сваю галаву. І пайшоў жа не позна – у шостай гадзіне. Але каб ведаў, дзе ўпадзеш... Цяпер з дому доўга не вылезці на волю. Марока. Адышоў ад актыўнага жыцця, як кажуць, залёг на дно.

Доўгі час у гіпсе. Не памыцца нават у ванне. Брудам зарос. Потым цісне, як жалезам. Знялі гіпс – рука на падвязцы. Знялі падвязку – праходжу фізіятэрапію, механатэрапію на розных прыстасаваннях і механізмах. Затым патрэбен масаж пляча і рукі, бо не толькі добрую чарку ці шклянку – лыжку не падняць. Сумна!

Лячэнне ў тры месяцы не ўклалася. Невясёлыя справы.

Калі распавядаю суседзям з нашага двара або з суседніх, то чую: – І ў мяне такое было, і там жа: бок пабіў. – І ў мяне: рука была ў гіпсе. – І ў мяне – дзве рабрыны паламаў.

Прама як бермудскі трохкутнік. Нейкае праклятае месца. Многія падаюць і разбіваюцца.

У дадзеным ды іншых прыведзеных выпадках і фактычную, і юрыдычную (кампенсацыю за нанесены фізічны і маральны ўрон) адказнасць нясе адміністрацыя магазіна. "Дзясятачка" або падобныя ўстановы. Гэта ж іхняя тэрыторыя.

І яны абавязаны сачыць за станам тэрыторыі вакол магазіна, яе добраўпарадкаваннем. І пасыпаць пясок, і снег счышчаць, і лёд дзяўбсці. Прытым паўтаруся: пацярпелі ўжо многія людзі. А калі ўсе яны пададуць на суд? Дарага абыдзецца вінаватым.

Іду да дырэктара магазіна Аляксея Іванавіча, распавядаю пра сваю бяду і іх віну.

– А чаму вы сыходзіце не з таго боку, дзе лесвіца з шырокімі прыступкамі, а з другога, дзе палогі спуск? – пытаецца ён.

– Ваш магазін даўгі, і ганак даўгі, – парырую я. – І кожны пакупнік заходзіць з таго боку, які бліжэй да дому.

– Палогі спуск у нас для транспарту, каб завозіць тавары.

– Нешта я ніколі не бачыў, каб хоць раз па такому вузенькаму спуску заязджала машына. Для заезду ў вас ёсць гаспадарчы двор і д вое варотаў. Да таго ж вы маглі б павесціць шыльду "Толькі для транспарту" і нават ланцужок павесіць.

– Добра, на наступную зіму павесім.

– Мая траўма і месца здарэння ўсюды зарэгістраваныя. Вы можаце панесці суровую адказнасць.

Але ніводзін мускул на твары дырэктара не здрыгануўся. Як з гуся вада. Нават прабачэння не папрасіў. А дзе ж уласны гонар, дзе прэстыж фірмы?

Відаць, гэты склон, спуск усё ж зроблены для заезду калясак з дзецьмі і інвалідамі. Бо так у асноўным і скарыстоўваецца. Тым больш ён павінен утрымлівацца ў ідэальным стане, бо калі каляскі з дзецьмі, інвалідамі і суправаджаючымі іх пакоцяцца ўніз – колькі будзе шуму, гвалту, крыку, траўмаў! Калі нават дарослыя і здаровыя так траўміруюцца.

Накатаў у кнігу водгукаў вялікую скаргу – не дзейнічае. Надрукаваў у газеце фельетон, падаў дырэктару – то і вухам не павёў.

Званю сябрам пра сваю бяду. Усе дружна спачуваюць, заспакойваюць. Раней сябры хуценька збіралі торбы ды імчалі адведаць, цяпер ніхто з сяброў торбы не збірае і наведаць не імчыць. Толькі спачуваюць і заспакойваюць. Ці то людзі збяднелі, ці душой зачарсцвелі. Час мяняе людзей. Бывае, не ў лепшы бок.

Вось гэтак. Хацеў свята, атрымаў муку. А на будучае зарабіў навуку. Хадзі асцярожненька ў любое надвор'е. І ў любым месцы. Асабліва – калі адпаведныя службы не клапоцяцца пра нас.

І ўсё ж трэба было мне падаць на адміністрацыю магазіна ў суд. Вось тады б дырэктар пабегаў бы, паскакаў бы вакол мяне з пачкам даляраў.

Каб адкупіцца. Як казалі сябры.

Але я не падаў.

Іх нахабства перамагло.

І яшчэ адзін роздум.

Калі б неяк на схіле дня дырэктар добра пасядзеў павясёламу з сябрамі ў сваім кабінеце, а потым, выйшаўшы, спускаўся па таму схілу, ды ў тым крытычным пункце ўнізе (дай ці не дай Бог) бразнуўся і разбіўся ўшчэнт, каму і на каго ён скардзіўся б?

І ці паспеў бы?

І ці змог бы?

# НАЖЫЎСЯ

## *(амаль дэтэктыўная гісторыя)*

Мой знаёмы – Вінцук, галава адной невялікай фірмы. Жыве нябедна, але не вельмі раскінецца, каб пачаставаць каго. Наадварот, сам прымкнецца да вясёлай кампаніі, каб пачаставалі яго. І – бясконцыя размовы, усю ўвагу цягне на сябе. Дзелавы такі.

Іду аднойчы дамоў – на лаве каля нашага пад'езда ляжыць мужык на моцным падпітку – ці спіць, ці дрэмле. Бомж ці не бомж – невядома. Апрануты сярэдненька. Аднак каля лавы стаіць ці то сумка, ці то "дыпламат", ці кейс. З лёгку мімаходзь прыгледзеўся – адзін бок як бы скураны, другі – як бы падрапаны ці металічны. Не звярнуў вялікай увагі, прайшоў міма.

Сядзім па-прыяцельску пасля ўтраіх:

– А дзе ж той мужык пасля дзеўся, што ляжаў на лаве каля нашага пад'езда? – пытаюся.

– Ён пасля праспаўся і пайшоў, – адказвае.

– А што з яго чамаданчыкам?

– Я яго забраў.

– Ты што, як ты мог? Ніхто ж не дадумаўся!

– А я яму заплаціў.

– Колькі ж?

– Тры тысячы рублёў.

– Нашто ты так зрабіў?

– А я яго раскатурхаў і спытаў: – Прадасі, купіць можна?

– Можна, – адказвае.

– Тры тысячы хопіць? На пахмелку?

– Хопіць, – кажа ён.

Я даў яму і ўзяў ягоны кейс.

– А ты мог, – пытаюся, – даць яму не тры тысячы, а карабок запалак – дзешавей абышлося б. Як табе не сорамна – бамжа абрабаваў!

– Як дамовіліся. Усё роўна нехта б узяў.

– А ты ведаеш, што пападаеш пад крымінал? Здзелка з п'яным чалавекам – гэта фактычна – рабаванне. Так і кватэры забіраюць.

– Я ж яму заплаціў.

Апраўдаўся. Многія праходзілі міма, а ніхто не браў.

Колькі я яму не дзёўб, што ён зрабіў злачынны ўчынак – а ў яго лоб дубовы. Чорт – сваё, а Бог – сваё – аддай маю малітву...

Ужо позні́м вечарам таго ж дня я даводзіў яму аб яго злачыннасці, але – як гарохам аб сцяну. Яшчэ злаваў і пагражаў.

Назаўтра пацікавіўся:

– А што ж было ў тым кейсе? Можа, якая сакрэтная апаратура – тады бяды не абярэшся. Дастануць цябе!

– Там відэамагнітафон (вось дык пашанцавала дзялку!). Заўтра панясу ў майстэрную правяраць спраўнасць.

Суседка казала:

– Я бачыла, як той п'яны ляжаў, а Вінцук выцягваў з кішэні і лічыў пакамечаныя грошыкі – дваццаткі і пяцідзесяткі. Ну, не тысячы, а рублікі.

Пэўна, усунуў тыя грошыкі паддатаму мужыку ў кішэнь для ачысткі сумлення (якое ж яго ў яго?), схапіў кейс і папёр дамоў. Іншая справа, адкуль у таго мужыка такая рэч.

А жонка сказала:

– Мне здаецца, што я таго мужыка не аднойчы бачыла ў нашым двары. Калі ўбачу наступны раз – падкажу яму, дзе жыве Вінцук. Няхай разбіраюцца.

Не падаваць жа мне самому на суседа ў міліцыю? Нашто мне лішні вораг! Дый дзе той пацярпелы?

І яшчэ пра Вінцука. Правільна кажуць у народзе: чым багацейшы, тым скваплейшы.

## ДА ПАРЫ ВАДУ ЖБАН НОСІЦЬ

На выездзе з горада стаяў пост ДАІ. Паблізу было міні-кафэ з назвай "Вецярок", каб вадзіцелі маглі чаго-небудзь папіць, а пасажыры – перакусіць.

У нейкі час у кіраўніцтва ДАІ пайшлі скаргі на тое, што дзяжурны інспектар, капітан, бярэ паборы з вадзіцеляў. Вырашылі праверыць, удакладніць, устанавіць і перасекчы гэтую агідную з'яву. Накіравалі маёра ў цывільным. Той пад'язджае, наўмысна трохі перавышае хуткасць. Інспектар узмахам жэзла спыняе машыну. Патрабуе правы. Грозна шчоўкае шчыпчыкамі, каб пракалоць дзіркі.

– Грамадзянін, вы парушаеце. Перавысілі хуткасць руху. Дык што будзем рабіць? – з намёкам пытаецца ён.

Маёр у цывільным просіцца:

– Камандзір, прабач, спяшаюся па справах. Давай разбярэмся мірна. Колькі?

І вымае гаманец з грашыма.

– Я хабар не бяру, – рашуча кажа капітан. – А вось шклянку каньяку мне возьмеш. Хадзем у "Вецярок".

Зайшлі. Шафёр заказаў, аплаціў. Той выпіў.

– Вы свабодны, – кажа павесялелы інспектар.

– Затое вы не свабодны, – адказвае маёр і прад'яўляе сваё пасведчанне. – Паедзем у ДАІ на разборку. Сядайце ў маю машыну.

У ДАІ інспектар усяляк адмаўляе сваю віну.

– Нічога я не піў. Я увярозы, чысты, як шкелца.

– Вы пры мне выпілі поўную шклянку каньяку, што змусілі мяне заказаць, – настойвае маёр. – Я ж не сляпы.

– А я не дурны, – парыкуе капітан. – Зніміце экспертызу.

Далі падзьмуць у трубку – яна нічога не паказвае. Дзіва дзіўнае! Як даказаць?

Пакуль валандаліся – дадумаліся пасля ўзяць аналіз крыві. А ён і паказаў прысутнасць алкаголю.

Як высветлілася пазней, дзялок быў у змове з буфетчыцай кафэ. Вадзіцель плаціць, яна вымае распачатую бутэльку з каньяком (як быццам), і налівае. А там, аказваецца, звычайная кава. Па колеру ж падобныя. А выручку за дзень дзялілі на дваіх.

У выніку капітан вылецеў як корак з работы, а буфетчыцы ўкляпалі салідны штраф за саўдзел у супрацьпраўных дзеяннях.

Як кажуць, колькі вяровачка ні віецца, а ўсё роўна ўрэшце парвецца.

## УДРУЖЫЛІ

***(бытавое)***

З Зосяй Антонаўнай мяне здаўна яднаюць сяброўскія адносіны і творчая супольнасць. Нягледзячы на значныя гады, яна заўжды рухавая, энергічная, вясёлая. Яе муж Пятро Мікалаевіч – сур'ёзны, разважлівы і часам усмешлівы. Я, бывала, жартаваў:

– Я – Мікалай Пятровіч, а ты – Пятро Мікалаевіч. Значыць, ты, мусіць, мой сын?

Ён са здзіўленнем адказваў:

– Ну, што ты, Міколка, як я магу быць тваім сынам, калі мы – аднагодкі, равеснікі?

І вось аднойчы яны запрашаюць мяне ў госці, сядзім, частуемся, гамонім, жартуем. Час весела бяжыць.

Напрыканцы ён гаворыць:

– Мікола, мы хочам падараваць табе скураное паліто на памяць.

Я ад радасці аж падскочыў пад столь. Ну, хто ж калі даваў мне такія падарункі?

А ён удакладняе:

– Праўда, не новае, а ношанае. Але нам яно не трэба, а ты яшчэ пакарыстаешся.

– Што ж, і за гэта дзякуй!

А хто ж табе падорыць новае? Няма дурных.

Ён выцягвае паліто. Мусіць, з нейкай дзедаўскай скрынкі. Відаць, ягоны бацька насіў – не данасіў. Але ж доранаму каню ў зубы не глядзяць. Прымерыў, прыкінуў – яно доўгае, затое вецер ногі не прадзьме. І падкладка прышчэплена – можна насіць аж да марозаў.

Узяў, падзякаваў. Павёз дамоў. Здабытак маю.

А дома пачаліся прыгоды.

Напачатку я вырашыў прачысціць паліто шчоткай і мыльным растворам, цёплай вадою. І тут пачалі вылазіць плямы ўсіх колераў вясёлкі: чорныя, белыя, сінія, зялёныя, рудыя. Як жа іх замазаць, падвесці пад адзін чорны колер? Параілі купіць аэразольную фарбу і папшыкаць ёю. Пайшоў у краму, паказаў паліто, спытаў, як пафарбаваць, перафарбаваць. Прадавец кажа:

– Не бярыце гэтую аэразоль. Ваша паліто трэба прамыліць, прамыць, пражыраваць і пафарбаваць у фабрычных умовах. Так што ідзіце ў фірму "Хімчыстка-афарбоўка".

Пайшоў у Дом быту. А там кажуць:

– Гэта будзе каштаваць вам трыццаць тысяч.

Нішто сабе кошт!

Жонка здзіўлена адказала:

– Мікола, за гэтыя грошы ты купіш на рынку ў Ждановічах неблагую новую куртачку. Нахалеру табе дурныя расходы:

А ўва мне здаўна тоіцца дух рэстаўратара. Каб з рознага абы чаго зрабіць ляльку, прыгожую і ўвогуле патрэбную рэч. Купіў за 10 тысяч тую аэразоль, а там – і кістка. Папшыкаў, памазаў і спіну, і перад, і ніз, і верх, і па швах, і па згібах. Бачу – прыгожа зайграла, і выгляд мае як быццам.

Аднак недагледзеў, бадай, самага важнага. Пад левым рукавом і шво, і вакол яго ўсё згніло, струхнела. І як гэта рамантаваць? У майстэрні, калі і возьмуць, то каштаваць будзе, відаць, зноў жа тысяч трыццаць – і за скуру, і за шытво. Але кемлівасць дапамагла. Знайшоў у шафе сярод абрэзкаў кавалак скуры, змусіў жонку тонка, акуратна прышыць – і ўсё атрымалася.

Цяпер, калі выходжу на двор у гэтым скураным паліто, суседзі здзіўляюцца – захапляюцца:

– Ну, ты даеш! Выглядаеш, як супрацоўнік праваахоўных органаў мінулых гадоў, як у кіно. Не хапае толькі пісталета за поясам ці пад пахай.

А жонка дзівіцца:

– Вось дык сябры ў цябе! Гэтую рэч трэба было даўно выкінуць – вынесці на двор і пакласці на лаву або павесіць на дрэва. Бамжы зараз жа забралі б і яшчэ былі б удзячныя. І то не кожны. А твае замест таго вырашылі падарыць паважанаму чалавеку.

Гэтае паліто можа выратаваць ад дажджу, ветру і невялікага холаду. Але ж куды ў ім можна пайсці – на двор, у краму, на рынак, у поле, у лес. Толькі ж не ў госці.

Ну, нічога. Калі пайду ў прыстойнае месца, ці на госці, дык у мяне ёсць новае, прыгожае паліто.

Сваё, не доранае.

# І ПАЖЫЛЫЯ МОГУЦЬ ЖЫЦЬ ВЕСЕЛА

У суседнім двары ў мяне ёсць сямейныя сябры: Юзэф Станіслававіч – я яго называю пан Юзэф, і ягоная жонка Разалія Якаўлеўна. Прыемныя, гаваркія, добразычлівыя. Ён – невысокі, лысы і кульгавы. Яна – маленькая і хударлявая. Калі ідуць удваіх – яго нельга ад яе адарваць, каб сагітаваць на нешта – яна не адпускае. Затое калі адзін, то можна згуртавацца, каб развеяць думкі і клопаты.

Ідзем з жонкай і сустракаем іх. Пан Юзэф пытаецца:

– А ці ходзіце вы ў наш Дом ветэранаў, ці часта?

– Зрэдку заходзім, – адказваю. – Там жа бываюць цікавыя канцэрты – і бясплатныя, і па нізкіх ці ўмераных цэнах.

– А на танцы ў выхадныя дні не ходзіце?

– Нешта не дадумваліся.

– А мы з Разаліяй Якаўлеўнай заўсёды там. Весялімся, культурна адпачываем. Прыходзьце і вы.

“Як жа ён – невысокі, лысы і кульгавы – ды ходзіць яшчэ на танцы? – падумаў я. – І з кім жа там ён танцуе? Хіба толькі з жонкай...”

Аднойчы выйшаў з дому, і на рагу нашага гастранома сустракаю гэтага сябра.

– Мікалай Пятровіч, – кажа ён, – вось у мяне ёсць пляшачка гарэлкі, дык ты выпі палову, а я схаджу ў магазін, вярнуся і дап’ю астачу.

Ёсць такія плоскія бутэлечкі грамаў па 200—350, у якіх прадаецца каньяк, настойкі, гарэлка. Гэта вельмі зручна і па цане, і па ўмяшчальнасці ў кішэні. Я не звярнуў увагі на велічыню і ўмяшчальнасць, раскаркаваў і прыклаўся. Звычайная мая мерка пры выпадковай сустрэчы – тры глыткі. На бутэлечку не гляджу, а пазіраю ў неба, рыфмы шукаю. Зрабіў тры глыткі, і адчуваю поўную бязважкасць у руцэ. Гляджу – а бутэлечка-то як франтавая стограмоўка. А я прырваўся! Мне стала вельмі няёмка.

І тут падыходзіць сябар.

– Прабач, пан Юзэф, – збянтэжана прамовіў я. – Не заўважыў, што тут толькі сто грамаў, і выпіў усё.

Той спачатку як бы зазлаваў, а пасля заўсміхаўся і сказаў:

– Нічога, Міколка, я зараз схаджу зноў у краму і вазьму паўлітэрку. Тады ўжо нам хопіць.

Так і зрабіў. Каб не турбаваць жонак, мы знайшлі ўтульнае месцейка на прыродзе непадалёк і няспешна грунтоўна пасядзелі і пагаманілі.

Аднойчы ў выхадны дзень пайшлі з жонкай у парк Чалюскінцаў. Прагуляліся, а потым зайшлі на танцпляцоўку. Кружыліся ў вальсах, танцуем танга і факстроты. Публіка ў асноўным у гадах. Але ўсе рухаюцца жвава. А пасля бачым – тут і пан Юзэф з ягонай Разаліяй. І так выкручваліся ў танцах, такія выкідвалі фартэлі – маладзейшыя дзіву даваліся. А між танцамі ён ходзіць кандыбоберам, як певень сярод курэй.

Вось вам і пажылыя! Душой заўсёды маладыя. Радуюцца жыццю, пакуль у сэрцах гарыць агонь. А іншыя бываюць маладыя, а душой – старыя.

Не спяшайцеся старэць!



# НЯЎДАЛАЕ СВАТАЎСТВА

Пятро Пятровіч быў начальнікам аддзела радыялогіі. Часта выязджаў у забруджаныя раёны, праводзіў даследаванні, пісаў заключэнні, рабіў навуковыя высновы і прапановы. Чалавек сярэдніх гадоў, адстаўнік. Вельмі, калі не занадта сур'ёзны і на выгляд суровы. Адзінокі.

У нашым аддзеле працавала Наталля Пятроўна. Таксама сярэдніх гадоў. Поўненькая, ёменькая, усмешлівая, гаваркая. І таксама адзінокая.

Вось і з'явілася ў мяне думка звесці іх у адну сям'ю. Яны б удала дапаўнялі адно аднаго: ён па характару меланхолік, яна – сангвінік (энергічная, вясёлая). Яна б разварушвала яго, ён стрымліваў бы яе.

Выйшаў з прапановай на яго.

– Хопіць табе жыць у адзіноце. Ведаеш нашу Наталлю Пятроўну? Зрабі зарэмбаўскія падкаты да яе. Разам весялей будзе. І на работу, і з работы будзеце хадзіць разам, узяўшыся за рукі і з песняй, як піянеры. Будзе другая маладосць.

– Мікола, не тлумі галаву, – адказаў ён. – Позна гэтым мне займацца. Не маладзён. А разам жыць і працаваць – гэта было б залішне.

Вось якая рацыянальнасць! Пры такой разважлівасці цяжка дайсці да гарачых пачуццяў.

Ну, нічога, выйду на яе. Можа, вынік будзе лепшы.

– Наталля, ведаеш Пятра Пятровіча? Такі відны і салідны, самастойны. А што, калі бы вам згуртавацца, згарбузавацца ў адну сям'ю? Так сказаць, і радасць, і гора дзяліць на дваіх? А мужчына ж – апора ў сям'і.

– Што вы, Мікалай Пятровіч, гэта было б і няёмка, і непрыгожа.

– А што ж тут благога? Ты – Пятроўна, ён – Пятровіч, і я быў бы сват – таксама Пятровіч. Магутнае было б трыо.

– Дык мужчына ж павінен зрабіць першы крок, – адказвае яна.

– Для гэтага ён занадта сціплы і спакойны. Ну, нехта ж няхай зробіць гэты самы першы крок насустрач, – настойваю я. – Бяры ініцыятыву ў свае рукі.

– А як гэта? – хоча ўдакладніць.

– Прымяні ўсе свае жаночыя чары. “То ласкамі, то казкамі, папрокамі, намёкамі” – памятаеш, як у оперы Даргамыжскага?

– А калі больш канкрэтна? – цікавіцца яна.

– Як казаў Кашпіроўскі, даю ўстаноўку. Вось ён ідзе насустрач. А ты ідзеш лёгкай паходкай свабоднай жанчына. нага прамая, рука – паралельна з нагой. На твары робіш загадкавую ўсмешку. Лёгкае віхлянне ніжнім бюстам. І – падміргваеш, падміргваеш, падміргваеш... Праз пяць сеансаў такіх сустрэч ён – твой.

– Ну, вы навучыце! Ён падумае: зусім здурнела баба.

– Што ж, тады вырашайце самі, калі такія сціплыя.

Так і не адбылося маё сватаўства.

Не слухаюць парады разумных людзей – дык няхай блукаюць у цемры адзіноты.



# Дзе ты?..

ГУМАРЭСКА



# ТО – НА ВОЛІ, ТО Ў НЯВОЛІ

На рагу нашага і суседняга двароў жыве стары Сяргей Якаўлевіч, былы загадчык жыллёвага аддзела райвыканкама. Вялікі аматар чаркі, але і працавіты, рукі залатыя. Можа сябрам, суседзям такі рамонт кватэры адгрукаць – захістаешся! І хутка, і не дарага. Толькі калі яго не сарве чарговы запой.

Запоіны ў яго працягваюцца роўна паўмесяца. Дакуль хопіць грошай, затым паўмесяца – не вылазіць з хаты. Кажуць, што жонка купіла яму ці то ланцуг, ці вяроўку – і прывязвае яго за ножку ложка, каб выйсці з кватэры не змог. І нават да тэлефона не дапускае.

Бывала, званю па справах. Каб кафлю пакласці, на кухні ці ў ванне. Альбо дзіркі прасвідраваць у сценах – затым бялізну вешаць. Ці падлогу ўмацаваць. Ды ці мала што яшчэ? Жонка Клава бушуе:

– Чаго ты звоніш-барабаніш? Каб напаіць яго?

– Ды не, – адказваю, – каб не басцяўся без справы, а зрабіў у мяне дробны рамонт. Заадно і зарабіў трохі. А калі захоча напіцца, то зробіць гэта і без мяне – сабутэльнікаў хапае. А свіння гразі заўсёды знойдзе.

– Ён спіць п'яны.

Калі не пазвані, яна заўжды так адказвае. І яна маніць. і ён маніць, і ўнука прывучылі. Уся сям'я маніць.

Затое калі грошай няма, а горла перасохла і ў галаве шум непрыемны – бяжыць да нас, каб пазычыць. Праз дзён два – зноў. Затым – з такой жа просьбай. Аддае ж – месяцы праз два. Кажа – забыўся. Запісваць трэба!

Пытаюся:

– Чаму ж ты не пазычыш у сваім пад'ездзе, доме?

– Ніхто не дае.

– Значыцца, ведаюць, як п'янюка.

Іншым разам разважаю з ім:

– У вас з жонкай пенсіі, і ў нас з жонкай пенсіі. Твая да таго ж працуе. Дык чаму ты ідзеш пазычаць ў маёй, а не бярэш у сваёй?

– Мая не дае.

– Чаму?

– Бо ведае, што прап'ю.

– Дык скажы ёй: я ўсё роўна прап'ю. Толькі напазычаю хоць у каго. Аддаваць жа ўсё роўна давядзецца з пенсіі. Ты нічога не выйграеш. А ўвогуле, Сяргей Якаўлевіч, адкладзі з пенсіі тысяч сто – табе хопіць на кожны дзень на бутэльку віна і пачак цыгарэт з фільтрам. І ні ў кога не будзеш прасіць, і не палезеш у пазыку.

Быццам бы згаджаецца, але па-свойму распараджаецца.

Раіў жа яму:

– Паспрабуй уладзіцца на працу. Ёсць дзе нават у нашым двары. Элементарна – хоць бы дзяжурыць. Ёсць знаёмыя дзяды гадоў па 70 – 75, і то ходзяць на такую работу. Быў бы і занятак, і заробак.

Казаў, што хадзіў і афармляўся, і бралі. А потым кажуць:

– Э-э, вы былі на высокай пасадзе ў райвыканкаме. Нам не падыходзіце. (Можа, маніць).

Прычым тут гэта? Адзін мой знаёмы, генерал-лейтэнант у адстаўцы, працаваў швейцарам у рэстаране. І ўсе былі задаволены.

Збіраецца пастрыгацца. Я падказваю яму:

– Пад'едзь на вуліцу Валгаградскую. Там цырульня для пенсіянераў. Пастрыгуць за паўцанцы. Або на Чарнышэўскага – там вучнёўская. Ці на Веры Харужай – там таксама ільготная. Гэта ж выгадней.

Сустракаю, бачу – пастрыгся коратка, па-маладзёжнаму. Пытаюся:

– Пад'язджаў туды?

– Не, схадзіў у тую, што каля майго дома.

– Там жа вельмі дорага.

– Затое мяне ласкава абслужылі маладзенькія прыгожыя дзяўчаты.

– Ах ты, дзед стары, павядзеш тых маладзенькіх і прыгожых дамоў – у свае семдзесят гадоў? Ды твая Клава дасць табе такога дыхту, што аж круціцца будзеш. А што, у іншых цырульнях не працуюць маладыя і прыгожыя? А пажылыя хіба пастрыгуць горш, чым маладыя? У іх жа багаты вопыт.

Але, як кажуць, сівізна ў бараду – чорт у рабро.

А ў ільготнай цырульні і грошай бы сэканоміў на цэлую вялікую бутэльку віна, і на добры пачак цыгарэт з фільтрам. Заадно падвесяліўся б пасля пастрыгу.

Ну, дзед, трэба мне ўзяць цябе на перавыхаванне. Як бы гэта сказаць – не ўсынавіць, не ўунучыць, а як бы удзедзіць.

Хоць як старэйшы – ты мог бы мяне выхоўваць.

## МОЎНЫЯ БАРЪЕРЫ

Мне даводзілася бываць у службовых камандзіроўках у Дагестане.

Трэба зазначыць, што такой нацыі, як дагестанцы, увогуле няма. Ёсць пяць народнасцяў: даргінцы, аварцы, лезгіны, лакцы і кумыкі. Кожная са сваёй мовай і культурай.

Іду каля газетнага стэнда ў Махачкале. Там вісіць адна іхняя цэнтральная газета невялікага фармату на пяці мовах.

Сяджу ў сталоўцы, абедаю. Са мной за сталом адзін з мясцовых жыхароў. Размаўляем. Пытаюся ў яго:

– А як вы адрозніваеце адзін другога па нацыянальнасці? Вы ж, каўказцы, усе як бы на адзін твар.

– А для нас вы, рускія (меў на ўвазе – славяне) таксама на адзін твар.

– А як ты размаўляеш на вуліцы з кім-небудзь, асабліва калі абое не ведаеце добра рускай мовы? Ну, скажам, ты – аварац, а ён – лезгін?

– А я калі не ведаю чалавека асабіста і ў твар, то і не падыходжу, і не размаўляю з ім.

Вось дык так! У нас жа хоць стаіш на прыпынку, хоць едзеш у транспарце, ці ідзеш па вуліцы, то вельмі проста разгаворышся з кожным і на любую тэму – па справе, ці без справы. А ў іх такія абмежаванні і размежаванні па мовах.

Каўказ жа шматнацыянальны. Тым больш – і Паўночны, і Паўднёвы, і Закаўказзе: цэлы кангламерат народаў і адпаведна моў.

# ВЫДАВЕЦКІЯ КАЛДОБІНЫ

## *(прыгоды бывалага літаратара)*

Я падрыхтаваў да здачы ў друк рукапіс маёй новай кнігі – том старонак на трыста пяцьдзесят, і пачаў думаць, каму здаць у работу. Выдавецтва "Белдрукстук" я ведаў даўно. Яно як бы пры дзяржаўнай установе і, з другога боку, як бы камерцыйнае. Дырэктар з дзіўным і рэдкім прозвішчам і імем Варлен Карабут і рэдактарка Ірэна Вінніцкая. Такія мілыя на выгляд людзі. Я дзяліўся з імі творчымі планамі, а дырэктар бадзёра адгукаўся і прапаноўваў:

– Мікалай Пятровіч, выдавайцеся ў нас. Выпусцім і хутка, і якасна, і танна, арганізуем паездкі, рэкламу і распродаж.

Прынёс рукапіс. Разгледзелі, ухвалілі, прынялі, тыраж абумовілі – шэсцьсот экземпляраў. Не шмат, але па сённяшніх мерках няблага. Сышліся ў цане кнігі і суме выпуску.

– А тэрмін выканання які? – удакладняю.

– Ад аднаго да трох месяцаў.

У адзін месяц я не паверыў, а тры мяне зусім задавальнялі. Адразу ж унёс аванс і пачаў чакаць.

Чаканне бывае разнае, але для мяне яно было прыемнае.

Пісьмовую дамову не заключалі – гэта выгадна і зручна выдаўцу, бо дае магчымасць распараджацца грашыма на свой погляд, а мне было ўсё роўна, абы кніга выйшла. Між намі было дасягнута, як кажуць, джэнтльменскае пагадненне (на даверы). Заставалася толькі выконваць яго.

Пайшоў, пабег час, жорны закруціліся. Але круціліся яны вельмі павольна, бо, як я пазней разабраўся, выдаўцу было зручней і выгадней кляпаць за немалыя грошы маленькія кніжачкі-брашуркі, чым за нармальную аплату больш ці менш салідны том.

Першую карэктуру далі мне на вычытку і праўкі пад канец найбольшага ўмоўленага тэрміну – праз два з паловай месяцы. А другую – аж праз чатыры месяцы пасля таго, у сярэдзіне лютага. Першы набор я забіраў і заносіў у выдавецтва, а з другой карэктурай літаральна замучыўся, бо мяне змусілі ездзіць на другі канец горада да наборшчыка. Даводзілася дабірацца розным транспартам, у тым ліку і на

маршрутным таксі. Першы раз у тых кутках мы з жонкай дзве гадзіны блыталіся ў пошуках той вуліцы і таго дома. Ледзь не акалелі на марозе. Давялося ездзіць яшчэ пару разоў: узяць – завезці – правезці – аддаць, бо наборшчык аддаваў матэрыялы па частках. Нашто мне былі такія турботы? Ды гэта ж – не мае абавязкі, а выдаўца.

Калі я здаваў рукапіс і мы дамаўляліся, я папярэдзіў дырэктара:

– Творчай работай над кнігай вам не трэба будзе займацца. Адрэдагаваў я сам, дый амаль усе творы прайшлі перыядычны друк, і старэйшы сатырык падрэдагоўваў. Укладанне твораў правёў таксама сам. Мастацкае афармленне падбіраў сам. Карэктуру рукапісу зрабіў сам. Так што вам застаецца чыста тэхнічная работа: вёрстка, набор, потым друк-стук, друкаванне. Ну, і папера ваша.

Прамінулі яшчэ чатыры месяцы, а ў справе ніякіх зрухаў. Да таго ж дырэктар настолькі абнаглеў, што пачаў патрабаваць суму аплаты працэнтаў на сорак большую ад ранейшай, спасылаючыся на тое, што прайшоў амаль год і цэны падскочылі.

– Дык чаму ж вы цягнулі столькі часу? – спытаў я. – Працягніце яшчэ год—два, то значна больш накруціце. І чаму вы год назад не заключылі са мной афіцыйную дамову і не выставілі мне рахунак? А ў дамове канкрэтна абумовілі б аб'ём кнігі, тыраж, цану, суму і тэрмін выканання заказу, і няўстойку за кожны месяц пратэрміноўкі. А калі было джэнтльменскае пагадненне, дык будзьце джэнтльменам, беражыце імідж фірмы і ўласны гонар.

Нашы спрэчкі працягваліся і па тэлефоне, і пры асабістых сустрэчах. Даходзіла і да скандалаў, добра, што не дайшло да большага. Урэшце знайшлі сярэдні варыянт аплаты, але тут адкрыліся новыя акалічнасці і перашкоды. У апошнім, трэцім варыянце вёрстка і набор аказаліся жудаснымі. У адным радку усяго тры словы, але стаяць у інтэрвале па некалькі сантыметраў адзін ад другога. Яшчэ адзін радок забіты крыжыкамі. Апошні радок вершаванай страфы перанесены на другую старонку. У прозе – гэтак сама, да таго ж, назва твора на адной старонцы, і твор – на другой. Хто гэта

так друкуе? Да таго ж шрыфт настолькі дробны, што маім чытачам давялося б купляць ці акуляры, ці лупы, ці нават мікраскопы.

– Зрабіце буйнейшы шрыфт, – патрабую.

– Тады вырас бы аб'ём значна, і кошт.

– Які аб'ём ні быў бы, я заплаціў бы. А ў вашай уласнай кніжачцы шрыфт вельмі чытабельны, сябе не забылі.

Дырэктар Варлен Карабут пахвальваўся, што ў яго ёсць ці то яўная, ці ў нейкім падвале падпольная друкарня. Але, як высветлілася, ніякай друкарні няма. Ён сам шастае па горадзе і за горадам у пошуках друкарняў.

Да таго ж прызнаўся, што ў яго арыштаваны разліковы рахунак. Як можна мець справу з такой фірмай? Горшай чым калгасная ферма.

Аднак у жыцці здараюцца і светлыя праблескі. Сустракаю сяброў. Гаманілі пра жыццё, пра справы, пра кнігу. Распавядаю пра цяжкасці. Яны мне і кажуць:

– Міколка, не сумуй. У нас ёсць сваё, даволі вядомае выдавецтва "Дабрадзеі". Прытым недалёка ад цябе. Забірай адтуль свае манаткі, шыбуй да нашае хаткі. Выдадзім і хутка, і танна, і якасна – вышэйшы клас.

Адзін пытаецца:

– Як ты мог улезці ў такое балота?

– Я ж не ведаў, што там такая багна.

Другі кажа:

– Яны што там – стукнуліся ці дзеўбануліся – улезлі ў такую паганую гісторыю з вядучым сатырыкам-гумарыстам?

Я нічога не змог адказаць, і толькі пацяпнуў плячыма недаўменна.

Забраў у "Белдрукстукаўцаў" рукапіс, набор, дыск, якія яны з цяжкасцю расшуквалі (на жаль, аванс не забраў, хоць яны апроч прыкрасцей нічога мне не зрабілі) і перадаў "Дабрадзеям". А тыя так энергічна ўзяліся за справу, што прымусілі "Белдрукстукаўцаў" перабраць і вёрстку, і набор, і шрыфт.

– Вы што, вядомы ўсім аўтар плаціць вам грошы, а вы выдаеце заведамы брак? Як вам не сорамна!

Два тыдні не вылазілі ад іх, але прымусілі перарабіць. А далей пайшло-паехала, як па наезджанай каляіне. "Дабрадзеі"

абкружылі мяне цяплынёй, увагаю і ласкай. Нянчылі, як дзіця малое. Я нават ні разу не быў у іх на фірме, яны самі падскоквалі да мяне на сваёй машынцы – то начальнік вытворчасці, то дырэктар – каб удакладніць усе падрабязнасці і нюансы выдання кнігі. У выніку неўзабавае выйшла кніга на ціп-топ. Камар носа не падточыць. Фаліянт бліскучы! Як кажуць чытачы. І калегі таксама. Паўсюдна далі выдатныя прэзентацыі.

Раней я падкідваў "Белдрукстуку" аўтараў – сваіх сяброў, вучняў па літаратуры. І ўсе яны скардзіліся мне на выдавецтва:

– З кім ты нас звязаў?

Адну пажылую паэтку давялі ледзь не да інфаркту – узялі вялікія грошы, цягнулі доўгі час, і нарабілі шмат памылак. І мне дасталося: прывёў сябра – вучня з кніжачкай на 120 старонак, быў рэдактарам і ўкладальнікам, а пасля выхаду ў свет чытаю ў выхадных даных: рэдактар і карэктар Ірэна Вінніцкая. (Яна ўжо – жонка дырэктара. Зразумела?) А хто даваў згоду? Аўтар кажа – не даваў. І я не даваў. Вось якія шэльмы! А з яго сарвалі немалые грошы.

Так што больш я не буду падкідваць ім аўтараў, наадварот, буду ўсяляк засцерагаць.

А яшчэ ёсць выдавецтва з гучнай назвай "ГОП, ТУП, СТОП!" Не раю з ім звязвацца. Бо так нагопаецеся, натупаецеся, а кніга застопарыцца на доўгія гады.

Карацей кажучы, калі збярэцеся прапанаваць свой рукапіс кнігі ў нейкае выдавецтва – разведайце, што яно і якое яно. Каб горка не памыліцца. І не шукаць пасля іншых выдаўцоў.

Дзялюся сваім багатым вопытам.

Парады даю бясплатна.

## ЗАЕЎСЯ

Сустракаюцца двое сяброў, якія раслі ў адной вёсцы, хадзілі ў адну школу, але шмат гадоў не бачыліся. Першы кідаецца да другога, каб сціснуць яго ў моцных абдымках.

– Прывітанне, дарагі Пятрусь! Як справы, здароўе? Пазнаеш? Гэта ж я, Антось.

Другі з гонарам адказвае:

– Я вам не Пятрусь, а Пятро Пятровіч. Трэба трымаць субардынацыю.

Першы вельмі здзівіўся, сумеўся, і адказаў проста, па-селавому:

– Дык пайшоў ты к чортавай матары, Пятро Пятровіч! Для сваіх падначаленых ты, можа, і генерал, а для мяне – былы сябар, а цяпер – ніхто. Бач, падрос, вырас, асабліва ў сваіх вачах, начальнікам стаў, раз'еўся на дзяржаўных харчах, заеўся. Нельга такіх, як ты, дапускаць да высокай пасады і ўлады. Так што шыбуй сваёй дарогай, а я пайду сваёй, прамой. Спадзяюся, больш не ўбачымся.

На тым і разышліся. Розныя ў іх паралелі і мерыдыяны.



## ШТРЫХІ ДА ПІСЬМЕННІКАЎ

Паэт Алесь Ставер ехаў на творчую сустрэчу. Час прыспешваў, таму ён ціснуў на газы, імчаў ваўсю.

Яго спыняе інспектар ДАІ.

– Старшына Жэўжыкаў. Грамадзянін, вы парушаеце правілы дарожнага руху.

– Я – паэт, спазняюся на выступленне, – апраўдваецца Ставер.

– Зараз я буду выступаць перад вамі. Вы значна перавысілі хуткасць руху і ствараеце аварыйную сітуацыю. Магчымы дарожна-транспартныя здарэнні. Папрашу вашы правы.

Алесь Сяргеевіч падае дакументы і пытаецца:

– Паслухай, Жэўжыкаў! Ты чуў песню "Жураўлі на Палессе ляцяць"?

– Канешне, чуў.

– Ну і як?

– Падабаецца, і нават вельмі. Люблю гэтую песню.

– Дык вось я – аўтар гэтай песні.

– Няўжо?

– Алесь Ставер. Паглядзі ў дакументах. Адпусці мяне, а я тут жа падпішу і ўручу табе сваю кніжачку з гэтай песняй.

Падпісаў, падараваў і кажа:

– Жэўжыкаў, калі я буду ехаць іншым разам – каб ты мяне не затрымліваў нідзе. Абяцаеш?

Той узяў пад казырок і адказаў:

– Ды ўжо ж пастараюся...

–*–

Стары сатырык Эдуард Валасевіч любіў выступаць падоўгу. Як завядзецца – не спыніць. А з ім жа яшчэ некалькі пісьменнікаў – і ім трэба час.

Аднойчы сядзяць на сцэне за сталом, выступаюць пачаргова. Эдуард Станіслававіч кажа таварышу, што сядзіць побач:

– Калі я забудуся і зацягну час – ты наступай мне на нагу.

Чытаў, чытаў свае байкі – і зноў завёўся. Таварыш цісне, цісне на яго нагу – ніякай рэакцыі. Тады тузануў яго за рукаў. Валасевіч зразумеў, скончыў свой выступ і нарэшце сеў.

Пасля аказалася, што калега ціснуў на яго не здаровую, а на інвалідную нагу.

Пратэз падвёў.

## А ЯК ПА-НАШАМУ?

Сабраўся гурт людзей, і гамоняць пра markdown рознае. Адзін пытаецца:

– Цікава, а як па-нашаму, па-беларуску гучыць слова “чай”?

Другі адказвае:

– Гарбата.

Трэці ўдакладняе:

– Не, гэта па-пальскему. А па-ангельску – “тэа”. Англічане ж вякамі валодалі Індыяй, і ўжывалі гэты цудоўны напой.

– І ўсё ж як па-нашаму называецца чай? – дамагаецца ўведаць чацвёрты.

– Ды ніяк, – адказвае пяты.

– А чаму?

– А таму, што ў нас чай ніколі не рос. Прабабулі заварвалі чаборам – для колеру, духмянасці і смаку. Дадавалі і мяту – для сэрца, ды іншыя травы і расліны – наготкі (календула), кіпрэй (Іван-чай), кветкі ліпы, яны ж – ад прастуды. І самае рознае. Свайго хапае.

І гэтыя заваркі надавалі сілу і бадзёрасць нашым продкам.

Так што далёка Індыя і Кітай, а нам – народнае, прыроднае – давай!

## ЛЕПШ БЫ – ВЯРШЫНІН

У нашым рэспбуліканскім Доме літаратара ёсць унутраны закрыты дворык, такі невялікі адносна, але ўтульны, з вадаёмчыкам і фантанчыкамі, і вялікія каменні – валуны ляжалі. Калі праводзіліся творчыя сустрэчы, дні нараджэння ці юбілеі пісьменнікаў, то можна было ў кафэ адзначыць, а потым спусціцца ў перапынках у дворык, перакурыць, пагаманіць. А ў цёплыя поры года і ў самім дворыку збоку, уздоўж сцяны столікі ставілі.

Аднойчы ў нашым доме чуўся шум і гам, грымела музыка ваўсю.

Іван Чыгрынаў быў сакратаром Саюза пісьменнікаў. І пытаецца ў калегаў:

– Што гэта такое ў нас робіцца? Аж гудзе ўсё.

Адзін кажа:

– Нейкі дзялок-фірмач спраўляе сваё вяселле. Зняў нашы памяшканні.

Другі выносіць сваё меркаванне:

– Лепш бы справілі тут вяселле Міколы Вяршыніна.

Іван Гаўрылавіч згодна кіўнуў галавой:

– Ну, Вяршынін – гэта яшчэ Бог з ім. Гэта ўсё ж – літаратура. Наш чалавек. А то нейкі абы хто раскашуецца. Гудуць, галякуюць.

Што, не маглі багацеі зняць залу ў рэстаране?



## АБОЕ – АДНОЛЬКАВЫЯ

Мой сябар Хведар, журналіст, быў невысокі і гарбаты, прытым з абодвух бакоў. Але разумнік вялікі. А сяброўка, з мілым імем Люда – мастачка, яшчэ і вершы складала – таксама малаватая і гарбаценькая.

У мяне неяк узнікла гуллівая думка запрасіць іх абоіх да сябе на госці і паназіраць, як бы яны глядзелі адно на аднаго. А мо сышліся б, пажаніліся? Адна бяда, абое – творцы. А пасля перадумаў. А што, калі б яны накінуліся на мяне і дружна набілі са словамі:

– Навошта ты звёў нас, нягоднік? Каб паздзекавацца і насмяяцца? Дык мы зараз устроім табе такі смех – плакаць будзеш. Пашчу парвём!

А яшчэ хацеў паклікаць дзвюх таленавітых, магутных целам жанчын – тэлежурналістку Элеанору Язерскую і папулярную спявачку Надзею Мікуліч. Яны занялі б у мяне палову кухні. І абедзве ж гаваркія і галасістыя. І сам я не ціха размаўляю. Вось быў бы базар!

Аднак не асмеліўся, бо і яны б угледзелі насмешку над сабой, і мне перапала б на арэхі. Пара аплявух ад іх моцных рук, і я ўпаў бы пад стол.

Нашто мне такія зводы і звады, гэткія дурныя жартачкі?

Няхай жывуць самі па сабе, і мне спакайней будзе.

Як кажуць, не дражні гусей.

А то ж – не гусі, а не менш, як індыкі. А маглі б ператварыцца ў каршуноў.

Разумней – паберагчыся.

## ВОСЬ ДЫК СЯБРОЎСКАЯ СУСТРЭЧА

Андрэй Іванавіч – мой даўні сябар, дырэктар фірмы. Едзем з ім да яго дому. Ён нешта выгрузіў, паставіў машыну і прапануе:

– Давай накіруемся да Камароўскага рынку. Там пасядзім і культурна адпачнём – хоць у адным з міні-бараў, хоць пад навесам, на свежым паветры.

– Хадзем на аўтобус, – прапаную я.

– Не трэба ехаць, – адказвае ён. – Прагуляемся пехатой.

Пайшлі. Пакуль выйшлі на вуліцу Веры Харужай, затым па гэтай вуліцы – пратупалі кіламетры два, прайшло больш за паўгадзіны.

Ён узяў сямісотграмовую бутэльку дэсертнага віна і кажа:

– Зараз пазваню сябру, калегу, ён падскочыць, і мы пасядзім утраіх.

Звоніць па мабільніку.

– Здароў! Ты зараз дзе?

– У цэнтры.

– Дык хуценька кіруйся да Камароўскага рынку, сустрэнемся каля фантана.

Чакалі з паўгадзіны.

– Ты чым дабіраўся? – пытаюся. – Можа на кані? Я за гэты час з цэнтра пехатой прыйшоў бы.

Заказалі па кавалачку куры, селі пад навесам. І тут – праблема: як раскаркаваць пляшку? Корак з пробкавага дрэва. Штопара ні ў кога няма. Ёсць майстры – моцна стукаюць у дно бутэлькі, яна раскрываецца. Але не кожны ж умее. Да таго ж дно бутэлькі можа адкалоцца. Адзін з нас вялікім пальцам загнаў корак далёка ў рыльца пляшкі. Але атрымалася яшчэ горш: корак упёрся ў віно, вельмі шчыльна, і ні ўверх, ні ўніз. Па законах навукі сапраўды з якой сілай ціснеш на нейкае цела, з такой жа яно адціскае назад.

Зайшлі ў бар, папрасілі штопар. А ён ужо не дастае таго корка. Бармен кажа:

– Чаму ж вы адразу не зайшлі да мяне? А цяпер разбірайцеся самі.

Замучыліся з гэтай бутэлькай. Хоць ты выкінь яе, хоць разбі. Узялі б другую пляшку з вартнейшым напоем, і знялі б дурны клопат.

Аглядзеўся наўкола, бачу – на бліжняй лаўцы сядзяць некалькі мужыкоў, адзін з іх з выгляду як бомж.

– Падыду да таго, – кажу сябрам, – у яго павінен быць нож.

Падышоў, папрасіў. Ён з гатоўнасцю выняў і падаў мне.

І зноў прыгоды. Доўга калупаліся тым нажом, пакуль раскалупалі пробкавы корак на дробныя частачкі. Пасля злілі зверху і пачалі наліваць.

Я прапаную:

– Трэба нешта даць бамжу за дробную паслугу.

Адзін даў пяцьсот рублёў. Другі дадаў столькі ж, і я – таксама. Я вярнуў чалавеку нож і даў грошай. Ён узрадаваўся:

– Дзякуй, дзякуй. Я вазьму куфель разліўнога піва.

Сядзім, размаўляем. Дакладней, яны гамоняць пра свае рабочыя справы, а мне гэта нецікава. У мяне вершы ў галаве.

Выцадзілі гэтую бутэльку. Працягу не было. Андрэй Іванавіч кажа мне:

– Ну, добра, Мікалай Пятровіч. На рагу рынку развітаемся. Мы пойдзем далей па сваіх справах, а твой дом тут непадалёку. Будзь здаровы.

На тым і скончылася наша сяброўская сустрэча.

Толькі я не зразумеў: навошта я біў свае ногі і час? Каб выпіць шклянку дэсертнага віна?

Не мой маштаб!

Але нічога.

Даабедаў дома.

Іншым разам абышлі ўвесь квартал у пошуках мадэнецкага напою, а знайшлі ў гастраноме каля майго дома, што я адразу прапаноўваў. Навошта было ногі біць больш чым гадзіну?

# СЯМЕЙНЫЯ, ЛЮБОЎНЫЯ ВУЗЛЫ

***(альбо вуглы)***

Любоўны трохкутнік усім вядомы даўно – і па раманах, і па кінафільмах, найперш – з жыцця. Двое хлопцаў закахаліся ў адну дзяўчыну, ці двое дзяўчат – у аднаго хлопца, і разбіраюцца, каму з кім пажаніцца. Вынікі розныя, у асноўным – станоўчыя. Як для каго. Але гэта адбываецца ў юнацкія ці маладыя гады ў большасці. І гэта натуральна для такога ўзросту.

Але каб быў любоўны трохкутнік сярод людзей перадпенсійнага ці пасляпенсійнага ўзросту – гэта ўжо дзіва. Ёсць дзеці, унукі ці нават праўнукі – а старыя шалеюць. Ці не час супакоіцца, падумаць, узяцца за розум? Канешне, калі ён ёсць. Перабушаваць жа можна было гадоў дваццаць-трыццаць-сорак назад.

Адам Іванкевіч працаваў вадзіцелем у аўтапарку. Быў настолькі багаты на каханне, што ў яго было каханак – у мяне няма столькі валасоў на галаве. Статны, магутны. А жонак – сам не памятае – пяць ці шэсць. Траянскі конь! Мае двое дзяцей і чатырох унукаў. Але я не чуў, каб калісьці наведваў іх, сустракаўся з імі, нечым дапамагаў. Хіба толькі зрэдку. Не абцяжарваючы сябе “лішнімі” клопатамі.

Апошняя жонка Зіна – адукаваная, былая настаўніца, цяпер на пенсіі, але падзарабляе ў паліклініцы. Жыве з ім шмат гадоў. Ён жыве ў яе кватэры, але не толькі не паважае гаспадыню, а нават здзекуецца з яе. Ганяе і пагражае выгнаць з яе ж уласнай кватэры. Хоць выгнаць яго сама мае права, бо ў яе – аднапакаёўка, а яна – не дзеліцца. Бушуючы пасля чарговай п’янкі, наносіў траўмы рукі і галавы, і жонцы, і яе маці. І яны ўсё гэта цярпелі. Даводзіцца здзіўляцца цярплівасці і абыякавасці Зіны.

Ёй раілі:

– Калі вы распісаны, то развядзіцеся, выпішы яго і выгані. І ключы забяры. Хай жыве, дзе хоча, як беспрытульнік. Можа, тады што-небудзь зразумее. Інакш здзек будзе працягвацца бясконца.

А яна адказвае:

– Развяліся. Міліцыя кажа: “А куды ён пойдзе? Бамжоў і так многа. Нашто пладзіць іх яшчэ больш?”

– Ну, гэта ўжо справа міліцыі, а найперш – ягоная. Вынесі яго рэчы за дзверы. Хай ідзе хоць у багадзельню, хоць на кватэру, хоць да палюбоўніц – калі хто прыме...

Ранейшая жонка Ніна. Былая работніца гандлю. Душэўны чалавек, чулая, ветлівая, сяброўская. Гаспадарчая – дачу мае, свіней трымае, грыбы-ягады нарыхтоўвае. Адам не забываецца на яе, наведвае, начуе, жыве па некалькі дзён. А паехаць на дачу, папрацаваць – ніколі!

– Ты ж ведаеш, – пытаюся ў яе, – што ён забаўляецца з вамі дзвюма?

– Ну, і няхай, – адказвае яна. – А каго мне больш шукаць? Ён пабыў, пагаманілі, пакахаліся. Я задаволена.

Нішто сабе – пакахаліся! Ёй – сёмы дзесятак, а яму восьмы. Але ж былое не забываецца, старая любоў не ржавее.

А сама скардзіцца:

– Прывалокваецца позна, п'яны, з сабранымі па дварах пляшкамі. Перад суседзямі сорамна.

– А ты не адчыняй, не ўпускай.

– Дык ён звоніць, барабаніць бясконца. Суседзі могуць выклікаць міліцыю.

– Ну, і няхай. Яго ж забяруць, а не цябе.

– Вось пабудзе некалькі дзён – вымагае выпіўку і закусь, а на адыход выкрадзе яшчэ сала, мяса, тушонку, садавіну, гародніну.

– Ты ж сама дала яму патачку – вось і радуйся.

Вось так. Пажыве ў адной, потым справіць вэрхал, едзе да другой. Пажыве там, учыніць скандал – варочаецца назад. А яны яму гэта ўсё даруюць. А ён сярод іх – як кот памаўзлівы, карыстаецца іх бездапаможнасцю. Мяккацеласць жанчын – у літаральным і пераносным сэнсе – толькі наруку яму. А яны трымаюцца за яго на зло адна другой. У выніку падманутымі застаюцца абедзве.

Будучы ў курсе ўсіх гэтых спраў, я напісаў востры фельетон і панёс яго ў адну рэдакцыю. Праз нейкі час прыходжу да загадчыка аддзела культуры і пытаюся:

– Ну, як мой матэрыял?

– А чаго ты бушуеш? – адказвае ён. – Калі і яго, і дзвюх ягоных жонак гэта задавольвае – дык і сцяг яму ў рукі! Уперад!

Незадаволены, я пайшоў да галоўнага рэдактара. А яны як змовіліся.

– Малайчына мужык. Сцяг яму ў рукі!

Іду ў другую рэдакцыю. Пачыталі. І зноў жа чую!

– Сцяг яму ў рукі!

Што гэта такое, думаю. Ці я зусім неправы, ці тут салідарнасць мужчын?

І толькі ў трэцяй рэдакцыі мяне зразумелі. Надрукавалі. Я падаў па аднаму экземпляру газеты ўсім траім "героям" фельетона. Не зразумелі. Ці не захацелі зразумець. Дарэмна стараўся.

Я раіў Зіне і Ніне:

– У нейкі выхадны дзень апраніцеся прыгожа, навядзіце марафет, прычыпурыцеся, накладзіце макіяж і паедзьце ў парк культуры і адпачынку. А там вазьміцеся за ручкі белыя і шпацыруйце па алейках. Там жа ёсць і танцы для пажылых людзей, і кіёскі, і кафетэрыі. І стрэнуцца вам пажылыя мужчыны пад ваш узрост і густ. А вы ўчапіліся ў старога нахабнага дзеда, а ён круціць вамі, як лялькамі.

Я павучаю іх, а яны – ні бэ, ні мэ, ні кукарэку.

Атрымліваецца так, што адзін дурны мужык пудрыць мазгі дзвюм разумным жанчынам. Ці наадварот: адзін разумны, хітры шэльма вешае лапшу на вушы дзвюм дурным бабам. Па сутнасці адно і тое ж. Што савой аб пень, што пнём аб саву – усё роўна баліць саве.

Адам даўно кахаўся са сваёй маладой кандуктаркай Любай, прагульваў з ёй грошы, але ніхто не ведаў.

Відаць, да дзвюх прыведзеных тут кабет усё распавяданае пра іх да іх ніяк не даходзіць.

А ўжо даўно ім трэба было рассеч гэты гордзіеў вузел. І – рашуча.

Што ж, калі мазгі курыныя – свае ім не ўставіш.

А галава і мазгі дзеля чаго нам дадзены?

Каб думаць і разумець.

А не толькі шапку насіць.



# ПСІХАЛОГІЯ

Слухаю радыёперадачу. Тэма – выхаванне падлеткаў і моладзі. Вядучая перадачы, і кансультант навуковы – жанчына сярэдніх гадоў, вучоная, кандыдат псіхалагічных навук. Дае слушныя парады, аналізуе. прапануе. Жывая сувязь з радыёслухачамі па тэлефонных званках.

Атрымліваецца агульны кірунак перадачы – даваць абсалютную свабоду падлеткам і моладзі ў паводзінах і ўчынках. Што хочуць – тое няхай і робяць. І гэта – ва ўсіх выступоўцаў. А звоняць толькі жанчыны, маці. Адна дагаварылся да таго, што кажа:

– А якая нам справа да іхніх спраў, маладых? Я ніколі не кантралюю ўчынкі і паводзіны сваёй дачкі. Не лезу ў яе кішэні, не вымаю любоўныя ды іншыя запіскі. Не слухаю іх тэлефонныя размовы. Гэта было б абмежаваннем яе свабоды. І ніколі не цікаўлюся, калі і дзе, і з кім сустракаецца.

І вядучая, і кансультантка-вучоная выступаюць у такім жа плане. І толькі напрыканцы перадачы слова ўзяў салідны мужчына:

– Страціце кантроль над падрастаючым пакаленнем – глядзіце, што з ім будзе, і каб вам гэта бокам не вылезла потым. Пашкадуеце.

Я вывучаў у двух універсітэтах дзве псіхалогіі – і звычайную, школьную, педагагічную, і – сацыяльную псіхалогію. Таму нешта (скажу сціпла) разумею. А свой вопыт і іншых людзей таксама маю. Таму магу вынесці свае навукова і жыццёва абгрунтаваныя меркаванні.

Падлеткавыя і юнацкія маладыя гады – гэта пераломны ўзрост. І тут вельмі важна асаблівая ўвага бацькоў. З кім, з якімі кампаніямі звязваюцца вашы дзеці. А кампаніі бываюць розныя. Добра, калі – спартсмены, музыкі, аматары мастацтва. А калі – хуліганы, рабаўнікі, гвалтаўнікі, алкаголікі, наркаманы, забойцы? Куды вецер выпадковых сустрэч занясе? Таму сур'ёзныя, клапатлівыя бацькі пільна сочаць за кожным крокам сваіх дзяцей, і патрабуюць, каб яны знаёмілі іх са сваімі сябрамі, кампаніямі. Каб не мелі пасля іхнія дзеці нечаканых непрыемнасцей.

Скажу больш. Нават старыя бацькі сочаць за сваімі пажылымі дзецьмі, цікавяцца іхнімі справамі, дзецьмі,

унукамі. У выпадку нейкіх цяжкасцей даюць ім дзелавыя парады. Дапамагаюць.

А што ўжо казаць пра юных, маладых? Аслабіш кантроль – невядома, у які бок яны пойдуць.

І вось вам некаторыя прыклады.

Закаханы хлопец звоніць любімай дзяўчыне, каб выйшла да яго на спатканне – у гадзіну ночы.

Яна падымаецца, апранаецца, і выходзіць.

Уранку яе знаходзяць прывязанай да прыдарожнага слупа, аголеную і згвалтаваную.

Узнікае шэраг пытанняў.

А што гэта за кавалер, які выклікае дзяўчыну ў гадзіну ночы?

А якая гэта дзяўчына, што ідзе на спатканне ў гадзіну ночы?

А якія гэта бацькі, што выпускаюць дачку ў такі позні час невядома куды?

І другі прыклад.

Маці – пажылая, дабрадушная, адзінокая, гаротная. Дачушка – маладзенькая, прыгожая, сціплая. Звязалася з кампаніяй быццам знаёмай.

Гулялі, адпачывалі, купаліся ў Камсамольскім возеры. Затым пераплылі на востраў-астравок, што пасярэдзіне возера. Адпачынак – гульня працягвалася.

А назаўтра дзяўчыну знайшлі згвалтаванай на гэтым востраве і павешанай на дрэве.

Вось вам прыклады безагляднасці дзяцей – і безнагляднасці бацькоў, абыякавасці. Вельмі дорага пасля ім абходзіцца.

Гэта – пра дзяўчат. А колькі хлопцаў і прападае, калечыцца і целам, і душой, і трапляе ў зняволенне, і гіне?

А псіхолагі – яны павінны лячыць душы, а не калечыць. І маладыя, і рознага ўзросту. Бо мы ім давяраемся.

А такія радыёперадачы, такія парады, такія антынавуковыя, антыпедагагічныя псіхолагі – яны не на карысць нам, а на зло.

## БУДАЎНІЧЫЯ ПРЫГОДЫ

Сусед Андрэй пайшоў працаваць на завод жалезабетонных вырабаў – ахоўнікам. Сустракаю яго і распытваю:

– Ну, як жыццё, як справы, як работа, як зарплата?

– Усё нармальна, як быццам, – адказвае. – Але калі іду з работы – так і цягне нешта сцібрыць. Хоць дошку, хоць фарбу, хоць шпаклёўку, хоць шпалеры, хоць кавалак ліноулема, хоць праводку. Яно-то мне не трэба – нядаўна зрабіў рамонт кватэры. Але хочацца. Ведаю ж, што пасля выкіну. Але жыву па ранейшаму прынцыпу: каб жыць у радасці і шчасці – патрэбна красці, красці, красці!

– А як іншыя работнікі сябе паводзяць у вашай будаўнічай арганізацыі?

– Таксама, як і я. Расцягваюць, хто што можа. Бо зарплата маленькая. Нядаўна рабочыя прыдумалі такі фокус-мокус. Вырабілі вялізны плакат. Размалявалі, напісалі на стальным лісце:

Працаваць тут хто прывык –
Прыхапі хоць ржавы цвік.
Адміністрацыя.

Верхалазы палезлі і прымацавалі плакат наверсе заводакіраўніцтва. Балтамі замацавалі ці то прыварылі. Каб цяжка было зняць.

Уранку каля заводакіраўніцтва – натоўп працоўных. Дзівяцца, смяюцца.

Начальства прыгнала тэхніку. Плакат стальны з цяжкасцю знялі.

– А што пасля?

– Пасля – паднялі зарплату.

І ахову памянялі.

## АХВЯРА ЛЮБОШЧАЎ

Калісьці намеснікам генеральнага дырэктара буйнога завода быў Мартысь. На выгляд магутны, высокі, паўнацелы, шырокі, лысы. Як і належыць быць намесніку дырэктара па агульных пытаннях.

У нейкі час ён пакахаўся з маладой сакратаркай. Але няма нічога патаемнага, што не сталася б яўным.

І вось яго выклікаюць у парткам (а тады пільна сачылі за маральным абліччам і радавых партыйцаў, і асабліва – кіраўнікоў). І выхоўваюць:

– Калі ўжо вы пайшлі ў блуд, то каб хоць ніхто не ведаў. А вы ж у ўсіх навідавоку. Так што канчайце свае любоўныя прыгоды, бо можаце зляцець і з высокай пасады, і зарплаты.

Ён абышоўся тым, што перавёў на другую работу – далей ад сябе, але і кватэру ёй "выбіў". І працягваў сустракацца патаемна.

Работа, нарады, дзелавыя сустрэчы, банкеты. Да таго ж – любоўныя спатканні. Якое ж сэрца вытрымае? У выніку – інфарт, бальніца.

Толькі вылез з лячэбніцы – без роздыху папёр адразу да палюбоўніцы. Узяў каньяк, торт, шакалад. Парадаваліся, начаставаліся – а пасля яго зноў пацягнула на каханне.

Такія-то нагрузкі на яго беднае, слабое сэрца! Усё падрад. Скончылася тым, што яго памерлага літаральна знялі з яе.

На пахаванне не прыйшлі ні жонка – навошта ёй ганьбавацца перад людзьмі? – ні палюбоўніца – нашто ён ужо ёй патрэбен?

Так вось і стаўся не стары яшчэ мужчына ахвярай сваіх любошчаў.

Навука іншым.

# ДВАРАВЫЯ

Калі выйду ў свой двор, прагуляюся – такога ўсяго рознага нагляджуся, то хоць пішы байку, фельетон ці гумарэску. Не трэба і тэмы шукаць. Пра многіх з нашага двара пісаў. Нават імёны называў. Толькі прозвішчы не ўказваў. Яны чыталі, самі смяяліся. І не крыўдавалі, не лаяліся, не біліся са мной. Бо ўсё было праўдай.

Абмалюю партрэты некаторых дваравых.

У першым пад'ездзе жыве Аляксей, мы называем яго – Лёха. Былы каваль на трактарным заводзе. Цяпер – пенсіянер. Часта падоўгу сядзіць на лаве пад казырком пад'езда. То роўна і задуменна сядзіць, а то галава ўжо хістаецца ў бакі. Калі цвярозы, то з ім яшчэ можа так-сяк пагаварыць. Калі ж п'яны – крычыць, шуміць, пускае пену, кулакамі махае. Я яму казаў:

– Ты на мяне не махай, бо калі я махну – табе дрэнна будзе. Бо я таксама працаваў у кузні. Хоць не кавалём, а – технолагам.

Калі праходжу міма – ён вечна просіць:

– Дай цыгарэту. Дай папіць піва. Дай віна. Дай тысячу!

– Вазьмі ў жонкі.

– Дык я з ёй дрэнна жыву.

– Дык жыві добра – хто табе не дае? Гэта ж – твая жонка, а не мая.

І працягваю:

– Як табе не сорамна? Твая ж пенсія большая за маю, бо ты каваў, а я быў інжынерам. Да таго ж у цябе – дача і машына, а жонка спекулюе мясам. Дык сцягні ў яе мяшок мяса, прадай, і будзеце месяц гужаваць усім дваром. А яна і ў міліцыю не заявіць, бо яе саму возьмуць за шкіркі за спекуляцыю.

Не слухае талковых парадаў. Дык няхай усё просіць.

Эдзік жыве ў трэцім пад'ездзе. Усё жыццё адпрацаваў на нямецкім станку на заводзе. Казалі, што як выйдзе на пенсію, станок спішуць. А ён вывучыў змену, і станок працуе па сённяшні дзень.

А мова ў яго... Такая “культурная” мова, што кожны сапожнік пазайздросціць. Прытым цяжка разабрацца, дзе ён злосны, а дзе – не. Бушуе, крычыць, а пасля – смяецца. Я доўга прывыкаў да яго жаргону і паводзін. Ягоная жонка – Пампушка, як я яе назваў, кажа:

– Яго не перавыхаваеш. Позна ўжо.

– Але сам напрасіўся на фельетон.

Гена жыве ў пяціпавярхоўцы. Яго называюць то Цыганом, то Чарнамырдзіным. Актыўны беспрацоўнік. Тоўсты, як гара – ці ад гультайства, ці ад некаторых хваробаў. Аднак ад шклянкі віна не адмаўляецца. Я выхоўваў яго:

– Пайшоў бы дзяжурыць у нейкую ўстанову, ці хоць на аўтастаянку. Замыкаць-адмыкаць змог бы, кнопкі націскаць, вароты адчыняць.

– Не хачу і не буду. Даўно адвык ад працы.

– Дык ты ж мучыш сваю сям'ю. Вушы ім аб'ядаеш. А калі ім надакучыць і яны выганюць цябе, што тады рабіць будзеш?

– Нічога. Пайду ў багадзельню. Не прападу.

Праўда, пасля хваробы патанеў і паспакайнеў. Амаль не п'е. І пайшоў нарэшце недзе дзяжурыць.

Ігар гадоў трыццаці з лішкам – бульдазерыст. Сур'ёзны і вясёлы, усмешлівы. Але то ходзіць на работу, то не, бо на працы то ёсць работа, то няма. То выпівае, а то – кідае. Сілу волі мае.

Адрэй не працуе. Спасылаўся на тое, што трэба даглядаць састарэлую маці. Яна памерла.

– За кошт чаго ты жывеш? – пытаюся.

– Езджу з цэнтра на Паўночны пасёлак да жонкі. Яна дае мне харчоў на тыдзень, я і ем. Пасля зноў еду да яе.

Цяпер ужо Андрэю пераходзіць наследства ад маці – і кватэра, і грошы ў банку. Вось дык аджыве і разгуляецца!

Пецька – малады, на чацвёртым дзесятку гадоў, інжынер-канструктар аўтазавода. Раней гады тры займаўся распрацоўкамі дома. Цяпер – на сталай працы. Верны сем'янін. Не п'е, не курыць, не гуляе. Стараецца не вылазіць з хаты. Яго сябры – тэлевізар і камп'ютар. Дамасед адчайны. Піць баіцца, каб не спіцца.

Я чакаў гасцей, каб адзначыць сваю памятную дату ў кафэ, што на першым паверсе нашага пад'езда. Усяго павінна было быць чалавек дваццаць. Збор быў каля пад'езда. Пакуль ісці ў кафэ, трэба было пастаяць, пасядзець. А лава засталася толькі адна, затое ў суседнім, трэцім пад'ездзе – аж тры. Напярэдадні жонка кажа:

– Пакліч дваравых, папрасі іх перанесці адну лаву з трэцяга пад'езда ў наш. А мы ім вынесем за гэта выпіўкі і закусі.

Лава і даўгая, і цяжкая, на бетонных нагах-апорах. Каб перанесці яе, трэба хаця б чалавек шэсць. Сабраліся Пецька, Ігар і Андрэй. Мала. Кажу:

– Абыдзіце двор з усіх бакоў, знайдзіце яшчэ чалавек трох ці на крайні выпадак хоць аднаго.

Пайшлі, абышлі, прыходзяць:

– Нікога не відаць, а хто і ёсць – ужо п'яныя. Вось толькі Лёху прывялі.

– Ну й асілка знайшлі! – абураецца жонка. – Ды ён ад ветру хістаецца. Яго самога хоць кладзі на лаву і нясі.

– Нічога, хоць трохі дапаможа. Хоць папхне.

Несці лаву не змаглі. Прыдумалі цягнуць волакам. Двое цягнуць спераду, двое штурхаюць ззаду. Так-сяк давалаклі, паставілі. Прыселі адпачыць.

І тут з трэцяга пад'езда нечакана выскоквае Эдзік і прэ прама на нас. І зароў, як бык шалёны:

– Што вы вытвараеце – нахабнікі, зладзюгі? Навошта перанеслі нашу лаву?

– А ЖЭС сказаў, – апраўдваюся я, – каб у кожным пад'ездзе было пароўну лаваў. Дык чаму ж у нас усяго адна, а ў вас – ажно тры? Гэта вы сцягнулі ў нас адну.

– Забралі самую лепшую, – не сунімаецца Эдзік, – цэленькую, а нам пакінулі паламаныя – штаны ірваць.

– Звані ў ЖЭС, – адказваю. – Хай ці рамантуюць, ці паставяць новыя.

А ён бушуе. Прычапіўся да аднаго, палаяў другога, прабадзяў трэцяга, а потым наваліўся на мяне:

– Гэта ты – арганізатар і натхніцель гэтай афёры, разумнік! Самі яны не дадумаліся б. Я табе пакажу!

Урэшце мне ўсё гэта надакучыла, і я кажу:

– Хлопцы, звяжыце яму рукі, заткніце ў рот кляп, адвядзіце ў яго пад'езд, пакладзіце на лаву, і няхай б'ецца аб яе нагамі і галавой. Бач, распеpackазаўся!

Ад Эдзіка можна ўсяго чакаць. Раптам ён перайшоў ад ляманту да ўсмешак, а потым гучна зарагатаў.

– Хлапцы, шаноўныя суседзі! Вялікае дзякуй вам за тое, што забралі гэтую лаву. У нашым пад'ездзе менш будзе сядзець блатных і бадзяжных, меней шуму і смецця. Так што можаце забраць і астатнія!

Жонка вынесла гарэлкі і бутэрбродаў. Эдзік таксама актыўна падключыўся, унёс свой пасільны ўклад – скакануў у краму. Разам дружна пасядзелі на гэтай лаве, адзначылі здзелку і разышліся па-сяброўску.

Валеры Герасімавіч – падпалкоўнік у адстаўцы. Пенсія – 950 тысяч рублёў, у два з паловай разы большая, чым у мяне, былога вядучага інжынера. Жонка працуе намеснікам дырэктара магазіна. Багаценькія!

Аднак жа... некаторыя нюансы.

Пасля шасці гадзін раніцы ён выходзіць з дому і займае свой пост нумар адзін – не каля свайго, а ў першым пад'ездзе нашага дома, на лаўцы. Сядзіць там увесь дзень у чаканні выпіўкі. Яго звычайныя пытанні:

– Дайце закурыць... дайце піва... дайце віна.

І я, і сябры-суседзі неаднаразова спрабавалі выхоўваць яго:

– Сарамаціішча табе! Хіба ты не можаш купіць цэлы блок цыгарэтаў, як робяць многія, каб потым не прасіць, і каб хапіла на ўвесь месяц?

Ён хітра адказвае:

– А я куру такія, што рэдка бываюць.

– Што ж гэта такое?

– Маркі "дай-дай"!

Я неаднаразова пытаўся:

– А дзе ж твае грошы?

– Аддаю жонцы. І сын вучыцца на платным аддзяленні.

– Дык не аддаваў бы ўсе жонцы, – павучаю я. – А сын няхай бы вучыўся на бясплатным, калі разумны і здольны. Яшчэ і стыпендыю прыносіў бы.

Пасля даю слушную параду Герасімавічу:

– Са сваіх 950 – шэсцьсот аддавай на ўсе патрэбы, астатнія 350 пакідай сабе. І табе будзе на кожны дзень на дзве пляшкі 0,5 "чарніла" і на пачак недарагіх цыгарэтаў з фільтрам. І не трэба будзе прасіць.

Не даходзіць.

Калі купіць дзве пляшкі вінца, адну вып'е з сабутэльнікамі (а далей будуць іншыя наліваць), а другую нясе дамоў, пад падушку.

Аднойчы распавядае мне:

– Мікалай Пятровіч, я не магу спаць без выпіўкі. Пасплю гадзіну – вып'ю сто грамаў, яшчэ гадзіну – зноў сто грамаў, праз гадзіну – тое ж. Да раніцы сямісотграмовая бутэлька – пустая.

Вось дык дзіва, вось дык цуд! Такога я ніколі не бачыў і не чуў.

У апошні час я больш пасябраваў з маладымі. Свежасць думкі, энергія, запал.

У розных пад'ездах жывуць два Віці – малы і высокі.

Віцька малы памешаны на матацыклах. Вось і цяпер купіў паношаную мадэль, і ганяе па ўсёй вобласці. Але ў яго слабая памяць, а часам упадае ў глыбокую прастрацыю. І кажа:

– Я магу сесці за руль у Мінскай вобласці, а апынуцца на Далёкім Усходзе.

Шкада маладога хлопца, але што зробіш? Яшчэ і п'е.

Віцьку высокага я доўга выхоўваў з-за яго гультайства. Ягоная маці казала:

– У яго добрая спецыяльнасць, але ён можа дыскваліфікавацца.

Я вучыў:

– Ідзі працаваць хоць кім, хоць куды. Колькі ты можаш сядзець на матчынай пенсіі?

Ён, заўжды спакойны і акуратны, нават калі на падпітку, ківаў рукой і галавой і адказваў:

– Іду. Шукаю. Дамаўляюся. Удакладняю. Абяцаюць.

Здаецца, нарэшце ўладкаваўся. Ездзіў па камандзіроўках.

Але зараз зноў гуляе. Алег – інжынер, гідрабудаўнік. Працуе ў навукова-даследчым інстытуце. Вельмі развіты, цікавы суразмоўца. Любіць доўга пагаварыць. Апроч таго, добры дамашні цырульнік. Нядорага пастрыгае сяброў, таварышаў, суседзяў. Пад розныя прычоскі. Майстар!

Уладзімір Маркавіч – славуты будаўнік. У свой час быў на вельмі высокіх пасадах. Аб'ездзіў увесь Саюз, у Маскве

бываў часцяком. Ездзіў і, як кажуць, "па Еўропах" – дакладней, па сталіцах замежных дзяржаў. Узводзіў абарончае кальцо вакол Масквы. А колькі пабудаваў дамоў і аб'ектаў у Мінску! Гонар мае.

Мова ў яго даволі спецыфічная, далёкая ад літаратурнай. Пытаўся ў яго:

– Ты што, і з начальствам так груба размаўляеш?

– Яны і самі так гавораць.

– А з рабацягамі?

– Інакш яны не прызналі б мяне за свайго.

– І дома так мацюкаешся?

– Я ж не дурны.

Часта па-суседску, па-сяброўску гамонім на лаўцы. Ён гатовы гаварыць хоць паўдня, толькі слухай. І заўжды адно і тое ж. Трохі пра сям'ю, а найбольш – пра будаўніцтва, на якім ён проста зацыклены. Я ўжо яго жыццёвую і будаўнічую біяграфію больш запамятаў, чым ён сам. І цяпер, хоць ужо і на пенсіі, ён працуе на немалой пасадзе. Не сумуе, а напружана працуе...

Пажылы Алег – Галоўны забеспячэнец нашега двара. Штодзень шастае па магазінах у пошуках найтаннейшага віна, часам і з канфіскату – з пратэрмінкоўкай годнасці. Прыцягвае поўныя сумкі.

А затым – як сходзіць змрок уранку, птушкі яшчэ не прачнуліся – ён вылазіць са сваей кватэры і абходзіць уже пад'езды і лаўкі і прапануе свае паслугі. Аматараў жа пахмяліцца шмат – у хлопцаў горла дзярэ. А крама зачынена, і грошай няма, ён выратоўвае іх, дае ў доўг. Канешне, са значнай нацэнкай. Калі-небуць разлічацца.

Гэта зручна п`янюкам і выгадна прадаўцу. Тым больш – яго «магазін» працуе кругласутачна. А кліентаў – і з суседніх двароў – яны да яго ходзяць цугам.

У ранейшы час ён бы загрымеў некуды далёка, але цапер – спекуляцыі няма. Ёсць бізнес. І кожны яго як можа арганізуе, выкручваецца сам.

Вось такія адмысловыя некаторыя насельнікі нашага двара. З іхнімі станоўчымі рысамі і недахопамі. Як і ўсюды.

## МАГУТНЫ МУЖЧЫНА

Сядзім на лаве ў першым пад'ездзе нашага дома. Трохі адзначаем, пакурваем, размаўляем на розныя тэмы. Да нас набліжаецца мужчына сярэдняга росту, узросту і камплекцыі.

– Хто гэта? – пытаюся я.

– Жыве ў нашым пад'ездзе, – адказвае адзін. – Майстар спорту па барацьбе. Заўсёды пры грашах. Дабрадушны. Можа і пачаставаць.

Той падняўся на ганак і кажа:

– Ну, што, арлы – вароніны крылы, сядзіце так ціха, насы апусцілі? Відаць, выпілі мала?

– Мала, – адказваюць "арлы".

– Ну, то пачакайце, я зараз вынесу вам і выпіць, і закусіць. А колькі браць гарэлкі – 0,5 ці 0,7?

– Канешне, нуль-сем, – дружна адгукнуліся мужыкі.

Чакаем – не выходзіць.

– Пэўна, і не выйдзе, – выказаў сумненне я.

– Не, гэты чалавек сваё слова заўжды трымае.

І раптам адчыняюцца уваходныя дзверы, выходзіць наш герой, выносіць паднос, а на ім – вялікая бутэлька, мяса-сала, памідоры і чаркі. А сярод нас, як кажуць, дружны смех, воплескі і ажыўленне «ў зале». А ён кажа:

– Гарэлка ўласнага вырабу, настоеная на травах, а мяса-сала з маёй уласнай свінні. Частуйцеся, калі ласка. А памідоры і цыбулька – з маёй дачы.

Вось так. Рэстаран у пад'ездзе.

Над намі вісіць электрашчыт з тонкаліставой сталі. Калі мы падгужаваліся, спартсмену нешта сткнула ў галаву. Ён з размаху як стукне ўздоўж жалезнай скрынкі – яна і ўвагнулася. Затым тым жа рабром далоні ўдарае ўпоперак скрынкі – і зноў жа ўвагнулася паласой. Ну, асілак! А я паднатырваю яго яшчэ больш:

– Разбі гэтую трубу!

А труба таўстасценная сталёвая, што трымае казырок над ганкам. Ён як гахне па трубе! Але хіба ж можна яе разбіць? І слон не разбіў бы. Але такая дурная забава.

Наша пасядзелка блізіцца да канца. Відаць, я нечым спадабаўся гаспадару “стала”. І ён мне прапануе:

– Зайдзіце да мяне ў кватэру, там яшчэ шмат чаго знойдзецца для вясёлай гаманы. Пасядзім гадзіны дзве, паразмаўляем.

А я збаяўся. Не ведаю чалавека, і што ў яго наўме – невядома. А можа, ён нейкі там гомасексуаліст. Напоіць, накорміць, а потым запатрабуе: – Распранайся! – А не распрануся – як стукне па шыі, дык і галава адляціць. Або распачне беспрычынную бойку. Бачыў жа ўжо, які ў яго няроўнаўважаны характар. Лепш буду далей ад бяды. І я ветліва адмовіўся:

– Дзякуй за запрашэнне, але мне дамоў пара. Мяне чакаюць.

А пасля разважыў і пашкадаваў. Пазбавіўся і выдатнага пачастунку і, магчыма, цікавай размовы з разумным чалавекам.

Але было ўжо позна.

Перастрахаваўся.

## ДАЧНЫЯ ПРЫГОДЫ

Кажуць, што на дачу ехаць і вальней, і зручней, і дзешавей не аўтобусам, а электрычкай, асабліва калі яна прабягае паблізу дачнага пасёлка.

Сябар з жонкай запрасілі мяне на сваю дачу. Трохі папрацаваць, адпачыць, схадзіць у лес па грыбы.

Селі. Паехалі. Прыехалі.

А як аказалася, ад электрычкі да дачаў ісці лесам, полем, пералескам аж пяць кіламетраў. Вось дык зручнасць і выгода! Аўтобус, калі ходзіць, давёз бы прама да месца. А так – ды я на простую прагулку не пайшоў бы пяць кіламетраў. А дачнікі ж і туды, і назад не ідуць улегцы – цягнуць поўныя і мяшкі, і вёдры, як коні. Колькі ж здароўся трэба мець!

Весела адпачылі ўвечары, паначавалі ў драўляным доме, удосталь надыхаліся свежым паветрам. Назаўтра трохі папрацавалі на ўчастку, я і палоў, і дапамог фарбаваць домік. Затым схадзілі ў лес, сабралі грыбоў колькі ўдалося. Гаспадыня пачысціла іх і паставіла варыць на вячэру.

Жонка напярэдадні папярэдзіла мяне:

– На двое сутак не заставайся, хопіць адных. Бо ў мяне заўтра ўвечары збяруцца госці і адзначаць мой дзень нараджэння. Не спазняйся, бо як жа без гаспадара?

Сябар з жонкай прасілі мяне застацца:

– Такі грыбны суп будзе! І выпіўка ёсць, і міравая закусь. І паначуем, а заўтра разам дружна паедзем да горада.

Але як ні ўпрошвалі, а я ўпёрся, як бык, і трынджу:

– Не магу, мяне Ніна чакае. Госці прыйдуць.

Нарэшце мяне адпусцілі, а на развітанне далі кабачок... на пяць кілаграмаў.

(Як пазней мне патлумачылі, кабачок браць лепш ці малы, ці сярэдні, бо ў ім пад скурай тоўсты пласт карыснай тканіны, а месіва ў сярэдзіне з семкамі мала. А ў вялізным кабаку карысны пласт вельмі тонкі, а месіва ў сярэдзіне шмат).

Іду гэтыя пяць кіламетраў да электрычкі, цягну пяцікілаграмовы кабак, як дурань дзверы, і кляну:

– Вось далі дык далі. Няхай бы гэты пракляты кабак лепш згніў у іх на ўчастку!

Аднак прыехаў, прыпёр сваю ношу – аж рукі абцягнуў. Заходжу ў кватэру і здзіўлена пытаюся ў жонкі:

– А дзе ж багаты стол, дзе госці? У мяне аж сліна цячэ.

Яна міла ўсміхаецца і мовіць:

– А я не адзначаю дзень нараджэння.

– Дык на які чорт, – разбушаваўся я, – ты сарвала мяне з прыроды, з дачы, ад багатай вячэры з грыбным супам, ад сяброў, ад цікавай гаманы? Ад яшчэ цэлых сутак прыемнага адпачынку?

Яна спрабавала апраўдвацца, а я як гыркну:

– А ну, спраўляй віну. Хуценька арганізуй стол хаця б для мяне аднаго. Дурныя жартачкі! Хто ў хаце гаспадар?

Яна падхапілася, пабегала і арганізавала. Пасядзелі ўдваіх. Паціху ўсё ўляглося.

Так закончыўся мой нялёгкі дачны дзень.



# З ІНТЭРНАЦКАГА ЖЫЦЦЯ

Напачатку анекдот.

У школьным класе ідзе ўрок па біялогіі. Тэмы – аб шкодзе алкаголю для здароўя.

Настаўніца ставіць на стол два сподачкі. У адзін налівае гарэлкі, у другі – малака. І ў кожны апускае па чарвяку. Той, што трапіў у гарэлку, імгненна акачурыўся. А каторы ў малако – жвава плавае.

Настаўніца правяла дослед і павучае:

– Дзеці! Калі вырасцеце – не піце гарэлку. І бацькам не трэба піць. Лепей піце малако. Бачылі?

Вовачка ўстае і гаворыць:

– Дзеці, не верце. Як вырасцеце – піце гарэлку. І бацькам скажыце, каб пілі. Каб чарвякі ў жываце не вяліся.

А цяпер пра дарослых.

Я купіў у кіёску вэнджанага судака. Калі б халоднага вэнджання, то ён захоўваецца доўга. А то быў гарачага. Узяў многа, а еў памалу. У інтэрнацкім пакоі халадзільніка не было, таму захоўваў у тумбачцы. А наўкол бушавала лета.

Дні праз два сябры запрасілі зайсці да іх і кажуць:

– Гарэлка наша, закусь твая.

Я прыхапіў пару судакоў і зайшоў. Дружна пілі і закусвалі. Адзін з нас не піў, а толькі еў. Назаўтра ўсе былі ў норме, а таго, што бярог здароўе, пачаў рэзаць жывот. Судак сапсаваўся.

Спрактыкаваныя людзі гавораць: калі патрапяць у ежу падпсаваныя харчы, ясі іх і запіваеш гарэлкай, то не атруцішся, бо спірт дэзінфіцыруе.

Слухаю радыёперадачу пра здароўе. Доктар гаворыць:

– У арганізме чалавека сам выпрацоўваецца антыалкаголь. Для его вывядзення патрэбна хоць зрэдку ўжываць патроху алкаголю. Таму, калі мужчына ў выхадны дзень прыме грамаў дзвесце пяцьдзесят гарэлкі, то ніякай шкоды не будзе.

Дык піць ці не піць?..

– * –

У суседнім з маім пакоі жыў мой сябар. Я працаваў інжынерам у аддзеле, а ён – старшым майстрам у цэху. Ад-

нойчы ранкам выхадногa дня ён стукаецца да мяне ў дзверы і кажа:

– Заходзь да мяне, разам паснедаем, заадно і пахмелімся.

Як не зайсці? Хто ж адмовіцца?

Снедаем, балабонім пра ўсялякае рознае. І раптам пытаецца:

– А хочаш, я з'ем шклянку?

– Не можа быць. Жартуеш, – адказваю я.

– Тады глядзі.

Пілі мы не з гранёных "маленкоўскіх" шклянак, а з круглых танкасценных. Ён бярэ адну і выгрызае збоку і да дна. Я вачам сваім не веру.

– А ты шкло праглынуў?

– Канешне.

– Раскрый рот.

Ён раскрывае. Гляджу – шкла ў роце няма.

Ну, думаю, у яго страўнік, як у страуса. А страус, калі галодны, можа глытаць і каменьчыкі, і анучкі – абы у страўніку цягнула. І тады яму здаецца, што ён пад'еўшы. І ўсё ў яго пераварваецца. Я б век шклянку не пагрыз, як мой сябар. Бо я ж – не страус. І не буду ім ніколі, спадзяюся.

Я вырашыў далей разыграць сябра:

– А ты мог бы пагрызці піўную бутэльку?

– Мог бы.

Падаю яму. Ён грыз, грыз, і не разгрыз. Не хапіла сілы зубоў. А хваліўся!

Што ж, і ў фокуснікаў бываюць праколы.

## ВОСЬ ДЫК АХОВА!

Стаім на заездзе на металабазу. Каб загрузіць машыны жалеззем. Для нашых заводаў. Заезд па прапусках, што выпісваюць у аддзелах. Прапускае дзяжурны. На ўезд і выезд – высокая лесвіца. Наверсе – будачка, каб было відно, як заязджаюць і што вывозяць. Унізе – пакойчык для службы.

Дзяжурыць дзед васьмідзесяціпяці гадоў з далейшай вёскі Стайкі. Падзарабляе да пенсіі. Стаіць на добрым падпітку. Высокі, худы, светлавусы. Як стары кот.

Напачатку даваў заезд толькі тым, у каго ёсць прапускі, інакш – заездаў няма. Потым асмялеў – і перастаў запускаць нават па прапусках. Забеспячэнцы разбушаваліся. Пайшлі скардзіцца начальству. Выклікалі міліцыю. Тыя пытаюцца:

– Ты што, дзед, зусім абнаглеў?

Стары лезе да іх у твары і бубніць:

– Ну, што? Ну, што?

– Чаму не запускаеш машыны нават па прапусках?

А той трындзіць сваё:

– Ну, што? Ну, што? – і зноў лезе ў твар, дыхае смуродна.

– Дзед, калі ты будзеш выступаць, то зараз пасадзім у "Варанок" і завязём ці ў міліцыю, ці ў выцвярэзнік. Ці пасадзім, паначуеш, ці штраф вялікі заплаціш. А тое і тое, і другое, разам узятае.

– Ну і што? – адказвае дзед. І лезе абдымацца. У морды да міліцыянтаў лезе, цалавацца хоча.

А мы, група інжынераў-забеспячэнцаў, якія ўжо заехалі, і нас загружаюць, стаім збоку ад прахадной – заезджай, назіраем за гэтай сцэнкай, смяёмся, і нават рагочам.

Урэшце міліцыянерам усё гэта надакучыла: і невядома, што з дзедам састарэлым рабіць, і мы насміхаемся, і яны сказалі пагрозліва:

– А чаму вы тут зубаскаліце? Хуценька расходзьцеся, бо і вас за кампанію забяром. Відаць, і палова з вас даўно "пад газам".

Ніхто не быў п'яны, але на ўсялякі выпадак усе разышліся. Не варта звязвацца з гэтымі ахоўнікамі парадку, асабліва – калі яны злосныя.

А – дзед?

А што – дзед?

Яго павялі ў дзяжурку, павыхоўвалі – і з усімі зручнасцямі завезлі ў яго родныя Стайкі. Бо і міліцыя, і выцвярэзнік прыняць яго не маглі, састарэлага. Навошта ім лішнія клопаты і адказнасць? Хоць бы не сканаў там.

Больш мы гэтага дзеда ніколі не бачылі там.

Яму было цёпла і ўтульна ў роднай вёсцы.

Няхай градкі садзіць, поле арэ, і ўраджай збірае.

І праўнукаў гадуе.

# УШАНАВАЛІ

Надышло маё пяцідзесяціпяцігоддзе. Для мужчыны гэта не лічыцца знамянальнай датай. Проста паўкруглая дата. А для жанчыны – як бы юбілей. на рабоце ўручаюць Ганаровую грамату, даюць прэмію ў суме месячнага аклада. Многія развітваюцца з работай, ідуць на пенсію.

Аднак жанчыны нашага аддзела і бухгалтэрыі, і аддзела кадраў змовіліся дружна і "выбілі" мне хоць бы маральнае заахвочванне.

Пачынаецца абедзены перапынак. Да нас заходзяць Генеральны дырэктар і начальніца аддзела кадраў з паперамі. Дырэктар прайшоў у канец нашага пакоя, за шафы, дзе абедзены стол і халадзільнік. Паглядзеў і пытаецца сумнавата:

– А чаму гэта ў вас стол зусім пусты?

Мы маўчым. Не ведаем, што казаць.

А ён урачыста гаворыць:

– Шаноўны Мікалай Пятровіч! На твой жаночы юбілей (і ўсміхаецца) шчыра віншуем цябе і ўзнагароджваем гэтай Ганаровай граматай. Жыві, працуй і радуйся.

– Шчыра дзякую. Буду старацца.

Дырэктар і кадравічка выходзяць. Я здаганяю, хапаю дырэктара за рукаў і кажу:

– Мікалай Рыгоравіч! Дык у нас стол не зусім пусты, зараз будзе поўны. Затрымайцеся хоць трошкі.

– Ведаеш, Мікалай, – кажа ён, – калі на рабоце выпіў хоць сто грамаў – трэба ісці дамоў, бо якая пасля работа? Так што вы тут адзначайце, як хочаце, а я пайду ў свой кабінет.

Пацiснуў сваёй магутнай лапай маю невялікую руку, паляпаў па-бацькоўску па плячы і пайшоў.

А тая грамата была такая вялікая, ды яшчэ з залатым кальцом для фатаграфіі, што я ледзь падабраў папку, каб пакласці ў яе. Да таго ж абрэзаў грамату з усіх бакоў.

І мне было вельмі прыемна ад таго, што мяне ўшанавалі на гэтую не юбілейную дату.

Адзначылі пасля работы. Як след.

## ПАЎЛЮК ТРУС НЯХАЙ ДАРУЕ

Група маладых літаратараў сабралася, каб пасядзець, пачытаць вершы, пагаманіць па-вясёламу, адзначыць сустрэчу. Скінуліся, наколькі змаглі, узялі, што трэба.

– А дзе пасядзець? – пытаецца адзін.

– Пойдзем на могілкі, на магілу паэта Паўлюка Труса (вядомы паэт пачатку мінулага веку, што адышоў з жыцця маладым). Там нас ніякая міліцыя не зачэпіць. Святое месца памінальнае. Традыцыя.

Пайшлі, паселі дружна. Вынялі ўсё, што мелі. І тут зусім нечакана – нарад міліцыі. Што ім тут рабіць? Ніхто ж у такіх кутках не хуліганіць.

– Ну, што вы тут парабляеце, хлопцы? – пытаецца сяржант.

Самы кемлівы хуценька вымае з кішэні хусціну, кідаецца да помніка, выцірае яго. А з вачэй – слёзы ручаём.

– Ды разумееце, нічога не парабляем. Тут пахаваны мой дзед, знакаміты наш паэт Паўлюк Трус, дык мы прыйшлі да яго магілкі памянуць. Святая справа! Самі ж пішам вершы, можам вам пачытаць. Так што зразумейце нашы шчырыя пачуцці і прабачце. Мы доўга не затрымаемся.

Міліцыянеры зразумелі і адышлі.

А паэты ўсё паміналі,
паміналі,
паміналі...
Пакуль не напаміналіся.
І міліцыянераў успаміналі.
Добрым словам.
Ёсць жа і сярод іх культурныя, разумныя людзі.
Іншы раз.
А самі паэты чыталі свае новыя і ранейшыя вершы.
І натхняліся.

## КОШТ ЗАБАВЫ

У свой час у Мінску нашумела любоўна-школьная гісторыя. У раёне Серабранкі васьмі- ці дзесяцікласніца нарадзіла ад свайго аднакласніка адразу дваіх дзяцей. Быў вялікі скандал і ў школе, і ў сем'ях школьнікаў. Вось дак паднеслі "падаруначак" бацькам дзеці-акселераты!

Справа дайшла да суда. Паколькі хлопец быў непаўналетні, суд пастанавіў, каб аліменты – трыццаць тры працэнты – плацілі бацькі віноўніка да яго паўналецця. Пакуль не пойдзе працаваць.

А што магло быць далей? А калі ён пойдзе пасля вучыцца ў тэхнікум ці інстытут і будзе атрымліваць маленькую стыпендыю – дык вылічваць з яе нейкую драбязу? А калі стыпендыі не будзе? А калі возьмуць у армію на тэрміновую службу? То ўжо ні з бацькоў, ні ад яго не будзе ніякі'х аліментаў? Магчымы суд – перасуд, і ён можа не разабрацца ў гэткіх сітуацыях, незвычайных і заблытаных.

Адны казалі:

– Дык няхай бы тыя двое сталі жыць разам, як сям'я, і дзяцей гадавалі б.

Іншыя адказвалі:

– Якая сям'я? Ім трэба школу канчаць. Дый бацькі – яе і яго былі супраць, каб не ганьбавацца перад людзьмі.

Вось як бывае, калі бацькі не выхоўваюць сваіх дзяцей-падлеткаў як след, не сочаць за іх паводзінамі.

У дадзеным выпадку пацярпелі ўсе ўдзельнікі гэтай гісторыі.

І маральна, і матэрыяльна.

Навука многім.

## САПРАЎДНАЯ САКРАТАРКА

Па заводакіраўніцтву ходзіць маладая, прыгожая жанчынка – стройная, прывабная, і ўсе формы пры ёй. Паглядзіш хоць спераду, хоць ззаду, хоць збоку – і адразу ўзбуджаюцца вясёлыя жаданні. Працавала сакратаркай у начальніка аддзела. А які ж начальнік прыме на работу старую і непрыгожую? Спецыфіка прафесіі – прывабліваць службоўцаў, наведвальнікаў, сумежнікаў, гасцей (і начальніка – не ў апошнюю чаргу).

Калі праходзіла міма, я – ці адзін стаяў, ці з прыяцелямі – кідаў ёй услед з захапленнем:

– Сапраўдная сакратарка!

Другім разам – з гумарам:

– Сапраўдная сакратарка!

Трэці раз – з іроніяй:

– Спраўная сакратарка!

Урэшце, ёй усё гэта надакучыла, яна адчула, відаць, здзек, і паскардзілася свайму начальніку. Ён сустракае мяне на калідоры і кажа:

– Мікола, ты кінь свае падколы, недарэчныя жартачкі. Яна крыўдуе.

– А што я дрэннае кажу? Я ж пахвальваю яе. Захапляюся, так сказаць.

– Не прыкідвайся прасцяком. Сапраўдная сакратарка – усе разумеюць: гуляшчая.

– А дзе вы бачылі негуляшчую сакратарку? Гэта ж – спецыфіка іх работы.

Дык няхай не будзе гуляшчая – ніхто і не падумае, і не скажа, – апраўдваюся я.

– Не кінеш выкаблучвацца – то яна паскардзіцца твайму начальніку, ці я паскарджуся. Заробіш па карку!

Я не дужа спужаўся, але пакінуў яе ў спакоі.

Усяму – свая мера.

Няхай будзе хоць сапраўдная, хоць не сапраўдная. Абы – спраўная.

Мне-то што?



## НАСТАЎНІКІ-СУСЕДЗІ

Калі я рос ў пасёлку Шацк Пухавіцкага раёна, то добра ведаў дзве настаўніцкія сям'і – Барысавых і Працкевічаў. У першых былі тры сыны, у другіх – тры дачкі. І я ўвесь час думаў: няхай бы яны ўсе папераджаніліся паміж сабой – былі б і кругавыя вяселлі, і кругавая радня. І бацькам іхнім не трэба было б ездзіць у госці – тут прайсці – то ўсяго метраў сто пяцьдзесят па сельскай вуліцы. Але мае задумкі не збыліся, бо кожная з дзяўчат была старэйшая за адпаведнага ўзросту хлопца.

...Звычайна імёны сынам і дочкам у нас прынята даваць у большасці па імёнах дзядуляў і бабуляў. Але калі бацькі вельмі любяць сябе, то даюць свае імёны. Так было і ў Барысавых: бацька – Федзя, і сын – Федзя, маці – Шура, і сын – Шура. А што далей? Калі маці кліча: "Федзя!" – каму адгукацца і падысці – мужу ці сыну? А калі бацька кліча: "Шура!" – каму адгукацца і падысці – мацеры ці сыну?

Вось такія бытавыя нязручнасці.

І нашто была такая блытаніна?

Бацькамі прыдуманая.

## ПАЦАЛУНКІ – У РЭДАКЦЫІ

У нас некалькі жаночых часопісаў і газет: "Алеся", "Гаспадыня", "Женский колейдоскоп" і некаторыя іншыя.

Заходжу да галоўнага рэдактара жаночага выдання. Канешне, не першы раз. Бывае – друкуюся ў іх. Рэдактрыса Тацяна Паўлаўна – пульхманая, ёмкая, прыгожая, спакуслівая. Як кажуць, "жгучая женщина, места поэта". І ў абыходжанні – ветлівая, простая, кантактная. Прымае мяне па сяброўску. Паважае. Заходжу – яна выходзіць з-за свайго начальніцкага крэсла, я – насустрач ёй, абдымаю – ну, хто ж устаіць перад такой прыгажосцю? Яна не адштурхоўвае – я ж мужчына файны, хвацкі, маладжавы.

Цалую яе ў адну шчочку, пасля – у другую. А як толькі паімкнуўся пацалаваць пасярэдзінцы, у яе сакавітныя вусны – яна рашуча пярэчыць:

– Ну, вы што? У мяне муж сур'ёзны і строгі, палкоўнік. Калі данясуць – не ведаю, што будзе. Нялішне засцерагчыся.

Дзверы адчынены ў суседні пакой – там сакратарка, бухгалтарка, кампутарка. Адна з іх – вельмі пажылога ўзросту. Яна наглядае – а мы і не хаваемся:

– Што гэта? Цалуюцца прама ў рэдакцыі!

Я адказваю:

– Гэта ж добра, што цалуемся, а не лаемся ці б'ёмся. Радуйцеся!

Бабуля, відаць, забылася, што гадоў пяцьдзесят назад займалася тым жа. І як сама грашыла. Памяць падводзіць ужо.

Мы і пры развітанні з чароўнай рэдактаркай абдымаемся-цалуемся. Толькі не ў вусны.

А нашто мне лішні клопат? Можа, той палкоўнік, калі дакладуць, сустрэне мяне ў цёмным кутку, выме з кішэні ці з-за пазухі пістолю, і – трах, бабах!

І я – з капытоў! І я – у кустах.

А назаўтра знойдуць мой малады, прыгожы труп. А ён, муж, калі нават яго вылічаць і знойдуць, абыдзецца мінімальным турэмным тэрмінам. Маўляў, на глебе рэўнасці. Звычайна тэрмін памяншаюць па гэтым артыкуле Закона.

А я магу бясслаўна і бяследна знікнуць.

А навошта гэта мне – ні за што тым больш?

Так што найлепш трымацца строга афіцыйна. Асабліва калі муж упадабанай вамі жанчыны – высокі начальнік. Ды яшчэ і ўзброены.







# БЕСТАЛКОВАЯ СУСТРЭЧА

Мой сябар працаваў інжынерам-канструктарам у праектным інстытуце. Сустрэліся, і ён мне паведаў адну сваю маленькую гісторыю.

– Лета, гарачыня. У аддзеле не ўседзець. Цягне на прыроду, на свежае паветра, да вады. Паплёхацца, панырацць, асвяжыцца. Пасля абеду я пакінуў работу ды ірвануў на Камсамольскае возера цішком. Мо ніхто не заўважыць маёй адсутнасці? Аддзел жа – вялікі.

Іду ўздоўж берага возера, прыглядаюся, цікую. Дзе б прылегчы?

Дамы жываты павывальвалі, дзяўчаты шнуруюць. Хлопцы боўтаюцца ў вадзе. Мужыкі загараюць.

Гляджу – адзін мужчына ляжыць, прыкрыўшы твар газетай. Як магнітам мяне пацягнула. Стаю, утаропіўся ў яго.

Відаць, спрацавалі біятокі – мужык здымае з твару газету – аказваецца, мой начальнік. Я пазіраю на яго, ён на мяне. Нарэшце, яму гэта надакучыла, і ён зноў накрыў свой твар газетай. А я хуценька пацiснуў на працу. Думаю, хай бы пранесла.

Назаўтра напружана працую. Увесь у поце. За сталом раблю разлікі, за кульманам чарчу дэталі і вузлы, што падбіраю на кампутары.

Падыходзіць начальнік.

– Ну, як справы, як распрацоўка? Ці хутка здасцё?

– Справы ідуць нармальна, распрацоўку хутка здам, – адказваю.

...Калі начальнік і работнік сустрэліся ў непатрэбны час і ў непатрэбным месцы, трэба культурна зрабіць выгляд, што адзін другога не бачыў і не заўважыў. Каб і начальнік не пакараў работніка, і работнік не накляпаў на начальніка вышэйстаячым.

Культура адносін і ўзаемапавага.

А найлепш – каб такіх сустрэч зусім не бывала.

# ОЙ "РЭЧАНЬКА", "РЭЧАНЬКА"

Калі я працаваў старшым інжынерам у заводакіраўніцтве трактарнага завода, то ведаў многіх цахавых і аддзелаўскіх работнікаў і ўсё вышэйшае начальства.

Надыходзіў мой водпуск. Я пашыбаваў прама да старшыні заўкама прафсаюза Чухнакова.

– Рыгор Іванавіч, мне ехаць у водпуск няма куды і няма да каго. Былы дзетдомавец. Дык прашу вас выдзеліць мне пуцёўку хоць бы ў які дом адпачынку.

– Ідзі, – кажа ён, – да нашай загадчыцы культмасавага сектара Галіны Пятроўны і перадай ад майго імя, каб яна задаволіла тваю просьбу.

Я пайшоў. Яна выдала мне пуцёўку ў калгасны дом адпачынку "Рэчанька", што ў Гродзенскай вобласці. Чаму менавіта туды? Справа ў тым, што з таго калгаса прыязджалі, каб выпісаць і атрымаць запчасткі. І ці то ў парадку ўзаемаразлікаў, ці ў знак падзякі пакінулі пуцёўкі ў свой дом адпачынку.

Дабіраўся я ў гэткую далеч з немалымі цяжкасцямі сутак паўтара. "На перакладных" – рознымі відамі транспарту. Дом адпачынку аказаўся ў лесе. Невялікі двухпавярховы цагляны дом. Засялялі на час майго прыезду адны старыя яўрэі з унукамі стопрацэнтна. Адкуль іх столькі там назбіралася? Выключэнне складалі толькі я і парачка маладажонаў, якія былі занятыя самімі сабой. Мне і перагаманіць не было з кім.

Харчаванне было сярэдняе. Газеты не прыходзілі. Радыёрэпрадуктары ў пакоях не віселі. Так сказаць, поўная ізаляцыя ад свету. Пра культурныя мерапрыемствы ніхто і не чуў.

А што тым старым яўрэям з унукамі? Іх усё задавальняла. Кормяць. Наўкол цішыня. Лясок. Рэчка па калена, у якой не толькі што патануць, але і пакупацца не было як.

Не задавальняла толькі мяне. У такіх умовах я змог вытрымаць толькі тры дні. На чацвёрты ўранку пасля сняданку ўзваліў чамадан на плячо і патупаў на прыпынак аўтобуса. З вокнаў і лавак на мяне пазіралі адпачываючыя і здзіўлена пыталіся:

– Што, вы ўжо ад'язджаеце? Чаму так хутка?

– Нагуляўся, – адказваю. – Цяпер гуляйце без мяне.

Дадому дабіраўся зноў з цяжкасцямі. "На пераkладных", і не без прыгодаў. І пад дождж трапіў, і ў раённай гасцініцы заначаваў.

Прыехаўшы, рашуча пашыбаваў да Галіны Пятроўны. Грозна пытаюся:

– Я дзеля чаго хадзіў да старшыні заўкама – каб вы мной заткнулі нейкую дзірку ў Гродзенскай вобласці? Я там у лясной глухмені замучыўся. Неадкладна дайце мне нармальную пуцёўку ў нармальнае месца, бо паскарджуся на вас.

Яна без спрэчак накіравала мяне ў дом адпачынку "Пухавічы". Калі б я ведаў! Гэта быў у тыя даўнія гады адзін з самых закіданых дамоў адпачынкаў. Аднапавярховыя карпусы. Замоклыя то сцены, то столь. Харчаванне такое-сякое.

Адпачываючыя былі ў асноўным рабочыя і сяляне, прытым пажылыя. Непадалёк ад дома адпачынку – лужок і рака. Але якая карысць ад гэтага, калі пазагараць-то на лужку можна і прыемна, а вось пакупацца – нельга, бо рэчка выключна гразевая чамусьці. Хоць і не вузенькая, і не меленькая.

Некаторыя дрэвы спілаваныя, а засталіся высакаватыя пні. Яны служылі сталамі для вясёлых кампаній.

Дзед Коля хадзіў улетку ў ботах і штанах-галіфэ. І ўжо ўранку быў "пад газком". А пасля абеду гуртаваўся з некалькімі такімі ж дзядамі, сядалі за пень-столік і працягвалі пасяджэнне. І доўга чуліся іх вясёлыя спевы. Ну, і хай сабе забаўляліся, абы не біліся. Хоць на нейкі час ад сваіх хат адбіліся.

А самыя руплівыя з адпачываючых цэлымі днямі не вылазілі з лесу і шчыравалі, збіраючы ягады. І грыбы, калі яны траплялiся. І адпраўлялі іх дамоў. Мяне ж гэтыя заняткі не цікавілі. Я чытаў, пісаў, раздумваў.

У мяне і тут не скляпалася свая кампанія, бо не было з кім. Але я мужна выцерпеў свой тэрмін.

Карацей кажучы, я пабыў у двух дамах адпачынку, але так і не змог цікава, культурна і актыўна адпачыць.

Невязуха.

## “ПАЛЯВІНА”

Нашу дзяўчыну аддавалі замуж за ўзбекскага хлопца ці то казаха. Ну, у Сярэднюю Азію. Надыходзіў час вяселля. Бацькі маладой паехалі туды да сватоў узгадніць дэталі і падрабязнасці гэтага свята. Сядзяць з бацькамі маладога і абмяркоўваюць. Размаўляюць на рускай мове, каб паразумецць. Бацька маладой кажа:

– Давайте решим вопрос о денежных расходах на свадьбу. Мы предлагаем так: половина – ваша, половина – наша. Согласны?

– Бик якши! – гаворыць азіят. (Вельмі добра!) – Полявина, так полявина.

І дастае з кішэні свайго распіснога засаленага халата тоўсты пачак грошай.

– Вот вам полявина!

Нашы былі ў шоку. Відаць, увесь свой кішлак паклічуць – сем’і ж у іх вялікія, і радні багата. І з суседніх кішлакоў папрыходзяць – сяброў нямерана. Але якія ў іх цяжкасці? Дом салідны, вінаграднік, дый атара авечак пасецца. А ў нашых якія даходы? Сціплая зарплата.

А тым? Што ім значыць гэтая “полявина”?

А маладыя пажаніліся, і добра жывуць. Там. Бывае, прыязджаюць і сюды. З падарункамі дарагімі.

А на якое прозвішча, якую нацыянальнасць запісваць дзяцей? Калі каторае будзе падобнае на яе – на ейнае. Калі на яго – на ягонае.

І ніякіх міжнацыянальных канфліктаў у сям’і не будзе.

І радасці, і цяжкасці – усё будзе ў іх па “полявине”.

## НЕДАРЭЧНАЕ СПАТКАННЕ

Калі вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце, то нямецкую мову ў нас выкладала Эльвіра Рыгораўна. Такая прыгожая, рамантычная, маладая кабета. Пасля сканчэння навучання я падтрымліваў з ёй некаторыя сувязі – пераззваньваўся, дзяліўся жыццёвымі і творчымі планамі і здзяйсненнямі, дарыў ёй свае кніжкі.

Аднойчы званю ёй і кажу:

– Ёсць слушная прапанова. Вазьміце з сабой дзвюх сяброўак-выкладчыц, а я вазьму двух сяброў-інжынераў, і сустрэнемся ў парку Горкага. І культурна пагуляем, там ёсць дзе. Адпачнём душой, развеемся. Адыдзем ад штодзённых спраў.

Тая згадзілася.

Мы прыйшлі першыя. Адзін прысеў на лаўку, другі абаперся аб дрэва, плачш цераз руку, а я стаю. Чакаем.

Неўзабаве падыходзяць тры цудоўныя дамы. Яны глядзяць, а мы – ні слова. І мы глядзім – яны ні слова. Як быццам аднялася мова. Паўза зацягваецца. Нямая сцэна, як па Гогалю. Мужчыны робяць мудры выгляд, жанчыны нічога не разумеюць. Пэўна, думаюць:

– Мо не спадабаліся?

Урэшце ім усё гэта надакучыла, яны павярнуліся і пайшлі. Я здаганяю і кажу:

– Эльвіра Рыгораўна, прабачце. Давайце, можа, хоць мы з вамі пагуляем?

– Нам не падабаюцца такія мужчыны, што не могуць сказаць ні слова. Пагулялі ў маўчанку – і хопіць. Маўчыце і далей.



А мне зрабілася так прыкра – і за дам, і за сябе, і за сваіх сяброў. Я ж не ведаў, што сябры такія недарэчныя. Чаго ж прасцей – пагаварылі б, прагуляліся, пасядзелі ў кафэ – і, магчыма, спадабаліся і пасябравалі надоўга. Разумныя, інтэлігентныя, адукаваныя людзі не знайшлі агульнай мовы.

Ні да таго, ні пасля ў мяне не падобных спатканняў.

## ТОСТЫ, ПАЖАДАННІ

Сустрэліся некалькі палякаў. Адзін старэйшы за другога. Жывуць у розных кутках. Не бачыліся шмат гадоў. Радасць вялікая. Трэба адсвяткаваць як след спатканне. Калі ўжо тое будзе? Самы стары кажа:

– Давайце пасядзім у мяне. Тым больш – заўтра мой дзень нараджэння.

– Дык, можа, лепш заўтра, – прапануе адзін. – Заадно і адзначым як след.

– Не, – запярэчылі астатнія. – Заўтра мы ўсе павінны быць дома. Раз'язджацца трэба будзе. І ў кожнага свае справы. Усё добрае трэба рабіць адразу.

На тым і пагадзіліся.

Сядзяць, гамоняць. За кожнай чаркай – пажаданні найлепшыя. І, як прынята ў іх:

– Сто лят!
Сто лят!
Сто лят!
Пражыві сто лят!

Пад ноч развітваліся, каб расходзіцца-раз'язджацца, каму куды. Як выйшлі – жахнуліся: матка боска!

– Што ж мы яму пажадалі? – схапіліся яны за галовы. – Ды яму ж заўтра споўніцца сто лят.

– Мы ж яму, атрымліваецца, зычылі пражыць адзін дзень! – прастагнаў адзін.

– Значыцца, каб заўтра памёр! – завыў другі.

Але прабачацца было ўжо позна.

Дзень нараджэння адзначае наша дзяўчына. Дзяўчына можа быць розных гадоў – і юная, і сталая, і старая дзеўка. І тосты розныя. Асабліва прыемны і папулярны такі (і для мужчын таксама):

– Мы табе жадаем пражыць яшчэ столькі, і паў-столькі, і чвэртку ад столькі!

І гэтай юбілярцы жадалі таго ж – тост у тост. А пасля адыходу гасцей яна ўсю ноч плакала. Бо ёй пажадалі ў суме пражыць... усяго сорак дзевяць з паловай гадоў.

Яна ж адзначала... сваё васемнаццацігоддзе.

Трэба ж думаць, калі і каму, і чаго, і колькі, і дзе, і ад каго жадаць.

Каб і самому не трапіць, і чалавека не паставіць у недарэчнае становішча.

У ранейшыя добрыя часы калі хто пабыў у гасцях, то на росстані сябар казаў:

– Будзеш праходзіць міма – не праходзь міма.

А ў наш сённяшні больш складаны час – зарплаты, цэны, пенсіі – калі сустракаюцца прыяцелі, адзін другому кажа:

– Будзеш праходзіць міма – праходзь міма.

Што гэта – ці жарт, ці цяжкасці жыцця, ці многае іншае? Відаць, і тое, і дургое, і трэцяе.

І ўсё ж дружба ў большасці – застаецца.

## ПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА

Я паехаў са свайго "Прагрэса" на былы свой трактарны завод, каб аформіць дакументы на атрыманне металу. Сабраў патрэбныя візы, іду па апошнюю да намесніка генеральнага дырэктара. Той без слоў падпісаў і распытвае:

– Мікола, ну, як жыццё, як творчасць?

– Жыццё нармальнае, а творчасць – вось выйшла новая кніжка. Выдаваў камерцыйна. Сам плаціў, сам прадаю. А вам проста падарую.

Ён паглядзеў кніжку, спытаў, у колькі абышоўся адзін экземпляр. Я адказаў. Ён вымае грошы. Я ўсклікнуў:

– Што вы, Кліменцій Міхайлавіч! Мне няёмка браць ад вас грошы, я вас вельмі паважаю. Мы ж з вамі – даўнія сябры.

– Не пярэч мне! Я зарабляю крыху больш, чым ты.

І паклаў мне дзесятку.

А потым пытаецца:

– Мікола, прымеш чарку?

– Што вы, – адказваю я. – Мне ж яшчэ ехаць на работу. Начальнік можа заўважыць ці вынюхаць. Тады ці палае, ці пакарае.

– Скажы свайму начальніку, што намеснік дырэктара пачаставаў. А калі б ты не выпіў, то я пісьмо б не падпісаў. А калі што – няхай перазвоніць мне.

Я прыняў не адну, а тры чарачкі. Прыткнуў, чым было – пячэннем. І ў добрым настроі паехаў на працу.

Начальнік нічога не заўважыў і не вынюхаў.

А мне было радасна ад прыемнай сустрэчы.

# ЭРУДЫЦЫЯ

Стаіць група мужчын. Гавораць пра тое-сёе. Адзін раптам пытаецца:

– Сябры! Растлумачце мне, калі ласка, што значыць слова “эрудыт”?

Думаюць, разважаюць, спрачаюцца. Я, самы кемлівы, раптам адказваю:

– Эрудыт, гэта чалавек, які можа адрозніць Гогаля ад Гегеля, Гегеля – ад Бебеля, Бебеля – ад Бабеля, кобеля – ад кабеля.

Усе аж ахнулі. Сапраўды нялёгкая задача разабрацца – нават для адукаваных людзей. Вельмі многа трэба ведаць. Тут жа – і вучоны, і філосаф, і пісьменнік, і паэт, і жывёла, і праводка.

Але ж век жыві – век вучыся!

Калі хочаш быць сапраўдным эрудытам.

## ПОЛЬСКІЯ МАТЫВЫ

Былі ў мяне сябры – сямейная пара палякаў. Кватаравалі паблізу. Пан Здзіслаў працаваў у фірме па закупу і рамонту трактароў. Пані Зося таксама недзе нечым займалася пры ім. У іх былі працяглыя замежныя камандзіроўкі. Завяліся прыяцелі, былі прыемныя сустрэчы.

І вось аднойчы сядзім у цікавай, вясёлай кампаніі. Пані Зося танцуе з усімі, абдымаецца, цалуецца. Я, сціплы беларус, пытаюся:

– Пан Здзіслаў, чаму гэта ваша жонка з усімі танцуе, ціскаецца, цалуецца – і нават за сталом?

Паляк весела адказвае:

– Пан Мікола, у нас воля, свабодная любоў, няхай хто і з кім хоча, але ж дамоў яна паедзе са мной, і са мною начаваць будзе.

Надыходзіць ноч. Пара расходзіцца і раз'язджацца. Нам са Здзіславам і Зосяй у адзін бок. Ён падвесялеў звыш нормы. Па разумнаму – мне не варта было ехаць з імі, бо магла быць і аварыя. Лепш бы на тралейбусе. Ён жа зацягнуў мяне ў машыну і сказаў:

– Едзем. Усё будзе о-кэй! Не хвалюйся.

Едзем на звышхуткасці. Яму – мора па калена. Адно – просіць:

– Пан Мікалай, вы толькі паказвайце мне, дзе чырвоны, дзе зялёны колер светлафора, бо я дрэнна бачу.

Ну, падумаў я сам сабе, куды я трапіў? Ён жа не толькі п'яны ў дошку, але яшчэ і падслепаваты. Аварыі не мінаваць.

Потым я пытаюся:

– Дык і светлафораў не бачыце, і хуткасць парушаеце – а ці не баіцеся вы, што служба ДАІ вас затрымае і аштрафуе належным чынам?

– Не, пан Мікалай. Мяне не затрымаюць, бо ў мяне на машыне замежныя нумары. Так што едзем упэўнена. Трымайцеся за мяне – не прападзеце.

Хутка мы падкацілі да патрэбнага нам перакрыжавання на рагу вуліц Сурганава і Куйбышава, супраць універсама "Рыга", а затым – я направа, яны – налева. Яны ў кватэру, я ў свой дом. Разышліся сябрамі і без лішніх прыгодаў.

Усе былі рады без меры.

А назаўтра – перазвоньваліся. Хто і як сябе адчувае.

## КОШТ УДЗЯЧНАСЦІ

Стаю аднойчы каля свайго пад'езда, пакурваю, пацягваю піўко, адпачываю душой. Па алейцы крочыць, пастуквае абцасікамі маладая, стройная, прыгожая жанчынка. Замілаванне і любоў. І пытаецца, параўняўшыся са мной, дзе тут нейкі дом ці ўстанова. Я расказаў і паказаў рукой, у які бок ісці. Яна адыходзіць. А я нечакана для сябе кажу:

– За парады трэба плаціць!

Яна варочаецца, раскрывае сумачку, вымае гаманец і дастае грошы.

– Што вы! – спужаўся я. – Гэта ж я проста пажартаваў. Прабачце, што няўдала.

– Не, не, – запярэчыла яна. – За парады сапраўды трэба плаціць.

Я – ходу ад яе. А яна здагнала мяне і ўсё-ткі ўціснула ў маю кішэнь некалькі рублёў. Як бы там ні было.

А мне зрабілася сорамна, нібыта я ў яе вымагаў.

А ўсё ж прыемна, што ёсць культурныя, удзячныя людзі.

# НА ПРАСПЕКЦЕ ПАРТЫЗАНСКІМ

Ідзём з сябрам Алесем па праспекце, прагульваемся. Бачым нярэдкую карціну: дзве маладзенькія матулі кацяць каляскі з малымі дзецьмі. Весела перагаворваюцца і дружна кураць. Падумалася: відаць, курылі ж і да замужжа, і калі насілі сваіх дзяцей пад сэрцамі. Якое ж здароўе вы ім дасцё? Бывае, каляску коцяць абое маладыя бацькі і кураць. Пэўна, і дома, у кватэры дымяць. І ні ён, і яна не зробяць адзін другому заўвагі.

Далей насустрач ідзе маладая дзяўчына гадоў пад дваццаць і з шыкам, як бы з выклікам, смаліць цыгарэту. Сябар Алесь, сялянскага паходжання, мудра заўважае:

– А раз курыць, значыць – п'е. А раз п'е, значыць – гуляе!

Праўда, апошняе слова ён сказаў прасцей, больш па-народнаму.

Канешне, хутчэй нясціплая не закурыць у адкрытую, чым сціплая закурыць.

– * –

Стаю на прыпынку каля кафэ "Чырвоны мак". Пачатак вясны ці то канец восені. Вецер пранізвае. Халадрыга.

Падыходзіць тралейбус. З яго выходзіць невысокі мужчынка ў чорным касцюме, чорным гальштуку, чорных штыблетах, і белай кашулі, і ў чорным капелюшы. Але без паліто ці плашча. І на добрым падпітку, прыкметна хістаецца, хоць яшчэ толькі адзінаццаць гадзін.

Патупаў, пасоваўся на прыпынку, пасля падышоў да сур'ёзнага, саліднага чалавека, які стаяў скраю прыпынку, і некалькі хвілін размаўляў з ім. Затым падаўся ў кафэ "Чырвоны мак". Магчыма, ён там працаваў, ці пайшоў, як кліент. А кафэ ж якраз і адчыняецца ў адзінаццаць гадзін.

Я падыходжу да таго таварыша і пытаюся:

– Пра што вы размаўлялі з ім?

– А ён прысунуўся і кажа: "Ну, дык расказвай, як гэта ты жыў, як жывеш, як збіраешся жыць далей?"

– А вы – не паслалі яго далей?

– Не, было няёмка. Я адказаў: "Не ведаю, далейшае жыццё пакажа". А ён усё не адыходзіць, распытвае, дае слушныя парады. Але ўжо мой тралейбус бяжыць!

Вось так бывае іншы раз. П'яны вучыць цвярозага, як жыць. Дзівакоў хапае.

# ПРЫВІТАЎСЯ

## *(універсітэцкія сустрэчы)*

У час вучобы на гістфаку ў БДУ маім суседам на студэнцкай лаве сядзеў Анатоль Лебедзеў. Разумнік, але любіў чарку і быў адчайным прагульшчыкам. Яго сустрэць на лекцыях – была з'ява дзіўная, як сон.

Гісторыю КПСС нам выкладаў Ілля Паўлавіч Кожар – былы кіраўнік партызанскага руху на Гомельшчыне, генерал па партызаншчыне, былы дырэктар Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПБ, а пасля – дацэнт БДУ.

І вось аднойчы, распавядае Анатоль, ён ідзе па Ленінскім па тым часе праспекце, а насустрач – Ілля Паўлавіч Кожар. Анатоль хоча рэабілітавацца перад выкладчыкам за свае прагулы, і шчыра вітае яго:

– Дзень добры, Павел Ільіч!

Той здзіўлена паглядзеў на яго і падумаў: што гэта за дзівак, што перавярнуў маё імя і па бацьку наадварот?

Дробны падхалімаж Анатоля не прайшоў. На экзамене атрымаў "двойку". Заслужаную.

Але ён не сумаваў. Кажуць, што ва ўсе інстытуты сталіцы паступаў.

І ўсюды вучыўся.

Але толькі па адным семестру.

На большае ні сілы, ні настойлівасці ў яго не хапала... Дзе ж ты ўпомніш, як каго называць?

А пасля, праз гады, аказалася – жывём у суседніх дамах.

Часта сустракаліся. Інтэлектуальна і па-сяброўску. Такі быў начытаны! Я з ім не сумаваў.

А што лёс не склаўся ўдала – гэта ўжо справа іншая. Не ўсім жа шчасціць. Тым больш – без вялікага старання.

## ЖАРТАЧКІ

Іду па сваім напрамку. Сустракаюцца двое дзяўчат. Гадоў па дваццаць два ўзростам. Кураць, спрачаюцца аб нечым, нават лаюцца. Добра, што хоць не б'юцца, не тузаюцца за валасы. Потым расходзяцца ў розныя бакі: хто – направа, хто – налева. Здаганяю адну з іх і пытаюся:

– Што вы не падзялілі – ці віно, ці хлопцаў? А чаму ты найбольш крычала – выступала, дзяўчына?

– А дзе ты быў, калі я сапраўды была дзяўчынай? – адказвае яна.

Хе-хе! Намёк празрыста-светлы. На цёмныя абставіны.

– А мяне тады яшчэ зусім не было, – адказваю я.

А сам – утрая старэйшы за яе.

– Дык вось калі падрасцеш, вырасцеш – тады падыходзь.

А куды мне ўжо больш падрастаць-расці? Няма куды.

Хіба толькі ўніз.

Мне б яе дваццаць два гады! Тады б смела падышоў, і падайшоў бы па ўзросту.

Толькі пры ўмове, каб яна не піла і не курыла.

І не скандаліла.

Але на сённяшні дзень такіх стрэнеш мала.

На жаль.

Эмансіпацыя!

Хваробы веку.

## ХТО КАМУ НАСТАВІЎ РОГІ

Сядзім ў дружнай кампаніі журналістаў. Весела гамонім. Сярод нас – Саша і Таня. Маладыя, прыгожыя, здольныя. Ёсць і старэйшыя. І вось адзін з іх кажа паўжартам Тані:

– Няхай бы мы з табой сышліся. Жылі б, кахаліся, дзяцей і дабро нажывалі.

А яна яму – прама ў лоб:

– Дык ты ж стары. Я табе рогі настаўляла б.

(Запамятаем на ўсялякі выпадак гэты яе выраз).

Саша заляцаўся з сяброўкай Тані. Справы ішлі на поўны сур'ёз. Збіраліся пажаніцца. Ён быў завідны жаніх, стаў ужо рэдактарам ведамаснай газеты. І тут падкацілася Таня. Адбіла яго ад сяброўкі, акруціла і ажаніла на сабе. Падумала: во кавалак шчасця ўхапіла!

А Саша і сам быў кемлівы і спрытны. Ён хутка скляпаў дваіх дзяцей – адно за адным, і такім чынам прыкаваў прыгажуню-жонку да кватэры. І пакуль жонка дома забаўляла дзяцей, ён тым часам пачаў забаўляцца з пабочнымі жанчынамі. Яна пра гэта ўведала, і занывла, застагнала, заенчыла, заплакала:

– Вой-вой-вой! Хто б мог падумаць? Ён жа сам настаўляе мне рогі...

А чаму здзіўляцца?

Па-першае, не варта было адбіваць у сяброўкі кавалера. Амаль жаніха. Хіба невядома, што на чужым няшчасці сваё не пабудуеш? А па-другое – дабро вернецца дабром, а зло абернецца злом.

Як бумеранг.

А цяпер што пасеяла – тое і пажні.

## ЦІКАВАЯ КАВАЛЬКАДА

Па вуліцы павольна паўзе, грукоча жалезная калымага накшталт такіх, што на рынку перавозяць грузы – у суправаджэнні, так сказаць, ганаровага экскарту з дзвюх жанчын. Адна штурхае гэты сродак перамяшчэння, другая ідзе побач. На калымазе ляжыць мужык. Спераду звісае галава, ззаду – ногі. Усе яны ў рознакаляровай спецвопратцы – відаць, дарожная рабочыя.

Што гэта за з'ява незвычайная, падумаў я. Калі ён вельмі хворы, то выклікалі б "хуткую дапамогу". А калі п'яны, то схавалі б дзе-небудзь, бо міліцыя можа забраць.

Магчыма, яго везлі ў бліжэйшую паліклініку, што знаходзіцца непадалёк, ці дамоў, калі жыве блізка. А можа, дадому да якой з гэтых жанчын. Мо нават чый муж або сябар.

Я не пачаў укліньвацца са сваімі размовамі і роспытамі. Я з імі і не працаваў, і не выпіваў. Няхай разбіраюцца самі.

## ЛЁВАВА ЗНАХОДЛІВАСЦЬ

У нас на заводзе працаваў грузчыкам на складзе металу Лёва. Работа няпростая і адказная – падчапляць і грузіць многатонныя пачкі жалеззя, або разгружаць іх з машыны. І больш дробныя грузы, бывае. ляжаць абы як, іх трэба спачатку збіраць. Увогуле акуратнасць у рабоце патрэбна. Але Лёва, хоць яму было ўжо за шэсцьдзесят, быў працавіты і цягавіты. За тое яго і трымалі. Адно толькі – хоць людзі яго нацыянальнасці звычайна п'юць не часта і мала, дык гэты быў з іх рэдкім выключэннем. Выпіўкі ніколі не цураўся.

Стаім аднойчы на заводскім двары ўтраіх: начальнік аддзела, я – старшы інжынер, металіст, і Лёва. Чакаем машыны з грузамі, маракуем, як лепш і хутчэй разгрузіць і дзе складзіраваць метал. Абмеркавалі, разышліся.

Начальнік аддзела пытаецца ў мяне:

– Мікалай Пятровіч, нешта я нічога не разумею. Лёва ўвесь час быў з намі, толькі адышоў на пару хвілін у цэх папіць газіроўкі. Прыйшоў – гляджу, а ён ужо прыкметна хістаецца. І ніякага паху не адчуваю.

І праўда, незразумела. А потым я разабраўся. Аказваецца, “ларчик просто открывался”. Лёва даставаў у лабараторыі таблеткі сухога спірту, пасля ў нейкі зручны момант глытаў адну, запіваў вадой, і хутка ўжо быў цёпленькі і вясёленькі. Ішоў натхнёна працаваць. Пасля допінгу.

Як кажуць, у выпіўцы не быў заўважаны, але часта піў ваду...

## НЯЎДАЛЫ ЖАРТ

Адпачываем з сябрамі на возеры Нарач. Загараем, купаемся. Умацоўваем здароўе. Сіл набіраеся.

Ляжым аднойчы на санцапёку, назіраем.

І раптам бачым: уздоўж берага ідуць у плаўках двое мужчын на добрым падпітку. Прыкметна хістаюцца.

Адзін з нас пазнаў іх і кажа:

– Дык гэта ж народны артыст з Купалаўскага тэатра Віктар Тарасаў, а побач з ім – яшчэ не народны, але заслужаны артыст.

А дзе ж яны паспелі наадзначацца ў такі ранні час, падумаў я. Але свет багемы непрадказальны, жыве па сваіх законах, толькі ім зразумелым, і не варта ўмешвацца ў іх.

А ў мяне прамільгнула гуллівая думка. Я ведаў, што непадалёк ад берага ёсць асінае гняздо. Яны ўжо набліжаліся. Я схапіў палачку, падбег і разварушыў гэтае гняздо, а сам адбег і лёг. Толькі яны параўняліся з гняздом, і тут жа адтуль шугануў асіны рой. І накінуўся на іх, пачалі дружна джгаць. Тыя беспаспяхова адмахваліся. А пасля, як тыя коні незацугляныя, пабеглі наўцёк. А куды бегчы? У возера. Боўталіся і ныралі. І толькі тады восы адчапіліся ад іх. А мужчыны ў момант працверазелі ад усяго гэтага.

Вось такая была прыгода. Яны – артысты, а я – наладзіў ім канцэрт.

Асіны канцэрт.

Калі б яны ведалі, хто віноўнік, то, пэўна, памалацілі б мяне. Але, на маё шчасце, не ведалі.

Абышлося мне.

# ГРУЗІНСКІЯ МАТЫВЫ

***(было ў даўнейшыя гады)***

Адзін паехаў адпачываць у Грузію. Мора, скалы (Абхазія), дрэвы дзіўныя, расліны. Адным словам, адмыслова. Паветра, цытрусавыя, шашлыкі, вінаграднае віно, каньякі, светлая мара для адпускніка. Дамы, сустрэчы, спатканні, каханне.

Думаў надыхацца, накупляць і дамоў завезці паўднёвых пладоў, і рэчаў недарагіх набраць.

Адзін раз заходзіць у магазін, купляе нешта – рублі на тры. Плаціць пяцёрку. Рэшту не даюць. У другім магазіне набраў на пяцёрку, даў дзесятку – рэшту зноў не варочаюць. У трэцім магазіне ўзяў на сем рублёў – лішку не вяртаюць з дзесяткі. Пачаў абурацца. Прадавец, грузін, кідае яму ў спіну дзесятку і кажа:

– Уходи, дорогой, и больше не заходи.

У выніку ён замест месяца пабыў там дзён дзесяць. Ледзь на зваротную дарогу хапіла.

На наступны год ён вырашыў усё ж паехаць на іхнюю цудоўную прыроду. Вельмі ж спадабалася. Але не хацеў, каб яго аблічвалі. Цэлы год збіраў грошы на расходы манетамі. Назбіраў цэлы мех. У цягніку вёз. Але, падумаў, не дам ім падманіць, аблічыць мяне. буду пільна сачыць за разлікамі.

У далейшым ён ці за нейкія невялікія пакупкі, ці за абед доўга лічыў манеткі і акуратна разлічваўся. Тыя ж ленаваліся пералічваць і кідалі гэтую драбязу яму ў спіну. А ён не ленаваўся нахіляцца і іх пазбіраць. У выніку ён мала зрасходаваўся, а большасць грошай прывёз дамоў.

Хто каго падманіў?

Мы, група тырустыў, зайшлі ў краму. Нешта купілі – рознае. Гандлярка мясцовая падлічыла і вынесла суму. Адна наша дама пералічыла – значна больш. І запатрабавала, каб заплаціць менш. Для той гэта было нязвыкла, і яна вымавіла:

– Какие вы хітрые!

Яшчэ трэба паглядзець, хто з нас больш хітрыя.

# ВЕЧНЫЯ КЛОПАТЫ

Уранку, пасля сняданку, выходджу з кватэры. Жонка пытаецца:

– Ну, куды ты ўжо вылазіш?

– На ранішні мацыён, на выгул.

– Што гэта значыць? – не разумее.

– Дбайны гаспадар нават свайго сабаку выводзіць на выгул на двор, прытым не раз. На свежае паветра.

– Дык ты ж – не сабака, – мудра заўважае жонка.

– Тым больш, – адказваю я.

– Праз які час вернешся?

– Хвілін праз дзесяць.

– Ведаю я твае дзесяць хвілін. Значыцца, гадзін праз дзве – тры.

І яна мае рацыю. А куды мне спяшацца на пенсіі? Тым больш – сустрэнемся з сябрамі, прыяцелямі, суседзямі. Згуртуемся, прыемна пасядзім на лавачцы ва ўтульным куточку двара, пра рознае пагаворым.

А яна пойдзе мяне расшукваць. І дзе б мы ні прытуліліся – выгледзіць, высачыць, знойдзе. На гэта ў яе нюх развіты. І пагоніць дамоў. Дакладней – павядзе.

Але ж – нервуецца, хвалюецца, перажывае.

І – дзякуй ёй за дабрыню і ласку.

За вечны клопат пра мяне.



## ЯК БАНК ПАРАДАВАЎ МЯНЕ

Калі я працаваў на ранейшай рабоце, то зарплату мы атрымлівалі цераз банк, які размяшчаўся ў адным будынку з нашай установай. Гэта было вельмі зручна для нас, бо не трэба было ездзіць ці далёка хадзіць па грошы.

Гэта было даўно, ужо не працую. І вось аднойчы звоняць з таго банка і кажуць:

– Прыедзьце, атрымайце свае астатнія грошы. Нам трэба закрыць ваш рахунак.

"Якія там грошы? – падумаў я. – Можа, некалькі тысяч, нават калі нараслі нейкія працэнцікі".

Але ж паехаў. Туды – двума транспартамі, назад – адпаведна столькі ж.

Падаю пашпарт, атрымліваю налічаныя грошы – усяго... восемдзесят рублёў. Дык я за праезд туды-назад заплачу на той час васемьсот, у дзесяць разоў больш. Ды і то толькі таму, што ў мяне талоны ільготныя. А калі б не ільготныя, то было б у дваццаць разоў больш. Не прыбытак, адны страты. Вось і парадаваў мяне родны банк! І час свой я змарнаваў, і праязныя талоны. Калі б ведаў, колькі атрымаць, век бы не паехаў. Хай бы мой рахунак вісеў там бясконца. Або спісалі б за даўнасцю часу і мізэрнасцю сумы.

І куды мне тыя восемдзесят рублёў? Кату пад хвост! Або аддаць першаму ж бамжу – і той наўрад ці ўзяў бы.

Клопат з банка зняў, а на сябе дурны клопат узяў.



# КУЛЬТУРА АБЫХОДЖАННЯ

У нашым, і у некаторых іншых пад'ездах, дый у суседніх дамах пасяліліся «дзеці розных народаў» – в'етнамцы, малдаване, дагестанцы, азербайджанцы, грузіны і гэтак далей. Ці то кватэры здымаюць, ці купілі. А цэнтр горада праваблівае многіх іншаземцаў.

В'етнамцы выключна ветлівыя, ласкавыя, усмешлівыя. Малдаване больш замкнёныя ў сабе, маўклівыя. Каўказцы ганарлівыя, глядзяць у неба і ў сябе, на другіх увагі не звяртаюць асабліва.

Я распытаў і выведаў правітанні на іхніх мовах. Гэта было мне цікава. Калі ідзе в'етнамец, я кажу:

– Сінцяо, бан! (Прывітанне, сябар!) – мужчыну. Дзяўчыне в'етнамскай кажу інакш:

– Сінцяо, кагао!

Яна весела адказвае:

– Здляствуйце!

Малдаваніну, дык па–іхняму:

– Сокэ, рэс!

Адзін – адкажа, другі – пройдзе моўчкі.

Азербайджанца, дагестанца вітаю традыцыйна:

– Салям алейкум, кунак! Алах акбар! (Дзень добры, сябар! Алах Вялікі!)

Яны адказваюць: – Алейкум салям!

Грузіну кажу: – Гамарджоба, генацвале! Абіджо! (Лепшае правітанне сябру). І раблю традыцыйны паклон.

Аналагічна рэагуе, дзякуе па–свойму – паклонам.

Армяніну – Барэў, джан! Вонс апрумэс? (Здароў, мілы, як жывеш?)

У адказ чую: – Шат лаў! (Вельмі добра!)

І, нарэшце, эстонцу: – Тэрэ, каліс сэбір! Куйдас элат? (Прывітанне, дарагі сябар, як жывеш?)

Ён мовіць у адказ: – Вэга кена! (Вельмі добра!)

(У маладосці я служыў у Эстоніі на граніцы і трохі вывучаў іхнюю мову).

Аднойчы пераблытаў в'етнамца з карэйцам. Той мяне не зразумеў, а я спытаў, як іх вітаць. Ён падказаў, але я пакуль што не запамятаў.

Нічога, удакладню пазней. Дый карэйцаў у нас вельмі мала.

Жонка пыталася:

– Навошта ты чапляешся да людзей?

– Я не чапляюся, а паказваю нашу культуру – што беларусы хоць трохі, але могуць размаўляць на самых розных мовах. Асабліва вітацца. А іншаземцам гэта прыемна.

В'етнамцы маскуюцца пад нашы імёны. Двое – розных пад'ездаў – запрашалі мяне ў госці і як след прымалі. Частавалі сваімі нацыянальнымі стравамі – каўбаскамі з уключэннем траў і розных напаўняльнікаў і курамі, прыгатаванымі па іхніх рэцэптах. І рысавай гарэлкай, але казалі, што наша – лепшая. Бан Толя наліваў многа, але з сабой нічога не даў. А бан Антон наліў усяго сто пяцьдзесят, але даў поўны цалафанавы мяшэчак з каўбаскамі і курамі. Ды хоць дружна абедалі – мы сваю мерку ва ўсім ведалі. Гаманілі пра ўсё рознае, мелі сходныя думкі. Такім чынам умацоўвалі інтэрнацыянальную дружбу.

... Сядзім на лаўцы ў нашым пад'ездзе з дзядулямі і бабулямі, назіраем, размаўляем. Ідзе дагестанец, я правітаўся па–іхняму. Потым жонка кажа:

– Ну, што, насалямкаўся? Ідзі дамоў.

І я пацiху пацiснуў. Глядзець кінасерыялы. Чарговыя серыі. Мы вельмі іх любім. Што ж, у кожнага свой густ.

## АКУРАТЫСТКА

Кабеце за пяцьдзесят гадоў. Змагаецца за план на вытворчасці ў аддзеле каплектацыі. Характар работы раз'язны. Увесь дзень у паездках па прадпрыемствах і ў арганізацыях. Бегае, афармляе, выпісвае, атрымлівае, завозіць. Шмат клопатаў і галаве, і нагам.

Але калі заходзіць у свой аддзел – ніколі не сядае, не прысядае. Кажуць, у яе – хвост. А калі не хвост, то адростак хваста. Чуў, што такое з некаторымі людзьмі здараецца. Як наследства ад нашых старажытных продкаў-малпаў.

А яшчэ – калі атрымлівае зарплату, то кожную грашовую паперку, банкноту прачышчае мыльным растворам. Бо грошы бываюць у розных руках. Каб не заразіцца.

Дык абсалютнай стэрыльнасці нідзе і ні ў чым дасягнуць нельга. Хіба толькі ў Антарктыдзе? Але ж мы жывём не ў Антарктыдзе, а ў цэнтры Еўропы. Індыстрыялізацыя, урбанізацыя, заводы, фабрыкі, будоўлі, шкодная вытворчасць. У гарадах дыхаць цяжка. Дзе ж ты ад усяго гэтага дзенешся? Куды ўцячэш? Аднак жа ніхто не пераязджае з дымных гарадоў у вёску. Наадварот – з вёсак стрымгалоў пруцца ў гарады дымныя. Такія павевы часу.

Вось і кажуць – і ў размовах, і ў навуцы – таму мы і жывем, і выжываем, што прыстасавалі свае арганізмы і сябе да такіх жыццёвых умоў, а ва ўмовах абсалютнай стэрыльнасці загінулі б.

Гэтая кабета не дажыла і да пенсіі. Відаць, з-за залішняй акуратнасці (усё трэба ў меру) у яе не выпрацаваўся імунітэт супраць розных хваробаў.

А калі б жыла, як усе – яшчэ доўга працягнула б. Многіх перажыла б.

("Хто не курыць і не п'е – той здаровенькі памрэ").

Народны жарт.

Не заклікаю да распусты.
Найлепей – з'еш качан капусты.
Як вып'еш – то расол папі.
Пасля – спакойна ноч паспі.

## НАПАЛЯВАЎСЯ

Сустракаю дзеда Сяргея. Твар яго пабіты і няголены.

– Што з табою здарылася? – пытаюся.

– На паляванне хадзіў, – адказвае.

– Ну, і што?

– За мной пабег зубр. Я – уцякаць, а ён здаганяе. Я стукнуўся аб дрэва і ўпаў. І ружжо адляцела. Потым я ўскочыў, падхапіў ружжо, і па глыбокім снезе патупаў да вёскі.

– А зубр быў адзін?

– Не, асобін пяць.

– А ў які час дня ты быў у лесе?

– Надвячоркам.

– А раней не мог?

– Не мог, доўга збіраўся.

Мая жонка Ніна дзівіцца:

– А чаму ж ты не дадумаўся зрабіць стрэл уверх? Любы звер ад стрэлу ўцякае.

– Не дадумаўся.

– Хто ж ходзіць на паляванне адзін? Нават улетку. А тут мароз, месяц люты, глыбокі снег, галоднае звяр'ё. Зграі ваўкоў, дзікі, рысі, нават мядзведзь можа вылезці з бярлогі. Ты ж стары чалавек, мог бы разумець. З лесам не жартуюць.

Ён стаіць і няёмка ўсміхаецца.

А мы пасля разважылі: ну, зубр як зубр, але добра, што не натрапіў ён на зграю ваўкоў. Разадралі б яго на дробныя частачкі. І не было б сярод нас дзеда Сяргея. Можа, цяпер дойдзе да яго гэтая няхітрая навука?

## ЗА ЎСМЕШКІ ПАЦЯРПЕЎ

На трэцім курсе тэхнікума прадмет "Допускі і тэхнічныя вымярэнні" выкладала нам Тамара Паўлаўна. Жанчына сярэдніх гадоў, сярэдняга росту і сярэдняй знешнасці.

Звычайна мужчына касцюмы рэдка мяняе. Затое культурны часта мяняе гальштукі. І ўсім здаецца – мяняе і касцюмы.

У жанчын – свае законы.

Пра моду.

Тамара Паўлаўна зрэдку мяняла сукенкі, затое кожны раз на грудзях прыколвала розныя кветкі. Вялікія, каляровыя, штучныя, з матэрыялаў прыдатных.

Трэці курс. Я сяджу на першай лаве. Сямнаццаць гадоў. Юны, стройны і прыгожы.

Сяджу і пазіраю на Тамару Паўлаўну. І сам не ведаю чаму – усміхаюся, усміхаюся, пасміхаюся.

А яна, відаць, зразумела гэта па-свойму – што я не ўсміхаюся, а – насміхаюся.

І адпомсціла мне па-свойму. Па-жаночы. Сваёй уладай.

Я экзамен здаў ёй на "выдатна" – на ўвесь білет, яго пытанні адказаў глыбока і грунтоўна.

Яна ж паставіла мне "чацвёрку". І нікому не паскардзішся.

Вось так.

Менш было б усміхацца.

Сур'ёзней трэба быць.

## МОЎНАЯ БЕЗДАПАМОЖНАСЦЬ

Стаяць двое. Адзін нешта гаворыць.
Другі недачуў і перапытвае:
– Што?
Той не разумее і пытаецца:
– Што – што?
Першы не дакумекае:
– Што, што – што?
І так можна працягваць бясконца – штокаць.
Размова дваіх бесталковых.

– * –

Яшчэ двое – незнаёмых.

Адзін утаропіўся ў другога. Той ці спадабаўся яму, ці вельмі не спадабаўся.

І раптам выскаліў зубы і гыркнуў нечакана:
– Гы!
Другі недаўменна ўдакладняе:
– Што значыць гэтае ваша – гы?
Той зноў выскаліўся:
– Недарэка! Тое і значыць: гы – яно і ёсць – гы.
І заіржаў, зарагатаў.

– * –

Як не ўмееш што сказаць, тады лепей – памаўчаць.

## ХТО Б КАГО З'ЕЎ?

Разгаварыўся з сябрам жартаўліва.

Пытаюся:

– А каб сустрэліся удаў і кракадзіл? Дык хто каго з'еў бы?

Ён кажа:

– Кракадзіл бы праглынуў пітона.

Пярэчу я:

– Дык ён такі даўгі – не ўлез бы ў пашчу кракадзіла.

– А ён бы – не адразу. Перакусіў бы на частачкі, а пасля – еў.

– Але ўдаў бы мог абкруціцца вакол морды кракадзіла і ўзяцца на замок. Кракадзіл і пашчу не раскрыў бы. Не паспеў бы.

Абое – агрэсіўныя.

Я прапаную сябру:

– А давай паедзем у Маскву, сустрэнемся з дырэктарам заапарка, купім яму і выставім літру гарэлкі ці каньяку. І няхай ён паставіць ушчыльную клеткі з удавам і кракадзілам, падыме сумежныя дзверкі – і мы паназіраем, хто каго там з'есць.

– Не атрымаецца, – раздумліва адказаў сябар. – Дырэктар на гэта не пойдзе, бо ён – матэрыяльна адказны за кожную жывёліну. Яны ж дорага каштуюць.

Дорага яму і абышоўся б наш гэты эксперымент.

– Дык хто ж каго б там усё ж з'еў бы? – зацікаўлена пытаюся я.

– Той, хто быў бы больш галодны, – мудра адказаў сябар.

## ПАДАТКІ І ЗГАДКІ

Раней у нас была Падатковая інспекцыя на ўсю рэспубліку, якая паспяхова спраўлялася са сваімі задачамі. Праз некаторы час яна вырасла, і на яе аснове было створана саліднае Міністэрства па падатках і зборах. І штат работнікаў намнога павялічыўся, і зарплату немалую ім далі. А зарплату, як вядома, трэба адпрацоўваць. Цераз тыя ж падаткі і зборы.

Неяк мне давялося пабыць на святочным мерапрыемстве ў Управе гэтага міністэрства аднаго з раёнаў горада Мінска. Пацікавіўся колькасцю іх супрацоўнікаў. Адказалі: сто трыццаць пяць. Вось дык далі! Ды з такой колькасці людзей можна было б стварыць цэлы заводскі цэх, які выпускаў бы нямала прадукцыі. А гэтыя стараюцца, шчыруюць, выціскаючы з арганізацый, прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў і людзей падаткі і зборы. Грошы адным словам. А па ўсім горадзе, па рэспубліцы колькі работнікаў у міністэрстве?

На Дошцы гонару ў холе вісіць многа партрэтаў перадавікоў іх высакароднай працы. Іх дзесяткі. І ўсе – моладзь гадоў прыкладна ад дваццаці пяці да трыццаці пяці. І ва ўсіх важныя пасады: галоўныя спецыялісты, начальнікі аддзелаў. Няёмка было пытацца, але думаю, што зарплаты прыстойныя – не бядуюць ад безграшоўя.

Доўгі час я працаваў літаратурным кансультантам пры рэдакцыі мінскай раённай газеты. Нашы паэты былі ўзростам пад шэсцьдзесят гадоў і старэйшыя. Ганарар за публікацыю аднаго верша складаў тысячы тры рублёў, ды і з іх утрымлівалі падаходны падатак. Такім чынам нават пры штомесячных публікацыях аўтар атрымліваў тысяч трыццаць за год. Мізэр. Але ж не кожны друкуецца штомесяц.

І вось нашы дзядулі і бабулі пачалі скардзіцца мне:

– Мікалай Пятровіч, нас зацягала раённая падатковая: пастаянна патрабуюць даведкі пра наш дадатковы заробак. Што нам рабіць?

– Скажыце ім, – раю я: – Дзяўчаты, не займайцеся марнатраўствам. Не траціце дарэмна свой час, энергію і паперу. Па вашаму палажэнню падаткі за дадатковыя заробкі бяруцца толькі пры перавышэнні пэўнай значнай сумы. Так што спаганяйце падаткі з тых, у каго высокія ці звышвысокія

прыбыткі, а не чапляйцеся да бедных пенсіянераў. Гэта зусім недарэчна.

Міністэрствам кіравала жанчына. І вось здарылася так, што яе сын заўчасна адышоў з жыцця. Што ж, у многіх так бывае... Чытаю адну рэспубліканскую газету, і бачу аж сем спачуванняў мацеры з розных куткоў (у чорных рамках). У наступным нумары – аж дзевяць (?!). Яшчэ ў адным – пяць! Адкуль, думаю, такая ўвага, павага і пашана кіраўніку такога ўвогуле непапулярнага міністэрства? Прэм'ер-міністрам такой увагі не ўдзялялася. Канешне, спачуванні – справа святая, але каб столькі!

Сваімі думкамі падзяліўся з сябрамі.

Адзін кажа:

– Відаць, большасць спачуванняў была ад падуладных структур.

Другі дадаў:

– А калі ад прадпрыемстваў, то, пэўна, ад тых, з каго не поўнасцю спагналі падаткі.

– Або зусім не спагналі, – разважыў трэці.

Магчыма, магчыма...

Аднак гэта – прадмет для роздуму.

## ПАЛЯЧЫЦЦА – ЖЫЦЦЮ ПАВУЧЫЦЦА

Гадоў пяць ці больш таму назад мяне накіравалі лячыцца ў трэцюю гарадскую бальніцу, што каля стадыёна "Дынама". Бальніца з даўняй гісторыяй – 175 гадоў ад часу стварэння, і слаўнымі традыцыямі. Запэўнілі, што ўсё там будзе найлепшым чынам. Я і спадзяваўся. Але не ўсё было там у такім ружовым святле, як думалася.

Аддзяленне гастраэнтэралогіі, дзе размясцілі мяне – самы большы, чатырохпавярховы корпус. Аднак міма праходзіць трамвайная лінія – трамваі грукочуць зранку і да позняй ночы, што далёка не ўсе добра ўспрыймаюць.

Пры засяленні я прасіў загадчыка аддзялення:

– Калі ласка, памясціце мяне ў найменшую палату. Я – чалавек творчы, мне трэба будзе ў вольны час і пачытаць, і папісаць (і падараваў яму сваю кніжачку).

– Добра, – згадзіўся той.

І ўсялілі... у палату самую большую, аж на трынаццаць чалавек! Як армейская казарма. Да таго ж там сабраўся розны зброд: і сапраўдныя хворыя, і сімулянты, і непрацоўныя элементы, і п'янюкі, і злодзеі. Пра апошнія дзве катэгорыі я ўпэўніўся на сабе, калі з шуфлядкі тумбачкі ў мяне ўкралі скураны кашалёк з грашыма (іх было няшмат, але на тры пляшкі гарэлкі ім хапіла), і ў ім ключы ад кватэры. Яны то ім нашто? Хоць бы іх пакінулі.

У некаторых палатах, на ложках на абрыўках панцырнай стальной сеткі ляжалі фанерныя лісты. Мэбля хісталася ад старасці. Па шуфлядках бегалі прусакі, у тумбачках небяспечна было класці харчы. Пасля рамонту нашага корпуса ў час ліўню дажджавыя патокі з правага вугла корпуса ручаём цяклі ўніз. Медперсанал і пацыенты ледзь спраўляліся вёдрамі выносіць ваду з калідора на двор.

Апроч таго, піжаму трэба было браць з дому, як і частку кухоннага посуду.

Выпісаўшыся, я па свежых слядах напісаў востры фельетон. Без ніякіх прэтэнзій да медыцынскага персаналу. Бо ўрачы лячылі прафесійна, а медсёстры праводзілі працэдуры акуратна. Я падымаў толькі праблему жудасных умоў утрымання пацыентаў, да якіх не маглі дадумацца нават

у самай захудалай раённай ці сельскай бальніцы. І даваў слушныя парады: няхай адміністрацыя бальніцы запатрабуе сродкі ў Міністэрства аховы здароўя для пераабсталявання бальніцы. Калі ў міністэрства грошай няма – няхай ваш міністр запатрабуе сродкі ў Міністэрства фінансаў. Калі і там няма – звярніцеся да ўрада. Калі і там адмовяць – не закрыта дарога да Прэзідэнта. Нельга ж дапусціць, каб некалі славутая лячэбня так заняпала.

Пасля пачаліся блуканні па рэдакцыях. У гарадской газеце фельетон не ўзялі. Там жа быццам пры іх выдаецца нешта накшталт часопіса пад назвай "Здароўе". І там далі адлуп. У рэспубліканскай газеце падрыхтавалі да друку, але наверсе не пусцілі, да таго ж намесніку галоўнага рэдактара зрабілі вусную вымову (не дапытваўся, чаму, магу толькі здагадвацца). У вольнай газеце ўзялі, але не далі. Я не дамагаўся тлумачэнняў. Пайшоў у ведамасную газету "Медицинский вестник". Ну, думаю, дадуць разгон! Што вы, хіба яны пакрытыкуюць сваю сістэму? Хоць сур'ёзная ведамасная газета смела крытыкуе недахопы і ў сваіх арганізацыях, і ў адказных работнікаў, інакш які ж рух уперад?.. Далей пазваніў на радыё, прапанаваў свой допіс.

– Мы не даём такіх матэрыялаў, а толькі невялікія інтэрв'ю на медыцынскія тэмы.

І толькі на сёмай інстанцыі адна рэдакцыя надрукавала ў сваёй газеце мой фельетон. І ўсё ж я недарэмна змагаўся, гаўкнуў на ўсю моц. Акуратней кажучы, выказаўся рашуча. Можа, хоць нешта пасля таго змянілася ў лепшы бок. Бо кожны можа там апынуцца і зведаць на сабе ўсе нязручнасці і нягоды.

А ідзем жа ў бальніцу з самымі лепшымі надзеямі.

І ўсё ж цікава, чаму ўказаны фельетон так цяжка прабіваўся ў друк. Ці гэта была забароненая тэма: не чапаць медыцыну! (А прычым тут яна – гаворка ж ішла не пра медыцыну, а пра гаспадаранне ў ёй). Ці журналісты баяліся, што кожны сам можа трапіць у гэтую бальніцу?

## ПАГАВАРЫЛІ

Едзем у тралейбусе. Два пярэднія сядзенні – адно супроць другога. На адным сядзіць п'янюк і нешта балбоча сам сабе:

– Балэм-балэм, балэм-балэм.

Нічога не зразумець

А я падумаў сам сабе: няхай бы зайшоў такі самы, і сеў побач ці насупраць, і як бы яны паразумеліся? Вось бы было цікава!

Толькі падумаў – заходзіць такі ж, сядзіць насупраць таго, і такая ж размова:

– Балэм, балэм, балэм-балэм!

Пайшла незразумелая для нас размова. А яны адно другога нібыта разумеюць.

А што далей? Чаго я і чакаў. Яны ўстаюць дружна з месцаў, абдымаюцца і цалуюцца. Аж сліна цячэ, пену пускаюць.

Пасажыры смяюцца, рагочуць. Маўляў, у цырк не трэба ісці, і ў філармонію. Канцэрт бясплатны.

Я сышоў на сваім прыпынку. А яны яшчэ ехалі.

Ну, думаю, дакуль жа? Відаць, сыдуць разам, возьмуцца за ручкі, і пойдуць!

Куды і як?

Хай разбіраюцца.

## НУ І НАЕЎСЯ!

Здаўна мне падабалася гусяціна. І не тлустая, як качаціна, і мяса крупчатае і смачнае. І вялікія, тоўстыя звычайна гэтыя гусі. Але раптам чамусьці было – зніклі з продажу. А хацелася.

Аднак аднойчы гляджу на вітрыну – ляжыць вялізны гусак. І не дорага прадаецца. Узважыў, аплаціў, купіў. Нясу, радасны, дамоў. Ну, думаю, буду есці цэлы тыдзень са смакам.

Але светлая надзея не збылася: размарозіў, разрэзаў, гляджу – а там толькі косці і скура, як барабан. І ўсярэдзіне пуста. Печань, сэрца, іншыя вантробы – нічога няма. Відаць, гусак быў выпатрашаны. Але чаму такі страшна худы? Ці яго не кармілі гады тры, а толькі траўку скуб, ці ад старасці ад ветру хістаўся, а можа, вельмі моцна "працаваў" над гускамі і знясілеў? Задача!

Гляджу сумна на гэтага гусака і разважаю: і есці нельга, і выкінуць шкада. Есці нельга, бо няма чаго есці, а выкінуць шкада, таму что нейкія ж грошы заплаціў.

Урэшце парэзаў на кавалкі, укінуў у каструлю і паставіў на пліту. Варыў гадзіны тры. Пасля павыцягваў косці, і што засталося? Толькі скура і нейкі навар, які можна было есці таму, што прыпраў не пашкадаваў. Але прынцыпова еў, бо сам купляў, сам і гатаваў. Вельмі доўга еў. Каб запомнілася.

А ўвогуле няхай бы лепш гэтага гусака жонка купляла – тады б я лаяў яе. А калі сам – то яна мяне пілавала:

– Не ўлазь у жаночыя справы!

А што ж, відаць, яна права...



# З ЯПОНСКАЙ БЫВАЛЬШЧЫНЫ

(пераклады з японскай, рускай – на нашу)

Цяпер ва ўсім свеце актыўна вывучаюць рускую мову. Асабліва – у Амерыцы, Японіі і ў іншых краінах.

Вось адзін прыклад з японскага жыцця.

Маладыя японец і японка вяртаюцца з курсаў па вывучэнню рускай мовы. Прыселі ў парку адпачыць пад галінамі сакуры. А самі падабаліся адно аднаму. Размаўлялі па-руску, каб замацаваць атрыманыя веды.

Сядзелі, гаманілі ціха, а пачуцці маладыя іграюць.

Ён паклаў руку ёй на плячо і пытаецца:

– Мозна?

– Мозна, – адказала яна.

Пазней ён трохі пасмялеў, паклаў ён рукі на грудзі.

– Мозна?

Яна трохі падумала, і расчулена адказала:

– Мозна.

Яшчэ праз паўгадзінкі хлопец яшчэ больш пасмялеў, паклаў руку ён на ножку і спытаў:

– Мозна?

Яна з абурэннем адкінула яго руку, і рашуча адмовіла:

– Не, не мозна!

А ён і засумаваў. Сядзіць ціхенька, як мыш пад венікам. І – ні слова. Мінула яшчэ колькі часу.

А ў яе ж сэрца – не камень. Пашкадавала каханага, і ўрэшце вымавіла:

– Узо – мозна!

А ён сумна адказаў:

– Узо – позна.

...Рабіце ўсё, пакуль – “мозна”.

І тады –

ніколі не будзе позна.

## НЕ МУТАНТ

На сваім садовым участку я садзіў, сеяў розныя сельскагаспадарчыя культуры, у тым ліку – і сланечнік. Ён і догляду не патрабуе, і прыгожа цвіце, і расце сам па сабе.

І вось аднойчы пад восень гляджу – на адным сланечніку вялікая шапка, зёрны. А ўздоўж сцябліны зверху ўніз яшчэ штук шэсць ці больш малых шапачак з зярняткамі. І не на галінах гэтыя шапачкі, а як бы прылепленыя да ствала.

Я быў вельмі здзіўлены і паклікаў суседзяў па ўчастках, паказаў ім і пытаюся:

– Сам рос у вёсцы, а такога ніколі не бачыў. Што гэта такое незвычайнае?

Ніхто нічога не разумее. Адзін кажа:

– Гэта, відаць, мутант (перараджэнец, урод).

Другі, вопытны агароднік, які падышоў пазней, патлумачыў мне:

– Гэта – рэдкі семянны экземпляр. Ведаеце, на некаторых культурах – часнык, цыбуля, рэдыс дый розныя нам вядомыя іншыя – вырастае высокае сцябло, а на ім – насенне. Праўда, гэтае семя ніхто не садзіць і не сее, як і вяршкі бульбы, а садзяць не з вяршкоў, а з каранёў.

На ўсялякі выпадак я сфатаграфаваўся з гэтым цудам прыроды пад руку, напісаў заметку і занёс у рэдакцыю сельскай газеты. Там зацікавіліся, надрукавалі. Няхай бачаць і ведаюць.

Такім чынам, я паказаў і свой участак, і сваю дзіўную расліну, і сябе. І ганарар невялікі атрымаў.

Усё выйшла і цікава, і пазнавальна.

Больш было б такіх незвычайнасцей!



## ЛЕПЕЙ – ДАЦЬ, ЧЫМ – ПРАСІЦЬ

У нашай заводскай сталоўцы нейкі час давалі бясплатныя абеды для беднякоў. А потым перасталі. А бедныя ўсё роўна заходзілі. У нашым будынку размяшчаліся і некалькі фірмаў.

Абедаем. Да нас панадзілася бабуля-папрашайка. Падыходзіла да кожнага стала і прасіла:

– Падайце старой, нямоглай, колькі можаце.

І давалі – хто колькі можа. Шкада ж бабулькі. Мо дзеці і ўнукі разляцеліся хто куды, а яе – кінулі. Справы нярэдкія. А можа, і зусім не было нашчадкаў. Здараецца часам і гэтак.

Абедаю і назіраю.

За суседнім столікам добра ядуць маладыя – галава фірмы і яго супрацоўнікі. Ім гадоў ад дваццаці трох да трыццаці.

Бабуля падыходзіць да самага маладога, працягвае сваю даўно нямытую руку і просіць:

– Падайце хоць трохі на пражытак!

Той хуценька сарыентаваўся, і кажа:

– Вось наш начальнік, ён багацейшы, прасіце ў яго.

Яна працягвае тады руку да дырэктара, і просіць-патрабуе:

– Дай грошай бяднячцы!

А таму што рабіць? Не ганьбавацца ж перад сваім калектывам!

Ён вымае з кішэні таўсты гаманец, дастае і дае бедалазе гэтай некалькі грашовых паперак.

У выніку былі задаволены ўсе: бабуля – што атрымала, дырэктар – што даў, супрацоўнікі... што далі не яны.

# ЗГУБНАЯ ПАМЫЛКА

Прыходзіць у лячэбніцу мужчына і кажа хірургу:

– Доктар, зрабіце мне аперацыю-кастрацыю.

Той здзіўлена пытаецца:

– Ты не здурнеў? Што на цябе найшло? Я такіх аперацый на людзях ніколі не рабіў. У чым тут справа?

– Справа ў тым, што я вырашыў пажаніцца з яўрэйкай. А яна гэтага патрабуе. Можна – не можна, а зрабіце, а я вам добра заплачу.

Урэшце дамовіліся, хірург згадзіўся. Аперацыя прайшла даволі хутка і паспяхова.

Праз нейкі час пацыент прыходзіць зноў, і стогне, і плача, слёзы ліюцца ракой.

– Доктар, што ж мы з вамі нарабілі? Бяда!

– А ў чым бяда?

– Ды ў тым, што я пераблытаў словы. Яна хацела не кастрацыю, а абразанне.

– Дык ты ж сам у гэтым павінен, олух цара нябеснага. Цяпер за цябе не выйдзе не толькі яўрэйка, але і наша. І ўвогуле ніхто не пойдзе.

– Канешне, – гугніць бядак. – Бо я не змагу задавальняць яе фізіялагічныя патрэбы, выконваць свае мужчынскія абавязкі. А што ж мне рабіць у такім становішчы? Мо – павесіцца?

– Ну, навошта адразу – так рэзка і груба, – суцяшае лекар. – Трэба шукаць іншае выйсце.

– А якія ў вас ёсць прапановы і меркаванні? – з надзеяй глядзіць у вочы бедалага.

– Ёсць, прытым слушныя.

– А якія?

– Табе трэба эмігрыраваць у Арабскія Эміраты. А там прабіцца да якога-небудзь шэйха ці эміра і паспрабаваць уладкавацца на працу ў яго гарэм у якасці еўнуха. І жыццё будзе шыкоўнае, і будзеш штодзень любавацца на красуняў-наложніцаў, а іх там сотні. Толькі не ўздумай хоць пальцам дакрануцца да ніводнай, бо будзе сякір-башка.

Дзякуй за ласку, падумаў былы пацыент.
Вось дык парэкамендаваў!
Вось дык параіў!
Сам едзь у тыя дзікія Эміраты.
Не патрэбны мне іхнія гарэмы.
Як і я – ім.



# ХТО НА ШТО ВУЧЫЎСЯ

Іду каля свайго дома.

Брыгада дворнікаў працуе – збірае лісце, смецце і living знае ламачча. І дружна грузяць на машыну.

Я праходжу каля іх і бадзёра кажу:

– Прывітанне перадавікам шуфля і веніка!

– Шчыра дзякуем, – адказваюць яны. – Але чым вітаць – лепш дапамог бы нам збіраць і грузіць.

– Я мог бы, – адказваю. – Але адукацыя не дазваляе.

– А што, высокі начальнік?

– Ну, і начальнік! (Жартую).

І працягваю:

– Калі я праседжваў штаны на школьных і студэнцкіх лавах, то вы ў той час, як я калаціўся на экзаменах, гужавалі-разгульвалі. Дык вось зараз і ўкалвайце фізічна. Мяціце, збірайце, пагружайце.

Хто на што вучыўся – да таго і налаўчыўся.

Але не дужа сумуйце, бо ваш заробак значна вышэйшы за маю пенсію – ветэрана працы.

Яны нічога не змаглі даць мне ў адказ.

На гэтым я скончыў нашу маленькую дыскусію і прайшоў міма.

А яны сумна паглядалі мне ўслед.

## ШТО ЛЯГЧЭЙ?

Размаўляе група сяброў. То ўсур'ёз, то жартам.

Адзін пытаецца:

– Ад чаго лепш памерці – ад голаду ці ад самаабжорства?

Другі адказвае:

– Думаю, што ад голаду. Ён хоць дысцыплінуе арганізм, робіць нас худымі, стройнымі.

Трэці не згаджаецца:

– Лепш – ад пераядання. Гэта неяк прыямней.

І ніяк не прыходзяць да адзінай думкі.

Чацвёрты падвёў вынік спрэчкі:

– Голад – гэта жорсткая дыета. Або калі няма грошай. Увесь год будзеш мучыцца ад недаядання, розныя хваробы ўзбудзяцца і ўрэшце ссохнеш і памрэш. Навошта так доўга цярпець?

Абжора ж (аб'ядала) – адзін раз прырвецца да вельмі смачнай ежы – наесца, нажрэцца, напрэцца без меры, шматкратна перагрузіць страўнік, разаб'е трыбух, той не вытрымае, парвецца – і хуткія канцы.

Затое ніякіх мучэнняў бесталковых,

Атрымаў задавальненне ад паядання – і адразу сканаў.

З тых двух варыянтаў – найлепшае выйсце.

А трэці, самы лепшы варыянт – не дражніце сваё здароўе.

Бо тыя дражнілкі – вылезуць бокам.

# “ПОНЧЫК”

Іду на базар. Купіць свежай рыбы. Карпа жывога. Каб яшчэ плёхаўся і дыхаў. Цуд нашай жывой прыроды.

Уперадзе крочыць сям’я. Ён – даўгі і худы, відаць, з маленства слаба кармілі. Яна – поўненькая, тоўсценькая, кругленькая. Пэўна, заўсёды добра харчавалася. Ідуць – і спрачаюцца. Лаюцца пра нешта. Апярэдзілі мяне.

Стаў у чаргу па рыбу. І раптам чую – нехта крычыць, кліча, шукае, зазывае.

– Пончык!

Я напружаўся і пытаю:

– Хто тут пончык?

– Я – пончык.

Сапраўды як пончык, як пампушка, як падушка, як кадушка.

Паварочваецца да мяне жанчынка, што стаяла ўперадзе, гляджу – гэта ж тая самая мая новая знаёмая. А муж ззаду яе гукае. Падыходзіць – знайшліся.

– А за што, пра што вы спрачаліся? – пытаюся.

– Я хачу ўзяць рыбу, а ён яе не любіць, – адказвае.

– А нашто мне тая рыба, – кажа гаспадар. – Што ў ёй карыснага? Толькі фосфар. А нашто мне той фосфар? Мне патрэбен ладны кавалак мяса. Я хачу перад жанчынай мець мужчынскую сілу, а не свяціцца.

І ўсё ж яны купілі рыбу. Хай будзе.

Я растлумачыў мужчыну, што фосфар патрэбен не дзеля таго, как свяціцца, але і дзеля развіцця і ўмацоўвання і касцей, і... мозгу.

Здаецца, да яго мазгоў гэта дайшло.



## САМ СЯБЕ ПАДКУЗЬМІЎ

Заходзіць Кузьма ў сталоўку. Бярэ абед. Ставіць на столік непадалёк ад раздачы. А тады прыпамінае – не ўзяў жа яшчэ і піва. А піва даюць на другім канцы сталоўкі – метраў за дваццаць пяць. І там заўжды чарга немалая. Трэба ісці, чакаць, каб налілі. А сам баіцца: можа, нехта з'есць яго абед? Вырашыў падстрахавацца. Напісаў і паклаў запіску: "Не чапаць – я напляваў!"

Пайшоў, пастаяў, дачакаўся, налілі. Прынёс куфель піва. Глядзіць – абед на месцы некрануты, запіска – таксама. Толькі запіска мае дапіску: "І мы – таксама!"

Пасля доўга думаў Кузьма: ці есці той абед, ці пакінуць?

Сам сябе – перахітрыў.

## ЗАДАЧА НА КЕМЛІВАСЦЬ

Стаім на рагу майго дома каля гастранома з групай сяброў. Гамонім пра ўсё рознае. І раптам я задаю ім пытанне (а наўкол бушуе лета):

– Сябры, вось стаім мы з вамі тут. Задаю пытанне на кемлівасць. Тут – сонечны бок, збоку – ценявы. А ці можа быць: на сонечным баку – сямнаццаць градусаў, а на ценявым – сорак? Адначасова?

Сябры напружваюць мазгі. І вырашэння пытання не знаходзяць.

– Ну, ты закалупаў нас, – кажа адзін. – Гэта не паддаецца ніякім законам фізікі, хіміі, надвор'я.

– Законам фізікі не паддаецца, – адказваю я. – А жыццёвым законам паддаецца.

І тлумачу:

– Калі вы стаіце на сонечным баку і п'еце віно, значыцца у вас – семнаццаць градусаў. А калі ў цені і п'еце гарэлку – то маеце сорак градусаў. Зразумела?

– Ну, ты задзяўбаў нас, – адказваюць сябры. – Вось зараз будзем наліваць і тое, і другое, і выпрабуем твой багаты вопыт.

Мы доўга выпрабоўвалі. На ўсіх вуглах.
На ўсе бакі – і сонечны,
і цьмяны.
А нам-то што?
Абы было весела.
Навука –
жыццю,
А жыццё –
навуцы.

## АБЫШЛОСЯ ВЫМОВАЙ

Раней быў такі вельмі цікавы выпадак.

Рэспубліканская міліцэйская газета надрукавала падборку палітычных анекдотаў. Адзін з іх быў шырока вядомы. Памятаеце? У лазню заходзіць памыцца Гарбачоў. Мужчыны сарамліва прыкрылі далікатныя часткі свайго цела тазікамі. А ён кажа:

– Мужыкі, чаго вы саромеецеся? Мы ж усе тут голыя, нягледзячы на чыны і званні. Раскрапашчайцеся.

Адзін адказвае:

– Міхаіл Сяргеевіч! А мы падумалі, што вы, як заўсёды, неразлучна з Раісай Максімаўнай.

Гэта быў шок. Чакалі буру-віхуру. Службоўцы-падхалімы дакладвалі ў вышэйстаячыя інстанцыі. Відаць, дайшло і да Гарбачова. На месцы ж чакалі, што рэдактар, палкоўнік, вылеціць з пасады, як корак з бутэлькі шампанскага. А маглі быць і больш жорсткія меры пакарання.

Але справу спусцілі на тармазах. Рэдактару толькі аб'явілі вымову па партыйнай лініі.

Гарбачоў жа сам даў свабоду слова.

Цікава не тое, што надрукавалі, і нават не тое, што палітычныя анекдоты, а тое, што – у міліцэйскай газеце.

Смела!

Вельмі смела.

## РАЗЫГРАЎ

Стаіць бочка з квасам. Чарга. Гарачыня. Спыняецца грузавік. Шафёр вылазіць з кабіны і становіцца ў чаргу. За ім – сяржант міліцыі.

Шафёр няспешна папіў і кіруецца да машыны. Яго спыняе міліцыянер:

– Вадзіцель, я хачу праверыць вас на алкаголь. Дыхніце ў трубку.

– Калі ласка.

Дзьме – і трубка паказвае прысутнасць алкаголю.

Шафёр нічога не разумее.

– Ды ты што, сяржант? Сам жа бачыў, што я піў толькі квас.

– Не хвалюйся, вадзіла. Гэта я так пажартаваў. Так сказаць, разыграў цябе. Проста хацеў паказаць табе, што і ў квасе ёсць трошкі алкаголю – градусы два. Гэта амаль не дзейнічае. Так што едзь спакойна, цісні на газы.

Нішто сабе жартачкі!

# СТАРЭЧЫЯ ЗАБАВЫ

У нашым пад'ездзе жыў стары мужчына гадоў сямідзесяці пяці. Гаваркі, вясёлы. Мы называлі яго скарочана – Пал Палыч. Ён і чарку прыняць любіў, і разгаманіцца пра ўсё рознае.

Аднойчы жаліцца мне:

– Я добра выпіў, і мяне загрэбла міліцыя. І ўляпілі мне штраф – дзесятку.

– Хіба пенсіянераў, ды яшчэ ў вашых гадах, штрафуюць? – пытаюся.

– Ого-го, яшчэ як! З задавальненнем. А няхай бы я гэтую дзесятку лепш знайшоў. Але колькі ні хаджу – ніяк не знайду.

– Піць шкодна, – павучаю яго. – Я ў адной газеце чытаў. Асабліва ў вашым узросце. Пара пра здароўечка падумаць. А калі ўжо не можаце стрымацца – выпівайце дома ці каля дома. І то ў меру. Вам жа не траццаць пяць.

Пры чарговай сустрэчы распавядае:

– Я яшчэ працую. Дзяжуру ў дзявочым інтэрнаце.

– Ну, і як?

– І прыемна, і цікава, і весела. Аднойчы праходзіць каля мяне дзяўчына гадоў васемнаццаці ці дваццаці. Я загаварыў з ёй: шуры-муры, шары-мары. І ўлагодзіў яе.

– А што далей?

– І вы ведаеце, Мікалай Пятровіч, я не падкачаў!

Я адразу не зразумеў: што падкачаў, ці не падкачаў, як падкачаў, каго падкачаў?

Пасля да мяне дайшло: паказаў сябе.

Ну, стары кот, думаю. Дзед ці прадзед, ці нават прапрадзед. Я гадоў на дваццаць–трыццаць маладзейшы за цябе, і то не магу пахваліцца сваёй моцаю. А ты ж стаіш, як кажуць, адной нагой – тут, а другой – ужо там, а духарышся! Не страціў самалюбавання.

Уяўнае выдаеш за яўнае.

Але што малое, то старое. Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала.

# АБОДВУХ СЦІПЛАСЦЬ ПАДВЯЛА

Адпачываў на турбазе “Нарач”.

Гэта быў разгул гарбачоўшчыны-лігачоўшчыны, калі выдавалі па 1 – 2 талоны на гарэлку на месяц, а ў выніку загналі самагонаварэнне з вёскі ў горад, калі амаль у кожнай кватэры цiснулі самагон. А хто не ўмеў ці не хацеў – пілі дэнатурат, шкловычышчальнік ды іншую розную гадасць, або нюхалі лакі, клеі і атручваліся. А вінзаводы паўсюдна перарабілі на вытворчасць сокаў і напіткаў. І пахвальваліся, што ад гэтага выручка-даходы большыя, чым ад продажу вінаў.

Мяне запрасілі выступіць на заводзе па вытворчасці безалкагольных напіткаў. Завезлі, сабралі людзей, і я на працягу гадзіны (за цэлую творчую брыгаду) чытаў ім сваю сатыру і гумар, весяліў сока- і напіткаробаў.

Пасля дырэктар запрасіў мяне ў свой кабінет і наліваў з розных бутэлек натуральныя напіткі. Я думаў: а ці ж будзе што – небудзь больш грунтоўнае? Працаваў жа цэлую гадзіну, ён прывёў у кабінет, гаворым пра ўсё living рознае. І што далей? А – нічога. А я ж ведаў, што на выраб напіткаў ім даюць так званую спіртавую закваску градусаў на семдзесят. Дык даў бы хоць пакаштаваць...

Ён вывеў мяне, мы селі ў яго службовы “газік”, і шафёр паруліў уперад.

Заехалі на двор турбазы, вылезлі. Што, думаю далей?

Не адыходзячы ад машыны, ён завёў доўгую размову. Гаварылі пра палітыку, эканоміку, літаратуру і мастацтва, мінскія навіны. Яму, бачна, было цікава і прыемна размаўляць са сталічным літаратарам. Так працягвалася хвілін сорак. А я ўсё разважаў: няўжо ён прыехаў пустым, і нічога з сабой не прыхапіў? Дарэмныя надзеі. Дырэктар нарэшце развітаўся і пагазаваў на завод, ці дамоў.

Падзяліўся сваімі ўражаннямі з таварышамі. Яны выказалі свае меркаванні:

– Відаць, у яго ўсё з сабою было, але ён не асмеліўся прапанаваць.

– А чаго асмельвацца? Маглі б па-сяброўску пасядзець у яго “козліку”, ці ад’ехаць метраў дзвесце і размясціцца сярод дрэў і кустоў. Былі б жаданне і магчымасці.

– А можа, ён хацеў, каб ты паклікаў яго ў свой пакой?
– Ну, канешне, – адказваю. – І каб я яго яшчэ і пачаставаў? Дык ён жа крыху багацейшы за мяне? Ён – дырэктар завода, а я – просты турыст. І бедны паэт.

А можа, мы і праўда адзін другога пасаромеліся, сціпласць падвяла...

Ці гасціннасць у іх была не ў модзе?

# НЕ ДАВЯРАЙСЯ НЕЗНАЁМЫМ

Стаіце на рагу дома. Тут жа – тэлефонная будка, таксафон. Падыходзіць дзяцюк. Просіць:

– Прабачце, забыўся дома тэлефонную картку. А пазваніць трэба тэрмінова. Дазвольце пакарыстацца вашым мабільнікам. Адну-дзве хвіліны.

У вас добрая душа, вы даеце мабільнік.

Ён кажа:

– Прабачце, у мяне размова асабістая. Я адыду метраў на пяць.

Адыходзіць аж за рог дома. А потым – цісне на пяту, уцякае. Пакуль вы дадумаецеся здаганяць – яго ўжо і след прастыў.

Праз паўгадзіны ён прадасць ваш мабільнік у раёне рынку за пляшку спіртнога.

Хто ж тут выйграў, хто прайграў?

Трымайце зрок і вушы востра.

– * –

Пазваніла ў дзверы бабуля.

Адчынілі, упусцілі.

Не спыталі, хто і нашто.

Яна спачатку папрасіла папіць. Затым доўга распытвала, дзе тут нейкі дом, магазін, паліклініка, бальніца.

Пасля падзякавала і пайшла.

Як адышла – гаспадары глядзяць: раяль прапаў.

Доўга думалі: а як жа яна яго вынесла – ці на сваіх худых плячах, ці – у кішэнь паклала?

Загадка!

Цяпер не адчыняюць дзверы ні чужым, ні сваім.

## О МОДА, МОДА!

Мода звычайна прыходзіць да нас нечакана сама, не пытаючы ніўкога дазволу. Як і адыходзіць сама, саступаючы месца другой, новай.

Калісьці пачалі шыць і насіць міні-сукенкі і спадніцы – даўжынёй вышэй за калена. Колькі было шуму! Хлопцы і мужчыны бурна ўхвалілі – нарэшце адкрываюцца хоць некаторыя таямніцы жаночага цела! Нібы ніколі не былі на пляжах, дзе ўсё распранутыя да мінімуму, а жанчыны і бабулі абураліся: "Бессаромніцы!"

Потым – шыньёны. Жанчыны накладвалі на галовы чужыя валасы, каб прычоскі здаваліся вышэйшымі. У выніку псавалі свае прычоскі, уласныя валасы расшчапляліся.

Хлопцы насілі даўжэжныя валасы – аж да плеч. Як у многіх дзяўчат. Яшчэ і перавязвалі "хвосцікі". Валасацікі, патлацікі.

Было – у моду ўвайшлі нейлонавыя кашулі – спачатку белыя, потым – розных колераў. Прыгожыя, лёгка мыліся. І амаль адразу ж – балоневыя плашчы – ад дажджу, ад ветру. Усё даволі дарагое, але папулярнае. І не адразу мы зразумелі, што ўсё гэта – шкоднае для цела. Мы ў гэтым адзенні пацелі і млелі. Паветра свежага недаставала. Не прапускала.

А яшчэ, помніцца – бурна ўварвалася мода на штаны з вузенькімі калошамі, як іх называлі – "дудачкі". Моладзь аж шалела ад іх. І настолькі завужвалі, што некаторым моднікам, каб надзець іх, даводзілася ногі намыльваць.

А пасля, як у нас часта бывае, без ніякай плаўнасці – адразу рэзкі паварот! На сто восемдзесят градусаў. Пачалі шыць штаны-клёш – шырачэзныя калошы, як у тагачасных маракоў. Калі хлопец высокі, поўны – гэта яшчэ куды ні йшло. А калі малы і худы – пародыя!

Чуў пра такі выпадак. У кулуарах ЦК КПБ стаяць некалькі высокіх дзеячоў і абмяркоўваюць, як прарэагаваць на вузенькія штаны. Быццам моду можна затармазіць ці адмяніць. Што, у іх больш значных спраў і клопатаў няма? І тут падыходзіць сакратар па ідэалогіі ЦК Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін. У вузенькіх штанцах. І тут, як кажуць, пытанне адпала само.

І – пра манжэты.

Даўным-даўно англійскі герцаг Уэльскі пайшоў з прыдворнымі на прагулку па парку. Справа была пасля дажджу, і каб не намачыць штаны, ён закасаў калошы. Так і вярнуўся з прагулкі ў палац. А прыдворныя ў гэтым угледзелі новы павеў моды, і назаўтра ўсе прымацавалі да штаноў манжэты. Так яно і пайшло па Еўропе.

У апошні час манжэты аджылі сваё. Можа, таму, што ўбіралі ў сябе і пыл, і бруд. Чысціць трэба было рэгулярна.

Стаім аднойчы ў рэдакцыйным калідоры – група пісьменнікаў і журналістаў. Прыгадваем і моды, і тыя самыя манжэты, якія даўно ўжо адышлі ў нябыт. І тут падыходзіць стары крытык Барыс Іванавіч Бур'ян у старых штанах і вялізных манжэтах на калошах. Мусіць, гадоў дваццаць— трыццаць яны пыліліся ў шафе. Мы дружна рассмяяліся, а ён так і не зразумеў, чаму і ад чаго. Дыскусія спынілася.

Відаць, Барыс Іванавіч падумаў, што ўсё новае – даўно забытае старое.

# ПАРАЗУМЕЛІСЯ

Алесь гуляў на вяселлі на велазаводскім пасёлку. Вяселле як вяселле, усяго хапала. Еш, пі, песні спявай, у перапынках перакурвай, гамані, танцуй.

У нейкі час выйшаў падыхаць свежым паветрам. Прайшоўся і наткнуўся на гастраном. І тут яго пацягнула “на подзвігі”. Разбіў вітрыннае шкло, улез у магазін і ўзяў... бутэльку “Вермуту”. Вылез, прысеў каля сцяны, і паціху смактаў віно прама з горла.

Спрацавала сігналізацыя. Прыхала міліцыя. Распытваюць:

– Ты хто такі?

– Заводскі рабочы.

– На якім заводзе працуеш?

Алесь адказаў:

– На трактарным.

– Што робіш на гэтым пасёлку?

– Гуляю на вяселлі.

– Дык што – баяўся, што там не хопіць выпіўкі?

– Баяўся.

– А ўлазіць у магазін не баяўся?

– Не баяўся.

– А ў міліцыю трапіць не баяўся?

– Не баяўся.

– Чаму?

– Таму што ў міліцыі служаць разумныя, талковыя, добрыя людзі. Як вы.

Міліцыянеры дружна рассмяяліся. Калі гэта было, каб іх так шчыра і адчайна хвалілі?

Алеся не сталі затрымліваць і арыштоўваць. Падумалі: гэта ж не злачынства, а глупства – улезці ў магазін, каб украсці бутэльку “чарніла”.

Толькі паддалі нагой пад зад і сказалі:

– Ідзі, дагульвай на тым вяселлі.

Абышлося на гэты раз.

А разбітае шкло спішуць на хуліганаў, якіх не змаглі злавіць.



## ЯК БРАК ДАПАМОГ

Пайшоў я аднойчы па рабоце на завод "Гарызонт". Бываў там нярэдка. Гляджу і дзіўлюся: і калідоры заводакіраўніцтва, і кабінеты аздоблены прыгожым пластыкам. Пытаюся ў калегаў: адкуль такая раскоша? Яны адказваюць:

– Адна швейцарская фірма пастаўляе нам пластык для карпусоў тэлевізараў. І вось прыходзіць цэлы вагон. Наш аддзел тэхнічнага кантролю ўважліва праверыў якасць, і знайшоў адхіленні ад стандарту. У нас гэта недапушчальна. Мы адразу шлём тэлеграму ў фірму, каб не давесці справу да рэкламацыі. І хуценька прыходзіць тэлеграма ў адказ за подпісам дырэктара:

"Шаноўныя панове!

Вельмі просім прабачэння за наш промах. Тэрмінова высылаем вагон высокаякаснага пластыку. Бракаваную прадукцыю назад не вяртайце. Мір, дружба! Цалую. Фрэнкель".

Вось так радыёзавод упрыгожыў сваё заводакіраўніцтва.

А той фірме важней было зберагчы свой імідж, гонар фірмы.

Нашым бы такая акуратнасць!

## ГАСПАДАРЧЫЯ НЯГОДЫ

### *(ад жыцця ўсё – ад прыроды)*

Дзед Іван Ягоравіч – жыў цераз дарогу ад мяне ў вуглавым доме на першым паверсе. Супраць акна – садзік і гародзік. Градкі, яблыні, сліва і нават абрыкосавае, рэдкае ў нас паўднёвае дрэва. І прыгожа, і карысна, і прыемна. Пасядзець на лаўцы, падыхаць свежым паветрам, нейкія розныя плады сарваць, паласавацца. Недалёка ад цэнтра горада – і як бы кавалачак вёскі.

Ягоравіч любіў выпіць, таму ставіў брагу, каб пасля перагнаць на гарэлку. Канешне, калі выстаіць. Цэлую выварку. А ягоная старая магла выліць, бо ён працаваў шафёрам, і небяспечна было ездзіць "пад градусам". Да таго ж і смуродзіць тая брага на ўсю кватэру.

Я раіў дзеду:

– Ты разлі брагу ў трохлітровыя слоікі, закрый іх металічнымі крышкамі – і паху не будзе.

Дзед дурны – не дурны, а зразумеў:

– Ты што? Брага бурліць, тады як пачнуць слоікі страляць – як з гарматы. І абгадзяць і сцены, і столь, і падлогу. Рамонту не абяруся.

– Тады закрый пластмасавымі крышкамі.

– Усё роўна баба павылівае.

– Занясі суседу-выпіваку на чацвёрты паверх усю выварку на захаванне, – кажу яму.

– Дык ён яшчэ большы п'янюк, чым я, – адказвае дзед. – За чатыры дні нястане ўсяе мае брагі.

Што ж, абое – рабое.

...Сад і агарод трэба ж неяк падкармліваць, каб нешта расло.

Угнойваць пажадана. Як зможаш.

Глеба таго патрабуе.

І нікуды ад прыроды не дзенешся.

Ураджай май – клопаты давай.

Дзед Іван Ягоравіч пад'ехаў за горад, назбіраў недзе каравякоў і конскага гною, прывёз і развёў у вялікай запасной выварцы, а пасля пайшоў паліваць свае грады.

Супраць яго лавы сядзяць пажылыя жанчыны і бабулі. Ён выносіць вядро – і бах на грады! А лета, вецярок у другі бок – на бабулек. Яны як узрушыліся!

– Ах ты, чорт стары, сабака! Што ты робіш?

А ён яшчэ вядро нясе і вылівае – і зноў на іх смурод. Як яны ўзняліся – і кухталёў пад бакі яму. Ледзь уцёк.

Дзед пайшоў мыць вядро. Хоць бы змываў брудную ваду ў туалет, а ён – і мыў, і змываў у ванне. Жонка, бабуля, прыходзіць – у хату нельга зайсці. Смурод наўкола. Яна схапіла венік, і – па плячах, і – па плячах!

Такім чынам, пацярпеў двойчы – і ад чужых бабуль, і – ад сваёй. Думаць трэба, што рабіць. Што – дбайна, што – нядбайна.

Дзедава жонка Варвара Тарасаўна скардзілася, што хлопцы часта зрываюць з дрэваў плады, асабліва абрыкос. Нават не даюць ім даспець. Урэшце дзед зрабіў дротавую агароджу А я пачаў падбухторваць яго:

– А ты падвядзі яшчэ ток з электраразеткі, як трасяне пару разоў каторага – іншым не закажа.

– Чаму ты мяне вучыш? – здзівіўся ён. – Токам можа забіць. Тады не іх будуць судзіць за крадзёж, а мяне – за забойства.

– А ты паменш напружанне.

– Дык што, купляць яшчэ трансфарматар? Дорага абыдзецца. Лепш няхай ірвуць – і мне ж нешта застанецца.

Варвара Тарасаўна вырашыла пытанне кардынальна. Калі не стала дзеда, яна праставіла хлопцам віна, і яны зрэзалі абрыкосавае дрэва – такі цуд прыроды для нашай сярэдняй паласы, а заадно і сліву, і яблыні. Маўляў, каб яны не зацямнялі вокны. Заадно зліквідавала і грады – няма каму іх даглядаць, а самой не хочацца. Затое стала больш месца, каб ставіць машыны-легкавушкі. Экалогія двара пагоршылася. Вось дык выйграла, старэча!

А няхай былі б і дрэвы, і грады. І карысць была б, і паветра свяжэйшае. І нічога нікому не замінала б. І садавіну не купляла б.

Думаць трэба, перш чым нешта сатварыць.

А не – нашкодзіць, разбурыць.

Варушы мазгамі.

## ПРА БРАТОЎ НАШЫХ МЕНШЫХ

У нас на рабоце пажылыя жанчыны, дзяжурныя, падбіралі хворых і траўміраваных коцікаў, сабачак, забіралі іх дамоў, трымалі, кармілі, вылечвалі. У некаторых дома жылі па некалькі асобін. І карміць жа трэба было не абы як, лепш, чым сябе. Адны чацвераногія сябры ядуць, што застаецца ад стала гаспадароў, іншым жа цяжка дагадзіць, пераборлівыя.

Я, бывала, гаварыў кабетам:

– Навошта вы збіраеце гэтых пакалечаных і даеце сабе лішні клопат? У дварах ходзяць, бегаюць шмат здаровых беспрытульных і пакінутых. Бярыце іх, памыйце, пакарміце і трымайце дома, і вам будзе весялей.

– Не, у нас душы баляць па хворых, – адказвалі яны. – Гэта ж божыя стварэнні, трэба іх ратаваць.

Суседка Яўгенія, былая медыцынская работніца, рэгулярна выгульвала па двары рослага свайго сабаку, але з перавязаным шырокай павязкай жыватом.

– Што, іншых сабак няма? – пытаўся я. – Пазбаўся ад яго, завядзі другога. І чаму ён такі перавязаны?

– У яго хворая печань.

– Тым больш. Нашто табе гэткі клопат?

– Дык і ў мяне ж печань хворая. Вось і атрымліваецца, што мы роднасныя душы.

Так яны і гулялі па двары гадамі. Аж пакуль сабака не памёр. У гаспадыні была вялікая жалоба.

Стаю аднойчы на прыпынку транспарту. Між людзей ходзіць невялікая сучка. Светленькая, чысценькая, ласкавая. Не з тых, што бадзяюцца па дварах. Відаць, ці адстала ад гаспадароў, ці яе пакінулі. І так яна ласцілася да людзей, а вочкі як бы плакалі. Здаецца, хацела сказаць:

– Людзі, вазьміце мяне да сябе. Я буду вашым дзецям, унукам як нянька, вам – як сяброўка, і кватэру буду вартаваць.

Але ніхто не звяртаў увагі.

Кажу адным:

– Вазьміце сабачку, няхай будзе ў вас. І купляць не трэба.

– Не, не, нашто нам? – адказваюць.

Побач стаіць сям'я з дзецьмі.

– Прытуліце сабачку, няхай жыве ў вашым доме. І з дзецьмі пасябруе, ім будзе весялей.

– Не хочам, у нас ёсць рыбкі. З імі прасцей.

Але ж з імі не пагаворыш. А сабака ўсё разумее.

Падаю сваю ідэю трэцім.

– Вазьміце сабе, – адпрэчваюць яны мяне.

– Ды я ўзяў бы, але мае дзеці і ўнукі даўно павырасталі, а кватэра мая на шаснаццаць з лішкам метраў. Самім не паварнуцца.

Падышоў аўтобус, і размовы скончыліся. Ласкавая істота засталася на прыпынку.

...Зноў сустракаю суседку Яўгенію на двары. Яна выгульвае новую сучку – невялікую і ўсю бялюткую.

– Ну, што, яшчэ знайшла сяброўку? – пытаюся. – Больш сумаваць не будзеш?

– Усё добра, толькі якое ёй даць імя?

– У чым праблема? – знайшоў я адказ. – Паглядзі, якая яна беленькая. Значыцца, Белка.

– Бялянка, – удакладніла Яўгенія.

– Бяляначка, – паправіў я.

Мы засмяяліся, паціснулі адно другому рукі і разыш-ліся.

Што ні кажыце, а жывая прырода – гэта цуд.



# ЛЮБОЎ НА СЦЭНЕ, КАХАННЕ Ў ЖЫЦЦІ

Яна – вядомая, папулярная спявачка сярэдніх гадоў. Ён быў на пачатку свайго творчага шляху. Малады, прыгожы, паўнацелы, чарнавусы. Таксама спяваў. Я наведваў канцэрты. Ён быў неабыякавы да яе. Калі ішлі ейныя канцэрты, ён сядзеў у першым радзе і вельмі перажываў за яе. Я ўжо прыкмеціў і ведаў, у якім месцы канцэрта ён сарвецца з крэсла. вылеціць птушкай на сцэну і будзе пляскаць у далоні з паваротам на залу, каб выклікаць дружныя воплескі слухачоў.

Праз нейкі час яны пажаніліся, нягледзячы на значную розніцу ў узросце. Ёй былі патрэбны яго маладосць, бадзёрасць і сіла, а яму – яе вопыт і мудрасць. Яна не саромячыся не раз распавядала:

– З першай жа сумеснай творчай паездкі на гастролі ў дальнюю рэспубліку мы вярнуліся мужам і жонкай!

Зразумела сказана? Ну, канешне ж – іх не маглі распісваць у дальняй рэспубліцы.

Цяпер яны пастаянна разам – і ў канцэртах, і на гастролях. Ідуць рука ў руку і ў творчасці, і па жыцці. Ён да таго ж стаў і кампазітарам.

Даўно заўважана, што муж і жонка ў працяглым сумесным жыцці ў многім прыпадабляюцца – нават знешне. І размовы, і міміка, і жэсты робяцца падобнымі. А тут – яна набіралася ад яго маладосці і здароўя, сілы, а ён набіраўся ад яе вопыту і старасці. Праз гады глядзім і заўважаем, што яны знешне зрабіліся як бы аднаго ўзросту. А яшчэ праз нейкі час ён стаў выглядаць нават старэйшым за яе. Вось табе і на!

Часта пад абедзены перапынак гучыць па радыё песня з прыкладна такімі словамі: “Мы стрэліся з табою выпадкова каля ручайка, адразу закахаліся, і цяпер усё жыццё ідзем разам, поплеч, ніхто і ніхто ніколі нас не разлучыць, і няхай вечна цячэ ручаёк нашага кахання”. Яны выконваюць гэтую песню дуэтам. Выдатна спеліся, зладжана. І клянуцца ў старыя гады ў сваім каханні.



Гармонія паміж мужам і жонкай.

Карацей кажучы, яна давяла яго да папулярнасці, а ён суправаджае яе ў старасці. І абодвум радасна.

## МОЙ ТЭЛЕБАРОМЕТР

Запрасілі мяне выступіць на тэлебачанні. Еду на вуліцу Макаёнка. Я ў светлым балгарскім касцюме, і ўвесь ва ўсім светленькім. І ўвогуле на душы светленька. А наўкол бушуе лета, птахі заліваюцца.

З аўтобуса шпарка шыбую да вядомага шматпавярховага дома, прыспешваюся. Час падціскае.

Даходжу да ганку, увахода, і тут пачынае пырскаць дробны дождж ык. Некалькі кропель упала на мяне, але, на шчасце, не замачыла, бо быў бы сапсаваны мой светлы касцюм.

Сустракае мяне маладзенькі рэжысёр, вядзе ў грымёрную – падчысціць, падмазаць, так сказаць, навесці марафет пасля пылу і дождж ыку. Але туды мы спазніліся.

Ну, нічога, я ж – не дзяўчына. Ідзём у тэлестудыю. Зрабілі пробны прагон, далі мне нязначныя заўвагі, а пасля – прамы эфір на тэлегледачоў. У выніку ўсё атрымалася на выдатна.

Прыгадваеецца яшчэ адна тэлездымачная гісторыя. На чарговыя тэлездымкі быў празначаны рэжысёр сярэдніх гадоў – спакойны, удумлівы, разважлівы. Доўга складаў сцэнарый перадачы, доўга падбіраў мае вершы, праглядаючы кнігі. Прышчапіў да мяне артыстку, сваю жонку, якая павінна была нечым там дапаўняць – пытаннямі, развагамі нязначнымі. Перадачу задумаў весці пад рубрыкай "Беларуская хатка".

Праз нейкі час выклікаў нас на рэпетыцыю перадачы. На сцэне стаяў макет беларускай хаткі. Задача мая была – выйсці з вугла сцэны да ўваходу ў хатку, павярнуцца да камеры і сказаць некалькі слоў. А яна – выйсці з другога боку, прайсці да хаткі, стаць, каб бачыць камеру, а камера – яе, сказаць некалькі слоў, затым у нас невялічкі дыялог. А тады мне чытаць вершы. Ну, гэта ўжо для мяне – справа звыклая, ніякіх цяжкасцей.

Рэжысёр мардаваў нас цэлых пяць гадзін. То я не так выйшаў, не так стаў, не так павярнуўся, не тое сказаў, то – яна. І ёй заўвагі былі аналагічныя. Так запіс і не адбыўся, хоць за гэты час можна было б зняць мо значную частку кінастужкі.

Не хутка рэжысёр паклікаў нас на паўторную рэпетыцыю. Марнаваў трохі менш – тры гадзіны. І зноў з тым жа нулявым вынікам.

Чакаю, што будзе далей. Калі скончацца мукі творчасці?

Нарэшце, выклікае трэці раз. Тут ужо справы пайшлі хутчэй – запіс адбыўся. А ўсё цягнулася паўгода – з сакавіка па верасень.

Я ў прыемным чаканні выхаду перадачы ў эфір. Хочацца парадаваць і тэлегледачоў, і сябе. А час няўмольна ляціць. Дні, тыдні, месяцы. Жонка кажа:

– Табе трэба было пасядзець з рэжысёрам грунтоўна, па-сяброўску. У прыемнай доўгай гамане.

– Дык сядзеў жа, і не раз, – адказваю. – І там, і дома. Прытым ён і сам павінен быць зацікаўлены, бо разам са мной здымалася і яго жонка.

Чакаю, пазвоньваю. Адказваюць:

– Нічога, чакайце, будзе.

І адбылася перадача... яшчэ праз паўгода пасля запісу. Ад верасня па сакавік. Па часе ўсё цягнулася цэлы год.

Атрымаў ганарар, невялікі. Відаць, жонка рэжысёра адхапіла значна больш за свой нязначны ўклад у гэты невялікі як бы спектакль. Хто ж сябе пакрыўдзіць?

А можа, трэба было часцей сустракацца па-сяброўску з рэжысёрам – ці кожны дзень, ці праз дзень, ці праз тыдзень? І справа рухалася б хутчэй.

Але, як кажуць немцы: “эндэ гут – алес гут!”. Добры канец – усё добра.

Такім чынам, калі ў першай прыведзенай перадачы мой тэлебарометр паказваў “ясна”, то ў другой паказваў “хмура”.

Добра, што хоць не была бура-віхура.

# НЕ ПАСЛУХАЎСЯ – ДЫК ВЫЙГРАЎ

Кастусь Міхайлавіч працаваў у службе аховы аўтазавода. Разгаварыўся з ім і пытаюся:

– Ну, як работа, як зарплата?

– Суткі дзяжуру, трое сутак – дома. А зарплата мізэрная.

– Дык што ты робіш у тыя трое сутак вольныя?

– Сяджу дома і адпачываю. На жанчын праз акно пазіраю.

– А як жывеш на малую зарп лату?

– Так-сяк. Канцы з канцамі зводжу. Не разбушуюся. Не да жанчын.

– Дык у каго вельмі малы заробак, тыя ідуць падзарабляць яшчэ на дзве-тры работы. Па сумяшчальніцтву.

– А што ты мне прапануеш? – пытаецца ён.

– Ідзі ў службу аховы яшчэ і на трактарны завод, будзеш дзяжурыць там, а праз суткі – тут. І дзве зарплаты будуць. Пабагацееш трохі.

Ён падумаў-падумаў, і нарэшце скеміў:

– Нішто сабе прапанова! Значыцца, буду то дзяжурыць цэлыя суткі, то спаць столькі ж. Свету белага не пабачу. То спаць, то дзяжурыць. Зарплат сваіх не скарыстаю. Ні з сябрамі, ні з жанчынамі не сустрэнуся.

Так ён і не прыняў маёй слушнай прапановы. Затое сарыентаваўся і перакваліфікаваўся. Пайшоў у грузчыкі. Зараз кіруе грузапад'ёмнымі механізмамі, перагружае і перавозіць масу грузаў, нярэдка і сам бярэ іх на пуп ці на плячо. Затое стаў, як усе: змену адпрацаваў – ідзі дамоў. Адпачывай. Гуляй, Косця!

І зарплата значна большая. Можна ўзяць разгон.

І пагуляць-падгуляць час ёсць.

## ЖАРТАЎНІК ЗАЎЗЯТЫ

Лячыліся ў санаторыі ў Бабруйску. Маім аднапалатнікам быў Валодзя – сярэдніх гадоў, невысокі, хударлявы, гаварун, весялун, жартаўнік, балбатун. Жвавы, шустры. Падскокваў, даваў дразда.

Прагульваемся аднойчы па санаторным двары. Насустрач ідзе кабета. Валодзя пытаецца ў яе:

– Жанчынка, можа вам патрэбен зяць – п'янтос, курэц заядлы, бабнік? Калі згодны – я гатовы.

Тая заўсміхалася і адказала:

– Дзякуй, у нас ужо такі ёсць дома. Можам самі яго аддаць хоць каму. Бясплатна.

Шпацыруем далей. Нас абганяюць трое жанчын. Адна адводзіць мяне ўбок і кажа (а я там выступаў, мяне ўсе ведалі):

– Мікалай Пятровіч, спытайце ў Валодзі, з каторай з нас ён хацеў бы пакахацца.

Я падыходжу да Валодзі і перадаю яму запытанне. Ён бадзёра адказвае:

– З усімі трыма!

Здаганяю кабет і перадаю ім адказ.

Яны як зарагочуць:

– Дзякуй за ласку, але гэты кавалер не для нас. Ды ён жа, відаць, палавы гангстэр. Маньяк. Мог бы згвалціць усіх нас па чарзе.

Падбягаю зноў да Валодзі.

– Сябрук, яны цябе баяцца. Кажуць, што ты – палавы маньяк. А што, сапраўды змог бы пакахацца з імі ўсімі?

– Ды што ты, у мяне на гэта здароўя, сілы не хапіла б. Хутчэй яны мяне маглі б згвалціць. Ведаю я гэтых курортніц! Я проста пажартаваў пад настрой.

І мы працягнулі сваю прагулку. Усе засталіся пры сваім.

# НУ І ПАКУПАЛІСЯ!

Чалавек пяцьдзесят сабраліся ў выхадны дзень на рабоце, узялі службовы аўтобус і накіраваліся ў турыстычную паездку.

Наведалі вядомыя і славутыя мясціны, помнікі, музеі, палюбаваліся прыродай і поўныя ўражанняў вярталіся назад.

Па дарозе трохі ўбаку – рака і пляж. І хоць затрымка на купанне не была прадугледжана праграмай, але вельмі ж захацелася. І цёпленька было.

Аднак ніўкога не было ні жаночых купальнікаў, ні мужчынскіх плавак. Не прадугледжваліся і яны. Што ж рабіць? На шчасце на пляжы знайшоўся кіёск з рознай патрэбнай драбязой. Аказаліся там і мужчынскія плаўкі, і жаночыя купальнікі. Прыгожыя, беленькія, акуратныя, да таго ж і танныя. Купілі, надзелі і пайшлі купацца. Ныралі і плавалі цэлую гадзіну. Пара вылазіць, апранацца і ад'язджаць. І толькі тут агледзелі, што ад тых купальных зручнасцей на іх целах засталіся толькі танюткія вяровачкі. Як разабраліся, і купальнікі, і плаўкі былі... папяровымі. А назначаны яны былі не для купання, а для загарання. А ў вадзе размоклі, расплыліся і зніклі.

Як жа выходзіць з ракі, калі ўсе абсалютна голыя, і ўсе з аднаго калектыву? Сарамацішча! Лепш праз зямлю праваліцца.

Давялося небаракам пялёхкацца ў рацэ, аж пакуль змрок ахінуў зямлю. Ахаладалі ад працяглага знаходжання ў вадзе. Цяпер ужо паціхеньку павылазілі, апрануліся і паселі ў аўтобус.

На зваротным шляху дружна клялі і той пляжык, і гэты кіёск, і такое прыкрае купанне.



## ПРАГУЛКА ПА-КАМПАЗІТАРСКУ

*(гумарэска)*

***і проза, і паэзія мастацкага жыцця***

Ад БАХа будзільнік разбудзіў Будніка.
Ён прачнуўся, пакруціўся, і папіў расол.
Ноты кукарэкнуў: – До-рэ-мі-фа-соль.
Працёр Глазунова.
Выгчысціў Носава.
Пашкроб спіну Скрабіным.
Пагаліў Барадзіна.
Хацеў зрабіць фіззарадку:
Пападцягвацца на турніку,
Паскакаць з шастом.
Але не знайшоў Туранкова і Шастаковіча.
Паеў Мяскоўскага, прыпраўленага Хрэннікавым,
Затым Аладава са Сметанай.
Запіў Чайкоўскім.
Пажадаў злёгку пахмяліцца.
– Да піва хачу тарана! –
Знайшоў рыбу ў Хачатурана.
Адчуў сябе Багатыровым.
Стаў вельмі Смялкоўскім.
Выйшаў на Дворжака.
Прайшоўся Штраусам.
Угледзеў за хлявом Захлеўнага,
Які стрэў Чыркуна,
А той чыркнуў запалкай, прыкурыў,
І абое некуды зніклі.
Відаць, недзе зачыркуюцца.
І мог далучыцца Лучанок,
Але сказаў: – З лучынай дзеда лепш даспаць.
А потым з лука пастраляць.
А дзе – мо ў прадзеда дастаць?
Пахадзіў па Мусаргскаму.
У жываце забушаваў Пучыні.
Нечакана надышоў Паганіні.
Валодзя незнарок зрабіў Пукста.
Не рады быў. А чаму радавацца?

Пажартаваў мімаходзь Андрэй Мдзівані:
– Маё прозвішча па-беларуску: – Ідзі, Ваня!..
Хацеў пашукаць Цесакова, каб узяць у яго цесака –
Нешта пацясаць.
Іваноў прайшоў Валеры:
– Тут Іванаў дахалеры!
Войцік Віктар прамільгнуў:
– Вой, ці чарку я глынуў?
Рог дома агінуў завуголлем Агінскі.
Паважна там ішоў аўстрыец Гайдн.
На запрашэнне адказаў ён: – Найн!
Ішоў, раманс спяваючы, Аляб'еў.
І думаў: – Новы напісаць мне як бы?
Людміла Шлег прыспешыла свой бег.
Галіна Гарэлава ледзь не гарэла там.
Эміль Наско зрабіў музычны свой наскок.
Як з неба зляцеў Алег Залётнеў.
Але як прыляцеў, так і адляцеў.
Праходзіла Мікуліч шчэ Надзея,
І запыталася: – Скажыце мне, а дзе я?
Са скрыпкай прабягаў Раінчык Вася.
Здзівіўся: – Ну, адкуль яна ўзялася?
Праскочыў міма і Літвін там Коля
У сумным роздуме: калі ён пабудзе ў Літве?
А можа, і ніколі.
Буднік наступіў на Ліста,
Паслізнуўся, і ўпаў на Шапэна.
Уткнуўся носам у Гуно –
Падумаў, што Глінка.
А там ляжала "магутная кучка".
Добра, што ўвесь не ўкінуўся ў яе.
А ў мастацкай "кучцы" ўсе – свае.
Прыйшоў дамоў, схаваўся за Ширму.
Вычысціўся.
Пазваніў Леаніду Шурману, каб сустрэцца.
І без усялякіх там шураў-мураў пасядзелі,
Пагаманілі.
Вясёлыя думкі прабудзіліся.

І не дайшло ў іх да Падкавырава
Пасля ўсяго гэтага Буднік узбудзіўся,
Выпусціў сола.
І ў мінорным тоне скончыў серэнаду
Сваёй ранішняй прагулкі.
Затым пайшоў у ложак БАХаць (спаць).

– * –

Валодзя Буднік – нам ён не прыблуднік.
Будуе творы, як гняздо – арол.
Ніколі па жыцці не быў занудны,
Стварае светлы ля сябе ён арэол.

– * –

А кампазітараў я тут не зневажаў.
І толькі прозвішчы, як мог, іх заўважаў.
Хто хоча – пасмяюцца хай са мной.
А змрочным, сумным – мы аб'явім бой!
Да кампазітараў усіх часоў
Я падыходы вартыя знайшоў.
Хто зазлуе – той будзе жалю варты,
Што ён жыцця – не разумее жарты.

*2006 год.*



# БАЛЬНІЧНЫЯ ЖАРТАЧКІ

У бальнічнай сталоўцы бяру абед. Адна пажылая жанчына ўжо пад'ела і ставіць на гаспадарчы столік посуд. Бачу: манная каша і тварожны пудынг з'едзены напалову. Пытаюся:

– А чаму вы не даелі другое блюда? Людзі з'елі б, а вы толькі сапсавалі.

– Не магу, бо салодкае, – адкавазе яна.

– Што тут салодкае? Гэта ж не цукеркі і не пірожнае.

– Салодкае, – паўтарае яна.

– А што, у вас дыябет? – дапытваюся я.

– Не, – кажа, – яшчэ няма.

– Нічога, – супакойваю яе. – Няма, дык будзе.

– Ціпун вам на язык! – абураецца пажылая і ідзе да дзвярэй.

А я кажу наўздагон:

– Не перажывайце. Няма ў вас дыябету, дык ужо і не будзе – не дачакаецеся.

Яна зразумела мой падкол і агрызнулася:

– Затое ў вас будзе. Вы ж – маладзейшы за мяне.

– Ціпун і вам на язык! – адказаў і я яе ж словамі.

– * –

У бальнічнай сталоўцы кормяць не вельмі смачна – усё прэснае і поснае, але дастаткова.

Сядзім з кабетай за адным столікам, абедаем.

– Скажыце, – пытаюся ў яе, – дзе лепш кормяць: тут ці дома?

Яна вылупіла на мяне вочы і кажа:

– Бесталковае пытанне.

– Бесталковы адказ, – парырую я. – Пытаюся зусім сур'ёзна: кормяць лепш дома ці тут?

Яна падумала трохі і адказвае:

– Тут.

На гэтым я і ўеў яе:

– Калі гаспадыня дбайная і ўмелая, то, безумоўна, лепш сталавацца дома. А як нядбайная і няўмелая, то, канешне, лепш на дзяржаўны кошт у бальнічнай сталоўцы. Толькі ж гэта нядоўга цягнецца.

Яна змоўкла, хуценька даела і знікла.

– * –

Аднапалатнік Віктар скардзіцца мне:

– У мяне ціск не ў парадку, прытым не першы дзень.

– А павышаны ці паніжаны?

– Павышаны.

– Дык тэрмінова выклікай лекара, і няхай прымае меры, – раю я.

– А я дзе знаходжуся? – здзіўлена пытаецца ён. – У лячэбні. Так што не я павінен бегаць за лекарамі, а яны няхай бегаюць да мяне і вакол мяне.

– Прабач, – кажу, – я зусім забыўся. Мне падалося, што мы сядзім і гамонім дома.

А тут якраз падышла доктарка, я зняў гэты груз клопату з сябе, і аддаў свайго прыяцеля ў яе ўмелыя рукі.

## ПАСПЯВАЎ

Паехаў аднойчы па службовых справах на аўтазавод – выпісаць металу. Аформіў паперы і зайшоў у свой любімы аддзел хіміі. Дзень быў перадНавагодні, настрой вясёлы, сустрэча адбывалася на схіле дня.

Сябры ўчаставалі мяне – налілі з-пад стала добры келіх саграваючага напою. А пасля просяць:

– Мікалай Пятровіч, прачытайце нам які-небудзь свой вясёлы верш.

Я прачытаў ім якраз навагоднюю гумарэску. Яны паслухалі, пасмяяліся, а затым пытаюцца:

– Вы ж, відаць, і спяваць умееце? Які ж паэт не можа гэтага? Парадуйце нас.

А я люблю часам паспяваць пад гітару дома для сяброў і песні розных народаў, і рамансы. Асабліва мне падабаецца "Гори, гори, моя звезда!". Прыяцелі мне казалі не раз:

– Мікола, гэта найлепш выконваюць у краіне толькі двое: ты – і Барыс Штокалаў.

Я сарамліва адмаўляўся і пярэчыў:

– Ну, што вы! Усё ж спачатку – Барыс Штокалаў, а пасля ўжо – я.

Але адмовіцца не мог, і зацягнуў апошні куплет. Раманс гэты – сілавы, не кожнаму пад голас і сілу. Спяваю – лямпачкі хістаюцца, сцены дрыжаць.

Скончыў спяваць, і пад воплескі стаю, а сябры сядзяць. І тут раптам расчыняюцца дзверы ў кабінет, і заходзяць двое – намеснік упраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння Сямён Георгіевіч і нейкі мажны мужчына ў дублёнцы і мехавой шапцы. Пастаялі, паглядзелі – усё чыста, і спакойна выйшлі.

Пазней мне даклалі, што той, другі – намеснік Генеральнага дырэктара. Яны ўдваіх ішлі па калідоры, і высокі начальнік пытаецца:

– Сямён Георгіевіч, ты чуеш спевы ў вашым аддзеле?

– Не, не чую, – прыкінуўся Сямён Георгіевіч. Хоць добра чуў. Але ж не закладваць яму сваіх работнікаў!

Як быццам абышлося.

Але ўсё ж дайшло да начальніка ўпраўлення. Відаць, нехта прагаварыўся.

І калі я ў наступны раз прыйшоў да яго падпісваць дакументы, ён грозна паківаў мне пальцам:

– Мікола, яшчэ калі-небудзь заспяваеш у нас – больш не зойдзеш на наш завод!

– Аляксандр Амялянавіч, – бадзёра запярэчыў я, – а што ж у гэтым дрэннага? Справа была перад Новым годам, прытым на схіле дня, дык чаму ж не прачытаць вясёлы верш і праспяваць раманс? Я ж паддаў настрою вашым супрацоўнікам. Гэта ж значна лепш, чым спрачацца ці біцца?

Начальнік усміхнуўся і безнадзейна махнуў рукой. Маўляў, позна выхоўваць-перавыхоўваць гэтага Вяршыніна.



# ПРОЗВІШЧА ПАДВЯЛО

Алесь Чырванашчок працуе бляхаром на будоўлі. Знешнасць як бы адпавядае прозвішчу – і валасы, і вусы рыжыя, затое твар светлы. З ім разам працуе Антось Белакапытаў – валасы і вусы светлыя, а твар заўжды чырвоны.

У канцы месяца Алесь заходзіць у кантору. Майстар запаўняе рабочы табель. Алесь глядзіць і дзівіцца: у яго цераз дзень пустыя месцы, значыцца – прагулы. А ў Белакапытава – скрозь рабочыя дні.

Абураны, ён пытаецца ў майстра:

– Што за такая блытаніна ў вас? Гэта ж я штодзень укалваю, як чорны вол, а Белакапытаў праз дзень прагульвае. Пайду скардзіцца на вас прарабу. Ён вам дасць па карку.

Майстар задумаўся, сумеўся дый кажа:

– Прабач, я нядаўна тут працую, добра не ведаю кожнага, вось мне і падалося, што раз Чырванашчок, то і твар у яго чырвоны, а калі той Белакапытаў – то і твар белы. Я і зрабіў высновы пра ўжыванне алкаголю і адносіны да работы.

– Не судзіце па прозвішчах, – забушаваў Алесь. – Якраз у мяне твар светлы, бо я рэдка выпіваю. А ў Белакапытава – чырвоны, бо як прагул-загул, то і "загудзе" на ўсю катушку.

– Дык што ж цяпер рабіць? – сумна пытаецца майстар.

– Як што? Выпраўляйце табель, а мне яшчэ заплаціце за маральны ўрон, інакш і я загуляю-"загуджу". І не будзе каму выконваць бляхарныя работы. Доўга будзеце шукаць спецыялістаў. І не па прозвішчах, а па майстэрству. Спраўляйце сваю памылку.

– Добра, я выпішу табе значную прэмію, а Белакапытаў атрымае толькі ўсё заробленае, а ў дадатак – суровую вымову.

Я яго ацвераджу.

Будзе бегма імчаць на работу, ды яшчэ і ў трубку дзьмуць.

## БОЛЬ ЗУБНЫ

Мой сябар дзеліцца са мной сваёй бядою.

– Зуб карэнны баліць – і доўга, і даўно.

– Ідзі да зубніка, няхай лечыць, – раю я.

– Хадзіў ужо.

– Ну, і як?

– Кажа, што не можа злячыць – рэдкі выпадак.

– Тады няхай вырве.

– Спрабаваў. Упрэцца абедзьвюма нагамі, цягне, а зуб – ані з месца.

– Бяры зубіла і малаток і выбівай гэты свой паганы магутны зуб, – зусім сур'ёзна кажу я.

– І гэты спосаб ужываў. Б'ю, б'ю, аж іскры з-пад зубіла лятуць, а зуб не выскоквае. Што ж мне рабіць далей?

– А далей – падгані трактар, накінь канец тросіка на зуб, і няхай трактарыст цісне на газы. Ад зуба і следу не застанецца.

– А калі і гэта не ўдасца?

– Тады будзеш бегчы за трактарам, пакуль ён не заглухне.

– Табе ўсё жартачкі наўме, табе ж не баліць, – крыўдзіцца сябар. – Ты падкажы мне што-небудзь канкрэтнае і дзелавое.

– Ну, калі канкрэтнае і дзелавое, то шыбуй да свайго зубніка, няхай ён прасвідруе зуб, выцягне гной, а затым паставіць моцную пломбу з сучасных звыштрывалых матэрыялаў. І будзе табе твой зуб служыць яшчэ доўга.

– Вось гэта слушная прапанова, і найпрасцейшая, шчыра дзякую за ласку. За мной не прападзе!

Ён ускочыў і кінуўся ў бок зубной паліклінікі.

# ЯК ВЕРШЫ ПІШУЦЦА Ў МЯНЕ

Розныя роды любімага жанру сатыры і гумару вымагаюць у мяне і розных падыходаў пры напісанні вершаў.

Байку звычайна пачынаю з канцоўкі, з маралі, каб ведаць, дзеля чаго пішу. А потым лезу ўверх, да самага пачатку. А назва ўжо ёсць. І байка гатовенькая. Значная, мудрая.

Гумарэска пішацца лягчэй за ўсё. Вясёлы, лёгкі сюжэт знойдзены, а зарыфмаваць – не праблема. тут ужо пішу зверху ўніз, па тэксту.

Найбольш цяжка і складана пісаць вершаваныя фельетоны (па-простаму кажучы – сатырычныя вершы). Тым больш, што яны нярэдка бываюць бессюжэтнымі – толькі назва, тэма і ідэя. А як раскручваць – напружана думай і працуй. Дый тэмы трэба шукаць і знаходзіць сённяшнія, актуальныя, злабадзённыя. І пісаць сур'ёзна, раздумліва і востра. Лёгкаважкасць тут не пройдзе.

І вось прыйшла важная тэма. А пісаць – ну, ніяк не хочацца. І тут я прымаю валявое рашэнне: сесці і працаваць. Усё роўна ж ніхто за мяне не напіша – ні цяпер, ні ў чацвер.

Сядаю за рабочы стол пісьменніка. Каб зацікавіць і натхніць самога сябе, з правага боку стаўлю поўную пляшку, з левага кладу поўны пачак цыгарэтаў, пасярэдзіне два аркушы чыстай белай паперы і кажу сам сабе (дысцыплiную):

– Ну, нягоднік, не вылезеш з-за стала, пакуль фельетон не напішаш!

Мінаюць тры гадзіны. Знаходжу вырашэнне тэмы і раскры-ваю яе. Пустая бутэлька стаіць пад сталом, пусты пачак з-пад цыгарэтаў выкінуты ў урну, два аркушы запоўнены. Верш напісаны. Выканаў загад душы.



Вылажу з-за стала. Стомлены – быццам цяжкі воз цягнуў. Кідаюся на ложак.

Адпачыць.

Душой і целам.

## ПРА НАКОЛКІ

Сярод пэўнай часткі насельніцтва, хоць і нязначнай, была і застаецца цяга размаляваць сваё цела рознымі наколкамі. Такая, бачыце, у іх рамантыка ці экзотыка. Канешне, сярод моладзі – найбольш. Каб хоць нечым выдзеліцца.

У ранейшыя часы гэта ўсяляк праследавалася. У маральным плане. Лічылая ганьбай. Сябры і сваякі прымушалі выводзіць гэтую гадасць. А як вывесці? Прыдумалі і спосаб. На татуіроўкі накладвалі павязку са свежага мяса ялавічыны. Яна і выцягвала тую туш ці чарніла.

А цяпер праблема адпала, працэс указонены. Ёсць арганізацыі і фірмы, якія афіцыйна, за плату, робяць татуіроўкі. Адна з іх знаходзіцца ў Траецкім прадмесці Мінска. Пэўна, і ў іншых рэгіёнах ёсць. Бывае, чалавек размалёваны з галавы да ног. Як той папуас. Розніца ў тым, што папуас размалёўваецца натуральнымі, бясшкоднымі фарбамі, а не рознай хіміяй.

Слухаю радыёперадачу. Дзяўчаты таксама робяць сабе татуіроўкі, нават... на грудзях. А на іх жа такая тоненькая, звышадчувальная скура. І не разумеюць тыя дурнічкі, што гэтымі грудзьмі ім трэба будзе карміць сваіх дзяцей. Каб не выраслі яны дзебіламі!

Таварышы распавядалі, што некаторыя хлопцы наносяць татуіроўкі і на самым далікатным і адчувальным на мужчынскім целе месцы. Відаць, гэта найбольш у турэмных зонах. Хоць і не толькі. А як можна вытрымаць такое мучэнне? І дзеля чаго? Напэўна, у стадыі глыбокага ап'янення, або звышмеры накачаўшыся наркотыкамі.

А зараз разважым. Які разумны мужчына будзе кахацца з наколатай дзяўчынай? Якая прыстойная дзяўчына пакахаецца з размалёваным мужчынам?

Хіба толькі самыя разбэшчаныя.

Інакш няхай шукаюць такіх, як самі. Роўных сабе.

Трэба берагчы сваё здароўе і гонар, а не гнацца за дурной модай.

## ЯК ЖОНКА ГРОШАЙ НЕ ДАЕ

Стаіць сусед у сумным роздуме.

Пытаюся:

– У чым справа?

Адказвае:

– Ды вось учора моцна загуляў, а сёння галава трашчыць.

– А на гарэлку ёсць пахмелка, – падказваю. – Не намі прыдумана.

– Дык грошай няма. Дома не далі.

– Паслухай маю думку:

Так парадку век не будзе,
Ты як скажаш – проста смех.
Жонку трасяні за грудзі –
Грошай высыплецца мех.

– Нічога не атрымаецца, – пярэчыць ён. – І біцца я не прывык.

– Тады прымай слушную прапанову. Бяры востры нож і па падушках шах-шах! Магчыма, там жончыны схованкі.

– Думаю, што нічога не знайду.

– Тады тым жа нажом па матрасу шах-шах! Можа, там шматгадовыя залежы і грошай, і валюты.

– Адкуль, з якіх даходаў? Ну, ты параіш! Усё ў хаце перарэжу, а жонка мяне супакоіць ці венікам па плячах, ці патэльняй па галаве. Лепш пабуду цвярозым, чым пабітым.

– У такім выпадку пі чай. Або каву. Хоць цэлае вядро. Будзе і дзешавей, і карысней, і спакайней.

## РАЗМОВА Ў ПАЛІКЛІНІЦЫ

Едзем у ліфце.

Адна кабета – энергічная, рухавая, так спяшаецца, аж гарыць:

– Хутчэй бы ехаў гэты ліфт!

– А куды вас так нясе? – пытаюся.

– Вой, мне трэба тэрмінова зрабіць укол.

– Паспееце, – заспакойваю я. – Не такая складаная аперацыя. Уткнулі шпрыц – вынялі. І вы – свабодная. Апроч таго, куды нам з вамі, пажылым людзям, ужо спяшацца? Усе там будзем! – жартаўліва падколваю я.

– Не, не будзем, – аптымістычна сцвярджае яна.

– Будзем, – рашуча пярэчу я.

– Не, не будзем.

– А я – буду, – скептычна адказваю ёй.

– І вы не будзеце!

– Ну, дзякуй на добрым слове. Але ж вы – не Бог.

– Ну, і дарэмна. А няхай бы была. І вам бы дапамагла.

А чым бы дапамагла?

Вечным жыццём?

Дык і ў гэтым жа нашым кароткачасовым жыцці даволі нагаруешся.

Навошта болей?

# РУКІ ВІНАВАТЫЯ

Размаўляю з суседам маладым.

У яго – магутная цяга да чаркі. Аж рукі калоцяцца. Прытым п'е з бутэлькі налба, наўпрост, без шклянкі. Закусвае рукавом.

– А што, учора насцябаўся? Казаў жа, што здароўе хілае, ты ж сам сябе ў труну заганяеш.

– Загудзеў учора. А зараз горла сохне, галава патрабуе пахмелкі.

– А галава не кажа, што не трэба? Паберагчы душу і цела?

– Галава-то кажа, але рукі ўладна цягнуцца да пляшкі. І што мне рабіць з гэтымі паганымі рукамі, каб яны адсохлі, хоць адсячы іх.

– Не, – кажу, – лепей адсеч цягу да алкаголю. Тады і рукі застануцца цэлымі, і галава прасвятлее, і горла не будзе перасыхаць. Лепш паспрабуй гэтым горлам песні паспяваць.

Дык калі прамочыш ногі – горла забаліць, а калі звышмеры прамочыш горла – ногі не ідуць.

А рукі нам дадзены не дзеля таго, каб на іх хадзіць. На гэта ёсць ногі.

Беражы заўжды і тых, і другіх.
Гэта ж – нашы канечнасці.
А кіруе імі – галава.
А галава дадзена нам не дзеля таго, каб шапку насіць.
А каб думаць.
Хоць зрэдку.
А найлепш – пастаянна.

## НАМ БЫ КАЎКАЗСКАГА ЗДАРОЎЯ!

Прынята гаварыць, што каўказцы, асабліва горцы, вельмі доўга жывуць – па сто, сто дваццаць, сто сорак гадоў. (Памятаю, сам калісці чытаў, што адзін азербайджанец пражыў сто сорак шэсць). І таму, што не ядуць мяса (яны з агароднай і лясной зяляніны гатуюць і салаты, і такія наварыстыя з тлушчам і прыправамі супы апетытныя, што аб'ясіся і больш нічога не захочаш). І не п'юць.

Як бы не так! У многіх з іх вялікія атары авечак, мяса ядуць бязмерна (а ў нас бараніна лічыцца цяжказасвойваемай ежай), і шашлыкі гатуюць, і чохахбілі. А п'юць бочкамі – віно, толькі сваё, чыста вінаграднае. І каньякі мясцовай вытворчасці і чачу. Толькі ж мяса не перамарожанае, як у нас, а заўсёды свежанькае. А гэта, як кажуць у Адэсе, дзве вялікія розніцы.

Да таго ж у гарах свежае паветра, чысцюткая вада, выдатная, багатая прырода. А ў нас, еўрапейцаў, індустрыялізацыя, урбанізацыя, загазаванасць, абы якая вада, сапсаваная экалогія – у такіх умовах доўга не працягнеш.

Вось таму часам і падумваю: а ці не перабрацца мне на Каўказ і залезці ў горы на астатнія гады?

Вельмі ж хочацца стаць доўгажыхаром.

Але, як кажуць, марыць – не шкодна.

## БЫЎ ТАКІ ПАЭТ

Ходзіць па нашым двары адзін дзед. Не вельмі стары, але можа пагаманіць, разважыць. І прыгадае штось мінулае, і шмат чаго заўважыць. Не сябруем – розны ўзрост, але культурна вітаемся. І то добра. Амаль суседзі.

Аднойчы праходзіць міма, я кажу:

– Падыдзі, хоць раз пагаворым шчыра. Бліжэй пазнаёмімся. Хто ёсць – хто.

Падышоў, прысеў. Размаўляем на розныя тэмы. Справа дайшла да мастацтва і літаратуры. Кнігі, пісьменнікі. Тады ён кажа:

– Вось быў такі паэт – Вяршынін.

– Чаму быў? Ён жа і цяпер ёсць! – здзіўлена адказваю я. – Жывы і здаровы.

– А дзе, і як, і хто? Як яго сустрэць і пабачыць? Я ж з цікавасцю чытаў яго творы.

– А нашто шукаць? – адказваю я. – Ён сядзіць каля цябе.

– Дык гэта – ты?

– Так. Я – Мікола Вяршынін.

– А чым дакажаш?

Я вымаю з кішэні адну сваю кніжачку.

– Чытай на вокладцы. Імя, і прозвішча, і назву.

Перагортваю вокладку. Там – партрэт – амаль на паўроста.

– Упэўніўся? Купляй кнігу!

Ён з задавальненнем купіў. Я напісаў аўтограф.

Дзед кажа:

– І мне будзе, і дзецям, і ўнукам памяць. І па тваіх творах будуць вывучаць родную мову.

– А як цябе клічуць, скажы мне нарэшце? – удакладняю я.

– Самае папулярнае ў нас імя.

– Іван?

– Так.

– А прозвішча?

– Бондар.

– А ты ведаеш, што гэта слова значыць? – учапіўся я.

– Ведаю. Хто бочкі вырабляў.

– Дык хто ў цябе ў радні быў бондарам? Пэўна ж, не сам, а бацька, дзед?

– Канешне.
– А куды яны падзявалі тыя бочкі?
– Што – прадавалі, што – сабе пакідалі.
– А нашто сабе – і многа?
– Дык жа агуркі на зіму ў раку за сваімі соткамі пастаўлялі. А ўвесну як свежанькімі падымалі.
– Так, так, – згадзіўся я. – Сам ў вёсцы рос, і ўсё гэтае бачыў.
– Ну, будзь здароў, наш замудры Іван Бондар! Нарэшце добра пазнаёміліся.
– Не, пакачай пасядзім яшчэ трохі.
Потым на Івана Бондара наплылі успаміны.
– Я служыў у авіяцыі, у нас быў высокі начальнік па прозвішчу Вяршынін.
– Галоўны маршал? – страпянуўся я.
– Але. І вось аднойчы ён прыязджае ў нашу часць. А я быў перадавіком, дык ён мне нават руку паціснуў.
– І што пасля? – цікаўлюся.
– Пасля я тры тыдні руку не мыў – гонар меў.
– А пасля здароўкання са мной колькі часу не будзеш мыць руку?
– Дні са тры. А можа – тыдзень.
– Ну, дзякуй за ласку і ўвагу.
– А вось яшчэ. Ці не быў той маршал тваім родзічам?
– Я не люблю пра гэта гаварыць, – хітравата адказаў я. (Думай, што хочаш).



## КУРОРТНЫЯ ЎСПАМІНЫ

Начальнік выправіў на курорт сваю жонку, каб адпачыла і падлячылася. Заадно купіў пуцёўку і палюбоўніцы, туды ж. І меў тонкі разлік: яны будуць там навідавоку адна ў другой, праназіраюць, а пасля прыезду іх я распытаю ў кожнай пра другую.

Прамінулі дні і тыдні. І вось прыемны дзень вяртання. Жоначка весела шчабеча:

– Любы, гэта быў не адпачынак, а казка. Харчаванне, лячэнне, сонца, мора, пляж, цікавыя кампаніі, творчыя сустрэчы, танцы, прыемныя знаёмствы. Незабыўнае. А вось дарэчы і памятныя фотаздымкі.

І характарызуе многіх: хто ёсць хто, і які, і якая.

Муж заўважыў на калектыўным фота твар каханкі, і дапытваецца:

– А гэтая адкуль? Як яе клічуць? І як сябе паводзіла?

– Вельмі прывабная, сімпатычная, вясёлая, гаваркая. Але такая гуляшчая! Што дзень, то новы кавалер. Распуста!

Мужу зрабілася млосна.

Праз пару дзён завітаў да палюбоўніцы. І тая ў захапленні ад адпачынку. І паказвае свае фотакарткі. Ён угледзеў на адной з іх жонку і распытвае. Тая адказвае:

– Яна жыве недалёка адсюль, у суседнім квартале. Прыгожая, разумная, модніца.

– А ці гуляла яна з кім, ці мяняла мужчын?

– Што ты? Такая сур'ёзная! Як з адным прыехала, так з ім і паехала.

Муж – у шоку!

– З кім звязаўся, з кім жыву? Бяру з абедзвюма развод па-італьянску!

Навошта ж іх звёў? Нашто так сачыў? Самому было б спакайней.

...А цяпер – парады жаніхам.

Не бярыце ў жонкі прыгожых ці вельмі прыгожых, каб усё жыццё не вартаваць іх. А калі ў вас усё ж будзе красуня – не адпускайце ад сябе ні далёка, ні блізка больш як на тры дні – каб не паспела распусціцца.

А найлепш узяць сярэдняй знешнасці ці непрыгожую. Затое ніхто не пакваліцца на яе і не спакусіць.

Але... разбірайцеся самі: што – жартам, што – усур'ёз.



# ДОРАГА АБЫШОЎСЯ Б ТОЙ КРАДЗЁЖ

Стаім са знаёмым на ганку крамы.

На дзвярах наклеены дзве аднолькавыя суровыя аб'явы.

"За куплю і перадачу спіртных напояў непаўналетнім на віноўных накладваецца адміністрацыйнае пакаранне – штраф у суме ад 310 да 930 тысяч рублёў".

Паказваю знаёмаму і пытаюся:

– Што гэта за такія драконаўскія меры? І хто зможа плаціць гэткія велізарныя штрафы?

– Заплацяць, – адказвае ён. – З зарплаты будуць вылічваць. А ты мне патлумач, як будуць лавіць тых віноўных?

– А вельмі проста, – адказваю я. – Каля штучнага аддзела будзе стаяць пераапрануты ў цывільнае міліцыянер. Ён і схопіць. Альбо будзе стаяць на ганку – і затрымае. Так што не раю звязвацца з падлеткамі. Пацерпіш нізашто.

– А хочаш, я раскажу табе пра сваю былую бяду? – кажа мой знаёмы.

– Хачу. Слухаю.

– Было – я ўкраў у магазіне бутэльку гарэлкі. Мяне і злавілі.

– А дзе ты схаваў, як узяў?

– Засунуў пад рэмень на жываце.

– А хто бачыў – ахоўнік ці касірка?

– Ды ў іх там устаноўлены камеры сачэння.

– І што было далей?

– Далей мне прыкляпалі выплаціць мільён і пяцьдзесят тысяч рублёў.

– Нядрэнна! І як ты выплачваў?

– Ды ніяк. Судовыя прыставы дасылаюць мне пісьмы, рахункі, звоняць, а я – усё не плачу, усё не плачу.

– І чым скончылася гэтая бадзяга?

– Ды нічым. Пасля адмянілі тую карную пастанову. Закон памяняўся. З мяне гэты прысуд знялі. А судовыя прыставы нават прыслалі прабачальную паперу, і паведамілі, што мая справа закрытая.

– Ну й пашэнціла табе! А што ж цябе натхніла на такі "подзвіг" – красці гарэлку ў краме? Працуеш жа!

– Ды быў на моцным падпітку, мала што разумеў. Падалося, што малавата. А як прышчёгся з міліцыі дадому, гляджу – а

на стале стаіць паўнюткая пляшка гарэлкі! Нашто я, дурань, рызыкаваў?

– Дайшло нарэшце?

– Навука будзе надалей. Бо "зялёны змей" – за мяне злей. Пастараюся не паддавацца. Бо ўжо мне час за розум брацца.

Што ж, бярыся, пакуль не позна.



# МОЙ СЯБАР ДЗЯНІСКА

У нашым пад'ездзе жыве хлопчык Дзяніска. Яму гадкоў пяць. Такі жвавы, кемлівы, знаходлівы, развіты. Тое, што мы шмат дзесяцігоддзяў назад ведалі і разумелі ў дзесяць гадоў, цяперашнія дзеці ведаюць і разумеюць ужо ў пяць. Маса інфармацыі, адукаваныя бацькі, тэлевізар, выхаванне ў дзіцячых садках. Хлопчык ужо ўмее чытаць.

Бывала, пытаюся ў яго:

– Дзяніска, кім ты хочаш быць, як вырасцеш?

– Міліцыянерам, – адказвае.

Іншым разам арыенціроўка мяняецца:

– Пажарным.

Трэці раз яшчэ паварот:

– Памежнікам.

– Пачакаем, пакуль падрасцеш. Можа, яшчэ перадумаеш.

Бярэ савочак і капае ямкі вакол дваровай лавы.

– Што ты робіш? – усчуваю я. – Бабулі і дзядулі могуць ногі паламаць у тваіх ямках.

– А няхай не ходзяць там, дзе я капаю.

– Зараз жа засып ямкі, бо паскардзяцца тваім бацькам, і цябе наб'юць.

Калі я лаяў яго за гэтае ды іншыя гарэзніцтвы, ён мудра, як стары, адказваў:

– А кожны чалавек мае права рабіць тое, што яму хочацца.

– Які ж ты чалавек, Дзяніска? Ты ж яшчэ зусім маленькі чалавечак.

– Я не маленькі, я ўжо вялікі. Малыя ў ясельках.

Я з ім сябраваў. А пасля ў яго з'явіўся другі сябар – дзед Сяргей з нашага пад'езда. Яны і размаўлялі, і жартавалі, і забаўляліся.

Дзед Сяргей сядзіць на лаве. Дзяніска цягне яго:

– Давай пагуляем.

– Не хачу, у мяне ногі баляць.

А я падбухторваю:

– Дзед, не лянуўся, прайдзіся з малым хоць за рог дома.

Той нехаця ўстае і ідзе.

Пасля яны знайшлі яшчэ адну забаўку – гушкаліся на арэлях. Штодзень. А я пад'ялдыкваў:

– Што старое, што малое – адзін розум.

Дзяніска унадзіўся хадзіць да дзеда ў кватэру. Баба Шура была не рада:

– Як уварвецца – усё хапае, перастаўляе, перакідвае. Можа пабіць, паламаць, перавярнуць уверх дном. І адпрэчыць няёмка і цяжка, і пакідаць у хаце не хочацца.

Дзяніска просіць мяне:

– Дзядзька Коля, падсадзіце мяне, я пазваню дзеду.

Звоніць:

– Я хачу да вас зайсці.

Баба Шура адказвае:

– Яго няма дома.

– Нічога, я пачакаю.

Звоніць другім разам.

– Дзядзька Коля, падыміце, я націсну кнопкі.

– Дзед спіць, – гаворыць бабуля.

– Нічога, разбудзім!

І што з ім рабіць?

Маці Дзяніскі Алена купіла ў мяне апошнюю маю салідную кнігу, аж тры экземпляры – для сябе з мужам, для Дзяніскі – на выраст, і для цёткі. А каб аддаць грошы, паклікала ў кватэру.

А там у дзяніскавым пакоі – з паўсотні маленькіх аўтамабільчыкаў і мноства іншых цацак. І ўсе яны параскіданы шурум-бурум. Ведама ж – хлопчык, не дзяўчынка.

І вось Дзяніску аддалі ў дзіцячы садок. Завозяць, прывозяць у нейкі час, а мы яго і не бачым. І неяк сумнавата нам стала ў нашым двары без гэтага гарэзніка.



Прыгадваючы сваё маленства, я часам думаю: няхай бы я нарадзіўся гадоў на дзесяць раней – не, лепш на столькі гадоў пазней, тады б і пракля-тая тая вайна не закранула б мяне, не зачапіла б сваім чорным крылом, і я б, напэўна, правёў сваё дзяцінства весе-ла і шчасліва, як і мой маленькі сябар Дзяніска.

## МАЛЫЯ ШЭЛЬМЫ

Мая знаёмая, пажылая жанчына Ніна, па шчырасці дзялілася са мной сваімі ўспамінамі аб маленстве.

– Бывала, цягала са свайго двара з курыных кублаў яйкі, бегала ў краму і мяняла іх – за два яйкі – тры пернікі, ці два, альбо грамаў сто ці менш – цукерак самых танных, "гарошку" або "падушачак".

Маці наша Дар'я дзівілася і скардзілася суседкам:

– Не разумею: ці мае куры сталі менш несціся, ці зрабілі кублы ў бульбяніку, або нясуцца ў суседскіх дварах?

– А чаму прадаўшчыца прымала ў вас, малых, гэтыя яйкі? Няхай бы паведамляла пра гэта вашым мацяркам.

– Відаць, гэта было выгадна ёй. Мы ж, малыя, не разумелі, што чаго каштуе.

– А ты адна крала яйкі?

– Не, і мая сястра Наста.

– А што, вельмі бедна жылі?

– Не, не галадавалі. Толькі ж дзяцей было многа. І без бацькі былі пасля вайны.

– Канешне, – кажу. – Калі бацька быў бы, то пабіў бы вас папругай ніжэй спіны за крадзёж з сям'і.

– Які там крадзёж? – пытаецца Ніна. – Быў і суп, была і каша, зрэдку – і шкварка, і яечня. Ды на ўсіх было мала.

Але ж хацелася і нечага смачненькага, і салодзенькага.

Таму і цягалі, што маглі. Дый цягаць асабліва не было чаго. А за тое Бог даруе.

## ГЭРАЦ

Амаль у кожнай мясцовасці бывае хоць адзін дзівак. А гэты быў вялікаўзростны дзяцюк. Бяда яго была ў тым, што ён усё забываўся. Асабліва калі маці пасылала ў краму.

Калі маці кажа:

– Купі масла, –

Ён прынясе мяса.

Калі загадвае:

– Прынясі мяса, –

Ён купіць масла.

Патрабуе:

– Трэба ўзяць сыр, –

Ён возьме кефір, а замест кефіру бярэ сыру.

Іншым разам пасылае ўзяць хлеба лусту – ён прыносіць капусту. І наадварот.

Аднойчы пасылае ў магазін і дае наказ:

– Купі перац – для прыпраў у стравы. Толькі ж не забудзься: перац, перац. У гарошках і молаты.

Той пайшоў, а па дарозе забыўся. І кажа прадаўшчыцы:

– Дайце мне гэты самы... ну, гэрац.

Яна нічога не разумее:

– Што, што?

– Гэрац.

– Няма такога прадукта. А для чаго гэта вам?

– Маці сказала – для прыпраў у стравы.

– Дык гэта ж – перац. Што ты мне галаву тлуміш?

– Так, так, успомніў: перац.

А пакупнікі аж зарагаталі.

Цяпер калі гэты дзяцюк праходзіць міма, то яму ўслед кажуць:

– Вунь пайшоў Гэрац.

Мянушка прыжылася.

# АЛКАГОЛЬНЫЯ МАТЫВЫ

Знаёмы дзед падараваў мне торбачку на дробныя патрэбы. Без ручак. Жонка прышыла тонкія цясёмачкі. Насіў хлеб, крупы, алей, запалкі.

Аднойчы купіў дзве вялікія бутэлькі віна. Нясу – і тут тоненькія цясёмачкі парваліся. Бутэлькі – гах аб асфальт! Дарага мне абышлася дармавая дзедава торбачка. Каго клясці – ці дзеда, ці сябе?

Збіраемся з жонкай у госці. Узялі торт і бутэльку гарэлкі. Стол на кухні засланы не абрусам, а газетай. А край не загнуты, а ляжыць гарызантальна. Жонка любіць усё перастаўляць бясконца. Паставіла бутэльку на самы край газеты – на паветра. Тая і бразнулася на падлогу.

– Ідзі зноў у краму, варона! – скамандаваў я.

Завітаў да мяне цёзка, таварыш па творчасці. Складіся, купілі бутэльку гарэлкі і дзве піва. на гэтым нашы грашовыя магчымасці скончыліся. Але нічога, хопіць нам.

На рагу ад гастранома да майго дома невялічкі ўзвышак. Сумка не пластмасавая, а з тканіны, толькі доўгая. Мароз невялікі, ляжыць сняжок. І толькі сябар дакрануўся дном сумкі да снегу – пачуўся трэск, і ўсе нашы пляшкі – на кавалкі! Не маглі ж яны за пару хвілін змерзнуць. Цуд, дый годзе! Разышліся мы з сябрам сумна-сумна.

Трое дваравых хлопцаў скінуліся і паслалі аднаго ў магазін па бутэльку. Чакаюць. Ён прыходзіць збянтэжаны і кажа:

– Прабачце, сябры! Па дарозе пляшка вывалілася з кішэні і разбілася.

У роспачы адзін пачаў ірваць валасы на галаве, другі парваў на сабе кашулю. Больш ні рубля не было. А віноўнік стаіць спакойна, толькі збялеў з твару, а рукі трымае ў кішэнях штаноў.

Сабутэльнікі як накінуцца на яго:

– Ты што, сабака! Я валасы на сабе парваў!

– А я парваў кашулю! А ты стаіш як бы ніпрычым.

Віноўнік гэтае бяды ў роспачы адказвае:

– А вы думаеце, што мне лягчэй, чым вам?

І вымае рукі з кішэняў штаноў. А яны – у крыві...

## ПЕРАСЦЯРОГА

Стаім з прыяцелем каля піўнухі, узялі па куфлю, і паціху з задавальненнем смокчам. Я здзіўлена пытаюся:

– Чаму я п'ю, нармальна, як усе, а ты наадварот, з боку ручкі?

– А я табе раскажу пра другі аналагічны выпадак. Двое сяброў п'юць піва. Адзін пытаецца ў другога:

– Чаму ты п'еш з боку ручкі?

– Баюся заразіцца (вядома ж, як бегла прамываюць там куфлі халоднай вадой).

– Дык і ты ж п'еш з боку ручкі. Чаму?

– Баюся заразіць.

Добра, што абое хоць баяцца. Калі катораму не позна.

## ЗАЙЧАЦІНАЙ ПАХЛА

Ехалі ў прыгарадным аўтобусе. Разам з намі – паляўнічы. Трымаў у руцэ толькі што забітага зайца. Такога вялікага – кілаграмаў на тры. І ўсім прапаноўваў, і прасіў:

– Купіце, калі ласка. Нядорага.

– А колькі каштуе? – пыталіся пасажыры.

– Ды ўсяго за бутэльку гарэлкі. Стаміўся, горла дзярэ. Не пашкадуеце.

Я хацей купіць. Скура дарагая, а наемся ж удосталь. Да таго ж і шапку сшыю.

А пасля раздумаў: я ж не жывадзёр, не ўмею скуру лупіць, а затым яшчэ і абрабляць яе трэба, потым шапку шыць, калі хопіць матэрыялу. А як не хопіць? Шукай тады яшчэ аднаго ці двух зайцоў. А дзе я іх знайду? Я ж – не паляўнічы. Дый таго зайца трэба сутак двое вымочваць у вадзе. Дзічына ж. Больш клопатаў, чым карысці. Навошта мне гэта?

Скончылася тым, што ніхто з пасажыраў, хоць былі і старэйшыя, і больш вопытныя за мяне, не пупіў таго зайца. У выніку і мужык застаўся без бутэлькі, і я – без зайца. А-яй-яй!

А так хацелася пакаштаваць зайчацінкі! Ну, хоць раз у жыцці. Калі ж болей?

Што ж, як кажуць, хацець не шкодна.

## СПЯВАК... "ЗА СЦЭНАЙ"

У нашым доме часам былі чутны песні і арыі ў выкананні невядома каго, але добрым, моцным тэнарам. Яны гучалі нядоўга, і мы не маглі вызначыць спевака.

І вось аднойчы ідзем з сябрамі ўздоўж дома і чуем руладу. Я кажу сябрам:

– Зараз я паспрабую пераспяваць яго.

І завёў апошні куплет майго любімага рамансa. А раманс гэты меладычны і прыгожы.

Спяваў натхнёна,, з пералівамі.

Толькі я скончыў, дык той невядомы пачаў яго з першага куплета. Мы глядзім уверх і бачым: на другім паверсе стаіць мужычок – невысокі, тоўсценькі і лысенькі. І аж заліваецца.

Я прамовіў:

– Вось падключуся да яго, і мы даспяваем разам, дуэтам.

Так і адбылося. Сябры ўхвалілі наша выкананне, а ён знік у глыбіні сваёй кватэры.

Я канстатаваў:

– Цяпер ведаю ягоныя каардынаты. Пастараюся сустрэцца з ім і наладзіць сувязі. Ён не ўмее пісаць вершы, як я, затое я ўмею спяваць амаль як ён, ды яшчэ і падыграю на сваёй гітары. Паступова спяёмся, сап'ёмся – не, не сап'ёмся, а наладзім творчае супрацоўніцтва.

Балазе далёка хадзіць ці ездзіць не давядзецца. Суседзі ж! Будзем ладзіць вам канцэрты.

Сябры дружна падтрымалі маю задумку:

– А мы будзем вернымі і адданымі слухачамі. Буру воплескаў забяспечым!



# З НАРОДНАГА ГУМАРУ




*І ў кожны век, і у кожны год*
*Ніхто не скажа лепей, як народ.*

## ДЗЕ ЎЗЯЎ?

Ідзе мужык, нясе тапор. На плячы.

Ззаду тупае міліцыянер, і ўсё пытаецца:

– Дзе ўзяў? Дзе ўзяў?

Мужык азіраецца і йдзе ўперад.

Міліцыянер не адстае, і працягвае дапытвацца:

– Дзе ўзяў? Дзе ўзяў?

Мужык завярнуў за рог дома. Міліцыянер патупаў услед за ім.

Праз колькі хвілін мужык выходзіць, і выцірае свой тапор аб рукаў. Міліцыянера не відаць.

– Прычапіўся! Дзе ўзяў, дзе ўзяў? Купіў! Больш пытацца не будзеш.

Чорны гумар.

Але ж – бывае?

## ДАГАВАРЫЎСЯ

Міліцыянер-ДАІшнік спыніў машыну за парушэнне правілаў дарожнага руху. І дапытвае вадзіцеля:

– Ваша пуцёўка!

– Калі б у мяне была пуцёўка, то я зараз адпачываў бы на Поўдні.

– Вашы правы!

– Калі б у мяне былі правы, то ты б цяпер пілаваў дрэвы лобзікам на Поўначы.

– Дык вы да таго ж яшчэ і п'яны? – канчаткова раззлаваўся міліцыянер.

– А калі б я быў цвярозым, то з такім паганцам, як ты, увогуле не размаўляў бы.

А размаўляць усё ж давялося. У раённым ДАІ.

Разгаварыўся – дагаварыўся, знайшоў дзе і з кім.

Вастраслоў!

## ЗРАЗУМЕЛА ПА-СВОЙМУ

На прыём да ўрача прыйшла стараватая кабета. І скардзіцца:

– Доктар, захварэла я. Справа цісне, злева рэжа, зверху коле. Палячыць тэрмінова.

– Добра. Ідзіце за шырму, распранайцеся і выходзьце. Агледзім, праслухаем, установім дыягназ, прызначым лячэнне.

Тая пайшла, распранаецца і нешта доўга не выходзіць. Доктар захваляваўся: можа, дрэнна стала бабулі?

І раптам з-за шырмы чуецца яе шамканне:

– Ну, жаходзь, швавольнік, не цягні! Рашпутнік ты гэтакі!

## ЗАЎЖДЫ ГАТОВА

Маладжвая жанчына занядужыла, зайшла падлячыцца. Кажа:

– Стомленасць, млявасць і абыякавасць да жыцця.

Урач кажа:

– Разбярэмся. Распранайцеся.

Яна з гатоўнасцю пытаецца:

– А вы?

Дык вось якія лекі патрэбны ёй былі!

Мужчынскія.



## ТА-ТА-ТА!

У жаночым аддзяленні лазні адключылася святло. Выклікалі электрыка. Той як ішоў – у рабочай робе, на баку – сумка з рабочым інструментам – так і ўваліўся ў гэтую цемру. Як, уваліўся – наткнуўся на мажную кабету. Як наткнуўся – так і не разгубіўся. А яна справіла вэрхал:

– Бабы, біце яго тазікамі! Тазікамі, тазікамі, тазікамі, тазікамі, тазікамі!

Затым крычала трохі спакайней:

– Тазікамі, тазікамі, тазікамі, тазікамі!

Пасля:

– Тазікамі, тазікамі, тазікамі!

Далей – яшчэ паспакайнела:

– Тазікамі, тазікамі...

А затым:

– Та-та-та-та!

Далей меней:

– Та-та-та!

А пасля гэтага ўсяго сказала:

– Та-та... Ціха, бабы! Я ўжо нататакалася, палякалася.

І хопіць з мяне.

І неўзабаве загарэлася святло.

А электрык, зрабіўшы сваю работу (дзве работы – і прыемную, і вытворчую), пайшоў на наступны выклік.

## АБОЕ АДНОЛЬКАВЫЯ

Ноч. Кватэра. Ложак. Муж і жонка збіраюцца засынаць.

Раптам чуецца рэзкі званок у дзверы.

Яна штурхае яго пад бок:

– Уставай, муж вярнуўся!

Ён устае, хуценька апранаецца і вылазіць праз акно...

А званок – відаць, нехта з суседзяў пасля добрай гулянкі пераблытаў дзверы.

Але напалохаў іх абодвух.

## “МАЛАДЫЯ ГАДЫ, МАЛАДЫЯ ЖАДАННІ”

На лаўцы сядзяць двое закаханых. Гаманілі, мілаваліся. Потым абое змоўклі.

Яна пытаецца ў яго:

– Аб чым ты думаеш?

А ён ні аб чым не думаў. Проста любаваўся прыродай. Адказаў – абы адказаць:

– Аб тым, аб чым і ты.

Яна пачырванела і ўпікнула:

– Як табе не сорамна!

А які можа быць сорам, калі маладыя думаюць аб адным?

Па ўзросту і жаданні...

А калі ўсур’ёз – дык тым больш.



## “НАГУЛЯЎСЯ”

Васіль прывалокся дадому пасля моцнай паддачы ўпрыцемках. Святло не ўключаў. Яго ўсё ж цягнула на подзвігі. На ложку ляжала жонка. Ён штурхае яе ў плячо і кажа:

– Алесь, падымайся! Зараз кульнём па добрай шклянцы гарэлкі, і пойдзем да жанчын.

Жонка адказвае за ўяўнага Алеся:

– Васілёк! Прыляж пакуль што на канапу, падрамлі хвілін дваццаць. Затым мы з табой ляснем па гарэлцы, і пойдзем да кабетаў.

Васіль як лёг – так і захроп. Да раніцы.

Так і сарвалася ў яго запланаваная, але не здзейсненная пагулянка.

Затое дома было спакайней.



## У КОЖНАГА СВАЁ НАЎМЕ

Сустрэліся хуліган і Дон Жуан (распуснік). Ідуць, гамоняць пра нешта. Насустрач крочыць маладзенькая, стройная, прыгожая дзяўчына. Гэткая пульхмяная, такая прывабная – што спераду, што – ззаду. Нічога дома не пакінула. У хлопцаў розныя асацыяцыі згодна з выхаваннем і звычкамі, характарам.

Дон Жуан прыцмокнуў языком і прамовіў:

– Вось бы зараз распрануць яе – і ў кусты, і ў кусты!

А ў хулігана – свая рэакцыя:

– І – па мордзе! І – па мордзе!

У кожнага – свае жаданні і радасці.

– * –

У Маскве міністрам культуры быў Швыдкой (у перакладзе з украінскай – шустры). Усюды паспяваў – і ў сваім міністэрстве, і на пасяджэннях Урада, і на шматлікіх канцэртах – і сам нешта ствараў і пісаў. А ўвесяленні, банкеты... А наўкола – артысткі, паклонніцы. Ён бегаў за імі і вакол іх, шустрыў. А яны бегалі за ім і вакол яго. Любіў жанчын. А хто ж іх не любіць?

Свет багемы дзіўны і непрадказальны.

Ён жыве па сваіх законах.

– * –

У нас міністрам культуры быў Гуляка. Многія перагаворвалі, пляткарылі:

– Вось дык прозвішча – адпавядае характару работы, прафесіі. Відаць, разгульны. Пэўна, бабнік адчайны!

Праз нейкі час яго перавялі на іншую работу. Міністрам прызначылі другога. Каб прыўзняць узровень культуры ў краіне.

А можа, той і не быў гулякам?

А прозвішча падвяло?

## ПАДРАЎНЯЎСЯ

Сустрэліся двое сяброў, што даўно бачыліся. Адзін кажа, як звычайна:

– Ну, як справы, як жывеш? Як здароўечка тваё?

Той паглядзеў сумнавата і адказвае:

– Ты ведаеш – Маркс памёр, Ленін памёр, дый я сябе адчуваю няважна.

Першы кажа:

– Нішто сабе падраўняўся! Можа, табе маленькі маўзалейчык збудаваць з чырвонай цэглы?

І ўшанаваць тваю памяць.

## З ДАЎНІНЫ

– Падсудны Пупікаў, скажыце, кім вы былі да вайны?

– Як кім? Я быў ледчыкам.

– О! Дык вы лёталі на самалётах?

– Не, што вы! Я калоў лёд. (Якія і дзе тады былі халадзільнікі?)

– Падсудны Пупікаў, працягнем далей. Чым вы займаліся ў час вайны?

– Як чым? Я быў падпольшчыкам.

– О-го! Дык вы мужна змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў?

– Ды не. Я ў нашай хаце лазіў у падполле і выкрадаў у маці смятану.

– Падсудны Пупікаў, дакладзіце нам, а што вы рабілі пасля вайны?

– Пасля вайны я быў падводнікам.

– Ого-го! Значыцца, вы баразздзілі моры-акіяны?

– Не ведаю, што гэта такое. Я на падводах вазіў-вывозіў усялякае ламачча разам з Хвосцікавым.

– Падсудны Пупікаў! Такім чынам, вы не падлягаеце ні ўхваленню, ні асуджэнню. Вы – не герой, і не злачынец.

Судовае пасяджэнне аб'яўляецца закрытым.

А наступнае пасяджэнне будзе над Хвосцікавым. Куды ён здаваў-прадаваў той лом і макулатуру. І не толькі гэта. Няхай рыхтуецца.

## ПЕРАКРУЦІЎ

Ёсць такое сцвярджэнне.
Недарэмна пражыў той, хто
пасадзіў дрэва,

пабудаваў дом,
вырасціў сына.
Адзін дзівак пераблытаў паняцці і выхвальваўся ўсім і ўсюды:
– Я пражыў свой век недарэмна, бо –
пабудаваў дрэва,
вырасціў дом,
пасадзіў сына.
Смех, дый годзе!
А назаўтра нялоўка апраўдваўся:
– Гэта не я гаварыў, а язык мой.

## НЯХАЙ АБРАМ ДУМАЕ

То – вядомае прыслоўе.
Па жыцці – як вастраслоўе.
Уявіце сабе карцінку:
Вечар. На канапе ляжаць Ася і Хаім.
Ён варушыцца, стогне і нешта шэпча.
Ася пытаецца:
– А чаму ты, Хаім, не спіш, варочаешся, турбуешся?
– Бо я Абраму павінен грошы. Трэба ж нарэшце аддаваць.
– Дык што ж ты лякаешся, хвалюешся? – адказвае Ася. – Не ён жа табе павінен, а ты – яму.
Спі спакойна, а няхай Абрам думае.

## У КОЖНАГА – СВАЕ НЕДАХОПЫ

Сустрэліся кот з каровай.
Яна з вышыні свайго росту пазірае на ката і пад'ялдыквае:
– Му! Такі малы, а з вусамі.
А кот паглядае знізу і падколвае карову:
– Мяў! Як табе не сорамна? Такая вялікая, а без ліфчыка.

## НЕ ПАСТАРЭЛА

Адзначаюць юбілей маладой жанчыны.
Нехта ўдакладняе:
– Колькі ж табе гадоў?

– Дваццаць пяць, – бадзёра адказвае яна.

Гадоў праз дзесяць гуляюць ізноў.

– Колькі ж табе цяпер? – цікавіцца другі.

– Дваццаць пяць.

Сустрэліся праз дваццаць гадоў.

– Які ў цябе, прабач, узрост? – дапытваецца трэці.

– Дваццаць пяць.

Былі і яшчэ юбілеі – праз дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў. І зноў яна адказвала тое ж пра свой узрост.

Пасля пранеслася чутка: бабулька памерла.

А ёй жа ўвесь час было дваццаць пяць...



## НЕЗВЫЧАЙНЫ ПАДАРУНАК

Адзін ідзе па вуліцы, а насустрач яму рулюе прыяцель на веласіпедзе. Жаночым.

Гэты пытаецца:

– Што за дзіва? Дзе ты набыў такую тэхніку?

– Атрымаў у падарунак, – адказвае той.

– Якім чынам?

– Ды вось пазнаёміўся з прыемнай жанчынкай. Завітаў да яе ў госці. Выпілі добрага вінца, бальзамчыку, гарэлачкі – усяго патроху. Перайшлі на каву. Сядзім, цікава размаўляем.

Пацямнела. Яна ўключыла інтымнае святло.

Зняла верхняе адзенне. А я гляджу.

Нарэшце яна пацягнулася і кажа:

– Што ты ўсё глядзіш? Бяры ў мяне самае дарогое! – і гульліва падміргнула.

Ну, я і ўзяў.

І лёгка, і зручна.

І клопат малы.

## МАЛПЫ І ЛЮДЗІ

Сядзяць на дрэве дзве малпы.
А ўнізе – лужына. У ёй валяюцца двое п’яных мужчын.
Адна малпа кажа другой:
– Не хацела б я быць чалавекам!

– * –

Чуецца гучная каманда:
– Разумныя – направа, прыгожыя – налева!
Малпа ў глыбокім роздуме пытаецца:
– Дык на які ж бок мне падацца, калі я – і разумная, і прыгожая?
Хоць разарвіся!

## СПРАДВЕЧНЫ КАНФЛІКТ

За што бедныя не любяць багатых?
За тое, што тыя – багатыя.
А за што багатыя не любяць бедных?
За тое, што тыя – бедныя.
Што ж, ураўнілаўкі не было і ніколі не будзе.
А хто як стараўся – да свайго і дабраўся.

## І КАБ ІМЯ АДПАВЯДАЛА

Жарт гучыць, як анекдот.

Маё прозвішча – Вяршынін. А ў рэдакцыі адной рэспубліканскай газеты працуе журналістка Куслівая. Хоць яна зусім не кусаецца. Наадварот, прыемная жанчына.

Аднойчы я з вясёлай успешкай кажу ёй:

– Нам з вамі трэба было б памяняцца прозвішчамі. Я, як сатырык-гумарыст, няхай быў бы Куслівы, а вам больш падышло б стаць Вяршынінай. Гэта гучала б прыямней і мілагучней. А я ў сваёй творчасці больш бы кусаўся.

– Пазнавата ўжо мяняцца, – усміхнулася яна. – Трэба было раней думаць.

– Каму думаць? – пытаюся.

– Бацькам нашым.

Пасмяяліся і разышліся.

## БЕРАЖЫ СВОЙ ГОНАР

Грузін купіў легкавушку. Паношаную, затое вельмі танна. І радуецца вельмі.

Тры дні паездзіў на ёй. На чацвёрты дзень расчыняе дзверы гаража – машыны няма. Ён у роспачы. Дзе яна дзелася?

Але прыгледзеўся – а там стаіць другая машына – навюткая, апошняй маркі. А на капоце ляжыць запіска. Прыводжу прыкладны змест у маім вольным перакладзе з грузінскай на беларускую мову з усемагчымымі памылкамі:

“Вігьмі, дарагі. Хай будзэ твой машына. Нэ ганьбуй наша нацыя”.

## З ПАЎНОЧНАГА ГУМАРУ

Чукча стаіць каля свайго чума. Прабягае міма мужык. Паліто расшпілена, шапка ў руцэ, з лысіны пара дымам уецца.

І пытаецца ў чукчы:

– Ты не бачыў, куды пайшоў начальнік партыі? (Відаць, ён быў геолагам).

– Вунь у той бок, – паказвае пальцам чукча.

Толькі мужык адышоў на адлегласць вінтовачнага выстралу – чукча падымае стрэльбу і звальвае яго з ног.

Затым заходзіць у свой чум, падае на калені і кажа:

– А я ведаю, хто ў нас – начальнік партыі.

І абдымае партрэт Брэжнева.

– * –

Пытаюцца ў чукчы:

– Ці ведаеш ты, якая самая страшная і небяспечная птушка?

– Дэльтаплан, – адказвае чукча.

– А чаму?

– Бо ўчора яна пралятала міма, і мне давялося зрабіць тры выстралы, пасля якіх яна нарэшце адпусціла чалавека.

## ХТО ПЕРШЫ

СССР. Перыяды рэпрэсій.

Надвячоркам сустрэліся двое знаёмых. Размаўляюць пра

У нейкую сваю гульню тубыльцы ўцягнулі і немцаў. А правіла гэтай гульні, як аказалася, было такое: тых, хто выйграе, узнагароджвалі нейкімі сваімі сувенірамі, а хто прайграе...

Нявопытныя немцы прайгралі. А прайграўшых належала – з'ядаць! Вось іх і з'елі са смакам і апетытам.

У Германіі стаўся шум-бурум, агульны шок. Наспеў міжнародны скандал. Выклікалі дыпламатаў той цэнтральнаафрыканскай краіны, патрабуюць тлумачэнняў.

Тыя сумна адказваюць:

– А што мы маглі б зрабіць? У нас пражываюць многія народнасці на розных стадыях развіцця. І ў кожнай – свае парадкі, звычаі, традыцыі.

– Дык як будзем разбірацца? – пытаюцца немцы. – Якая будзе кампенсацыя сем'ям загінуўшых? Разлічвацца будзеце сланамі ці кракадзіламі? А маральны ўрон чаго варты? Дзікунства нейкае і што далей?

– А далей – можаце з'есці нашых пасланнікаў.

Немцы ў здзіўленні як стаялі, так і ледзь не ўпалі.

Вось такія былі дзіўныя і дзікія звычкі, традыцыі і норавы ў некаторых кутках нашай планеты.

## ГУЛЬНЯ "Ў МАШЫНУ"

Вясковыя падлеткі прыдумалі гэтую гульню. Збіраюцца гуртам і размяркоўваюць ролі.

Адзін кажа:

– Я буду кабінай.

Другі:

– Я – рулём.

Трэці:

– А я – кузавам.

Чацвёрты:

– Я – рамай.

Пяты:

– Я – тормазам.

Шосты:

– Я – правым пярэднім колам.

Сёмы:

– Я – левым пярэднім колам.

Восьмы:

– Я – правым заднім колам.

Дзявяты:

– Я – левым заднім колам.

І гэтак далей.

І – пабеглі. Піпікаюць, гудуць, крычаць, шумяць, як быццам грузавік імчыць.

Да падлеткаў часта чапляўся хлапчук:

– І я хачу гуляць у машынку. І я хачу!

Старэйшыя праганялі яго:

– Ідзі прэч, смаркач! Малы яшчэ. Падрасцеш гадоў праз пяць – тады прыйдзеш.

А той усё трындзіць свае:

– І мне хочацца.

Нарэшце, старэйшыя злітасціваліся.

– Ну, добра, бярэм цябе з сабой. Пабяжыш ззаду нас і будзеш выконваць ролю выхлапной трубы.

Газы выпускаць будзеш з шумам.



## ЛЮБОЎНЫ ПРАВАПІС

Адзін пытаецца:

– Як пісаць правільна выраз "у кусты" – разам ці раздзельна?

Другі павучае:

– У залежнасці ад абставін.

Калі двое ідуць у кусты, то – разам.

Калі яны разам знаходзяцца ў кустах, то – праз працяжнік.
А калі ўжо выйшлі з кустоў, то, вядома – раздзельна.



## ПЫТАННІ НА ЗАСЫПКУ

– Якое самалепшае кіно?
– Вядома, што віно.
– Якая найлепшая каўбаса?
– Жаночая панчоха, набітая грашыма.
– А якое цікавейшае спатканне?
– Калі сілы не менш, чым жадання.

## ЛЮБОЎНАЯ НЯЎДАЧА

Пытаюцца ў хлопца:
– Чаму ты гэткі сумны?
– Дзяўчына патрапілася такая несур'ёзная!
– А ў чым справа?
– Спакусіла – і кінула.
А так многа абяцала!

## КАЛІ ЛЕПШ ДЗЯЦЕЙ НАРАДЖАЦЬ

У маладых бацькоў – нараджаюцца здаровыя дзеці.
У старых бацькоў – нараджаюцца разумныя дзеці.
А ў бацькоў сярэдніх гадоў –
і дужыя, і разумныя.

– * –

Спяшай ўзяць быка за рогі,
Пакуль ён не ўзяў цябе на рогі.

– * –

Вывелі новы сорт кароў, якія не мыкаюць, а толькі целяцца.

Целяцца,
  целяцца,
    целяцца.

Трэба парэкамендаваць гэтую пароду ўсім нашым гаспадаркам. Мо падымем нарыхтоўкі і наш дабрабыт.

А Навукова-даследчаму інстытуту сельскай гаспадаркі трэба даручыць распрацаваць такую селекцыю, каб каровы не елі, а толькі малако давалі.

Няхай вадой, паветрам насычаюцца.
Затое малако будзе дыетычнае, без лішняй тлустасці.
І ўсе мы станем хударлявымі і стройнымі.
А колькі пражывём, больш ці менш – гэта ўжо пытанне.
І для навукі –
    і для нас.

– * –

## ПАМЯЦЬ ПАДВЯЛА

Зайшоў да жанчыны.
Суседкі прыгожай.
Пастаяў,
  падумаў.
Развінуў рукі –
  і пайшоў.
Забыўся,
  дзеля чаго прыйшоў.
Ну – і ну!
Калі памяць падводзіць –
Запісваць трэба.
Асабліва –
  калі йдзеш –
    да жанчыны.

## ЯК НА ДРАЖДЖАХ

Распавядалі, што недзе на Гомельшчыне прыдумалі новы спосаб кармёжкі жывёлы. Бычкам, свінням, каровам скармлівалі адыходы вытворчасці віна – гарэлачных заводаў, жмых. Тыя ядуць, ядуць, растуць, растуць, пухнуць, пухнуць – у літаральным сэнсе слова на драждждах. І ходзяць, як п'яныя.

Затым жывёлу забіваюць, мяса, сала пускаюць у продаж.

Людзі, якія ўжываюць гэтую свініну і каравяціну – ядуць, ядуць, растуць, растуць, пухнуць, пухнуць – і паміраюць.

Пасля разабраліся і забаранілі падаваць жывёле гэты корм.

А ці было такое на самой справе, ці хто прыдумаў – не ведаю.

## МЕТАЛАЛОМ – УСЁ НА ЗЛОМ!

Іду па заводу аўтаматычных ліній. З начальніка аддзела.

Каля цэхаў стаіць чыгуначная платформа – магутная стальная канструкцыя даўжынёй метраў пятнаццаць.

Начальнік кажа:

– Хутка парэжам яе і здадзім.

– Як, што, чаму, куды?

– На металалом.

– А што, свайго заводскага лому мала?

– Мала.

– А як будзеце перавозіць грузы?

– А мы рамы сваіх пятнаццацітонных машын умацоўваем стальнымі швелерамі і вугалкамі, і возім на іх па трыццаць тон.

– Во якія спрытныя! А ці не дорага вам абыдзецца страта чыгуначнай платформы?

– А калі не выканаем план па здачы металалому, нам могуць выставіць такія штрафныя санкцыі, што можа абысціся значна даражэй.

– * –

Тэатру оперы і балета спусцілі план... па здачы металалому. Адкуль ён можа там быць, дзе яго ўзяць?

Аднак сёе-тое з ламачча адшукалі ў закутках.

А што далей?

У балеце Хачатурана ёсць сцэнка “Танец з шаблямі”.

Былі вымушаны здаць шаблі на металалом.

А як жа выконваць танец?

Заказалі шаблі драўляныя.

Цяпер калі на сцэне выконваецца гэтая сцэнка, то замест меладычнага звону металу чуецца шум і трэск дрэва. Шаблі ломяцца на кавалкі і ляцяць на розныя бакі.

А тэатр ледзь спраўляецца заказваць новыя.

Тэатру лепш было б выконваць план свой творчы, а не дурны вытворчы.

## ВОВАЧКА Ў ШКОЛЕ

Бацькі не ведалі, у якім класе вучыцца Вовачка і якая ў яго паспяховасць. Бо ніколі ў яго школе не былі. Нарэшце пасля сур’ёзнага выкліку са школы пайшлі туды.

Ідуць па калідоры і шукаюць.

На адных дзвярах шыльда: “Клас для выдатных вучняў”.

– Наўрад ці ён тут будзе.

Але зайшлі – і не знайшлі.

На другіх дзвярах: “Клас для добрых вучняў”.

– А можа, тут?

І там няма.

На трэціх дзвярах: “Клас для сярэдніх вучняў”.

– Тут ужо напэўна будзе.

Не, няма.

На чацвёртых дзвярах: “Клас для дрэнных вучняў”.

– Нарэшце знойдзем. Тут яму месца.

Памыліліся.

На пятых дзвярах: “Клас для самых дрэнных вучняў”.

– Дзе ж болей яму быць?

Але дарэмна спадзяваліся.

Далей – “Настаўніцкая”.

Яшчэ далей – “Дырэктар”.

Бацькі ў роспачы. Аднак ідуць да канца.

У самым канцы калідора бачаць вялізную шыльду, літары па лапцю, напісана: “ВОВАЧКА”.

– Вось які ў нас слаўны сын! – сказалі бацькі. – Яму нават асобны клас выдзелілі.



## КАМУ ЦЯЖЭЙ

Бывае, пытаюцца:

– На якой частцы цела чалавека ляжыць асноўная нагрузка? Ці на нагах, ці на спіне, ці яшчэ на чым?

Аптымальны варыянт:

галава –
    кіруе,
рукі –
    грузяць,
ногі –
    нясуць,
спіна –
    цягне.

Такое ёсць размеркаванне. Вось гэтак – і не інакш.

Ногі –
    не думаюць.
А галава –
    не носіць.

## ПАЖАР... ДОБРА, ШТО НЕ Ў СЯМ'І

Жанчына ў сваёй кватэры з палюбоўнікам. Весяляцца, гамоняць, жартуюць, абдымаюцца, цалуюцца – усё як мае быць.

Раптам жонка чуе – уваходныя дзверы адчыняюцца. Яна кажа сябру свайго сэрца:

– Хавайся хуценька, бо скандал будзе. А можа, і бойка.
– А куды? – у сполаху пытаецца ён.
– У шафу!
Схаваўся.
Заходзіць муж.
Пакуль развярушваліся, у кватэры нечакана ўзнік пажар – ці то электраправодку замкнула, ці ад кінутага недакурка цыгарэты, або ад газавай пліты.
Муж у адчаі бегае і крычыць:
– Што рабіць? Што рабіць?
І раптам з шафы чуецца:
– Выносьце мэблю!
– А хто гэта гаворыць? – не разумее муж.
– Гэта мы, касцюмы! – чуе ў адказ.

## НУ І ТОНУС!

На Каўказе, у Закаўказзі бываюць бываюць такія вузенькія аўтамабільныя і чыгуначныя дарогі – нібы прылепленыя да скалы, а ўнізе – прорва. Страшна пазіраць у вакенцы.
Аўтобус вязе турыстаў па такой дарозе. Турысты ў жаху пытаюцца ў экскурсаводкі:
– Паглядзіце, вадзіцель жа п’яны. Мы можам скуліцца ў бездань. Рыхтуйце братнюю магілу. Родныя не дачакаюцца.
– Не турбуйцеся, не хвалюйцеся, – адказвае экскурсаводка. – У нас свая спецыфіка. Мы разбіліся б тады, калі б шафёр быў зусім цвярозым.
А выпівае ён проста дзеля тонусу. Дзеля добрага настрою.

## ДОЎГАЯ РАЗВАГА

Зайшоў у краму мужык нападпітку. Як кажуць, “з бадуна”. І пытаецца ў прадаўшчыцы:
– Што мне лепш купіць – шкарпэткі ці шкарпэткі?
А тая сама была пасля ўчарашняй пагулянкі. Доўга думала, і адказала:
– Я так мяркую, што вам лепш за ўсё было б купіць... шкарпэткі.

## АБЫ ПРЫЧЫНА

Віця высокі, малады, увесь час гужуе. Аб'ядае вушы сваёй маці-пенсіянеркі. Я яго выхоўваю, ганяю і ўсчуваю.

– Як табе не сорамна! Здаравенны сам як бык – калі пойдзеш на завод, на фабрыку, на будоўлю?

– Дык ўжо збіраюся, дамаўляюся.

Праз нейкі час:

– Трэба йсці праходзіць медкамісію.

Далей:

– Чаму ж не йдзеш?

– Дык я штодзень п'яны, як жа назаўтра ісці?

– А ты можаш хоць адзін дзень не папіць? Цяжка?

– І цяжка, і немагчыма.

Пасля гляджу – ходзіць, кульгаючы.

– Што з табой здарылася?

– Ды вось гуляў са школьнікамі ў футбол. На варотах стаяў.

– Дык ты ж не мяч ганяў, не ногі пад удары падстаўляў, а толькі мяч лавіў.

Ён нічога не адказаў, толькі сумнавата ўздыхаў.

Піянеры пайшлі пасля гульні здаровенькімі, а дзяцюк чакае выздараўлення.

Ад свайго гультайства і блазноты.

## ВІЦЯ МАЛАДЗЕЙШЫ

– Я думаю пераезаць у вёску. З дзяўчынай.

– На здароўечка!

– А што я буду там з ёй рабіць? – наіўна пытаецца ён.

– Знойдзеш, што рабіць.

Асабліва, калі з дзяўчынай. Не ў шашкі ж гуляць.

Прырода натхніць.

Вы ж – маладыя.

Пазабаўляецеся самі, а пасля – дзяцей будзеце забаўляць.

## НУ, І КАМПУРАТЫЗАЦЫЯ!

Па рашэнні высокага кіраўніцтва ў адсталым калгасе збудавалі і ўвялі у строй кампутарную лінію для дойкі кароў. Многія здзіўлена пыталіся ў кіраўнікоў:

– На што патрэбна гэтая лінія? Жывёлаводчая ж ферма на мяжы выдыхання. Кароў амаль няма. Каго даіць?

– Нічога, – адказвала начальства. – Была б лінія, а каровы – знойдуцца.

Што значыь – знойдуцца? Пакажыце нам, дзе яны ляжаць, валяюцца ці пасуцца без нагляду, дык мы самі пойдзем, падымем, прыгонім іх, і ці забяром сабе, ці аддадзім пад тую лінію.

Ад гэтага зручнага падыходу – будзе нам ўсім выгода.

## СТАРЫЯ ПРЫМАЎКІ – НА НОВЫ ЛАД

Раней казалі:
– Куй жалеза, пакуль гарачае.
Пазней пачалі казаць:
– Куй жалеза, пакуль Гарбачоў.
Пасля казалі інакш:
– Куй жалеза, калі не можаш каваць золата.
Яшчэ пазней перайначылі:
– Куй жалеза, пакуль да жанчын цягне.

– * –

Раней было знакамітае выслоўе:
– Хто не працуе, той не есць.
Пазней час памяняўся, і сталі казаць:
– Хто не працуе, той есць... таго, хто працуе.
Затым можна чуць і бачыць:
– Хто не працуе – увесь дзень п’е.
Толькі – за грошы чужыя, а не свае.

– * –

Раней казалі:
– Хто рана ўстае, таму Бог дае.

Цяпер кажуць:
– Хто рана ўстае, таму ўвесь дзень спаць хочацца.

## АДГАВАРЫЎСЯ

Муж прыйшоў дамоў п'яны ўлукаткі. Жонка, як кожная паважаючая сябе жонка, накінулася на яго з венікам. Ён, ледзь варочаючы языком, прагугнявіў:

– Ішоў дамоў, сустрэў сябра, выпіў...

Бачыць – жонка хапаецца за патэльню.

Трэба неяк адгаворвацца, раз прагаварыўся.

– ...супу, – дагаварыў ён.

І тут жа атрымаў па спіне і венікам, і патэльняй.

І за п'янку, і за ману.

## ВОПЫТНЫ ЛЕКТАР

У сельскім клубе праходзіць лекцыя.

Лета. Гарачыня. Пот цячэ. Горла сохне.

На століку стаіць графін з вадой. І шклянка.

Лектар наліў поўную шклянку. І гахнуў.

Ад нечаканасці вочы палезлі на лоб, і дых заняло. Аказалася, што ці выпадкова, ці спецыяльна замест вады нехта наліў у графін спірт.

Але лектар быў чалавекам спрактыкаваным і толькі прамовіў:

– Яно-то добра, але іншым разам трэба папярэджваць!

Відаць, падумаў: я прызапасіў бы трохі закусі...

## ПАХВАЛІЎСЯ АДРАЗУ ЎСІМ

У сельскім клубе – танцы.

Адзін дзяцюк купіў новыя чаравікі, штаны, гадзіннік, паставіў залаты зуб.

Вытанцоўвае, усміхаецца, выскаляецца, а ніхто ніякай увагі не звяртае на яго абновы.

Тады ён падыходзіць да аднаго хлапца дый кажа:
– Зараз як стукну новым чаравікам, дык цераз пяць хвілін і здохнеш (зірнуў на гадзіннік).
– Фу, новыя штаны трошкі спэцкаў!
І засмяяўся на ўвесь рот, каб быў відаць залаты зуб.
Усё адразу паказаў. Каб запаважалі.

## СУР'ЁЗНАЕ – КУР'ЁЗНАЕ

Раней бывалі такія лозунгі.
На металургічным камбінаце:
"Таварышы металургі!
Наша сіла – у плаўках".

– * –

На швейнай фабрыцы:
"Таварышы швачкі!
Паднімем сукенкі на небывалую вышыню!"

– * –

На чыгуначным вакзале:
"Таварышы чыгуначнікі!
Дадзім кожнаму пасажыру па мяккаму месцу!"

## ЗУСІМ АПУСТЦІЛАСЯ

Света жыве ў суседнім доме, ужо на пенсіі. Двухпакаёвая кватэра, наследства ад бацькі засталася. Магла б адзін пакой здаваць. Апранаецца звыш модна – кофта ўся ў золаце, спадніца ў серабры, панчохі ажурныя, туфлі шыкоўныя. Светлыя валасы ледзь не да пояса. Яе ўсе называюць – Лялька. Аднак, праходзячы міма, усё просіць:
– Дайце цыгарет! – і не адну, а дзве,тры, хоць у самой у сумачцы ёсць. – Дайце піва! Дайце віна!
Стаю ў штучным адделе нашай крамы. Падыходзіць Света і просіць:
– Дайце грошай на гурок!

Я здзівіўся, але даў, што заставалася – рублёў сто пяцьдзесят.

Яна звяртаецца да другога з тым жа пытаннем. Ён вымае свой гаманец і пытаецца:

– А колькі даць?

– Тысячу! Не, лепш – паўтары.

Той заўсміхаўся – і даў… таксама сто пяцьдзесят.

Света звяртаецца да трэцяга:

– Дай на гурок!

Ён адказвае:

– Калі б на віно, то даклаў бы. А так – ідзі прэч!

Далей тая ж просьба да жанчыны. А яна мовіць ў адказ:

– Мне самой патрэбны гурок – накласці маску на твар.

Света сумна пасунулася на ганак і выпрошвала там у ўсіх, хто праходзіў.

Мне зрабілася прыкра, і я пайшоў дамоў.

Дажылася! Поўная духоўная дэградацыя.

Пасля скаргаў пакупнікоў дзяжурныя сталі выводзіць яе з магазіна.

## ПРА ЗРУЧНАСЦІ

Даўно ужо стала ў модзе ў жаночага полу насіць штаны – ці джынсавыя,ці з воўны, ці з лаўсанам, ці тонкія нема ведама з чаго. Прытым нярэдка не свабодныя, а ў абліпку. А гэта, асабліва ў летнюю спёку, не толькі не карысна, а нават шкодна, бо не дае целу дыхаць.

Мяне гэта здзіўляла. Мы ж, мужчыны, не носім жаночых спадніц.

Стаім з сябрам, гамонім пра ўсё рознае. Міма праходзіць дзяўчына ў штанцах. Я пытаюся:

– У цябе што, няма сукенкі ці спадніцы? Чаму ж ты апранаешся пад мужчыну?

– Затое – зручна, затое – зручна! Вецер не паддзімае, не рве сукенку ўверх.

Перакурваем, адпачываем, назіраем. Ідзе жанчына сярэдніх гадоў у штанах “пад мужчыну”. Задаю ёй тое ж пытанне, што і маладой. І чую той жа адказ:

– Затое – зручна! Затое – зручна!
Што ж, мяркуйце самі.
А я, відаць, безнадзейна адстаў.



## ПАЭТ МІКАЛАЙ ШАШКОЎ У ГАСЦЯХ

### *Размаўляе па народнаму проста*

– Глядзі, колькі карцін у цябе!
Даў бы мне адну!

Вось Джэк Лондан у яго.
А ў мяне – няма.

Сядзіш і думаеш: што ж ты напішаш?
Ужо да цябе пісалі.

Га, глядзі: Падмагільны! "Рыфмуйся,
Ларыса!" – як мог так напісаць?

Ну, Мікола, кніжак у цябе – трэба
прадаваць. Вось Караткевіч – нашто замудра так
ён табе? А Куляшоў – няхай застаецца.

А што зараз напішаш – новае? Пішаш
– і баішся. Што напішаш пасля Хлебнікава?

Цяпер намалюй, паспрабуй, што-
небудзь! Усё ужо намалёвана.

Ну, ядрона шыш! Ты нават зубы
чысціш?

– Ты так хутка памыўся? Памыў адну руку?
– Не, мурло нават.

– Ты на адзін бок замацаваў раскладушку,
скрывіцца ж – скінешся!
– Нічога, нармальна! Абы на другі бок не паляцеў.

– Ну, Мікола, не падобна, што ты – дзетдомаўскі.
– Як гэта?
– Дык так вось!
Не абы-які!

...Падумаю, раздумаю – і я ж амаль такі. Мы ж абодва – сябрукі і дзівакі... Што ж, магчыма.

# ДАЛЕЙ – ТВОРЧАСЦЬ У ПРАЦ – ЭСЭ:

## ТРЫ ШАСЦЁРКІ

***(амаль юбілейнае)***

Жонка кажа:

– Мне надакучылі твае святы. Штогод у цябе – то юбілей, то круглая дата, ці паўкруглая, то новая кніга. Збіраеш сяброў, калегаў, суседзяў, былых супрацоўнікаў з заводаў. А мне – клапаціся, гатуй, пасля іх прыбірай. Гамана, шум, крык – няма часу адпачыць. Нехта яшчэ захоча і не ехаць дадому, паначаваць. А наша ж кватэра – шаснаццаць з лішкам метраў. Так што калі нешта такое вясёлае задумаеш – я і пальцам не паварушу. У цябе ж, пад табой знаходзіцца кафэ. Калі што захочаш – арганізуй там. Чаго б гэта ні каштавала. Аплоцім. Хоць і дарага – затое ніякіх лішніх нашых завіханняў.

Я заспакойваю яе.

– Шэсцьдзесят пяць гадоў ужо прамінула. І ў друку, і сябры прывіталі. А цяпер – ніякіх датаў больш не будзе. Да сямідзесяцігоддзя не працягну, а да яго далейшыя па прагнозу ўсе гады – не знамянальныя. Так што не хвалюйся, не перажывай. Лішніх турботаў не будзе.

А сустрэцца з сябрамі ўсё ж хочацца. Значыцца, трэба знайсці прычыну. І я яе знайшоў.

Шэсцьдзесят шэсць гадоў – дзве шасцёркі. 2006-ы год – трэцяя. Вось вам і тры шасцёркі.

Прычына? Прычына.

Некаторыя сябры казалі:

– Гэта нельга святкаваць. Бо кажуць – сатанінская лічба. Перавярні – будуць тры дзевяткі.

Іншыя сур'ёзна сцвярджалі:

– Нічога сатанінскага няма, таму што апошняя шасцёрка адстаіць далёка ад тых дзвюх.

Хто правы, хто – неправы, а ў мяне – свае правы. Адзначаць жа – буду.

Дамовіўся з кафэ дэмакратычна. Начальніцы вытворчасці падпісаў кнігу, адрэкамендаваўся. Гарэлка там па шалёнай цане. Заказаў мінімум, астатнюю прынясу з дому. Закусь іхняя. Сказаў падаць пяць страў. Але і сам прыкупіў і данёс вэнджаніну, саланіну, садавіну, гародніну. Запрасіў чалавек дваццаць – хопіць на такую невызначальную дату. Паклікаў не абы каго – гарадскую эліту: вучоных, намеснікаў дырэктараў, бізнесменаў-фундатараў, урачоў, літаратараў, спевака знакамітага, сваякоў слаўных. Традыцыйныя мае госці – сябры даўнія і старадаўнія. Прыхільнікі творчасці.

Тамадой быць падладзіўся Лявон Казлоў, з якім ў даўні час працавалі інжынерамі ў адным аддзеле на трактарным, а потым ён значна вырас на другім заводзе. І так актыўна ўзяўся, што ўсе казалі:

– Што нам з ім рабіць? Ён жа нікому слова сказаць не дае.

– Я буду гаварыць! Я тост скажу! Не закрывайце мне рот! Слова маю я!

Але ўсё ішло сваім парадкам. Умеру ціха, умеру весела. Тост за тостам, чарка за чаркай, выступ за выступам.

Гамана бяжыць жывая,
Бачым, хто чаго з нас варт.
Хто лепш песню праспявае,
Ці смяшнейшы выдасць жарт.

А пра Лявона Казлова ўжо казалі:

– Што бы мы рабілі без яго? Трэба ж, каб у кампаніі і такі весялун і дзівак хоць адзін быў.

А ён хоць і прыйшоў ужо нападпітку, і за сталом чарку добрую браў, але стараўся весці вечарыну як след, і нічога лішняга не рабіў і не казаў. Толькі быў вельмі чырвоненькі і вясёленькі. Ну, і ладненька.

А заслужаны артыст з опернага тэатра дацэнт Міхась Галкоўскі, які прызнаўся, што здаўна ад вайны з прастрэленымі нагой і адным вухам, але сорак пяць гадоў адпрацаваў, спяваў і гераічныя песні, і рамансы, пад дружныя воплескі прысутных. А тыя пыталіся ў яго:

– Скажыце, шаноўны Міхаіл Фёдаравіч, як гэта вы з адным здаровым вухам здолелі у кансерваторыю паступіць, і амаль паўвека ў оперным спяваць?

– А я заўсёды станавіўся да музыкі здаровым вухам. Ніхто нічога і не падазраваў ніколі.

Вось гэта дык працоўны гераізм! Вышэйшых узнагарод варты.

Гучалі і ўрачыстыя вершы, напісаныя сябрамі да маёй даты.

Адным словам, пагулялі адмыслова. У пятніцу. І п'яных не было – міравая закусь. І кожны госць своечасова дабраўся дамоў. Я нікому не сарваў выхадныя дні. А назаўтра – хто на дачу, хто на Вячу, хто, магчыма – ціснуць чачу. Хто ў лес, хто па грыбы. Хто ў ягады, хто па арэхі.

У што мне гэтае свята абышлося? Нулявы варыянт. Колькі грошай патраціў, столькі і падаравалі. Цяпер жа госці практычныя: нясуць столькі, наколькі начастуюцца. Але мяне гэта задавальняе. На большае я і не разлічваў. І не трэба. Абы людзі былі задаволены.

Аднак жа меў і некаторыя матэрыяльныя прыбыткі. Два бізнесмены-фундатары некаторых маіх кніг падарылі пыласос. Вучань па паэзіі – фотаапарат. Пляменнік – распісны шкляны посуд. А вядомы нам ужо Лявон Казлоў, апроч грошай, праз некалькі дзён паднёс скураную папку-сумку з ручкамі, так неабходную мне, каб насіць свае рукапісы ў рэдакцыі і кнігі.

І ўсё ж грашовыя кампенсацыі і матэрыяльныя здабыткі не такія важныя ў параўнанні з маральнымі набыткамі. Сябры падаравалі мне... роўна шэсць цудоўных святочных вершаў.

А пасля яшчэ адзін наверх – ад глыбіні пачуццяў.

А затым – яшчэ адзін у дадатак.

Во будзе памяць! Усё – у асабістым архіве.

Такім чынам, тры шасцёркі атрымаліся для мяне выдатнымі.



# ТРЫ ЛЯВОНЫ

Праз год пасля мінулай даты надыходзіла маё шасцідзесяцісямігоддзе. Дата важкая, але не важная. І зноў жа хочацца разагнацца і як след адзначыць. Але ж трэба знайсці няпростую прычыну. І я знайшоў, і назву даў – "Тры Лявоны". З такім імем у мяне ёсць трое даўніх і верных сяброў-таварышаў па сумеснай шматгадовай працы на падшыпнікавым, трактарным заводах і на "Прагрэсе". Няхай яны ўшаноўваюць мяне, а я ўшаную іх. Прыгадаў яшчэ некалькіх – вучняў па паэзіі, галоўнага канструктара, вучонага – былога аднакурсніка, двух фірмачоў. Да таго – я з жонкай – усяго дзесяць чалавек, круглая лічба. Як кажуць палякі: "Кампанія не велька, але пшэзавіта".

Аднойчы прачынаюся ў чатыры гадзіны ночы. Не спіцца. Разумею, што каб заснуць, трэба хоць трохі стаміцца – значыцца, ці пачытаць, ці папісаць. І тут зусім нечакана мяне наведала натхненне. Давай, думаю, напішу ўрачысты верш, прысвечаны маім траім закадычным сябрам. Назва прыйшла адразу – "Ода тром Лявонам". Галава чыстая, думкі светлыя, пра кожнага што пісаць – ведаю, рыфмы самі пруць з мяне. Пішацца лёгка. Каб не пакрыўдзіць ніводнага, удзяліў аднолькавую ўвагу ім – па чатыры страфы. Яшчэ ўступка, канцоўка – усяго чатырнаццаць строф. Гэтая работа заняла ў мяне роўна гадзіну. Пісаў без ніякіх правак.

Пасля перапісаваў начыста ў трох экземплярах. Чацвёрты – для мяне і для кнігі. У восем гадзін стаміўся, і лёг спаць. Аднак толькі гадзінку падрамаў, і жонка падняла мяне:

– Уставай, любы, мыйся, чыста апранайся, сядай за стол, і будзем адзначаць вялікае Міжнароднае свята Пасхі.

Мая гадавіна прыпала на нядзелю. Добры дзень. Дачнікі паспеюць прыехаць, прыбрацца, сабрацца, да мяне дабрацца. У нашым кафэ дамовіўся на чатыры гадзіны дня. Госці мае і нагуляюцца, і дамоў не позна вернуцца, і адпачнуць, удосталь выспяцца, а заўтра каму трэба – пасля сняданку на працу пападуць. Гадзін у восем разбрыдзёмся.

Думаў, прыйдуць дзесяць чалавек, а сабралася, як і мінулы раз – 18 ці 20.

Сядзім. Святкуем гэту дату. Наш стол магутны і багаты!

Цёплая кампанія. Вясёлы настрой. Гучыць спакойная лёгкая музыка. Тосты, віншаванні, пажаданні. Крышталёвы звон чарак і бакалаў. Госці падносяць падарункі і спажываюць пачастункі. І песні спяваем, і вершы чытаем. Як трэба гуляем.

У нейкі час устаю і зачытваю "Оду тром Лявонам".

У захапленні героі гэтага верша за пачуццяў тых размах панеслі мяне на руках. І кінулі прама на стол сярод бутэлек гарэлкі, дарагіх вінаў і шампанскага. Шкада толькі, што я адзін на сваіх руках іх трох ніяк панесці не змог. Не хапіла моцы.

У канцы сустрэчы госці ўжо ў бязважкім стане (але не п'яныя) падыбалі да сваіх хатаў у розныя канцы. Ехалі, хто мог на чым. Затым ўвесь позні час пераразвоньвалі-барабанілі мне і дакладвалі:

– Я – дома! Я ўжо – дома! І я – таксама!

Зазначу, што на гэты раз сябры, калегі напісалі мне 13 вершаў.

У наступным годзе мне стукне шэсцьдзесят восем.

Цікава, якую ж важкую прычыну я прыдумаю на той раз? Каб больш-менш салідна сабрацца?

Нічога, нешта прыдумаецца, было б вялікае жаданне. А яно заўсёды ёсць.

Дай Бог толькі дажыць!

Запрашаю –

усіх!

## ОДА ТРЁМ ЛЯВОНАМ

*(душевное посвящение)*

Мы в труде сроднились,
И объединились.
Жизнь на трёх заводах
Дала свои всходы.

Леонид Железко
Говорит не резко, веско.
Как его встречаю –
Юность привечаю.

В молодости тоже
Было всё похоже.
Мы подшипник каждый
Грели не однажды.

Он старался слишком,
Издавал и книжки
О родном заводе,
Был всегда на взводе.

Прозой и стихами
Он делился с нами.
Ветеран прекрасный –
С ним всё в жизни ясно.

И Козлов вот Лёня.
Хоть года на склоне,
Вовсе не стареет,
Многое умеет.

Тракторозаводец,
Славный он в народе,
Человек отличный
В дружбе, жизни личной.

Дачник и работник,
До всего охотник.
Уважает женщин,
И девчат – не меньше.

Всё на свете знает,
Нам не изменяет.
Мы живём с ним дружно,
В общем, так, как нужно.

Леонид Шуваев
Скучным не бывает.
Он – большой учёный,
С химией сроднённый.

А характер гибкий.
Вежливой улыбкой
Он друзей встречает,
Даже угощает.

Был он на "Прогрессе".
Мы трудились вместе.
Хоть большой начальник,
Не кипел, как чайник.

Он простой в общеньи.
Жизни назначенье
Мудро понимает,
Мыслью вверх летает.

Есть друзей немало.
Сердце не устало,
Но прошли три эти –
Сквозь десятилетьи.

Есть еще один Лявон,
Дружбаю протертый!
Автотранспортник. Так он
Плюс к тому – четвертый.



## ЦІКАВА І ДЗІЎНА, І КРЫХУ СМЕШНА

Гэтую незвычайную прыродную з'яву я назіраў на прыпынку ў чаканні транспарту. Стаю і пазіраю наўкола.

Амаль каля сцяны майго дома на роўнай адлегласці ляжаць шэсць невялікіх кучак смецця. Мусіць, недаробкі дворніка, падумаў я. І тут нечакана аднекуль з'явіліся маленькія смерчыкі-віхрынкі, яны падхапілі тыя кучкі, закруцілі і панеслі цераз дарогу. Калі б далёка занеслі, то кучкі рассыпаліся б. А так – яны спыніліся і леглі акурат каля самага бардзюра па той бок дарогі. Праз нейкія паўхвіліны смерчыкі-віхрынкі зноў дападхапілі кучкі, панеслі назад цераз дарогу і паклалі іх дакладна на тыя ж месцы каля дома. Яшчэ праз паўхвіліны кучкі паляцелі да бардзюра. Пасля ў тым жа інтэрвале часу – да дома. Вось так гуляка-вецер забаўляўся. Туды-сюды, сюды-туды. А хто ж – "рэгуліроўшчык" усяго гэтага?

Я праехаў адзін прыпынак, схадзіў у краму, вярнуўся, купіўшы што трэба, а гульня-забаўлянка ўсё працягвалася.

Я расказаў пра гэты цуд сябрам. І што нічога не разумею. Адзін з іх выказаў меркаванне:

– Відаць, там нейкая паветраная аэрадынамічная труба.

– Але якая, і адкуль яна ўзялася? Гэта ж не на рагу дома, ці ў арцы, дзе вятры гуляюць-дзьмуць пасярэдзіне дома і з вуглоў. І раней такога не назіралася ніколі.

Другі прывёў сваю думку:

– А мо чорт прыляцеў з балота і дурэў?

Трэці прамовіў:

– Калі б чорт, то яго схапілі б за ногі і рогі, і бараду, за хвост і выкінулі б у тое балота.

Гэтае дзіва так і засталося для мяне неразгаданым. А што маглі б патлумачыць навукоўцы?

Хутчэй за ўсё гэта – жарт прыроды.

Нейкая анамалія.

## ДЗЕ ЗІМУЮЦЬ САЛАЎІ?

Толькі аднойчы мне ўдалося пачуць спевы салаўя. Мы купаліся ў рацэ, а каля берага расло разгалістае дрэва. І раптам

пачуліся мелодыі. Замілаванне! Ці то адзін быў птах, ці больш. Але як мы ні стараліся – не змаглі гэтых птушачак убачыць сярод галін і лістоты. Кажуць, яны такія маленькія, шэранькія і непрыкметныя, што заўважыць іх вельмі цяжка.

Я раздумваў, а дзе ж яны зімуюць, ці лётаюць у дальнія цёплыя краіны. Звычайна тыя, што адлятаюць, збіраюцца ў вялікі грай, трэніруюцца, а потым лятуць у вырай за лясы, рэкі і моры. А салаўі – рэдкія птахі. Каб сабрацца ў грай, ім трэба было б зляцецца разам з многіх лясоў, а гэта – не рэальна. Дый сілы ў іх мала на далёкае падарожжа.

Стаім з сябрамі і балакаем на гэтую тэму.

– Мусіць, яны зімуюць у гнёздах, – выказваюся я. – Але не ўпэўнены, бо перамерзлі б.

– Не, відаць, яны жывуць і зімуюць у дуплах дрэў, – не згаджаецца другі.

– А чым жа харчуюцца ўсю зіму? – уступае ў размову самы малады. – Гэта ж не вавёркі, што нарыхтоўваюць грыбы і арэхі.

Рысу ў гэтай размове падводжу я:

– Хутчэй за ўсё яны дзяўбуць змерзлыя плады і ягады на дрэвах і кустарніках, якія засталіся ад восені.

Але канчаткова мы не змаглі высветліць гэтыя цікавыя для нас пытанні. Трэба будзе запытацца ў спецыялістаў-арнітолагаў.

А вось адзін з нас выказаў сваё рашучае нездавальненне.

– Мне гэтыя салаўі ўжо вельмі надакучылі. Развяліся каля маёй хаты, і ледзь толькі надыходзіць ранак – як пачнуць выводзіць свае рулады-серэнады, што я прачынаюся,і не магу больш заснуць.

– Не бурчы, бо хутка састарэеш, – супакойваю яго я. – А нашто табе больш засынаць? Ляжы і слухай бясплатныя канцэрты. Заадно і грошы сэканоміш – не трэба будзе купляць білеты ў філармонію. Як можна гэта не любіць? Відаць, у цябе самога ў школе па спевах былі двойкі.



...І ўсё ж заўжды хочацца, каб хутчэй надышла вясна, а за ёй і лета.

І каб паслухаць цудоўны пошчак салаўя.

# З УЛАСНАГА АРХІВА

*(гэта – памяць, а не дзіва)*

## ПРЫЕМНЫЯ ЎСПАМІНЫ

*(мой творчы шлях – адзіны)*

– * –

Здаўна шчырую і пішу,
І ўкладваю ва ўсё душу.
У творчасці я – не грашу.
А хто ацэньваў, паважаў –
Рэкамендацыі даваў.
За поспех новых творчых спраў,
Як мог – іх клопат апраўдаў.

– * –

А я быў аўтар малады.
Яны – бацькі мае, дзяды.
А я – пішу,
а я – жыву,
Схіляю сціпла галаву.
Парады помню і заўвагі,
І хто б я быў без іх увагі,
Да маладзейшага –
павагі?
А ў сэрцы –
памяць і развагі.

– * –

Былых люблю я – і жывых,
І душаў адчуваю ўздых.
Прыгадваю іх словы ўслых,
І прывітанні мне – ад іх,
Настаўнікаў маіх усіх –
Так памятных –
і дарагіх.

– * –

Не, не сябе я ў гэтым паказаў,
А думкі пра мяне іх расказаў.

# ВОДГУКІ СЭРЦАЎ МІЛАГУЧНЫХ

10 красавіка 1972 г.

Паважаны Мікола ВЯРШЫНІН!

Шчыра дзякую за кніжку.

Прачытаў і ўсцешыўся, што расце таленавіты паэт-сатырык.

Жадаю далейшых творчых поспехаў.

З прывітаннем –

*Кандрат КРАПІВА,*
*народны пісьменнік Беларусі.*

Паважаная рэдакцыя!

Я вырашыў даслаць на Ваш адрас некалькі сваіх вершаў. Спадзяюся ўбачыць іх на старонках Вашай саліднай, шырокавядомай газеты. Мяркую, што яны спадабаюцца чытачам. Яшчэ вельмі хацелася б атрымаць водгук на сваю творчасць ад такога шаноўнага мэтра, як Мікола ВЯРШЫНІН, бо ён у свой час сваімі творамі аказаў на мяне значны ўплыў.

*Улад СКАМАРОХ*
*горад СТОЎБЦЫ*
*2006 год*

**Рэкамендацыя**

Я, Грамовіч Іван Іванавіч, член Саюза пісьменнікаў з 1946 года, членскі білет № 4065, ведаю Міколу Вяршыніна як актыўнага супрацоўніка часопіса “Вожык”, дзе ён змяшчаў свае вершы. У рэспубліканскім перыядычным друку часта з’яўляюцца творы яго, ужо сталага аўтара. У выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі з друку яго кніжкі “Без віны вінаватыя” (1972 г.) і “Не сышліся характарам” (1977 г.), падрыхтаваны да выдання чарговы зборнік.

Мікола Вяршынін – паэт-сатырык, ён піша байкі, фельетоны, мініяцюры, эпіграмы, піша ў жанры, які даецца пісьменніку не поглядам, а кароткім, дасціплым, вострым словам смеху. Здольнасць вельмі добрая. І трэба адзначыць, што ў выбраным кірунку Мікола Вяршынін удала авалодаў

сваім пяром і паспяхова змагаецца з адмоўнымі з'явамі нашага жыцця, злосна высмейвае гультаёў, бюракратаў, хабарнікаў, кар'ерыстаў, прыстасаванцаў і іншых носьбітаў мінулага. Безумоўна, яшчэ сустракаюцца і спрэчныя радкі, але яны знікаюць у працэсе росту. Талент Міколы Вяршыніна ў жанры сатыры праявіўся ярка, стаў прыкметны для чытачоў і абяцае большыя, значныя ўдачы ў літаратуры.

Жыццёвы шлях Міколы Вяршыніна яшчэ невялікі, але нялёгкі, як ва ўсіх сірот Вялікай Айчыннай вайны. Аднак ён знайшоў сваё месца ў рабочым калектыве, вырас, атрымаў адукацыю і цяпер працуе інжынерам на Мінскім трактарным заводзе. Я асабіста ведаю Міколу Вяршыніна як добрасумленнага, чулага, імклівага да вучобы чалавека. Ён удзельнічае ў грамадскім жыцці, доўгі час кіруе літаратурным аб'яднаннем на заводзе.

Я рэкамендую прыняць Міколу Вяршыніна ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Іван Іванавіч ГРАМОВІЧ,*
*літкансультант Саюза пісьменнікаў*
*14.12.1977 г.*

**Рэкамендацыя**

Мікалай Пятровіч Вяршынін упершыню выступіў у друку ў 1961 годзе як сатырык-гумарыст. З таго часу яго байкі, фельетоны, мініяцюры рэгулярна друкуюцца ў часопісах "Вожык", "Беларусь", "Маладосць", у газетах "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Мінская праўда", "Вячэрні Мінск" і іншых, у калектыўных зборніках.

У 1972 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшла першая кніжка сатыры і гумару Міколы Вяршыніна "Без віны вінаватыя", а ў 1977 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" – другая "Не сышліся характарамі". Зборнікі былі прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай.

Мікола Вяршынін шмат і настойліва працуе ў жанры сатыры і гумару. Ім здадзены ў выдавецтва новыя зборнікі гумарыстычных апавяданняў і вершаў, ужо апрабіраваных у перыядычным друку.

Творы Міколы Вяршыніна вызначаюцца надзённасцю тэм, вастрынёй думкі, у іх ёсць добрая ўсмешка і з'едлівая сатыра. Былы дзетдомавец, а зараз інжынер Мінскага трактарнага завода, Мікола Вяршынін добра ведае жыццё, і гэта знаходзіць адбітак у яго творчасці.

Рэкамендую Мікалая Пятровіча Вяршыніна ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Генадзь Якаўлевіч КЛЯЎКО,*
*член СП СССР з 1964 года, чл. білет № 6701,*
*намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя"*
*4 мая 1978 г.*

**Рэкамендацыя**

Я, Ваданосаў Мікалай Міхайлавіч, член СП СССР з 1954 года, членскі білет № 4051, ведаю паэта-сатырыка Вяршыніна Міколу Пятровіча з 1965 года. Яго творы, заўжды простыя і дасціплыя, на першы погляд і далей ужо захапляюць сваёй вастрынёй, не вызначаюцца асаблівай вычварнасцю стыля. Але яны вабяць сваёй непасрэднасцю, трапнасцю.

Друкаваўся ён амаль ва ўсіх перыядычных выданнях: у часопісах "Вожык", "Беларусь", "Маладосць"; у газетах "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Мінская праўда" і інш. Яго падборкі выходзілі ў шэрагу калектыўных зборнікаў – у Мінску і ў Маскве, друкаваўся і ў Татарстане, на Украіне, у Польшчы.

У 1972 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшла першая кніга паэта пад назвай "Без віны вінаватыя", а ў 1977 годзе – у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла другая – "Не сышліся характарамі". Зараз здаў трэцюю кнігу сатыры і гумару – у тым ліку і празаічныя рэчы.

Маю пэўныя падставы меркаваць, што Мікола Вяршынін паэт перспектыўны, ён творча расце, шукае новыя сродкі і тэмы. Да таго ж, працуючы інжынерам на Мінскім трактарным, кіруючы заводскім літаб'яднаннем, у М.Вяршыніна ёсць невычарпальная магчымасць назіраць сваіх герояў у жыцці і ў працы, у асяроддзі рабочых.

Яго вопыт, – а ён ужо, безумоўна, ёсць, – прынясе добры плён. Веручы ў гэта, я і рэкамендую Міколу Вяршыніна ў СП БССР.

*Мікола ВАДАНОСАЎ,*
*загадчык рэдакцыі прозы выдавецтва "Мастацкая літаратура"*
*10 студзеня 1978 г.*

**Рэкамендацыя**

З даўняга часу ведаю, чытаю сатырычныя, гумарыстычныя вершы, мініяцюры Міколы Вяршыніна – аўтара некалькіх кніг і сааўтара многіх вершаваных зборнікаў.

Паэт вострым словам удала бічуе, лупцуе ўсялякія негатыўныя праявы ў нашым жыцці, усемагчымых нягоднікаў: бюракратаў, п'янюг, лаўкачоў, хабарнікаў, мяшчан, шэльмаў, прайдзісветаў.

Мікола Вяршынін – творча актыўны. Ён выступае на старонках многіх рэспубліканскіх выданняў. Яго верш мае добрую літаратурную культуру і такт. Ён чула адгукаецца на ўсе з'явы жыцця, і востра на іх рэагуе.

Рэкамендую прыняць Міколу Вяршыніна ў члены Саюза пісьменнікаў.

Ён гэта заслужыў сваёй настойлівай творчай працай.

*Аляксей РУСЕЦКІ,*
*загадчык аддзела літаратуры часопіса "Беларусь",*
*член СП з 1947 года, членскі білет № 12028*
*01.12.1980 г.*

**Рэкамендацыя**

Я, Юрчанка Георгій Фёдаравіч, член Саюза пісьменнікаў з 1975 г., членскі білет № 12301, ведаю Міколу Вяршыніна як актыўнага, здольнага сатырыка і гумарыста. У рэспубліканскім перыядычным друку часта з'яўляюцца яго байкі, фельетоны, эпіграмы. Ён паспяхова авалодаў складанай прафесіяй сатыры-

ка і актыўна змагаецца з адмоўнымі з'явамі ў жыцці, бязлітасна высмейвае прыстасаванцаў, кар'ерыстаў, бюракратаў, гультаёў і іншых "герояў" не нашага часу. Здольнасці М.Вяршыніна ў жанры сатыры праявіліся ярка і выразна.

З друку ўжо выйшлі 4 зборнікі сатырычных і гумарыстычных твораў М.Вяршыніна: "Без віны вінаватыя" (1972), "Не сышліся характарамі" (1977), "Дагуляўся" (1981), "Нашто мне жаніцізя" (1982). Усе яны атрымалі станоўчы водгук у рэспубліканскім друку. Акрамя таго, творы сатырыка друкаваліся ў шматлікіх калектыўных зборніках. У апошні час ён выступіў з шэрагам цікавых празаічных твораў.

Паступовы, але няўхільны рост М.Вяршыніна сведчыць, што ў яго асобе мы маем пісьменніка з канкрэтным прызваннем. І можна спадзявацца, што ён парадуе чытачоў яшчэ не адной цікавай кнігай.

Рэкамендую прыняць Міколу Вяршыніна ў члены Саюза пісьменнікаў.

*Георгій ЮРЧАНКА,*
*пісьменнік-парадыст*
*7 красавіка 1983 г.*

**Рэкамендацыя**

Я, Шушкевіч Станіслаў Пятровіч, член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1934 года, заслужаны работнік культуры Беларусі (1983 год), рэкамендую да ўступлення ў наш творчы Саюз Вяршыніна Мікалая Пятровіча.

Ён працуе вядучым інжынерам аддзела маркетынгу Навукова-вытворчага аб'яднання "Прагрэс". Раней быў інжынерам падшыпнікавага, старшым інжынерам трактарнага заводаў. Кіруе літаб'яднаннем пры трактаразаводскай газеце, перадае свой літаратурны і жыццёвы вопыт пачынаючым і маладым літаратарам.

Піша і друкуецца ў многіх часопісах і газетах з шасцідзесятых гадоў. Працуе ў рэдкім і цяжкім жанры сатыры і гумару. Знаходзіцца ў гушчы людзей, шукае, знаходзіць і ўдала раскрывае новыя сучасныя тэмы. Авалодвае рознымі

відамі жанру – байкі, фельетоны, гумарэскі, мініяцюры, каламбуры, эпіграмы. Заўсёды – на вастрыні жыцця.

Выдаў пяць уласных паэтычных кніжак, і многія творы – у калектыўных выданнях. Рыхтуе ў друк новыя кнігі.

Натхненне не пакідае Міколу Вяршыніна.

І будзем спадзявацца, што ён парадуе сваіх чытачоў новымі цікавымі выданнямі – у паэзіі і сатырычнай прозе, дзе ён таксама спрабуе свае сілы.

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*
*1984 г.*

**Рэкамендацыя**

Я, Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч, член Саюза пісьменнікаў БССР з 1972 года (білет № 12056), рэкамендую прыняць у члены гэтага пісьменніцкага Саюза Вяршыніна Мікалая Пятровіча – вядомага паэта, сатырыка і гумарыста, аўтара шасці кніг, якія атрымалі станоўчыя водгукі ў прэсе. Выйшлі кніжкі і ў перакладзе на рускую мову.

Байкі, фельетоны, гумарэскі, мініяцюры М.Вяршыніна даўно і добра вядомыя. Вострым словам сатырыка ён выкрывае бюракратаў, прыстасаванцаў, злодзеяў, кар'ерыстаў, спекулянтаў... А яшчэ можа і ўдала пажартаваць у сваіх вясёлых вершах.

Уступленне ў Саюз пісьменнікаў дапаможа яму ў павышэнні майстэрства і прафесіяналізацыі.

Ён пастаянна ідзе і будзе ісці і ад твора да твора, ад кнігі да кнігі, бо заўсёды адчувае подых часу і адэкватна на яго рэагуе.

І добра, што той ручаёк сатыры і гумару, які ў нас ёсць, ніколі не перасохне, а наадварот, будзе ўвесь час напаўняцца.

*У.В.ГНІЛАМЁДАЎ,*
*кандыдат філалагічных навук,*
*намеснік дырэктара*
*Інстытута літаратуры імя Я.Купалы*
*19 чэрвеня 1988 г.*

## ПРИВЕТСТВЕННОЕ

Уважаемый Николай Петрович!

Поздравляю Вас с наступающим Новым 2008 годом и Рождеством Христовым!

Под бой часов наступающего Нового года принято загадывать желание. От всего сердца желаю Вам счастья, здоровья, жизненной энергии и успехов! И пусть всё задуманное обязательно сбудется!

Искренне благодарю Вас за плодотворное сотрудничество с нашей газетой и надеюсь на его дальнейшее продолжение. Наша совместная работа – залог успехов и процветания Беларуси и её трудолюбивого народа.

*С уважением –*
*Главный редактор «Белорусской нивы»*
*Е.И.Семашко*
*30 декабря 2007 года.*

## ДУШЕВНОЕ – ТВОРЧЕСКОЕ, СЕРДЕЧНОЕ.

Средь многих звёзд над целым миром
Одна всегда сияет и горит.
Поэт Вершинин юмором, сатирой
О самом главном – важном – говорит.

И он для нас – откроет Солнца свет,
А потому – что славный наш поэт,
Он знает нас, и знаем мы его,
И понимание – идёт тут оттого.

Детдомовец, трудяга, пограничник,
Диплома три – всегда он был отличник.
А трудностей немало – ерунда.
Не поломали же его года.

Простой, хороший – есть он, как и прежде,
И оправдал прекрасные надежды,
Историк, инженер и социолог,
Поэт, и журналист – был труден путь и долог.

И хоть известность у него – огромность!
Себя не хвалит – у него есть скромность,
И не возьмёт вовек его испуг.
Он – наш учитель, давний, верный друг!

*НАДЕЖДА САВУШИНСКАЯ –*
*От литературного объединения «Ручайкі» при редакции пристоличной газеты.*

## ЗНАКАМІТАМУ ПІСЬМЕННІКУ МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ

Ведае цябе ўвесь свет,
Бо – сатырык ты, паэт.
І цябе шануе свет,
Бо – сатырык ты, паэт.

І цябе не любіць свет,
Бо – сатырык ты, паэт,
Дык крыху паразважаў,
І празаікам ты стаў.

З украінскай перакладчак,
Маладзейшым ты – дарадчык.
Рой пачуццяў зашкрабе –
Лірыка ёсць у цябе.

Мемуары, успаміны
Выдаеш ты нам, Вяршынін.
Пасля пэўнага напругу
Можаш стаць і драматургам.

Нездарма ж сам Крапіва
Колісь рэкамендаваў:
- Будзь сатырыкам, паэт –
І цябе спазнае свет!

*Эльвіра ЯРЧАК, педагог.*
*Пасёлак БАРАЎЛЯНЫ, Мінскі раён.*

## ПРАЧУЛЕНАЕ

Сягоння ноч, як быццам па заказу,
Да вогнішча падсунемся бліжэй.
І памаўчым з табой пра ўсё адразу,
Бо слова – што? Маўчанне – даражэй.

А позірк мой ты не ўспрамай за хабар,
(Што розная "вага" ў нас – не сакрэт).
Ты для мяне па-першае ўсё ж – сябар,
А ўжо затым – праслаўлены паэт.

Распавядаў, што часам і хварэеш,
І што ў аптэкі ладзішся часцей.
Паэт, як ты, мой дружа, не старэеш,
І з кніжкамі збудуеш маўзалей.

Ты – гумарыст, сатырык-пересмешнік,
Для недасвечаных – дык проста весяльчак.
А ты ж такі гаротны часам грэшнік,
І слёз не меней ў тваіх вачах.

У цемрах душ людскіх, як у пячорах,
Сам не заблудзішся, не маючы агню.
Ці то на шчасце, ці на тое гора
Табе даў Бог глядзець у глыбіню.

Ты гэты крыж падняў не для забавы,
Адчуў сябе далёка не ў гасцях.
І праз жыццёвыя ўсе ледаставы
Натхнёным словам прабіваеш шлях.

*Іван ПЫКА, будаўнік.*

## «САТЫРЫК СА СВЕТЛАЮ ДУШОЙ»

Кніжка Міколы Вяршыніна "І роздум, і смех, і любоў...", выдадзеная ў 2006 годзе выдавецтвам "Беллітфнд", сталася ці не апошняй кнігай згаданага выдавецтва.

"І роздум, і смех, і любоў..." – несумненна знакавая кніга вядомага паэта-сатырыка, якая выйшла (з невялікім спазненнем) да ягонага шасцідзесяціпяцігоддзя. У ёй – своеасаблівы вынік працы цягам усяго папярэдняга творчага жыцця. Менавіта гэтая задача і прымусіла аўтара выдаць зборнік аб'ёмам каля 350 старонак, "непад'ёмным", на мой погляд для звычайнага прыхільніка лёгкага жанру.

У кнізе прадстаўлены практычна ўсе жанры сатыры і гумару: байкі, фельетоны, гумарэскі, эпіграмы, нават сатырычныя паэмы. Пэўнае месца займаюць пераклады твораў з украінскай мовы. Ёсць у Вяршыніна і вершы, якія напрамую не адносяцца да гумару і сатыры. Аднак такі ён чалавек, што не можа глядзець на гэты свет сумна. Таму і пазначаны жанр тых твораў як "лірыка-сатырыка".

Добрую чвэрць зборніка займаюць мемуары пісьменніка, дзе прыведзены дакументы і публікацыі, якія з'явіліся пэўнымі вехамі на творчым шляху, а таксама асобныя эпізоды, якія надараліся падчас сустрэч з канкрэтнымі пісьменнікамі. І гэтыя жыццёвыя сітуацыі пададзены Вяршыніным не толькі з мяккім гумарам, але і з доляй сумнай элегічнасці. А што да абсалютнай дакладнасці – дык ці магчыма распавесці цікавую гісторыю без літаратурнай апрацоўкі?

У канцы кнігі "І роздум, і смех, і любоў..." аўтар выдзеліў месца для твораў сваіх прыхільнікаў, вучняў і сяброў – людзей розных прафесій і паэтаў рознага ўзроўню. Па сутнасці ўсе гэтыя вершы – панегірыкі самому Вяршыніну, тым больш частка іх пісалася як віншаванне. Нясціпла? Хай першым кіне цагліну ў Мікалая Пятровіча творца, які шчыра лічыць ухвалу сябе і ўласнай творчасці лішняй А тое, што прысвячэнні прыведзены ў зборніку, а не беражліва захоўваюцца ў завязанай папцы на пыльнай паліцы, – ад характару Вяршыніна: шчырага, адкрытага. І тым больш гэты раздзел апраўданы тым, што выдадзены зборнік (што ўжо стала амаль традыцыйным) сувенірным (600 экз.) тыражом.

Дарэчы, назва аднаго з вершаў-прысвячэнняў стала назвай гэтага артыкула.

Творчасць Міколы Вяршыніна расце не на пустым месцы. Звычайна кожны асобны верш з'яўляецца закончаным творам, прысвечаным канкрэтнай тэме. А дыяпазон тэм прасціраецца ад побытавага непаразумення да сацыяльных праблем. І робіць гэта пісьменнік прафесійна: вершаскладанне яго дакладнае як па форме, так і па змесце. Напэўна, многім з тых, хто ведае Вяршыніна як "мажорнага тарана", цяжка ўявіць, як філігранна і цярпліва апрацоўвае ён каштоўныя камяні свайго натхнення. І таму азначэнне "лёгкі жанр", якое прыведзена на пачатку артыкула, узятае ў двукоссі, бо павінна з'яўляцца (і з'яўляецца) зразумелым і запамінальным для чытача. А дасягаецца гэтая лёгкасць немалымі, хоць, спадзяюся, удзячнымі высілкамі аўтара.

Мікола Вяршынін – сапраўды быццам народны пісьменнік. Гэта не ўшанаванне яго заслуг, а свойскія адносіны з самымі рознымі людзьмі. Упершыню пазнаёміўся з ім у звычайным гастраноме, пачуўшы гучную ўпэўненую беларускую гаворку. Міколу добра ведаюць і далёкія ад творчасці людзі. Ён умее і распавесці, і выслухаць, і даць параду...

Хацелася б сказаць яшчэ аб адной асаблівасці Міколы Вяршыніна як чалавека і творцы. Ён – рэкардсмен. Уся яго няўрымслівая натура накіравана на дасягненне максімальных вынікаў. І, трэба сказаць, гэта яму ўдаецца. Ці шмат хто можа пахваліцца 19 гадамі навучання ў розных установах і адначасова 46-гадовым працоўным стажам? А як вам 112 заахвочванняў у працоўнай кніжцы? 13 уласнымі кніжкамі і 24 калектыўнымі зборнікамі творцаў, напэўна, не здзівіш, аднак калі б у Беларусі існавала аддзяленне кнігі рэкордаў Гінеса, то, несумненна, па колькасці публікацый Мікалай Пятровіч заняў бы ў ёй пачэснае месца.

Так, да зборніка выбранных твораў далі прэзентацыі 45 газет і некалькі часопісаў! Чатыры рэспубліканскія выданні прэзентавалі кнігу двойчы. Усё гэта – у асабістым архіве аўтара.

Наўмысна не цытую асобныя радкі або творы. Як у сапраўднага прафесіянала і вопытнага ўкладальніка, яго творчая ніва ўяўляецца спелай, роўнай і без пустазелля.

Дарэчы, заўважым, што Міколу Вяршыніну напісана, прысвечана звыш ста шчырых вершаў.

Няма сумневу, што кніга "І роздум, і смех, і любоў..." – выдатны падарунак для аматараў сатыры і гумару, талковы дапаможнік для сатырыкаў-пачаткоўцаў і ўдзячны матэрыял для літаратараў-даследчыкаў.

*Юрась НЕРАТОК, пісьменнік.*
*Газета "Літаратура і мастацтва"*
*за 25 студзеня 2008 года.*

**ПОЧЁТНАЯ ГРАМОТА**

НАГРАЖДАЕТСЯ

ВЕРШИНИН НИКОЛАЙ ПЕТРОВИЧ,

писатель, сатирик-юморист, за активную культурно-шевскую работу в санатории «ЛЁТЦЫ» среди отдыхающих и персонала, интересные творческие выступления – с восхищением.

*Заместитель главного врача по идеологической,*
*информационной, учебно-воспитательной*
*и культурно-массовой работе:*

*Р.Г. Долгова*
*Ноябрь 2007г.*

# ДАТА НЕ ВАЖНАЯ – ВАЖНАЯ

*(сяброўскія водгукі – ад прыхільнікаў творчасці)*

2006  

66+6

## ЯНЫ – І Я

*(сардэчнае – удзячнае)*

Сяброў, паплечнікаў і вучняў –
Пачуццяў вал не праміне.
Напішуць вершаў мілагучных
Не для мяне,
 а – пра мяне.

На юбілей, да круглай даты,
І ў нараджэння светлы дзень
Прысвецяць, хто душой багаты,
Каб не налёг на твар мой цень.

Які я быў, і ёсць, і буду.
У буру, лівень, ці ў цішы
Я іх увагі не забуду,
Бо памяць –
 скарб маёй душы

## МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ – НАСТАЎНІКУ І СЯБРУ

## 66+6!!!

Дзве шасцёркі – знак цудоўны.
Разважаем: як жа так?
Коля – хлопец памяркоўны,
І паэт ён, і – мастак.

Шэсць – за дзевяць маладзей,
Па чарзе ён за пяцёркай.
Выглядае памадней,
Чым струплявая сямёрка.

І складаецца смялей
Нулік з хвосцікам уверсе.
У бясконцасць шлях далей,
Дзе няма ніколі смерці.

З тройкі творчага жыцця,
І працоўнага таксама
Лінія раўняе ўся,
А на ёй – прызнанне, слава.

Тры шасцёркі – як хто лічыць.
Павярні наадварот –
Знак той значна павялічыць,
І ўсё роўна шчасця зычыць
Нам дзвюх тысяч шосты год.

Мы не будзем разважаць
Пра адмоўныя прыкметы.
Колю трэба паважаць –
Вельмі слаўнага паэта.

Хай шасцёркі праміне,
Да дзесятак дабярэцца.
Вершы піша вам і мне,
Каб сяброў кранալі сэрцы.

Будзем разам з юбілярам.
Творчых поспехаў жадаем:
Збыцца добрым, светлым марам,
Песні разам праспяваем!

*З павагай і найлепшымі пажаданнямі –*
*сябар, паэт, вучань, старшыня кааператыву*
*"Васілейка" – Сяргей КІШКО.*
*20 траўня 2006 года.*



## 2006-Й ГОД – ПО ЖИЗНИ ВПЕРЁД!

## МИКОЛЕ – 66

Пусть в дне рождения сошлись
Не две, а сразу три шестёрки.
Мы здравицу поём за жизнь,
Молитвой отгоняя чёрта.

Шестёрки двигая вперёд,
Со временем играя в прятки,
За годом прибавляя год,
Пусть превратятся в три девятки.

Что пожелать, поэт, тебе?
Побольше радости и смеха,
Тебе – поистине главе
Юмористического цеха.

С лукавой датой поздравляя,
Желаю много полок книжных.
Пусть время щедро прибавляет –
И жизнь – к годам,
и годы – к жизни.

Пиши побольше, не молчи.
Остри перо, и нас учи.
Пиши нам басни, юморески –
И не тихонько – звучно, с треском!

*Софья МАКАРЕВИЧ,*
*врач-кордиолог, прозаик, поэтесса.*
*20 мая 2006 года.*



**ПОЧТИ ЮБИЛЕЙНОЕ – НО НЕЗАБВЕННОЕ**

***Николаю Петровичу Вершинину, поэту, сатирику-юмористу – "три шестёрки" – 66 лет плюс 2006 год (чудное совпадение, почти волшебное, знаковое).***

Вершинин наш – читаемый поэт,
Своей сатирой даст на всё ответ.
Он дураков разложит на лопатки,
На негодяев всех его нападки.

Стал признанным уже он много лет,
В 66 – большой авторитет.
По-прежнему Вершинин в "Ручейках",
Все персонажи в жизненных строках.

Он много лет был наш литконсультант,
Но и теперь советы дать нам рад.
На заседанья наши он приходит,
И мысли умные для нас всегда находит.

Где упрощённость, где полёт далёкий.
Что рифма, ритм, а что – в размерах строки.
Где – строчки важные, что – пишут простаки.
Где – мысли мелкие, а где – и глубоки.

Имеет массу почитателей Петрович.
Со всеми прост, его кто видеть хочет,
С такою личностью духовно мы богаты.
После Вершинина нас будут все печатать.

А сборники его растут, как те грибы.
С поэзией всегда на "ты" он был.
И в свои 70 он будет молодец,
Своих стихов сам – сеятель и жнец.

Читатели все ценят с пониманьем.
Везде его встречают с обожаньем,
Здоровья все Петровичу желают,
И даже с чаркой иногда его встречают.

Всех творческих Вершинину успехов!
Пусть дарит людям много света, смеха.
Сатира у Вершинина – на острие пера.
Всегда пусть будет вдохновения пора!



*Алла ЗАЙЦЕВА,
ветеран торговли,
член
литобъединения
"Ручайкі",
посёлок
Самохваловичи,
Минский район.
20 мая 2006 года.*

## НЕ ЧАКАЛІ – І ЧАКАЛІ

Мы юбілей чакалі зноў –
Калі адбудзецца ў Міколы.
Ён будзе частаваць сяброў,
Падорыць нам і зборнік новы.

Крычалі ўсе наперабой
(Было чаго і піць, і есці).
За юбіляра мы гарой –
Яму ж пакуль – 66.

А юбілей – ён не чакае,
Што дзень – то баечку складае.
І піша гумар той бясконца –
З усходу да заходу сонца.

За год, у шэсцьдзесят і шэсць –
Старонак 346.
Вяршынін выдаў кнігу зноў –
Пісаў ён, праўда, шмат гадоў –
Пра роздум, смех, і пра любоў.

Стварыў – і вокам не міргнуў,
І ў будучыню зазірнуў,
І спіну прад нікім не гнуў.
Калі ён будзе так пісаць –
Нягоднікам ілбы часаць.

Яшчэ і ў 99
На радасць будзе нам стварраць.
А хто гады яго прамерыць –
Яго тамы перагартаць.

І лічбу 99
Калі паставіць дагары,
То 66 – хто паверыць?
У рэдакцыі  адкрыты дзверы.
І – публікацыі бяры!

Ён па гадах сваіх не тужыць,
І будзе вечна малады.
Бо з гумарам, сатырай дружыць,
І не бяруць яго гады.

Шасцёркі дзве і шосты год –
Шасцёркі тры не без прыгод.
Дык не складай жа панегірык,
Бо ты – сатырык, а не лірык.

То незвычайны юбілей,
Дык вось пішы – дабрэй і злей!
І не старэй жа да пары –
Твае і вучні, і сябры!

З табой – на Захад і на Ўсход,
Каб па жыцці – і без нягод.

*Надзея САВУШЫНСКАЯ,*
*вучоны заатэхнік,*
*пасёлак Бальшавік, Мінскі раён.*
*20 траўня 2006 года.*



## МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ –

***народнаму пісьменніку (паэту з народа)***
***у гонар 66-годдзя прысвячаецца + 2006 год***

Мікола, Никола, 20-го мая
Как друга, всегда мы тебя принимаем.
Три карты – шестёрки – твоя тут судьба,
За новую жизнь постоянно борьба.

Я помню, как молод ты был и красив,
И песни нам пел под любой наш мотив.
А вирши твои ведь читал весь народ.
Ты нас понимал, и сам звал нас вперёд.

Ты – друг мой и давний, и очень прекрасный.
С тобою встречаться приятно – всем ясно.
Чтоб в памяти вечной всё лучше предвидеть –
Зимою и летом я рад тебя видеть.

И всё замечаешь ты трезво и ловко,
Ответственность есть, и к тому ж чувство долга.
Ведёшь средь людей постоянно прилично,
Пример подаёшь нам во всём в жизни личной.

Невзгоды привык перенесть так стоически!
У нас человек ты уже исторический.
Достоинств в поэзии, в жизни не счесть,
Тебе уже стукнуло – 66!

Ты – сын войны. Детдомовцем ты был,
А жизнь свою суровую любил.
Как и теперь. Ведь есть душевный пыл.
И к жизни ты нисколько не остыл.

И не унывай сам нигде, никогда,
Так будь же весёлым везде и всегда!

*Леонид ЖЕЛЕЗКО,*
написал без треска,
но как будто веско.

Войны, труда я – ветеран,
Но не упал пока от ран.
Подшипниковец давний, ярый,
Душой и телом я – не старый.

З Вяршыніным не будуць хмары,
З ім здзейсняцца ўсе нашы мары.

## Н.П. ВЕРШИНИНУ, ПОЭТУ-САТИРИКУ

***(послание в связи с 66-летием)***

Люблю поэзию, и сам пишу немного.
В ней вижу радость жизни, ей душу отдаю.
И хоть сужу себя при этом строго,
Но критику приемлю, и к ней лицом стою.

Так встретить Вас давно хотелось!
В беседе душу утолить, в стихах.
В том я себе позволю смелость,
И признаюсь в своих грехах.

На встречу не терял надежды,
И с "Ручейками" связывал её.
Возможно, поздно. Надо было прежде.
Но я храню желание своё.

Мне есть чему у Вас учиться,
Хоть я и староват уже годами.
Но знаю: большего мне не добиться
Без этой нужной встречи с Вами.

Стихи мне Ваши, как отрада,
В них очень много для души.
Доказывать того совсем не надо –
Коль хороши, так хороши!

Стихи услышим Ваши мы не раз.
Здоровья Вам! А Ваш талант – от Бога
И теплоту получите от нас.
Пусть будет праведной сия дорога.

Поэт Вершинин вышел из народа.
Есть в нём полёт большой мечты,
Что не скупясь дала ему природа.
И чтоб служил народу верно Ты!

*Иван МАЛАШЕНКО,*
*кандидат сельскохозяйственных наук.*
*Посёлок Самохваловичи, Минский район.*
*20 мая 2006 года.*



## НИКОЛАЮ ВЕРШИНИНУ –

***дружеское, приветственное – по причине знаменательной даты***

Что наша жизнь – всего один момент.
Рабочий – я, а ты – интеллигент.
И хоть у нас отсутствуют дворцы,
Но в жизни сложной мы с тобой – творцы.

По специальности – давно строитель
Я был, ты – машиностроитель.
И в Доме литератора встречались,
И мыслями не раз там обменялись.

Тебе уже – *шестьдесят шесть,*
И много интереснейших книг есть.
В *две тысячи шестом* теперь году
Дела и замыслы всегда в ходу.

Для всех поэтов – друг сердечный.
Для молодых – учитель вечный.
Пусть гнёт, ломает ветер встречный –
Ты смело выстоишь, конечно.

Не скажешь много лишних слов,
Нас поддержать во всём готов.
При встречах ласковый всегда,
И не берут тебя года.

Как встретимся – меня всегда отметишь.
Твой верный друг – *Валерий АЛИСЕВИЧ.*
И дачник я, немного и поэт.
С тобою вместе мы откроем свет.

Так будь всегда, поэт наш, впереди.
Пылает пусть огонь в твоей груди!

*Валерий АЛИСЕВИЧ,*
*бригадир садоводческого*
*кооператива строителей.*
*Посёлок Курасовщина, г. Минск.*
*20 мая 2006 года.*



## МІКОЛУ-РАМАНТЫКУ

Куды вяртацца мы павінны –
Дык гэта ў раніцу жыцця,
У тыя светлыя часіны,
У той пачатак пачуцця.

Вяртанне ж тое толькі ў думках,
Інакш ніяк не можа быць.
Найпрыгажэйшых і разумных –
Той момант, як пачаў любіць.

У тыя даўнія гады
Мікола быў прыгожы, малады,
Ды не даваў таму ён веры,
Што адрывала ад паперы –
Працуе сёння, як тады.

Таварыш даўні мой, Мікола,
Жыцця свайго ты круціш кола –
Крыху адметнае ад нашага.
У друку вершы ўсе адзначаны.

Чаго табе жадаю, дружа,
Ў дзівосныя шасцёркі дзве?
Цябе каб шанавалі дужа,
Не быў ніколі б ты ў бядзе.

Шасцёркі дзве, дзвюх тысяч шосты,
Шасцёркі тры – сышлі гады.
Дык гэта значыць: ты – дарослы,
Ды не стары, ты – малады.

Шэсцьдзесят шэсць – не шмат гадоў.
Яшчэ сустрэнемся мы зноў.
Былі студэнтамі калісьці,
І засталіся – з сэрцам чыстым.

А ўперадзе яшчэ дарога,
Жыццёвых сцежак будзе многа.

*Галіна ЦАРЭНКА (ВАСІЛЕЎСКАЯ),*
*былая адкакурсніца і аднагрупніца па Мінскаму аўтамеханічнаму тэхнікуму, горад Гомель.*
*20 мая 2006 г.*



## ГАДЫ – ЛІЧБЫ

Шэсць – і сем, за імі – восем.
Гады, як лічбы – што казаць?
Уладна нас у госці просяць
Да Міколы – святкаваць.

А імяніннiку, паэту,
І чалавеку, мастаку –
Шэсцьдзесят сем ужо ад свету,
А ён, як воін, у страю.

А ты жывеш за Камароўкай,
Прыпынак, дом – "Салон пракату".
Мы да цябе прымчымся лоўка
Ці ў дзень будзённы, ці на святы.

У дом пад лічбай сорак восем,
Той, дзе пражыта мноства год.
І дзе было нямала зносін,
І розных святаў, і прыгод.

Адзін, і восем, і адзін –
Там на кватэры знак прыбіты.
І дзе жыве не Аладзін,
А наш Мікола знакаміты.

Ён шмат гадоў аддаў "ПРАГРЭСУ",
І працаваў у шэраг з векам,
Дзе перажыў нямала стрэсаў,
Усё ж застаўся – ЧАЛАВЕКАМ.

А ў тэлефоне ёсць такое –
Той, што ў канцы – на сорак сем.
І не даюць сябры спакою,
Падказваюць нямала тэм.

Але ў трынаццаці тых кнігах
Усіх цудоўна захапляеш –
Так, як жыццё на коўзкіх крыгах,
Нас, і сябе – не забываеш.

А мы ў тралейбусе ўсе важна –
Ідзе пад лічбай цотнай – “Сорак” –
Прыедзем да цябе адважна.
І прывязём авоську “зорак”.

Табе ад сэрцаў пажадаем
У працы добрага настрою.
Няхай душа твая спявае,
І будзь заўжды –
          самім сабою!

У творчасці –
          век не грашы,
Аддай усім –
          пажар душы!

*Сяргей УЛАДЗІМІРАЎ,*
*эканаміст, горад Мінск.*
*20 мая 2007 года.*





# ПАВАЖАНАМУ САТЫРЫКУ М.П.ВЯРШЫНІНУ

***на Дзень нараджэння – 67-годдзя***
***і да свята Міколы-угодніка***

Каму здалося – яму збылося,
Пашана, слава, кніг – тамы.
Яго сатыра ўсё калосіць,
З яго радкоў смяёмся мы.

Смяёмся з мажных бюракратаў,
І недарэчных дактароў,
З хамелеонаў-партакратаў,
З някчэмнасці гаспадароў.

Яго “Даная” – не сканае,
І будзе жыць да скону дзён.
Бо з ёю побач цень жывая –
Сапраўдны сам “Напалеон”!

Яго баяцца “Мухамора”,
І вострага, як штык, пяра.
Бо ім Вяршынін як прапора –
Вяршыні трэскае гара...

Дык не шкадуй пад ногі жвіру,
І “Асцюкоў” за каўняры”!
Хай колецца твая сатыра,
І не сумуй жа без пары.

*З цяплом душы Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ,*
*паэт-лірык і песеннік.*
*Пасёлак Ратамка, Мінскі раён.*
*20 мая 2007 года.*

## НЕ ЮБИЛЕЙНОЕ, НО ПРИЯТНОЕ

С днём рождения, Поэт,
В шестьдесят семь славных лет!

_ * _

Я дарю вам звёзды неба,
Даже – серп луны.
Поздравляем – были б где бы –
Лучший сын страны.

Ваши сборники стихов –
На высоком взлёте.
Всю сатиру для пера
В жизни вы берёте.

Вам издательства везде
Двери открывают.
В вас обмана нет нигде –
Все поэта знают.

Громовой раскат сатиры
Даст нам очищенье.
День рожденья в майский день –
Просто умиленье.

Шлю я вам цветов букет
Из вишнёва сада.
А от вас возьму в ответ –
Только нежность взгляда.

Поднимаю я бокал
За ваши успехи.
Каждый стих – душе бальзам,
Всем нужны потехи.

Не скучайте без причины.
И чтоб был достаток.
В юморе своём Вершинин –
Очень мил –
        и сладок!

*Алла АНДРЕЕВА,*
*технолог спиртзавода.*



## МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ З 67-МІ ЎГОДКАМІ!

Вяршыш ты вершы –
        як стагі.
Твае лугі ўсё,
        мурагі...
І рэк спакойных берагі,
Куток тут кожны – дарагі.
Жывеш без смутку і тугі,
Навокал жа – палі, лясы,
Дамоў, заводаў карпусы –
Айчына сонечнай красы.
Ты гэта ў сэрцы ўсё нясі,
Твой радавод –
        ад вяршалін...
А мо ад вершаў?
        Слаўны сын
Ты беларускае зямлі.
Квітней.
        апісвай,
                не драмлі.
Твая сатыра – як агонь.
Няхай жыццё не йдзе на склон.

*Твой сябар і паплечнік – Мікола ТРАФІМЧУК,*
*паэт, галоўны рэдактар часопіса "Гоман".*
*г. Мінск.*
*20 мая 2007 года.*



# МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ – 67!

## *Паэты-блізняты*

У мяне ёсць аднагодак,
Кроў яго бурліць, пячэ.
Да паненак пару ходак
Робіць спрытна ён яшчэ.

Па суседску пражываем
У сталіцы мы даўно.
Часам разам выпіваем
Ці гарэлку, ці віно.

Ён – паэт, і я – таксама
Вершы складваю штодзень.
Нарадзілі нашы мамы
У адзін нас майскі дзень.

А калі дакладны будзем –
То дваццатага чысла.
Паважаюць вельмі людзі
Нас і з горада, сяла.

Месяц май быў адмысловы,
Цвіў раскошны родны кут.
Нат вясковыя каровы
Падарылі нам салют.

Трэба год і век дазнацца:
Сорак – ставім на канцы,
А наперад – дзевятнаццаць...
Словам, хлопцы-малайцы.

Здольныя яны такія,
Дружна, весела жывуць.
Не з цэменту – залатыя
Хай ім бюсты адальюць.

– * –

Што за людзі на вяршыні?
І адзін, другі – кумір.
Гэта – Мікалай Вяршынін,
Слаўны Канус Казімір.

*Казімір КАНУС,*
*галоўны рэдактар*
*газеты "Чудеса и сенсации".*
*20 мая 2007 года.*

## НИКОЛАЮ ВЕРШИНИНУ – УЧИТЕЛЮ И ДРУГУ

***(в день рождения 20 мая 2007 года)***

В редакции известной всем газеты
Литконсультантом долго были вы.
Давали очень дельные советы,
В которых вечно были вы правы.

Вы создали свою поэтов школу,
Чтоб много и творить, и созидать.
В ваш светлый праздник я себе позволю
От всех нас пожеланья передать.

Ученики чтоб мастерами стали,
Все – полные и знаний, и идей.
И шли бы в поэтические дали,
Тревожили всегда сердца людей,

Чтоб сочинять вы не устали,
Чтоб был не зря потрачен труд.
Чтоб вместе с нами вы росли и сами!
Пределов совершенству нету тут.

А где таланты – там и дорога!
У вас тринадцать крепких книг.
И почитателей есть очень много,
И ловите вы жизни каждый миг.

Вас поздравляем дружно с днём рожденья.
Всего хорошего желаем шчыра.
В 67 – пусть будет вдохновенье.
С болезнями –
пусть борется сатира!

*Иван СЕМЁНОВ,*
*агроном, пчеловод.*
*Минский район.*

## САД ЯГО ДУШЫ

Бывае, сум кране за плечы,
На пару з сумам не ляжы.
І скокні хуценька ты з печы,
І на алею ў сад бяжы.

Прайдзіся там, зірні наўкола,
Сярод вясёлых дрэваў сядзь.
Іх пасадзіў паэт Мікола,
І вырас жа цудоўны сад.

А ні дарогі, а ні сцежкі,
Але не пройдзе сум сюды.
Гуляюць радасныя ўсмешкі,
І маладзеюць тут гады.

І не бяжыце вы ў аптэкі,
Як са здароўем што не так.
Не трацьце грошай шмат на лекі,
Ідзіце ж у Міколаў сад.

Цвіце Міколаў сад заўсёды,
Нібы заўжды вясёлы май.
І праз гады, і праз нягоды
Ты вось такім нас сустракай.

І каб садоў такіх паболей
Садзілі людзі на зямлі.
Каб войнаў не было і болю –
Усе б шчаслівымі былі.

*Вера ЧАРНЫШ,*
*паэтка і мастачка*
*па пэндзлю і ў душы.*

– * –

*Прысвячэнне да 67-годдзя паэта.*
*З пажаданнем дажыць да 70-годдзя.*
*20 мая 2007 года.*

## ТВОРЧАЕ, НАТХНЁНАЕ

Нашто дарэмна ты, Мікола,
Пачаў лічыць свае гады?
У 67 ты даволі
Такі прыгожы, малады.

І усміхнешся, і заззяюць
Аж вочы сінню васількоў.
Твае гады, як сон, знікаюць,
І маладосць з табою зноў.

Пачуцці поўняць сэрца, грудзі.
І сееш ты зярняты слоў.
Чытаць вякамі будуць людзі,
І перачытваць шмат гадоў.

І каб жыццё сваё, як поле
Сатыры плугам заараць,
Дапамагаеш ты, Мікола,
Крыллё апалае падняць.

Жыві больш ста, але заўсёды
Табе 17 толькі год.
І з гумарам тваім у згодзе
Ад смеху коціцца народ.

Відаць, усім на дапамогу
Ты нарадзіўся ў добры час.
Дык і табе, і дзякуй Богу –
Што ты. Мікола, ёсць у нас!

*Ад удзячных чытачоў –*
*Вера КРЫШТАЛЬ, служачая.*
*20 мая 2007 года.*

## 2007 ГОД 20 МАЯ
## МИКОЛЕ ВЕРШИНИНУ
***(от многих посвящение)***

В конце весны который год,
Когда природа расцветает,
И сердце просится в полёт –
Друзей Микола собирает.

Рожденья день – в кругу друзей!
Что может быть теплей и лучше?
Ведь каждый друг – он твой попутчик,
По жизни вместе – веселей.

Все поздравляем от души
И пожеланий – целый ворох!
Микола так друзей смешит,
Что каждому он – люб и дорог.

Поэт, сатирик-юморист,
И просто человек хороший.
Душою светел, сердцем чист,
Наставник мудрый молодёжи.

Я и пожеланиях своих
Оригинальничать не буду.
Пиши, твори, и каждый стих
Пусть совесть у народа будит.

И хоть ему – 67
Ещё и молод он совсем.
А “стукнет” семь десятков лет –
– Я буду жить! – сказал поэт.

*Зося АЛЯКСАНДРАВА, дакторка.*

## В ДЕНЬ РОЖДЕНЬЯ – ВДОХНОВЕНЬЯ!

Не дождёшься слова лести
Ты от нас.
И узнаешь только правду с нами вместе.
А выглядишь – ну, просто класс!

_ * _

Средь разных звёзд над целым миром
Твоя не гаснет, а всегда горит.
Поэт Вершинин юмором, сатирой
О самом главном в жизни говорит.

_ * _

И в свои 67
Молодой ещё совсем.
За правду ты горой вставал,
И никогда не уставал.

_ * _

Оставь тревоги и волненья.
Тебе желаем вдохновенья.

Пусть будет ярким каждый миг.
Ждём от тебя мы новых книг!

*Надежда ФЕОКТИСТОВА,*
*ветеранка труда,*
*Минский район.*
*20 мая 2007 года.*



## ДОРОГОЙ НИКОЛАЙ ПЕТРОВИЧ!

***(от читателей-почитателей)***

Дарим тепло пожеланий своих,
И поздравляем с торжественным днём!
Счастья, везения, планов больших,
И достижений везде и во всём!

Будет отличным пускай настроение,
То, что намечено, произойдёт,
И вдохновляют удачи, свершения
Снова и снова стремиться вперёд!

Ярких событий и замыслов смелых,
И побеждать непременно всегда!
Только успех ждёт пусть каждое дело –
И воплотится любая мечта!

– * –

Друзей немало есть у Вас,
Примите и привет от нас –
И в каждый день, и в каждый час
Ещё мы встретимся не раз.

*20 мая 2007 года.*

## МІКОЛУ ВЯРШЫНІНУ – ШЧЫРАЕ, СЯБРОЎСКАЕ

Заўжды знаходзіш трапны выраз,
Каб у палон нас захапіць,
З тваімі вершамі я вырас,
Па іх вучыўся думаць, жыць.

Ты пішаш весела, з азартам,
Натхненне не дае заснуць...
Табой прыдуманыя жарты
Даўно народнымі завуць.

Ты дасягнуў жыцця вяршыні,
Кахання, славы, дабрыні...
Таму й Мікола ты Вяршынін,
Каб быць заўжды на вышыні.

У гэтай справе я не першы,
Каго твой талент пакарыў.
Табе не раз пісалі вершы
Больш знакамітыя сябры.

Ды мой радок не будзе лішнім,
Таму што шчырасцю гучыць.
Ты вельмі добра, дружа, пішаш,
Дай Бог табе шмат год тварыць.

*Сяргей КАРЫЦЬКА,*
*галоўны ўрач рэспубліканскага*
*цэнтра медыцынскай рэабілітацыі,*
*кандыдат медыцынскіх навук,*
*заслужаны ўрач Беларусі, паэт.*




## ВСТРЕЧА

(посвящается Н.П.Вершинину, поэту-сатирику)
Я долго всё думал и ждал этой встречи –
Должна же она хоть когда-то прийти!
И слышал не раз обещания речи,
Но были преграды у нас на пути…

Вот гость долгожданный стоит уже рядом.
Жмём руки друг другу с признаньем – друзья!
Мы встрече такой от души были рады,
Но больше доволен был всё-таки я.

Поэзия стала нам доброй звездою –
Для дружбы нам путь освещала давно.
Мы оба шагали дорогой прямою –
О встрече желание было одно!

Приём был оказан, и была работа.
Совсем не похоже всё это на бал.
Здесь гость наш – поэт, перелистывал что-то,
Он времени много стихам отдавал.

Я понял пробелы, в чём не был уверен.
Такого наставника я повстречал!
И в добрую критику твёрдо поверил –
Она дебютанту дороже похвал.

*Иван МАЛАШЕНКО,*
*учёный, сельскохозяйственник,*
*посёлок Самохваловичи, Минский район.*
*2007 год.*



# ГОДОВОЙ ГОРОСКОП «2008»

***Что принесет нам «Крысы» год,***
***Пойдем назад мы иль вперед?***

КРЫСА (1924, 1936, 1948, 1960, 1972, 1984, 1996, 2008 г.)
Защищена, благополучна,
Удачлива во всех делах.
Во всем успехи наилучшие,
Берет разбег, берет размах.

БЫК (1925, 1937, 1949, 1961, 1973, 1985, 1997 г.)
Благоприятен этот год,
И принесет большой доход.
Удачным будет многим брак,
Наследство, выгода – всё так.

ТИГР (1926, 1938, 1950, 1962, 1974, 1986, 1998 г.)
Год – не хороший, не плохой,
Но на своем сам крепко стой.
Строй планы и копи ты силы,
Чтобы они тебя крепили.

КРОЛИК (1927, 1939, 1951, 1963, 1975, 1987, 1999 г.)
Будь осторожен ты в делах,
И побеждай в себе свой страх.
Друзьям не слишком доверяй,
Как следует их проверяй,
Чтоб стала жизнь – как будто рай.

ДРАКОН (1928, 1940, 1952, 1964, 1976, 1988, 2000 г.)
Отличный год ведет вперед,
И он успехи принесет.
Покупки будут и любовь,
И радость обретете вновь.

ЗМЕЯ (1929, 1941, 1953, 1965, 1977, 1989, 2001 г.)
Немало встретится хлопот,
О детях, близких воз забот –
Улаживать и утрясать,
От неприятностей спасать.

ЛОШАДЬ (1930, 1942, 1954, 1966, 1978, 1990, 2002 г.)
Во всем будь очень осторожен,
Иначе и провал возможен.
Ты затаись и пережди,
Успехи будут впереди.

ОВЦА (1931, 1943, 1955, 1967, 1979, 1991, 2003 г.)
В деревне тихой бы пожить,
Своим покоем дорожить.
Подэкономить, накопить,
Что нужно – чтоб потом купить.

ОБЕЗЬЯНА (1920, 1932, 1944, 1956, 1968, 1980, 1992, 2004 г.)
Великолепным будет год,
Успехов много принесет
Проблемы снимутся свои
В делах, еще – в кругу семьи.

ПЕТУХ (1921, 1933, 1945, 1957, 1969, 1981, 1993, 2005 г.)
Чтоб ты во многом преуспел –
Сомнительных не нужно дел.
Хоть деловой, но – патриот,
Коль все по-честному идет –
Спокойным будет этот год.

СОБАКА (1922, 1934, 1946, 1958, 1970, 1982, 1994. 2006 г.)
Имей всегда во всем запас,
Чтоб в трудный час тебя он спас.
Все, что имеешь – охраняй,
И разных типов – отгоняй.

СВИНЬЯ (1923, 1935, 1947, 1959, 1971, 1983, 1995, 2007 г.)
Все будет очень хорошо,
И со спокойной спи душой.
Что надо, ты приобрети,
И сможешь вдруг любовь найти.
Перекрути – переверти,
Найдешь – надежные пути.

*Нам гороскоп прольет свой свет:*
*Ведь это – опыт многих лет.*

# ЗМЕСТ

*стар.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Вяршынін** Мікалай Пятровіч

# Найважнейшыя аб'екты

**Сатыра і гумар, ЭСЭ, з уласнага архіва, вершы, прысвечаныя аўтару**

Адказны за выпуск *А.М. Вараксін*
Рэдактар *Уладзімір Праласуд*
Мастацкае афармленне Міколы Гірчеля, Алега Папова ды іншых мастакоў
Карэктар *І.Ф. Вараксіна*
Камп'утарная вёрстка *А.І. Рабкоў*

Падпісана ў друк 14.02.2008.
Фармат 84x108/32. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman, AcademyC.
Ум. друк. арк. 10,9. Ул.-выд. арк. 11,75.
Тыраж 500 экз. Заказ 11.

Выдавец А.М. Вараксін. ЛИ № 02330/0131774 ад 06.03.2006 г.
E-mail: editpol@tut.by.

Надрукавана на множыльнай тэхніцы прадпрымальніка А.М. Вараксіна.

Цана дагаварная



Мікалай Пятровіч Вяршынін нарадзіўся 20 траўня 1940 года ў горадзе Чэрвені Мінскай вобласці. Бацькі яго загінулі ў пачатку вайны. Выхоўваўся ў цёткі, затым – у дзіцячым доме. Рос і вучыўся таксама ў Пухавіцкім і Мінскім раёнах.

Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум, гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аддзяленне сацыялогіі факультэта партгасактыву Універсітэта марксізму-ленінізму, яшчэ – і Мінскі аэраклуб па класу парашутызму. Усяго вучыўся 19 гадоў.

Працаваў інжынерам Мінскага падшыпнікавага, старшым інжынерам трактарнага заводаў, вядучым інжынерам Навукова-вытворчага аб'яднання "ПРАГРЭС". Працоўны стаж – каля 46 гадоў. У працоўнай кніжцы 112 заахвочванняў.

Пісаць і друкавацца пачаў падчас службы ў пагранвойсках у Эстоніі. Але найбольшы поспех займеў, калі абраў родную мову і любімы жанр – сатыру і гумар. Выдаў 13 уласных кніжак – і на роднай мове, і ў перакладзе на рускую. Яго творы ўвайшлі ў 24 калектыўныя зборнікі сатырычнай паэзіі і прозы. Гэта – чатырнаццатая кніга пісьменніка.

Кіраваў літаратурнымі аб'яднаннямі пры рэдакцыях заводскай, абласной і рэспубліканскай газет. Працаваў літкансультантам розных выданняў. Адрэдагаваў некалькі кніжак маладых аўтараў. Цяпер – літкансультант газеты «Мінская праўда».